Вісарыён Гарбук

# ГОРАД БЕЗ ПАПУГАЙЧЫКАЎ

Выбраныя
творы

Мінск
«Юнацтва»
1983

Мастак В. ГУБАРАЎ

**Гарбук В. С.**

Г 20 Горад без папугайчыкаў: Выбр. творы. [Для сярэд. шк. узросту/Аўт. уступ. артыкула А. Васілевіч; Маст. В. Губараў].— Мн.: Юнацтва, 1983.— 239 с., іл.

45 к.

У кнігу ўключаны лепшыя творы, напісаныя для дзяцей.

Г $\frac{4803010200-085}{М307(05)-83}$ 32—83

ББК 84 Бел7
Бел2

## «Многа задум, многа хваляванняў...»

У Вісарыёна Гарбука ёсць невялікая аповесць пад назвай «Фіранка на скразняку»... Гэта не толькі назва новага твора — гэта ў пэўнай ступені і вельмі дакладная метафара ў адносінах да творчага і жыццёвага побыту Вісарыёна Гарбука.

У свае пражытыя семдзесят год ён і сёння трымаецца як быццам на бясконца напорыстым, кожны момант вельмі рызыкоўным скразняку. Аднак ён не заканапачвае шчылін у сценах свайго дома, не зачыняе глуха вокан і дзвярэй — і яго дзверы і вокны, як і сама няўрымслівая душа яго, шырока раскрыты насустрач сонцу, ветру, жыццю.

А жыццё яго, не баючыся юбілейнага пафасу, можна назваць адным словам — подзвіг. Подзвіг салдата, які не здаўся ні вайне, ні смерці. Выжыў, і перамог, і вярнуўся ў строй, мужна адваёўваючы ў жорсткага лёсу кожны дзень, кожную гадзіну жыцця.

Нельга сённяшняму чытачу, асабліва юнаму, якому Вісарыён Гарбук піша і прысвячае свае кніжкі, не ведаць гэтага жыцця.

...Вісарыён Сцяпанавіч Гарбук нарадзіўся ў 1913 годзе на Полаччыне. Рана асірацеўшы, ён выхоўваўся ў людзей, якія замянілі яму роднага бацьку і якія памаглі яму прабіцца ў навуку — скончыць спачатку ШКМ (школу калгаснай моладзі) у Чашніках, а затым педтэхнікум у Лепелі. Гэта былі яго дзядзькі — настаўнікі пачатковай школы Іосіф Васільевіч і Прохар Васільевіч Ключонкі, удзячнасць да якіх Вісарыён Гарбук пранёс праз усё жыццё.

...Пасля педтэхнікума ён два гады панастаўнічаў у Дварэцкай сямігодцы, а потым паступіў на літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Там ён адразу ж уліўся ў вірлівы студэнцкі побыт, стаў актыўным удзельнікам усіх інстытуцкіх літаратурных падзей, а неўзабаве стаў наведваць і літаратурнае аб'яднанне пры Саюзе пісьменнікаў БССР, дзе блізка пазнаёміўся з яго кіраўніком, паэтам М. Хведаровічам, і гутарыў з такімі вядомымі пісьменнікамі, як Змітрок Бядуля і Міхась Чарот. Ці трэба казаць, як акрылялі маладога пачаткоўца тыя гутаркі і парады!

Перад самай вайной Вісарыён Сцяпанавіч працаваў ужо выкладчыкам рускай і беларускай літаратуры ў сярэдняй школе. Гэта была шчаслівейшая пара яго жыцця: была маладосць, была ўжо самастойная дарога ў жыцці, былі імклівыя надзеі і спадзяванні на будучыню.

...Усё гэта зруйнавала вайна.

Гарбук прайшоў вайну сапёрам. (А сапёр, як вядома, памыляецца адзін толькі раз...) Пад бомбамі, пад кулямі ўзводзіў ён пераправы

і будаваў умацаванні пад Масквой і ў Варонежы, у Гомелі і на Магілёўшчыне. Прайшоў па Валыні, па Камень-Кашырскай зямлі, прайшоў Польшчу — Кутна, Седлец, Рэмбертаў, Сандомеж, плацдарм на Вісле... Па гэтых мясцінах праклаў свой агнявы шлях 1-шы Беларускі фронт. І сапёры, як заўсёды, былі на самых адказных рубяжах — на размініраванні дарог і будынкаў, на будаўніцтве мастоў і пераправаў... Вісарыён Гарбук быў сапёрам.

У красавіку 1945 года разам з часцю, у якой ён служыў, Гарбук дайшоў да Берліна... Там, у Берліне, ён стрэў і адсвяткаваў перамогу разам з сябрамі, каму лёсам наканавана было дайсці, дажыць да гэтага шчаслівага дня. Ён дайшоў да яго, дажыў.

Наперадзе чакала вяртанне на радзіму, чакала мірнае жыццё і праца.

Але вайна не адпусціла яго так. Яна сплаціла салдату за ўсё — і за тое, што ён яе адолеў і што выжыў, што перамог... Не мінуліся яму так ні ледзяныя па пояс балоты, ні акопы над Віслай, ні вясна на Одэры... Усё роўна як вораг з-за вугла, помсліва падкраўся і бязлітасна ўдарыў яго жорсткі раматус. І на доўгія гады прыкаваў да шпітальнага ложка. Ні падняцца, ні сесці, ні зрабіць кроку... Прайшлі гады, пакуль ён здолеў — чаго каштавала яму гэта перамога! — узяць зноў у рукі аловак і зноў зрабіць першы крок (!) на мыліцах...

Зараз Вісарыён Сцяпанавіч Гарбук жыве і працуе ў цудоўным сонечным горадзе Пяцігорску.

«Працуе» — гэта слова ў адносінах да яго змяшчае такі напружаны, такі рознабаковы і творчы змест, якім можна не толькі захапляцца, а і па-добраму зайздросціць.

Двойчы, будучы ў Пяцігорску, я наведвала Вісарыёна Сцяпанавіча ў яго дома, на вуліцы Пушкіна, і абодва разы вярталася ад яго захопленай, узнёслай і як быццам памаладзелай.

Так умее ён, сам бязмежна любячы жыццё, натхніць і запаліць кожнага, хто з ім страчаецца!

Яго рабочы пакой запоўнены сонцам, кветкамі і кнігамі. Кнігі на паліцах за шклом, на часопісным століку, на яго стале (зробленым па спецыяльнаму чарцяжу), за якім ён працуе... На гэтым стале заўсёды ляжыць рабочы рукапіс (ён працуе, піша рэгулярна, абавязкова штодзённа, у пэўныя — ранішнія — гадзіны). Ляжыць раскрытая кніга, якую ён чытае за гэтым сталом. (На гэты раз, калі я прыйшла, чытаўся 5-ты том падпіснога выдання Янкі Брыля.) На рабочым стале ў пэўным парадку раскладзены свежыя газеты і часопісы, ранішняя пошта, якую ён праглядае, прачытвае і ўсім прачытаным захоплена, зацікаўлена ці абурана (але ніколі не абыякава!) дзеліцца са сваім субяседнікам — госцем, ці суседам, ці са сваімі хатнімі.

...Ён рэдка калі бывае адзін. Прыходзяць яго чытачы — дзеці, вучні, падлеткі. З імі ён адпраўляецца ва ўсе паходы іх школьнага, піянерскага і дваровага жыцця-быцця. Усе свае вынаходніцтвы і адкрыцці, паражэнні і перамогі, усе свае непаладкі і разлады — усё яны, не саромеючыся і не бянтэжачыся, нясуць яму — на яго вярхоўны суд. Высокі і справядлівы. І самае галоўнае — на суд роўнага сярод роўных. Бо ён не толькі ўмее раіць і справядліва судзіць, ён яшчэ ўмее, як і яны, марыць, умее бяскрыўдна рагатаць не толькі з чые-небудзь, а і са свае ўласнае прамашкі... Роўны сярод роўных. Сябар.

Прыходзіць сусед-прафесар, і яны на самых грунтоўных, на самых апошніх навуковых доказах абмяркоўваюць, скажам, праблему сучаснай фармакалогіі. Скажам, сённяшняя, перакладная з балгарскай мовы, навінка «Лекарственные травы» і траvалячэнне ў практыцы найславутага Абу Алі ібн Сіны (Авіцэны)... Абодва заядлыя «траўнікі». Абодва захоплены, вераць і прапагандуюць абавязкова чай, завараны і

настоены на квецені... канюшыны чырвонай. І самі, вядома ж, п'юць яго. (Канюшынавая «заварка» прывезена гэтакімі ж аматарамі цудадзейнага чаю з летняй батанічнай камандзіроўкі. Недзе аж з нагор'яў вакол Нальчыка.) Экстракт, сканцэнтраваны ў кветках канюшыны, папярэджвае склероз сасудаў, спрыяе жыццядзейнаму настрою — адганяе, карацей кажучы, старасць!

...Забягае да Вісарыёна Гарбука ў госці моладзь. Студэнты. А той ці тая недзе працуе і вучыцца — завочна або на вячэрнім.

...Абавязковы, штодзённы наведвальнік і госць «дзядзі Вісарыёна» далікатны сусед-філосаф пяцігадовы Светазарык. З ім кожны раз, як адкрыццё сённяшняга дня, разглядаецца «каменная калекцыя», сабраная Вісарыёнам Сцяпанавічам і жонкай Людмілай Пракопаўнай у Кактэбелі і Гаграх. Усё гэта унікальныя мініяцюры з галечніку: дзяўчынка з косамі, партрэт дамы, 9-ты вал, маска, сонны вулкан, дзедаў валёнак, кардыяграма пітэкантропаса, «всевидящее око»...

— Гэта ўсё мы збіралі з маёй Лю (з жонкай — Людмілай Пракопаўнай. Цікава жыць на свеце! — захапляецца Вісарыён Сцяпанавіч.

І ты не можаш не згадзіцца: сапраўды — на свеце жыць цікава...

— А звярніце ўвагу вось на гэты зрэз,— паказвае ён на белую пласціну з пенапласту на сцяне.— Такімі пласцінамі ў нас тут ацяпляюць гаражы. Можа, яна нагадае вам штосьці і вы падорыце нам яе новую назву?

Прыглядаюся — і сапраўды: «Сюжэт карціны» нечым вельмі нагадвае касмічныя сюжэты Чурлёніса... Так і кажу Вісарыёну Сцяпанавічу. Ён не адмаўляе.

— А што вы думаеце! Сапраўды... У нас вядзецца запіс назваў, якія прыдумваюць гэтай карціне свежыя людзі. Вось паслухайце: Белае маўчанне. Сонечны вецер. Фіранка на скразняку. Гукі цішыні. Лямант. Марскі прыбой. Голас Маякоўскага ў эфіры... А нядаўна адзін малады закаханы чалавек даў такую назву: «Валасы дзяўчыны, з якімі гуляе гарэзлівы вецер»...

Сваім «касмічным» рэльефам карціна (міжвольна і сам згаджаешся: так, карціна...) і сапраўды абуджае фантазію. І заклікае ў сааўтары. І гэта цешыць і захапляе і саміх гаспадароў і гасцей.

У гэтым доме можна цэлы дзень праседзець і не заўважыць, як міне гэты дзень. Тут любяць і тут рады гасцям. І госці адсюль, з гэтага дома, выходзяць нібыта абноўленымі.

Сюды паштарка штодня нясе торбу пошты: газеты, часопісы, пісьмы, бандэролі, падпісныя выданні. З Мінска, з Беларусі, пошта асабліва важкая і дарагая. І нядзіўна, што Гарбук ведае пра ўсе літаратурныя падзеі — значныя і нязначныя — ці не лепш, скажам, за мяне, якая толькі тыдзень які, як выехала з Мінска... Як пра шчаслівы сон успамінае ён пра нашы лясныя Каралішчавічы — Дом творчасці пісьменнікаў, дзе яны з Людмілай Пракопаўнай гасцілі адно грыбное лета. Збіраецца, марыць прыехаць яшчэ. Не трэба адкладваць... Час не ашчаджае ні цябе самога, ні старых сяброў. То адзін адышоў, то другі адляцеў у вырай...

— Трэба спяшацца! Ёсць яшчэ вельмі многа задум, многа хваляванняў.

Позірк у Вісарыёна Сцяпанавіча малады і гарачы. Твар адухоўлены. І сівізны зусім не відно. (Ці, можа, гэта мне не кінулася ў вока яго сівізна?..)

Вісарыён Гарбук напісаў не адну кніжку... Пісаць пачаў ён у шпіталі. Піша на беларускай і рускай мовах. Вось пералік некаторых яго кніг: «Не шукаю спакою» (1963 г.), «Лицо в полоску» (1967 г.— паводле аднайменнага апавядання з гэтай кнігі пастаўлены тэлефільм для

дзяцей), выйшлі ў Стаўрапалі кніжкі для дзяцей «Мышки и мишки» (1964 г.), «Танюшкины рассказы» (1974 г.), «Са мной здарылася неверагоднае (1977 г.). Пераклаў і апрацаваў для дзяцей казкі народаў Паўночнага Каўказа «Напітак волатаў» (1969 г.).

Героі яго кніг — часцей за ўсё дзеці — як птушкі, разляцеліся па нашай краіне, па розных (у перакладзе) рэспубліках і сталі вядомымі і любімымі ў сваіх чытачоў.

Яго кніга выбранага «Горад без папугайчыкаў» сабрала пад сваім дахам старых нашых (Гарбуковых) знаёмых і гасцінна прытуліла новых... Я не ставіла сваёй мэтай пераказваць змест гэтае кнігі. (Кнігі трэба чытаць кожнаму самому.)

А вось пра пісьменніка, ветэрана Айчыннай вайны, заслужанага дзеяча культуры БССР Вісарыёна Сцяпанавіча Гарбука, расказаць юным чытачам я палічыла за неабходнае.

І гэта быў расказ — пра сапраўднага Чалавека.

*Алена Васілевіч*

# ПРОМНІ СОНЦА





## ПРОМНІ СОНЦА

Юрась прачытаў нарыс. Устаўшы з табурэткі, закрочыў па пакойчыку. Падышоў да акна і насцеж расчыніў яго. Паглядзеў на неба. Светла-блакітную вышыню крэслілі стрыжы. Юнак перавёў позірк на таполі, што стаялі цераз дарогу. На сухой галінцы завіхалася клапатлівая птушачка.

«Мухалоўка... Стракатка. Жывіцца»,— падумаў сам сабе.

Птушка сарвалася ўніз. Юрась убачыў: кінулася да чорнай кропачкі-мушкі, а праз момант зноў сядзела на вартавым месцы, чысціла дзюбку-іголачку.

— Вось ёй без вачэй — пагібель,— сказаў ён уголас.

Хлопец сеў за стол, узяў аўтаручку. Але пісаць не змог. Апрануў пінжак і выйшаў на вуліцу. Заспяшаўся да аўтобуснага прыпынку. Спыніўся разгублены: а куды ж ехаць? Стрыманым крокам накіраваўся ў гарадскі парк. Выбраў бязлюднае месца і лёг на лаўку. Дастаў з кішэні газету. Яшчэ раз перачытаў змешчаны там нарыс.

— Я аддам яму вока паляўнічага. Яму не прыйдзецца мяне дакараць.

Юнак схаваў газету, паглядзеў угору. Тое, што ўбачыў над сабой, здзівіла яго. Нібы агеньчыкі зялёнага колеру, нахіленыя ўніз, замерлі ў чаканні. Што ні агеньчык, то

новае адценне. Звычайная вярба! Чаму ж раней такое цудоўнае хараство хавалася ад яго вачэй? А яе галінкі? Вербны колер, памятны з дзяцінства. Нібы сама вясна, абмытая першым дажджом, завітала да яго разам з успамінамі аб учарашнім маленстве.

Юрась перавёў позірк на парэпаны ствол. Вакол свежага зрэзу вярба выкінула цесны круг крывава-зялёных пасынкаў. «Фантанчыкі жыцця! — параўнаў Юрась.— А ён — Гарыцвет, наш гонар — нічога не бачыць!»

Юнак вярнуўся на кватэру, сеў за стол, накідаў кароткі ліст. І ўжо спакойна заклеіў канверт, надпісаў адрас. Намерыўся пакласці ліст у кішэню, ды перадумаў: беражна ўзяў у рукі, выйшаў на вуліцу і накіраваўся да паштамта.

— Ты куды? — Юрась агляңуўся на голас. На ганку аднаго з дамоў у белай сукенцы стаяла яна — Кацярынка.

— Пайшлі разам! — узрадаваўся ён і прыпыніўся.— Чаго ты блукаеш тут?

— Прайшоў і не паглядзеў — кінула дакор дзяўчына.— А я загадала: азірнецца!.. Была ў знаёмых. Мама паслала... Ты чымсьці ўсхваляваны? У цябе ліст? Каму?

Юрась спахмурнеў. Раптам насцярожыўся: а што яна скажа?

— Не будзь занадта цікаўная! — ён адвёў руку дзяўчыны.

Разам падышлі да шэрага старэнькага дома.

— Не пакажаш — буду раўнаваць! — не то шуткуючы, не то ўсур'ёз папярэдзіла Кацярына.

— Ты не ўнізіш ні мяне, ні сябе! — з незнаёмай самому сабе сур'ёзнасцю адказаў юнак і апусціў ліст у шчылінку запыленай скрынкі. З пяшчотнай усмешкай ён папрасіў: — Пойдзем да мяне. Аб усім даведаешся.

Яе вочы!.. Яны нагадалі яму адзін з адценняў вербных галінак, абмытых першым дажджом, бліскучых, па-вясноваму радасных. Юрась адчуў сябе шчаслівым, што бачыць і любіць гэтыя дапытлівыя вочы. «А ён нічога не бачыць. Нічыіх вачэй»,— успомнілася яму.

— Няма часу,— адказала дзяўчына.— У нас з мамай неадкладная справа.

Юнаку стала не па сабе. «Даруй мне! — прасілі Каціны вочы.— Я ж усё роўна цябе кахаю».

У зялёны гушчар завулка паплыла белая сукенка. Юрась заплюшчыў вочы. У мітуслівым змроку белая плямка паплыла ў вышыню. Вочы расплюшчыў — Кацярынка

знікла. «Я не прызнаюся ёй!.. О не,— завагаўся ён.— Хіба можна?..»

У майстэрню на працу Юрась прыйшоў з завязаным вокам.

— Падбілі? — спачувальна зацікавіўся Генька — вясёлы жартаўнік, сусед па станку.

— Выбілі,— адказаў Юрась.— А табе што?

— Чакаў запрашэння на вяселле. Баюся — сарвецца,— развёў рукамі хлопец.

— Не бойся, Генька, усё роўна пагуляем.— Умяшалася ў размову Соня.— Нявесты знойдуцца!

Дзяўчына падышла да Юрася і прытулілася да яго плячом.

— Мяне возьмеш? — прапанавала яна.— Каця ж цябе такога спалохаецца.

Насцярожаны нечаканым жартам, Юрась уважліва паглядзеў у Сонін твар. «Добрая ці сярдзітая? — не мог вырашыць.— Прыгожая... Ды што мне з таго?»

— Кожны дзень сустракаемся, а не пазнаеш? — Соня адчула, што Юрка параўноўваў яе з Кацяй, і сэрца яе спуджана страпянулася.— Прыглядайся як след! Адным вокам значна больш чаго можна ўбачыць.

Усю змену Юрась працаваў з завязаным вокам. За некалькі мінут да канца работы Юрась сарваў з вока павязку. Міжволі прыжмурыўся, падкінуў яе ўгору і закрычаў:

— Ура-а!.. Экзамен вытрыман! Слухайце, сябры! Маё правае вока будзе тут працаваць, са мной, а левае дасць святло другому.

Усе акружылі Юрася.

— Ты што?.. Звар'яцеў?! — нечакана сказаў брыгадзір.

Доктар сядзеў за сталом. Узняўшы бровы, ён моўчкі паглядзеў на хлопца.

— Я да вас,— забыў Юрась прыгатаванае тлумачэнне.— Я хачу спытацца... Хачу даведацца... У мяне зусім здаровыя вочы. І...— юнак запнуўся.

— Дык навошта ж вы, малады чалавек, прыйшлі марнаваць час і хворых і мой? — У голасе разам з мяккім дакорам чулася зморанасць.

Юрась супакоіўся.

— Не, таварыш доктар. Не марнаваць. Я хачу сваё левае вока аддаць таму, хто на фронце страціў зрок.

— Што? — Доктар таропка пераклаў на стале нешта бліскучае, устаў з крэсла.— Ён ваш бацька?

— Не, яго я не ведаю. Я прачытаў у газеце. Ён выдатны вучоны.

Юнак дастаў з унутранай кішэні пінжака газету і паклаў на стол.

Доктар наліў з графіна вады ў шклянку, выпіў і сеў.

— Значыцца, вы хочаце падар... аддаяце яму сваё вока? — вяртаючы газету, перапытаў ён.— Я вас так зразумеў?

— Так. І хачу канчаткова ўпэўніцца: мажліва падобная аперацыя з маім вокам ці не?

— А ён, гэты вучоны... сам Гарыцвет, згодзен?

— Я паслаў ліст, чакаю згоды.

Доктар задумаўся.

— Бачыў фільм,— думаў ён уголас,— маці аддала вока сляпому сыну. Гэта зразумела. Ведаю, за мяжой у адчаі прапаноўваюць за долары свае вочы. Што зробіш, апошні шанс выжыць... А вось зараз вы,— доктар пасадзіў юнака перад сабой і падабрэўшым позіркам уважліва ўглядаўся ў спакойныя, з густымі доўгімі вейкамі сінія вочы незвычайнага пацыента.

— Прабачце, малады чалавек! Хачу пачуць, што вас прымушае ісці на такі ўчынак?

— Абавязак, сумленне! — з гарачнасцю адказаў Юрась.

— Вы жанаты?

Юрась баязліва ўсміхнуўся.

— Яшчэ не.

— А ёй сказалі?

— Не.

Румянец збянтэжанасці і сарамлівасці нечакана заліў шчокі хлопца.

Доктар устаў.

— Праверым ваш зрок. Сядайце тут. Глядзіце сюды. Добра! Заплюшчыце правае вока. Якая літара? А гэта? Заплюшчыце левае. А гэтая літара? А вось гэтая? Вашаму зроку сокал пазайздросціць. Ну што ж! — праводзячы да дзвярэй, доктар узяў Юрася пад локаць.— Дазвольце засведчыць перад вамі сваю павагу! Чакайце адказу. Калі наш герой дасць згоду, такая аперацыя магчыма.

— Безумоўна, згодзіцца! — усклікнуў Юрась.— Ён жа закончыў такое даследаванне, што і відушчым не пад сілу. І працуе над новай тэмай. Яму неабходна маё вока!.. А я праверыў... Я і з адным абыдуся...

«Ты што? Звар'яцеў?!» — словы брыгадзіра гучалі ў памяці Юрася. «Чаму здзіўляе мой учынак? Што ў ім асаблівага? Спачатку ўсё здавалася ясным і неабходным, а по-

тым нібы заблыталася? Я не ведаю, што скажа Каця. Што скажуць яе бацькі? Не ведаю, як аб гэтым пісаць маці. Няўжо маё рашэнне сапраўды незвычайнае?»

«Ты што? Звар'яцеў?!» І гэта сказаў Пятро. Сказаў бы ён так, каб гэта быў яго бацька? Можа... О, не! Пятро не з такіх. Ён ганарыцца сваім бацькам. Мне здаецца, ён паўтарыў бы мой учынак.

Паклаўшы рукі пад падушку, Юрась ляжаў на ложку, разгублена пазіраў у позні змрок вечара, які ахутваў невялічкую прастору яго пакойчыка, і ніяк не мог сабраць у адно свае думкі і пачуцці.

У адну з гадавін Дня Перамогі Пятро прынёс у клуб франтавую лістоўку. «Герой Савецкага Саюза малодшы лейтэнант Васіль Беразін,— успамінаў Юрась тэкст лістоўкі,— калі ў яго скончыліся бранябойныя патроны... са звязкай гранат кінуўся пад варожы танк... Цаной свайго жыцця...»

«Цаной жыцця... цана жыцця...» Два гэтыя словы ніяк не вязаліся паміж сабой і трацілі сэнс. «Цана і жыццё». Незразумелае, няўяўнае спалучэнне... Чаму так рэдка я задумваўся над сэнсам свайго і чужога жыцця?.. Жыў, працаваў, ні да чаго асаблівага не даходзячы... Адно ясна: бацька Пятра свядома кінуўся пад танк».

Усё ж такі Юрась не разумеў, чаму нельга кінуць пад танк звязку гранат, а самому не кідацца. «Мабыць, іначай нельга было... На фронце ўсім, мабыць, так даводзілася: і майму бацьку, і Генькаваму, і Петрусёваму. Прыйшлося б Пятру — і ён бы так зрабіў».

«Падбілі?» — успомнілася спачувальнае пытанне Генькі.

— Вось калі б у бойцы мне выбілі вока, не здзівіліся б. Ну, а калі б я ў дадатак хулігана затрымаў ці парушальніка якога, нават стаў бы героем. А навошта яна мне, гэтая слава?..»

З такімі прыкрымі, блытанымі думкамі ён і заснуў, а калі ачнуўся ранкам, зноў усё ў яго ўчынку стала ясным.

Юрася непакоіла думка пра маці. Як ёй сказаць, каб яна зразумела гэты ўчынак і ўхваліла яго?

Яшчэ ўчора вечарам ён напісаў ліст, але не адаслаў. Юнак крочыў па невялічкім пакойчыку. «Хіба так пішуць маці?» Ён выняў з томіка на стале ліст і з прыкрасцю перачытаў:

«Дарагая мама! Я ніяк не атрымаю свайго адпачынку, каб убачыцца з табой. Вельмі многа работы. Наша рамонтная майстэрня пашыраецца, будзе сапраўдны механічны

завод. Але ты не засмучайся. Праз месяц я абавязкова буду ў цябе.

Дарагая мама! Здароўе ў мяне адменнае. Цётка пра мяне клапоціцца. Вось толькі нешта з вокам. Магчыма, будзе аперацыя. Толькі ты не хвалюйся...»

Хлопец скамячыў лісток. Уявіў сабе: маці вяртаецца пад вечар з птушкафермы, а суседка перадае ліст. «Ад сына!» — гаворыць цётка Наста. Радасная і шчаслівая, маці дзякуе і спяшаецца адчыніць дзверы ў хату. Яна садзіцца ля акна, чытае.

Не, ён не рос паслухмяным. Вось і зараз... Але цяпер ён пераканае маці. Ён так растлумачыць, што яна зразумее! Яна бачыла гора. Ды яшчэ якое! Таму і зразумее.

Юрась узяў аўтаручку і ясна адчуў, што ў лісце да маці трэба казаць толькі праўду. Ні ў адным слове не павінна быць ніякае фальшы. Дый наогул у сваіх словах і ўчынках ён не дапусціць ніякае маны і ашуканства.

«Мая адзіная на свеце, дарагая матулька! Піша табе твой сын Юра. Не магу цябе ашукваць. Павінен сказаць усю праўду. Шлю выразку з газеты. Уважліва яе прачытай. Там надрукавана пра аднаго вучонага. Ён абараняў тваё і маё жыццё. Яго параніла, і ён застаўся сляпым. Ты ўсё аб ім прачытаеш і зразумееш мой учынак...»

Не адрываючыся, Юрась пісаў і пісаў, а калі скончыў і перачытаў, з палёгкай уздыхнуў.

...Перадумваючы ўсе падзеі апошніх дзён, Юрась у выхадны дзень самотна блукаў па бязлюдных вуліцах гарадка. Раптам пачуўся голас Генькі:

— Дружа, здарова! Ледзь дагнаў цябе! Даруй мне! Сёння нядзеля. Шкляначку трахнуў! Шчыра кажу: праз цябе. Дай цябе абдыму! Мой бр-рат! Ты аддаеш вока вучонаму герою... А я... я яму... сэрца сваё аддам. «На, зрабі ласку, вазьмі, калі трэба!.. Ты заслужыў...» Юрка, ты не верыш?!. Вось я ў морду Грышку чуць не даў... Ён сказаў, што ты ў славу лезеш. А я кажу: «Ён і ёсць наша слава! А ты, Грыш-ш, чарвяк». Я так і сказаў.

— Ну, навошта ты п'еш? — уставіў Юрась.

— Што?.. Ты мною пагарджаеш?.. Я... можа, сам сабою пагарджаю!.. А мяне бацька навучыў піць. «Пі, сынок, усё роўна памром!..» Але бацю майго не чапай! Ён рабочы чалавек! А я, Генька, хто? Не ведаеш... А можа, у мяне крыўда на сэрцы? Разумееш, крыўда! — дзяліўся ён сваімі пачуццямі.— Я не горшы за другіх!.. Ну, даруй!.. Апошні раз п'ю!.. Не верыш?..

— Пойдзем да цябе, Генька, пагутарым. У цябе яшчэ ніколі я не быў.

— Мяне Соня не прызнае! — нечакана прамовіў Генька.

Каця пастукала ў дзверы. Ніхто не адазваўся. Над дзвярыма намацала ключ, адамкнула пакой і ўвайшла. Ні разу яна так не рабіла.

— Застануся, пакуль не прыйдзе!

Дзяўчына агледзела пакойчык, які зрабіўся для яе такім дарагім. Абы-як засланы ложак. На сцяне рэпрадуктар і каляндар. Паліто на цвіку ля дзвярэй. Той самы стол з кнігамі і старэнькая непафарбаваная табурэтка. Іх пазнаёмілі кнігі, бібліятэка. Хутка будзе год. А ўчора прыйшлі ў бібліятэку двое з яго майстэрні і ў размове між сабой назвалі Юрася чалавекам будучага.

Каця ледзь стрымала слёзы. Юрась больш яе не кахае. Ён жа ні ў чым ёй не прызнаўся, не параіўся...

Расплакалася Каця толькі дома. А маці яе суцяшала.

— Хлусяць!.. На тое языкі.

— Ён можа... ён такі! — паўтарала дзяўчына.

Маці ўгаварыла дачку праведаць хлопца і аб усім даведацца самой.

Дзе ж ён? Каця трывожылася: а што, калі б яна яго не стрэла? Або — ён ніколі не вернецца да яе. Яна падышла да акна і штурхнула раму. Акно расчынілася.

— Хто тут гаспадарыць? — пачуўся голас знадворку.— А, вось яна, свавольніца!..

«Ён!.. Шуткуе!.. Кахае! — зразумела Каця.— Мамачка, твая праўда! Не стане ён, такі вясёлы, нявечыцца».

— Калі перад табой замест дзвярэй адчыняюць акно, прыйдзецца лезці.

Хлопец залез на падаконнік, скочыў на падлогу і прытуліў да сябе Кацю.

— Ой, Юрачка, нас бачаць!

Юрась прычыніў акно. Дзяўчына села на табурэтку.

— Юрачка, паслухай, што кажуць.— Яна расказала пра чутае.— Гэта праўда?

— Праўда.

— Ты мяне разлюбіў... Нічога не сказаў...

— Не змог сказаць! Павінен быў, хацеў і не змог.

— Я не хачу няшчасця.

— Што ж зробіш! — ён іранічна ўсміхнуўся.— Так намысліў...

— Я ўяўляла сабе, што любіш жыццё, яго хараство, а ты... нявечыш сябе. Хіба ён адзін такі герой?..

— А калі б гэта быў твой бацька?

— Бацька? — Каця задумалася.— Я ўгаварыла б яго адмовіцца...

— А калі б з табой так здарылася? — сурова спытаў Юрась і спалохаўся.

Каця ніжэй апусціла галаву.

— Я тады загубіла б сябе...

Нечаканасць Юрасёвых пытанняў бянтэжыла дзяўчыну. Яна ішла сюды, маючы безліч доказаў свае праўды, не сумнявалася, што ён згодзіцца з ёю, а ён...

— Дзеля чаго ты выпрабоўваеш мяне? Кожная дзяўчына, калі хоць кропельку будзе кахаць цябе, скажа тое, што і я! — працягвала Каця.

— Ты хочаш сказаць, што без вока, рукі ці нагі не пакахала б мяне? — Юрасю прыйшлі на памяць жарты ў майстэрні.— Я не франтавік, каб так пытацца!.. Дарага сапраўднае каханне!

— Не маё?

— Не такое тваё!..

— Вось і дагаварыліся.— Каця выцерла слёзы, рашуча ўстала і пайшла да дзвярэй.

Юрась не затрымаў яе.

Маці з парога сустрэла Кацю пытаннем:

— Няўжо праўда?

Дачка махнула рукой і села за стол да маці. «Нічым ты мне, мама, не паможаш».

Маці зразумела, але не стрымалася:

— І ты не ўгаварыла!.. Як жа так?

— Самае страшнае,— памаўчаўшы, адказала Каця,— што яго праўда. Але, мама, не пярэч! Хай уся мая істота пратэстуе супраць яго ўчынку, праўда на яго баку...

— Мілыя дзеці! — уздыхнула маці.— Нагледзеліся фільмаў, начыталіся кніг і на ўсе подзвігі, на ўсе ахвяры гатовы.

— Хопіць марыць аб подзвігах. Іх пара здзяйсняць, мама.

— Учынкі, дачушка, павінны быць апраўданы. Калі юнак кідаецца ў палаючы дом ратаваць дзіця, гэта зразумела, а калі па білет, які можна аднавіць, і, апалены гіне,— такое нікому не патрэбна.— Маці здавалася, што яна ў класе і дзецям тлумачыць такое, ад чаго залежыць іх лёс.— Вось так і з Юрасём. Чалавек страціў зрок, жыве, знайшоў сваё шчасце. Навошта яго непакоіць?

Каця зноў адчула сябе дзяўчынкай, якой дазволена задаць любое пытанне.

— Мама, а калі б наш бацька?..

— Любая ты мая! Ды ён бы і не памысліў, і не згадзіўся б!

— А калі б са мной?.. Памятаеш, у фільме. Маці аддала вока сыну. Юрась...

— З табой?.. Ты што?

— Ну, а калі б...

— Дурненькая мая! Такія пытанні задаваць! Хіба на іх адкажаш?

— Ну, а калі б...

— Ай, якая ты... Ты для маці самае дарагое...

— Дык чаму да ўсіх добрых людзей не мець такіх пачуццяў?

— Занадта многа няшчасцяў на свеце, каб на іх адгукацца і так сябе ахвяроўваць. Не па гэтым шляху трэба ісці... Хіба цябе хопіць? Нікога не хопіць,— маці пяшчотна ўсміхнулася і цяжка ўздыхнула.— Лепш адкажы: вы пасварыліся?

— Не ведаю,— Каця ўсміхнулася.— Я такога глупства нагаварыла!..

— Чаго засумавалі? Жаніх без вока? — спытаў бацька, які вярнуўся з працы. Ад яго пахла свежасцю сасновых стружак і пілавіння, якімі ён быў абсыпаны.— Чым кепска? Квапіцца ніхто не будзе. Спаць будзеш спакойна,— жартаваў ён.— Бачыў я, дачушка, твайго хлопца. І што прыпомнілася — Вісла. Сорак чацвёрты год. Адзін такі хлопец, выліты Юрка, як штурхне мяне ў траншэю і сам кулём услед. А тут — гах! Каб не ён... Пайшлі, Каця! На рукі вады пальеш.

...«Сяброўка жыцця! А я спадзяваўся. Што рабіць? Горка і сорамна... Хутчэй бы адказ. Здаецца, я пасталеў на сто гадоў»,— думаў Юрась, лежачы на пасцелі ў сваім пакойчыку.

Быў вечар, ісці ў сталоўку не хацелася. Не змог чытаць. Адно жаданне — пабачыць яе і пачуць голас. Трэці дзень Юрась адзін...

— Дазвольце? — на парозе пакойчыка стаяла Соня.— Не чакаў?

«Не пастукала!..» — здзівіўся Юрась.

— Не чакаў.

— А я ўзрадавалася: дзверы для мяне адчынены.

«Прыбралася, нібы на пагулянку. І прыгожая...» — мільганула ў хлопца.

— Сядай на табурэтку, толькі асцярожна,— прапанаваў ён дзяўчыне.— Сукенку не пакамеч.

— Ты ўсіх так папярэджваеш? — рассмяялася Соня.— Ты адзін? — сядаючы, спытала яна.— А я ад Каці.

— Што з таго?

— Табе прывітанне.

— Навошта хлусіць?

— Ты яе пакрыўдзіў? Яна плача.

— Паплача і перастане... А табе што?

— Мне? — дзяўчына перасмыкнула плячыма.— Шкада Каці.

— Кінь, Соня! — Юрась прыўстаў і сеў на ложку.— Я ведаю, чаго прыйшла.

Твар дзяўчыны паблажэў.

— Чаго? — ціха спыталася.

— Сама ведаеш...— ён памаўчаў.— Дзякую, што наведала. Шчыра дзякую. Цябе праводзіць? Мне да сталоўкі.

Соня не паварушылася.

— Калі ў Кіеў на аперацыю паедзеш? — спытала Соня.

— Адразу, як атрымаю адказ.

— Вазьмі мяне з сабою.

— Цябе?! Дзеля чаго?

— Калі б ты страціў зрок, я цябе не пакінула б... Я б табе... свой аддала!

Яна хуценька ўстала і таропка выйшла з пакоя. Юрась дагнаў яе. Ішлі моўчкі.

— У цябе ёсць каго кахаць,— парушыў маўчанне Юрась.— Я быў у Генькі. Ён добры. Памажы яму.

— І памагу! — Соня спынілася, схапіла Юрася за руку: — А вось як ты адолееш сваё каханне? Кінеш яе?

Сказала і заспяшалася прэч.

Юрась адначасова атрымаў два лісты: ад маці і з Кіева. Першым разарваў канверт маці.

«Твой бацька загінуў на фронце. Ты рос сіратой. Я плакала па вас абодвух,— чытаў Юрась.— Цяпер мацярынскаму сэрцу зноў слёзы. Не ведаю, што і сказаць. Можа, трохі пачакаць. Наша медыцына (Юрась заўважыў памылку, усміхнуўся) не стаіць на месцы. Яна і без твайго вока абыдзецца. Ну, а калі надумаў...»

— Мамка! — ускліюнуў сын і пацалаваў ліст.— Згодна!

Ён падсеў да століка і, асцярожна падсоўваючы аловак, распячатаў канверт з Кіева.

«Дарагі Юрась! Я атрымліваю многа лістоў ад незнаёмых людзей і ўсё больш і больш пераконваюся ў тым, як у нас багата цудоўных людзей, такіх чулых і спагадлівых, як вы, дарагі мой дружа!

Мне горка заставацца сляпым. І ўсё ж такі ўсёй сваёй

істотай я адчуваю наша жыццё і вельмі шчаслівы, што магу быць карысны людзям.

Мяне ўсхвалявала, да глыбіні сэрца кранула ваша высакародная прапанова. Але я вымушан катэгарычна адмовіцца ад яе. Будаваць свой дабрабыт на няшчасці другога я не магу, ды гэта і не пасуе да нашага гуманнага грамадства...»

Юрась аблакаціўся на столік, апусціў галаву на далоні і заплюшчыў вочы.

Ён пасядзеў так каля гадзіны, потым устаў і падышоў да адчыненага акна. На сухой верхавінцы таполі па-ранейшаму ўвіхалася неўтаймоўная стракатая мухалоўка. Блакітнае неба перакрэсліла распушаная нітка дымку — след самалёта. Юрась апрануўся і выйшаў на вуліцу, упрыгожаную сонечным захадам. Вось і яе завулак. Пад ценем цёмна-зялёных каштанаў ён убачыў дзяўчыну ў белай сукенцы.

— Каця! — клікнуў Юрась дзяўчыну.

*1962*

## ЛАСТАЎКА

*Памяці кранаўшчыцы*
*Тані Бібінай*

Ніколі яшчэ рычагі кантралёра не былі такія паслухмяныя Таніным рукам. Дзіва што! У сённяшнюю кароткую летнюю ноч яна ўпершыню зразумела, што кахае. Стоячы ў кабіне крана, Таня зноў і зноў прыпамінае ўсе падрабязнасці ўчарашняга вечара. Вось яна на веласіпедзе ў зялёным завулку, што вядзе да ракі. Яе даганяе Віталь і кажа:

— Ластаўка, едзем разам!

Аднойчы пасля працы, гады з два ўжо таму, калі Таня яшчэ з асцярогай апускалася з кабіны па прыступках лесвіцы, да яе падышоў прараб і спытаўся:

— Ну як табе там, у небе?

Дзяўчына сумелася.

— Там ластаўкі,— адказала яна.— Так і ўюцца.

— Перашкаджаюць рабоце?

— Ды не,— пачырванела Таня.— Занадта ўжо блізка да іх...

Прараб акінуў здзіўленым позіркам невялічкую танклявую постаць у сінім камбінезоне і ўсміхнуўся:

— Эх ты, ластаўка!

А на вытворчай нарадзе прараб пераблытаў імёны дзяўчат.

— Ды не тая Зорына,— паправілі яго Таніны сяброўкі.— Гэта ж кранаўшчыца... Ластаўка.

З таго вечара і пачалі Таню зваць Ластаўкай. І яна не пярэчыла.

З радасцю адгукнулася дзяўчына і Віталю:

— Давай навыперадкі!

Узбуджаныя хуткай яздой і свежасцю вечара, яны спыніліся ля ракі пад вярбой і моўчкі захапляліся, як на дальнія паплавы пералятталі ныркі.

— Наведаў я ўранку нашу старэнькую школу,— пачаў Віталь.— Нічога не пазнаў. Усё змянілася.

— Я часта бегала туды,— адказала Таня.— Потым з год не была. Села за парту, устала і ледзь не перакуліла яе. Мы так рагаталі з дзяўчатамі.

Памаўчаўшы, сказала:

— Я мора яшчэ не бачыла. Мабыць, яно ўсё палымнее, калі сонца заходзіць.

— А я на самалёце ні разу не лётаў,— прызнаўся хлопец.— Паглядзець бы зверху на наш пасёлак. І ў Маскву...

— Мяне возьмеш? — пажартавала Таня.

Нечакана Віталь сказаў:

— Як было б добра штовечар наведвацца сюды.— І ледзь чутна дадаў: — З табой.

«Гэта праўда? Гэта пра мяне? Ну скажы! Паўтары!..» — просіць у думках дзяўчына, а сама нібы шкадуе:

— Я палярнага ззяння ніколі не бачыла. Пішуць — усё неба нібы вясёлкай расквечана: зіхаціць, пераліваецца... Якое шчасце — усё ўбачыць самой... Але і тут, на беразе, так хораша. Прыедзем заўтра!

Заўтра — гэта сённяшнім вечарам.

Машына за машынай ідуць грузавікі з цэглай, рошчынай, бэлькамі. Таня, нібы сваімі рукамі, паднімае гэты цяжар на трэці паверх — апошні паверх новай школы. Увосень тут будзе шчабятаць дзятва. А старэнькі драўляны будынак, дзе яна вучылася, застанецца толькі ў памяці. Вунь ён ціха прытуліўся да зямлі і здаецца такім невялічкім.

Вось толькі што паўз яе кран прайшлі туды хлопчыкі і дзяўчынкі. І з імі Надзя, даўняя сяброўка. Будуць спяваць. Рыхтуюцца да вечара мастацкай самадзейнасці.

У Надзі добры голас. Тонкі музычны слых. Яны заўсёды разам спявалі. Таня закончыла школу ФЗН і стала кранаўшчыцай, а Надзя паехала ў педагагічнае вучылішча. І абедзве вярнуліся дадому, у свой пасёлак. Вярнуўся з арміі Віталь. Любы, дарагі Віцечка. Няўжо гэта той хлопчык-задзіра з паралельнага «Б»? Чорны, загарэлы. Падняўся на цэлую галаву ад яе! А рукі! Сапраўдны слесар-механік... І такі разумны.

Ластаўкі неяк дзіўна сцелюцца каля самай зямлі. Няўжо будзе дождж? З адчыненых вокнаў школы далятае песня.

Вецер ірве яе на часткі, але Таня падхоплівае матыў і спявае сама. Дзяцінства мінула, а песня аб дзіцячым шчасці засталася на ўсё жыццё.

«Віра!» — крычыць з пляцоўкі брыгадзір. Ягоная рука энергічна паднімаецца і крэсліць у паветры спіраль. Стоячы перад кантралёрам, Таня праз шкло кабіны сочыць за няхітрай камандай брыгадзіра. Націскаючы на рычаг, яна накіроўвае стралу з грузам уверх, а пад крык «майна!» апускае яго на патрэбнае месца. Покуль падыдзе чарговая машына, можна зноў памарыць.

Але што гэта? Нібы дрыжыкі прабягаюць па кране, зазвінелі шыбкі. Чаму так доўга не чуць машын? Таня падхапілася. Неба ўсё попельна-шэрае. Вецер гоніць па зямлі смецце, лісце, пясок. Наляцела віхура.

Махаючы рукамі, Таню клічуць уніз рабочыя, заве брыгадзір. Трэба безадкладна пакідаць кран. Вецер вырывае з яе рук дзверы, збівае з прыступак. Хутчэй на зямлю. Там — толькі прайсці за вугал будоўлі — майстэрня, а ў ёй — Віталь. Мабыць, і ён чакае і не дачакаецца сустрэчы...

І раптам — думка: а што, калі віхура набярэ сілы, сарве кран з упораў і перакуліць. Страла накрые школу, а ў ёй...

Усе, хто былі на пляцоўцы, ахнулі. З апошняй прыступкі, нібы штосьці забыла, Таня падхапілася назад, да кабіны.

Шалёны вецер з нарастаючай сілай кідаў дзяўчыну на тонкія пруты зламаных пярэчын, збіваў з коўзкіх прыступак. Прыціскаючыся да ўжо ненадзейнага перапляцення з металу, Таня настойліва чаплялася, карабкалася і лезла ўверх. Саслізнуліся ногі. Вецер кінуў яе на круг пярэчыны, Таня паспела схапіцца за лесвічную раму. Прыступка, яшчэ прыступка. Колькі ж іх яшчэ? Усё роўна наверх, толькі наверх! І хутчэй!

Вось і пляцовачка перад дзвярыма. Выццё і свіст, ляскание і трэск, скрыгатанне і грукат — усё злілося ў адзін бесперапынны гул. Разбуральная сцяна з ліўня і ветру прыціснула Таню да дзвярэй, і здавалася, не было ніякай маг-

чымасці адчыніць іх. Быў толькі адзін спосаб, і Таня знайшла яго: выбіла ў дзвярах ніжнюю дошчачку.

Напружыўшы сілы сваёй сямідзесяцітоннай махіны, кран здрыгануўся раз, другі, забразгаў... Яго сарвала з упораў і пагнала ў безнадзейна кароткі тупік.

І ў гэты момант страла крана скранулася з месца і пайшла ў бок ад старэнькага будынка, якога ў навальніцу і не было відаць...

Кран ударыўся аб зямлю, аж яна застагнала...

Усе, хто даведаўся аб гібелі кранаўшчыцы Тані, ішлі развітацца з ёю. Знаёмыя са здзіўленнем пыталіся: няўжо яна — тая дзяўчына, што жыла і працавала з імі? Незнаёмыя спяшаліся пабачыць — якая яна?

«Яна такая, як і мы!» — з хваляваннем думалі ўсе.

Ластаўкай у небе прамільгнулі дні кахання Віталя і назаўсёды засталіся ў яго сэрцы.

*1961*

# ПАМЯЦЬ

## Першы дзень

Першы дзень вайны — нядзеля. Вуліцы горада Віцебска поўны народу. Зноў завылі сірэны — паветраная трывога.

Міліцыя ўсім загадвае хавацца ў пад'езды, двары, нібы ў надзейнае сховішча, але ніхто не жадае туды ісці.

Вось чародка дзяўчат тоўпіцца ў пад'ездзе. Але варта паставому адвярнуцца, як яны, гарэзліва смеючыся, выпырхваюць і разбягаюцца па вуліцы.

Другі паставы з шырока разведзенымі рукамі перабягае то на адзін бок вуліцы, то на другі, пераймаючы іх.

І ўсё гэта здаецца нейкай гульнёй — ніяк не верыцца, што пачалася вайна.

## Не забудзься

У першую ноч у вёсцы Мехавое ніхто не спаў. Галасілі ў кожнай хаце.

А вакол вёскі бясконцае жытняе поле. Тут ні гукаў, ні шолахаў. Ідзеш па сцежцы, і напоеныя водарам збажыны і траў хвалі то сцюдзёнага, то цёплага паветра злёгку абвяваюць цябе развітальнай пяшчотай, нібы нагадваюць: не забудзь пра нас, калі будзеш там, у баі.

## Зорачка

Баязлівая зорачка загарэлася ў небе над непрывычна прыціхлай вёскай і зазіхацела, а ў фіялетава-попельным змроку вакол пахучых таполяў загулі майскія жукі.

Мы, дзяжурныя з атрада мясцовай самаахovы, знаходзімся каля сельсавета і вышукваем варожых агентаў. Яны, як нам уяўляецца, могуць раптоўна зваліцца з неба, выбегчы з жыта, з'явіцца з-за павароту дарогі.

І хтосьці трывожна сказаў:

— Чуеце, самалёт!

— Дзе?

— Ды вунь — прама на захадзе.

Усхапіўшыся на ногі, мы напружана ўслухоўваемся ва ўсе вячэрнія гукі, што даносяцца да нас, і пільна ўглядаемся ў неба, якое нечакана стала такім неспакойным.

І нехта сказаў:

— Зірніце! Вунь агеньчык! Плыве.

— Рухаецца! Сапраўды рухаецца! — начальнік атрада ўсхвалявана акідвае ўсіх нас позіркам.— У зборы ўсе? Займайце свае пасты! Сачыце за парашутыстамі!

Мы неадкладна выконваем рашучыя загады свайго начальніка Пятра Сачкова. Дырэктар сярэдняй школы, камсамолец, па-вайсковаму стрыманы і падцягнуты. У нас на ўзбраенні на дваццаць чалавек — адна дробнакаліберная вінтоўка і стары паляўнічы драбавік вартаўніка кааператыўнай крамы.

— Зірніце, новы агеньчык! І таксама плыве.

— Ды што ты! Нічога не плыве.

— А гудзе!

— А вунь яшчэ! І яшчэ!

— А можа, гэта звычайныя зорачкі?

Нарэшце мы пераконваемся, што гэта не варожыя самалёты, а звычайныя зоркі, і, засаромеўшыся, як дзеці, моўчкі садзімся на прызбу ля сельсавета.

## Што такое варонка

Трэці дзень вайны. На золку наша вёска Мехавое прачнулася ад пяці глухіх выбухаў. Неўзабаве даведаліся, што над невялічкай станцыяй Бачыхай праляцеў фашысцкі самалёт і скінуў пяць бомб. Яны ўзарваліся на сенажаці каля дарогі.

— А там, дзе зваліліся бомбы,— ямкі... нібы такія, у якія мы некалі ў садзе яблыні садзілі,— задыхаўшыся, рас-

казвае прыбегшая адтуль дзяўчынка.— Толькі мы зямлю ў кучкі, а там усю пожню закідала...

Немалады калгаснік перапыняе дзяўчынку:

— Гэтыя ямкі, дачушка, называюцца варонкамі...— Уздыхнуўшы, ён дадае: — А на садовыя падобны, як каршун на кураня.

## Развітанне

Вось яны — паліцы з нязменнымі спадарожнікамі ўсяго майго жыцця, мая найвышэйшая радасць, мой розум і веды, маё сумленне, бездакорны суддзя маіх учынкаў, чысцілішча маёй душы.

Кнігі.

Пантэон вечна жывых, светлых, заклікаючых наперад цудоўных вобразаў.

Кнігі.

Я сёння пакідаю вас, можа, назаўсёды...

Не, я не здрадзіў вам, не забыўся на вас. Пакуль б'ецца маё гарачае сэрца, розум ясны, я — з вамі.

Але вораг напаў на маю бацькаўшчыну.

Для яго вы — нішто. Ён знішчае ўсе святыя парасткі, вырашчаныя вамі, і я іду бараніць вас.

## Пушкін і вайна

*Я помсціў за Пушкіна*

*Э. Багрыцкі*

Вакол ваенкамата — сурова стрыманы натоўп мабілізаваных. Адна за другой фарміруюцца каманды і, уздымаючы пыл па дарозе, ідуць на захад.

З рукзакамі за спінамі, чакаючы свайго выкліку, удвух з таварышам мы чытаем уголас томік Пушкіна. Непадалёк ад нас, штохвіліны сціраючы з твару і шыі пот, мітусіцца таўстун. Раптам ён накідваецца на нас:

— Кіньце гэтую бязглуздзіцу пра нікому не патрэбных князёў і русалак! Ці вы не бачыце, што робіцца навокал?

— Гэта Пушкін, а не бязглуздзіца...— спакойна адказвае мой таварыш і, глянуўшы на таўстуна, з усмешкай пытае ў яго:— А, уласна кажучы, што вакол робіцца?

— Людзі за Радзіму на смерць ідуць, вось што робіцца. Які можа быць зараз Пушкін?!.

— Вось і я іду змагацца,— адказвае таварыш таўстуну.— За Радзіму і за Пушкіна.

## Пабрацімы

Мы сабраліся ў лесе, некалькі тысяч мабілізаваных — апошні прызыў — самы старэйшы ўзрост.

Над намі зялёныя кроны высокіх дрэў, пад намі — цёплы мох і духмяны подсціл з хваінак і лісця.

Ля самага ствала тоўстай яліны я разаслаў ватоўку, мой таварыш па школе Уладзімір Жаўняроўскі накінуў зверху на абодвух паліто. Так мы спалі першую ноч нашага салдацкага падарожжа. Прачнуліся досвіткам ад збітай куляй галінкі, якая звалілася нам на грудзі. Уверсе гуло і стракатала. Потым стала ціха, і нам абодвум раптам зрабілася жудасна. Упершыню ў жыцці мы адчулі, што такое смерць ад кулі ворага.

— У цябе браты ёсць? — спытаўся таварыш.

— Не.

— А ў мяне зараз і сям'і няма... І не хутка ўбачу. Давай пабратаемся.

Мы нязграбна прытуліліся адзін да аднаго і дакрануліся шчакой да шчакі.

## Наш першы смех

На Невель наляцелі варожыя самалёты. Ракочучы, яны разварочваліся над горадам, скідаючы чорныя кропкі. Бамбілі на станцыйных пуцях эшалоны, а нам здавалася, што кожны самалёт пікіруе на нас і гэтыя выючыя кроплі нацэлены нам у лоб.

Мы забеглі ў адзін з двароў і, прытуліўшыся да плота, сачылі за крылатай смерцю. У адзін з чарговых залётаў, калі гэтае д'ябальскае выццё здалося нам асабліва злавесным, адзін наш таварыш схапіўся рукамі за галаву і кінуўся ў глыб двара. Ён хутка дасяг сабачай дашчанай будкі, паваліўся на калені і ў круглую дзірку ўткнуў галаву.

Мы зірнулі ў вочы адзін аднаму і першы раз за ўсе дні вайны засмяяліся.

*1941—1961*

# АПОЎНАЧЫ

Ноччу ў акно невялічкай хаты пад ліпамі пастукалі. «Здалося»,— падумаў стары, якому не спалася. Але стук паўтарыўся.

— Маці, ты чуеш? — разбудзіў ён жонку.— Хто б гэта мог быць?

— Я чую голас Васіля,— задрыжаўшы, адказала яна.

— Якога Васіля?

— Сыночка...

— Чаго яму тут? — запальваючы газовачку, злосна запярэчыў стары.— Ён там... Ану, адчыняй!

Адзін за другім парог хаты пераступілі трое брудных, запыленых, у салдацкай вопратцы мужчын. Двое зморана спыніліся ля парога, а трэці ступіў да старога.

Стары спачатку прытуліў яго да грудзей, а потым, сурова нахмурыўшыся, адштурхнуў.

— Чакай!.. Хто ты?

— Як хто? — вырвалася ў матулі.— Апамятайся... Твой сын...

— Маўчы, маці! І мне хочацца бачыць свайго сына. А ты хто? — стары прыцішыў голас.— Як сюды трапіў? Чаго?

Двое каля парога пераглянуліся, а трэці стаяў, збянтэжаны.

—М-мяне... адпусцілі.

— Адпусцілі?! Гэта цяпер? Дзе доказ?

Салдат расшпіліў кішэню гімнасцёркі, дастаў складзеную паперку і падаў старому.

— Ну вось...— кончыўшы чытаць і горда ўзняўшы галаву, сказаў бацька маці: — Зараз я бачу перад сабой свайго сына і яго таварышаў. Іх на паўсутак адпусціў дахаты камандзір!

Ён паглядзеў на сына.

— Так, сынок, бяда к дому падыходзіць... І мы ў тую вайну не раз адступалі... Маці, дастань падсілкавацца... Падсмаж як след — сама ведаеш... Гэта салдаты. Ім зноў ранкам у дарогу...

Стаяла жнівеньская ноч 1941 года. Воддаль грымела кананада, і яе гукі чуліся ўсё бліжэй і бліжэй.

*1960*

## ЛЯЛЬКА

Інжынер-капітан Голубеў працаваў у адным з пакояў штаба сваёй часці. У асабняку, які знаходзіцца ў прыгарадзе Берліна, былі адчынены ўсе вокны. Капітан то схіляўся над картай, то час ад часу ў задуменні глядзеў на каламут-

ныя воды ракі Шпрэе як на канцавы рубеж яго ваеннага лёсу. У той сонечны ранак 1945 года здавалася, што разам са смеццем і абломкамі, якія ўсё яшчэ неслі хвалі ракі, змываецца з зямлі ўся нечысць фашызму.

Над цеснай Шпрэе, нібы пужаючыся руін, што абступілі берагі, мітусіліся галодныя чайкі. Іх несупынныя жаласныя стогны разам з ветрам залятаі ў вокны, і тады неадступная горыч тугі па Радзіме ў грудзях Голубева станавілася яшчэ мацнейшай. Думаў ды і гаварыў ён толькі аб адным: калі ўбачыцца з жонкай і са старэнькай матуляй у Мінску, калі ўпершыню возьме на калені (ёй ужо споўнілася чатыры гады!) дачушку Маечку.

Патанаючы ў мяккім пазалочаным крэсле, інжынер-капітан чытаў апошні ліст ад жонкі. Яна пісала, што «на хаце зусім спарахнела страха», «дачушка бегае басанож» і што «далей чакаць цябе ў нас няма ўжо аніякіх сіл».

«А Майчыны кудзеркі зусім не слухаюцца грабеньчыка, і колер іх нагадвае калоссе спелай пшаніцы, калі глядзіш на яго здалёк...» «Жонка пра дачушку піша, як паэт!» — радаваўся ён.

Чытаючы і перачытваючы гэтыя радкі, Голубеў заклапочана думаў, калі яму ўдасца вырвацца адсюль.

Мякка расчыніліся цяжкія дзверы. Увайшоў старшы тэхнік-лейтэнант Дубаў, яго таварыш па службе, малады, вясёлы, чыста паголены. Лёгка несучы ў руцэ перавітую ружовай стужкай вялізную кардонную каробку, ён падышоў да стала інжынер-капітана.

— Неўзабаве мы ўсе будзем дома. Вось тваёй Маечцы невялічкі падарунак ад мяне.

І ён выцягнуў з каробкі ляльку і пасадзіў яе на калені таварышу. Гэта была дакладная пластмасавая копія дзяўчынкі год пяці, з доўгімі светла-залацістымі завітушкамі валасоў. Яна была апранута, як дзіця з заможнай сям'і. На нагах блакітныя шкарпэткі, замшавыя туфлікі. Дубаў нахіліў ляльку, яна вымавіла «ма-ма» і заплюшчыла вочы.

— Так,— уздыхнуў інжынер-капітан.— Цікавая цацка. Можна гуляць. Ну што ж, дзякуй, Міхась! Жадаю тваёй разанскай нявесце хутчэй пабачыць цябе. Уяўляю, з якім нецярпеннем чакае яна.

Дубаў стаяў і з усмешкай сачыў, як яго таварыш, ледзь датыкаючыся пальцамі, перабіраў на патыліцы лялькі кучаравыя пасмачкі. Нечакана рукі Голубева зрабілі неасцярожны рух, які бывае ў кантужаных. Ён скалануўся, змяніўся з твару. Лялька хіснулася і, перакуліўшыся, ніцма ўпала на паркет.

— Чые?..— перапытаў Дубаў.

— Майданек...

Нібы пакрыўджанае дзіцянё, ляжала на паркеце лялька. Золата валасоў з чыёйсьці галоўкі веерам разляцелася каля стаптаных кірзавых ботаў інжынер-капітана. Дубаў рукамі няўмекі падняў з падлогі свой падарунак і завіхнуўся пакласці ў каробку.

— Даруй мне! — схамянуўшыся, папрасіў Голубеў.— Я не хацеў яе ўпусціць.— І яго добры змораны твар зрабіўся засмучаным, нібы ён пастарэў за гэтую хвіліну.— Не, не магу бачыць яе...

Не спяшаючыся, Дубаў закрыў каробку і толькі тады ўбачыў, як з яе саладжавай ружовай этыкеткі якойсьці нямецкай фірмы ўсміхалася ўскормленае шчаслівае дзіцянё.

— Так,— прамовіў Дубаў, узяў каробку і, нібы труну дзіцяці, вынес з пакоя.

*1956*

## ВЯСЕННІМ ВЕЧАРАМ

Невялічкі, прыбраны клапатлівымі дзявочымі рукамі пакой. На акне — фіранкі, на падаконніку — вазоны: далікатны, крохкі «аганёк», які любяць дзяўчаты, духмяная герань. Зачапі яе — усё паветра напоўніцца асвяжаючым водарам.

Ледзь не ўвесь пакойчык займае ложак. На блакітную коўдру і падушкі накінута капа з карункамі. Каля ўзгалоўя — тумбачка. На бялюткай сурвэтцы — кнігі і розная дробязь: люстэрка, пудра, алоўкі. Каля акна — столік і тры табурэткі. Каля дзвярэй — печка і завешаны шырмай куток.

Над сталом электралямпачка, святло ад якой мае звычай увесь час гаснуць без папярэджання. На такія выпадкі побач вісіць газовачка з патрэсканым шклом.

Каля стала — тры дзяўчыны з падручнікамі і сшыткамі. Яны рыхтуюць урокі.

Большая з іх, Патаніна Тася, невысокая бландзінка з ветлівым спакойным тварам,— жыхарка гэтага пакоя. Яна працуе і вучыцца завочна ў педагагічным вучылішчы ў Лепелі. Справа ад яе — флегматычная таўстуха Іра, злева — худзенькая тэмпераментная Галя — дзесяцікласніцы, яе суседкі-сяброўкі. Яны заўсёды прыходзяць сюды рыхтаваць урокі і амаль увесь час трацяць на пабочныя гутаркі.

Змяркаецца. Як і заўсёды, першай размову пачынае Тася. Але сёння яна надзіва разгубленая і няўважлівая да заняткаў.

— Дзяўчаткі! Нешта мне зусім у галаву нічога не лезе. Як раздумалася я ўчора, дык і сёння хоць крыкам крычы...

— А што здарылася? — здзіўляецца Галя.

— Што? Ты пытаешся што? — не спяшаючыся, разважліва, нібы з самой сабою, спрачаецца Тася.— Я сама ў сябе пытаюся што? І не знаходжу адказу.

— Гэта бывае,— спакойна згаджаецца Іра.

— Праз месяц мне споўніцца дваццаць тры гады,— працягвае Тася.— І ніхто яшчэ на мяне аніякае ўвагі, нават не прыгалубіў... Не, некаму ўжо больш падумаць пра мяне. Усё скончана!

— Хіба ж ты пачвара якая? — запярэчыла Іра.— Прывабная, характар лагодны, як і ў нас... Не ўсё ж адразу!..

— Зусім не прывабная... Каму я патрэбная такая? Ні геройскіх учынкаў, ні выдатных здольнасцей, ніякае самавітасці.

— А хіба толькі такія выходзяць замуж?.. Ну, не! — не згаджаецца Галя.

— Ды і хлопцаў майго ўзросту ўжо нікога няма. Адны загінулі, а хто вярнуўся з вайны — даўно жанаты. Вось працую сакратаром райсавета. Заўжды поўна народу. А выбару няма. Іншы пагутарыць з табой больш ласкава, чым трэба, або пажартуе. Ведаеш, што ўсё гэта нічога не значыць. А ў галаве, у думках — нібы кінакадры з твайго жыцця: мы разам працуем, чытаем кнігі, у нас хлопчык! Абарвеш гэтую ўяўнасць, і такая горыч... Заскачуць пальцы па літарках машынкі, нібы шалёныя, і ўсё тут.

Апусціўшы галаву, Тася абгортвае вакол пальца і зноў распускае блакітную стужку, якой пераплецена тугая каса, і гатова заплакаць.

— Сапраўды, цяпер на танцах дзяўчат больш, чымся хлопцаў,— кажа Іра. Яна глядзіць шэра-блакітнымі вачыма на Галю.— Вось мой кавалер, Галечка. Скажы, непаседа, ты закахана ў мяне?

— Не,— жартуе сяброўка.— Па-першае, ты мне заўсёды гатова здрадзіць. А па-другое, я не люблю, калі ў дзяўчыны ў галаве вецер.

— У цябе самой вецер! — рэжа Іра.— Косця праўду казаў, што колер тваіх вачэй падобен на Балтыйскае мора: ніколі не ўловіш адцення яго колеру. А вочы — люстэрка душы.

— Не, дзяўчаткі, я сур'ёзна,— кажа Тася.— Тут і то няма выбару. А скончу вучобу, паеду на вёску. Там пасля вайны і зусім нікога не знойдзеш. Уся моладзь, як толькі падрасце, у горад ірвецца... Я і так стараюся нічога не браць пад увагу, заняцца працай, вучобай... Нават папракаю сябе за ныццё, маладушша. А падумаеш, ну хіба я зусім бязвольная? Не такое было, і перажыла... Ат!

Яна махнула рукой і стукнула па сшытку.

— Ад самой сябе, мабыць, не ўцячэш. Як вольная хвіліна, так і сумуеш.

— Гэта ў цябе, Тася, з вясной,— па-свойму ацэньвае яе настрой Галя.— Мне таксама вясной сумаваць хочацца... Або паехаць кудысьці далёка-далёка, на поўдзень, да мора.

Твар дзяўчыны ажывіўся, вочы заблішчалі.

— Аднойчы ў сне я лётала. Ды так дзівосна. Куды хутчэй за самалёт... Сама нібы птушка. Нават да зорак залящела. Прачынаюся і ціхенька смяюся, каб маму не разбудзіць. Так у гэтую ноч і не заснула. Раптам зажадалася ў каго-небудзь закахацца!.. Іра, як ты лічыш, Алег прыгожы?

— Калі ён табе падабаецца,— нечакана дзеля самой сябе з ironіяй адказала Іра,— то прыгожы!

Галя пачырванела і паспешна схавала твар у лісты падручніка. Іра засмяялася.

— Чаго хаваешся? Спаймала?!

— Нікольні не спаймала. Калі гавораць пра хлопцаў, я заўсёды чырванею. Гэта ў мяне з дзяцінства.

— Алег? Чый Алег? — нібы прачынаючыся, спыталася Тася.

— Наш аднакласнік,— адказала Іра.— Агульная сімпатыя. Толькі Галечка раўнуе.

— Нікога я не раўную,— узлавалася сяброўка.— Я значна вышэй гэтага перажытку.

Тася падняла галаву і адкінула косы назад. Прыплюшчыўшы вочы, яна ўздыхнула і, нібы ў сне, усміхнулася.

— У мяне быў Алег,— сказала яна.— Разам раслі. Напярэдадні вайны мне споўнілася шаснаццаць гадоў. Я восьмы клас скончыла. Нават не памятаю, як закахалася... Куды ні пойдзеш, усе мае думкі аб ім. Вочы такія сур'ёзныя, крыху з усмешкай. Вейкі доўгія, выгнутыя. Раз ужо нават стаяла побач. На першамайскім мітынгу. Ён абняў маю постаць адной рукой. Зірнула яму ў вочы і не змагла глядзець... Вечары два разам правялі і нават не пацалаваліся. А потым вайна. Праз год ён пайшоў у партызаны, абяцаў мяне ўзяць, ды не выйшла... Загінуў... Летась ездзіла дахаты восенню. Як усё-ўсё ўспомнілася! Яго магілка ў лесе

пад Межыцамі. І бярозка расце. Абняла яе і так напла-калася.

— У тым самым баі і мой стрыечны брат загінуў,— сказала Галя.— Мне семнаццаты, а яму ўжо дваццаць сем было б. Віця заўсёды мяне яблыкамі частаваў. На руках гушкаў. Усё гімнастыкай займаўся.

— Вось гэта было першае і апошняе каханне,— засмучаная, скончыла Тася.— Мае вусны так і засталіся нецалаванымі. Нават у сне не бачыла, каб хто цалаваў.

— І мяне,— заварушылася Іра.— А ў сне я раз цалавалася.

Вочы яе зрабіліся хітра насцярожанымі.

— Са мной? — спыталася Галя.

— Ты мне і без пацалункаў абрыдла.

— А мне, дзяўчаткі,— неяк вінавата засмяялася Тася, нібы саромячыся,— усё сніцца хлопчык. Такі пухленькі, ручаняткі за шыю абдымаюць!

Яна горача ўздыхнула.

— О, як мне хочацца мець такое дзіцятка! Прачнешся і адчуваеш яго цельца ля сябе. Нібы да грудзей прытуліўся пульхнымі вуснамі. І так табе хораша стане...

— Я люблю дзяцей,— з цёплай, пяшчотна задуменнай усмешкай кажа Іра.— Асабліва малых. Вачаняткі на цябе так і ўтаропіць. Я і ў лялькі вельмі любіла гуляць.

— А я — не! — адазвалася Галя.

— Значыць, з цябе будзе кепская маці,— зрабіла вывад Іра.

— Гэта не доказ. Я проста яшчэ не думала пра гэта.

— І я раней не думала,— уздыхнула Тася.— А з гадамі само прыйшло.

— Ну дык і добра! Зусім натуральная з'ява! — абагульніла Іра.

— Ах ты, таўстуха, філосаф дамарослы! — перакуліўшы да сябе на калені, Тася пачала калаціць Іру.— Ты ж добра ведаеш, бо чытаеш кнігі: нашы пачуцці павінны прыносіць нам і шчасце і радасць. Бяры што хочаш: каханне, сям'ю, мацярынства, дружбу... А вайна ўсё зрабіла трагедыяй, усё ў мяне адабрала: і першае каханне, і сям'ю, і нават права быць матуляй... Ой, якая ж ты тлустая: ні да адной костачкі не дабярэшся. Нібы мячык, і шчокату не баішся.

— Яна прывыкла. Яе ўсе тузаюць і скубуць у класе.— Галя ўсхапілася і кінулася на сяброўку.— Я ведаю, дзе яна баіцца. За вухам.

— А-я-яй! — крыкнула Іра і паспрабавала вызваліцца. Пачалася валтузня. Са стала пасыпаліся кнігі, сшыткі.

Тася і Іра зваліліся на падлогу. З крыкам: «Мала кучы!» — на іх навалілася Галя.

Пасля заўзятай барацьбы, засопшыся, са шчаслівым смехам, дзяўчаты пачалі прыводзіць сябе ў парадак.

Пад столлю тлеючым святлом азначыліся валаскі электралямпачкі.

— Не, дзяўчаткі! — ажывілася Тася.— Закончу вучобу, паеду ў вёску вучыць дзяцей. Тады будзе ў мяне радасць. Хоць і не поўная, а радасць. Даб'юся, каб дзеці мяне любілі, як я калісьці любіла сваю настаўніцу. А там...— Тася прыцішыла голас.— Можа, хоць інвалід знойдзецца... Хай без рук, без ног... Сляпы... Хіба я яго не пакахаю? Ды як яшчэ! І будзе ў нас хлопчык...

— А калі дзяўчынка? — зацікавілася Галя.

— А, кінь ты сваё! Што я пажадаю, тое і будзе!

Дзяўчаты засмяяліся.

— Хіба гэта залежыць ад жадання? — здзівілася Іра.

— Я жартую.— Тася зноў зрабілася задуменнай.— Проста мне не хочацца, каб мая дачка мела такі лёс, як і я.

— А калі новая вайна — сын загіне. Выгадуеш і зноў адна застанешся,— зморшчыўшы лоб, кажа Іра.

— Я тады адразу на фронт! — як даўно вырашанае, кідае Тася.— Буду помсціць ворагу за ўсё! А можа, больш не будзе вайны? — мяркуе Тася.— І што рабіць, каб яе не было? Можа, толькі і трэба, каб кожнаму сумленна працаваць? Толькі мая праца здаецца мне такой драбніцай, такой бездапаможнай перад усёй гэтай навалай, што ўсё думаецца: не, не тое трэба! А як знайсці гэтае большае — не ведаю. — Незадаволена я сабой! — абагульняе Тася свае развагі.

— Ты ў нас сапраўдны Барух Спіноза! — нечакана ўскліквае Іра.

— Чаму? — здзіўляецца Тася.

— Я чытала пра яго. Ён усё жыццё пакутаваў за лёс народа. Вялікі філосаф... Ой, дзяўчаткі! — падхопліваецца Іра.— Зноў мы загаварыліся! Трэба хоць дзесяцігодку скончыць. Там відней будзе... Можа, і ва універсітэт трапім... Пойдзем, мой ненаглядны кавалер, спаць. Ты забылася — заўтра фізіка, а Яўстафій Парамонавіч такі строгі. Ой, якая цемра на вуліцы!.. Дождж! Трымай мяне, Галю!..

Дзяўчаты развітваюцца. Тася праводзіць іх і, вярнуўшыся, зноў садзіцца за стол. Сядзіць доўга, нерухома. Потым дастае з тумбачкі шкляны слоік з малаком, лусту чор-

нага хлеба. Пад'еўшы, яна сцеле ложак, выключае святло, распранаецца і са словамі: «Ну што ж, дабранач табе, Тася!» — залазіць пад коўдру.

*1948*

## ЛЯ КНІЖНАЙ ШАФЫ

Я забег да Барыса. Мне хацелася павіншаваць яго з наваселлем. Кудлаты, падобны на вясёлага свавольніка, ён стаяў ля адчыненай кніжнай шафы. На стале, канапе і крэслах ляжалі сціркі рознакаляровых кніг. Пакой быў напоўнены сонцам, пахам свежых фарбаў. З вуліцы праз расчыненыя вокны далятаді дзіцячыя галасы. Захоплены сваёй працай, Барыс з нейкай асаблівай пяшчотай браў кожную кнігу ў рукі і асцярожна ставіў у шафу на паліцу.

Нечакана ў Барысавых руках апынулася загорнутая ў празрысты цэлафан брудная, парваная кніга.

— Што гэта? — спытаўся я.

Таварыш здзіўлена глянуў на мяне, потым пераклаў частку кніг з канапы на падлогу і рашуча сказаў:

— Сядай!

Мы селі. Барыс зняў з кнігі цэлафан. Я ўбачыў строфы вершаў і абгарэлыя рагі. У адным месцы кніга была прабіта навылёт.

— Ты, вядома, шчаслівы, што па ўзросту не трапіў на вайну,— пачаў Барыс.— А нам давялося...

Я адразу ўявіў, колькі яму давялося, бо сам прагледзеў гэтулькі фільмаў пра вайну, прачытаў кніг. Цікава, чые ж вершы?

— А зруйнаванні і бамбёжкі да гэтага часу і ў сне трывожаць маё сэрца,— кажа Барыс.— Не ведаю, што можна было ў свеце параўнаць з руінамі Валгаграда.

Пальцы таварыша асцярожна гартаюць старонкі. Кавалачак карычневай паперы адламваецца і падае яму на калена.

— ...У Валгаградзе я не бачыў ні аднае цалюткай цагліны і каменя,— працягваў далей Барыс.— Наўкол — нібы поле, якое засеялі не жытам, а асколкамі. І гэтак — на дзесяткі кіламетраў.

Мне ўспомнілася: хлопчыкам аднойчы я забаўляўся з асколкам ад бомбы, кідаў яго і абдзёр далонь. Цякла кроў, маці сказала: «Гэта ж пагібель, а не забава!»

— Нібы зараз перада мной шаша Валгаград — Бяке-

таўка,— апавядае Барыс.— Сакавік. Мароз. Снегу няма. Машыны ідуць, а па дарогах... трупы забітых. Трупы ў канавах пад лёдам. Іх твары нібы памкнуліся да вокнаў, кагосьці чакаюць. Куды ні глянеш: адно і тое ж...

Паступова голас Барыса робіцца больш глухім і змаўкае.

— Ты казаў: і ў цябе бацька не вярнуўся? — ласкава, нібы да дзіцяці, звяртаецца ён да мяне.

У мяне нечакана нагортваюцца слёзы. Са мной яшчэ так ніхто не гутарыў. Але, мой бацька і брат загінулі на вайне. Я сачу, як Барыс, не гледзячы на кнігу, гладзіць пальцамі яе старонку. Давядзе пальцы да прабітага месца, абмацае яго і пачынае спачатку...

— Я разміраваў адну з вуліц Валгаграда,— кажа далей Барыс.— І там, сярод руін, знайшоў гэтую кнігу. Як яна магла там апынуцца? Уцалець? Падняў, разгарнуў і прачытаў:

Чтобы дружбу обнаружить, есть три способа у нас:
Не желать разлуки с другом, быть с ним вместе,—
это раз;

Не жалеть, дарить от сердца, а не только напоказ;
В-третьих, ринуться на помощь издалека в нужный час.

Я слухаю Барысаў голас і адчуваю: як тут сонечна, як усюды поўна цяпла і святла, а твары ў канавах пад лёдам кагосьці чакаюць. Навошта ён чытае вершы? Чытае на памяць. І голас зусім другі, голас-метал:

Хуже нет, когда со страхом воин в бой идет
кровавый,
Ужасаясь, весь трепещет и дрожит пред смертью,
здравый.
Чем же лучше хилой пряхи воин слабый и
лукавый?
Всех богатств добытых лучше добыванье доброй
славы.

— Прачытаў я некалькі строф,— сказаў Барыс,— і азірнуўся. Здавалася, што той, хто быў з гэтай кнігай у агні, гутарыць са мной яе чаканнымі вершамі. Потым успомніў, чые гэта радкі і што больш года не чытаў паэзіі.

Барыс задумаўся, а мне зрабілася сорамна. Я не ведаў, каму належаць афарызмы пра мужнасць, пра каханне і дружбу, пра нянавісць да ворага.

— Сюды трапіў асколак,— таварыш паказаў на прабі-

тае месца ў кнізе: — Асколак выпаў, калі я разгарнуў кнігу... Так што,— ён журботна ўсміхнуўся,— памяць.

Барыс устаў. Кавалачак абсмаленай паперы зваліўся з яго калена на паркет.

— Калі б я меў магчымасць, то сабраў бы ўсе нашы франтавыя кнігі: прабітыя навылёт, аблітыя кроўю, абгарэлыя. Была б цэлая бібліятэка.— Барыс абвёў рукой прастору ўсяго пакоя.— Увесь свет яшчэ раз убачыў бы сваімі вачыма, хто з намі ішоў у бой і што мы баранілі.

Барыс узяў са стала навюткую кнігу і падаў мне. «Два гады назад набыў вось гэты экземпляр»,— сказаў ён.

На раскошным пераплёце чорнай фарбай і золатам быў паказан чалавек у адзінаборстве з тыграм. Шата Руставелі.

— Ну вось і ўсё,— закончыў Барыс.

На развітанне я павіншаваў яго з наваселлем, а ён, заняты сваімі думкамі, адказаў:

— Да вайны ў маёй школе на Віцебшчыне было многа кніг... І была сям'я... Сям'ю спалілі фашысты і ўсіх, хто быў у вёсцы,— дзяцей, жанчын, старых.

Гэтага я не ведаў. Барыс ніколі не расказваў.

Я выйшаў на вуліцу. У ліпеньскіх промнях сонца шумна гуляла дзетвара. У кветніках каля дамоў сядзелі і ціха размаўлялі іх маці і бабулі. Толькі ісці мне давялося па шашы Валгаград — Бякетаўка ў марозным сакавіку 1943 года. Я не быў героем Шата Руставелі, але я гатоў быў кінуцца на тыгра і раздзерці яму пашчу.

*1959*

## БУДАН

Пад поўдзень асфальт на вуліцы размяк і ўспацеў чорнымі кроплямі смалы. Нават непаседлівая дзятва спыніла гульні і пахавалася ад спёкі. Цішыня. Толькі заклапочаны жаночы голас, нібы крык самотнае птушкі, кліча і кліча:

— Валерка! Валерка!

Кароткі перапынак і зноў:

— Валерка!

Жанчына па чарзе абходзіць дамы на сваёй вуліцы. Насупраць аднаго дома спыняецца.

— Свавольнікі! — абураецца яна.— І чаго толькі не прыдумаюць!..

Краты з жалезных прутоў, што прыкрывалі падвальнае акно, адкінуты да сцяны дома. Замест іх з нарэзанага лазняку і травы зроблена нешта накшталт павеці.

Жанчына нахіляецца, каб заглянуць туды, але трава рассоўваецца, і ў адтуліне паказваецца віхрастая галава.

— Ты чаго тут? — Жанчына гневаецца, пазнаўшы свайго сына.— Ану, вылазь!

З дапамогай маці хлопчык вылазіць і, каб зменшыць віну, прызнаецца:

— Я не адзін...

— Не адзін? — раскідаўшы лазняк і траву, жанчына нахіляецца над падвальным праёмам. Ад акна, якое калісьці тут было, засталася толькі разламаная рама.

— Вы што тут робіце? — крычыць яна ўніз.

Памагаючы адзін аднаму, караскаюцца наверх збянтэжаныя хлопчыкі. Апошнімі вылазяць трое большых. Валеркава маці пазнае Шурыка, Мушэта і Славіка, хлопцаў са свайго дома, і накідваецца на іх:

— Як вам не сорамна? Занятку іншага няма?

— Мы гулялі ў будан,— апраўдваецца Шурык, загарэлы хлопчык у трусіках, з драўляным корцікам ля пояса.

— Пакалечыцца захацелі? Гэта ж небяспечна.

Падыходзіць сусед, які нядаўна быў маракам. Ён спакойна апускае на месца краты і, усміхнуўшыся, гучна, нібы на сапраўдным старце, падае каманду:

— Моладзь! Слухай мяне! Кру-гом! Да бегу падрыхтавацца... Марш!..

І дзеці з вясёлымі воклічамі і смехам знікаюць за вуглом дома. Валерка з сумам пазірае ў той бок, куды памчаліся сябры, і неахвотна цягнецца ўслед за маці.

Настае хвіліна цішыні. Небарака-верабей, стомлены гарачынёй, зляцеў аднекуль на пруцік кратаў, раскінуў крыльцы і шырока разявіў дзюбу.

Раптам з-за вугла выглянула белая галава Славіка. Са сваёй схованкі хлопчык выйшаў на пальчыках, азірнуўся і махнуў рукой.

Прыгінаючыся пад вокнамі, услед за ім прабраліся астатнія малыя. Ля кратаў дзеці параіліся і, прыхапіўшы з сабой лазняк і траву, зноў палезлі ў падвал. Мушэт і хлопчык з драўляным аўтаматам на грудзях засталіся наверсе.

— Стой тут! Будзеш дазорны. Як толькі што — свішчы! — загадвае Мушэт. Зірнуўшы на цацачны гадзіннік на руцэ, ён кажа: — Праз пяць хвілін прыйдзе змена.

Малы моўчкі ківае галавой. Дзіва што! Ён добра разумее адказнасць за даручаны пост і ўяўляе сябе на месцы мамінага брата, адважнага пагранічніка дзядзькі Нікі.

Мушэт асцярожна залазіць пад жалезныя пруты кратаў і спускаецца ў падвал. Унізе — халадок, прыцемак.

Расстаўлены ўздоўж сцяны лазняк, раскіданая пад нагамі трава прынеслі сюды водар лугоў і ракі, тут лёгка дыхаецца. Невялічкі круглячок замяняе пень, стары табурэт — стол. Першы на круглячок сядае Шурык.

— Поўны парадак! — дакладвае Мушэт, падыходзячы да століка.— Вораг нашага пераходу не заўважыў.

Шурык вымае з кішэні трусоў вырваную са старога падручніка карту, разгортвае яе і кажа:

— Нічога не бачу. Дайце святло!

У аднаго з малых кішэнны ліхтарык. Хлопчык ім ганарыцца і з вялікай прыемнасцю накіроўвае святло на карту.

Над картай нахіляюцца трое: Шурык, Мушэт і Славік.

— Вось тут мы, а тут — засада. Трэба папярэдзіць пасты! Сачыце за ўсімі выхадамі! — растлумачвае хлапчуку з драўляным маўзерам Шурык.— Ніхто з ворагаў не павінен нават здагадацца, дзе мы.

— Ёсць папярэдзіць пасты і сачыць за выхадамі! — адказвае сувязны. Адбіваючы тапкамі крок, хлопчык ідзе да выхада з падвала і ўважліва аглядае пазіцыі ворага.

— Як ты глядзіш? — крычыць Мушэт.— Трэба ў бінокль!

— Ты што, не кеміш? — спакойна кажа Славік.— Адзін кулак — падзорная труба, два — бінокль.

Сувязны запіхвае маўзер за пояс і пазірае ў два кулакі. Потым кліча сабе змену — хлопчыка, што стаіць непадалёк, перадае яму даручэнне штаба, а сам адыходзіць убок.

— У майго дзядулі,— кажа Шурык,— у планшэтцы захоўваецца сапраўдная франтавая карта.

— Чаму ж ты не прынёс? — адразу загараецца Мушэт.— Па ёй павядзём бой.

— Я даўно б узяў, ды гэта ж памяць.

— А ты з планшэткай! — раіць Мушэт.— Ідзі!

— Шурык! Мама кліча! — крычыць у дзверы падвала адна з дзяўчынак.

Шурык адразу ўстае.

— Гуляйце, я зараз вярнуся,— кажа ён і выходзіць.

Замест Шурыка на круглячок сядае Мушэт і пазірае на гадзіннік.

— Пара змяніць каравул,— загадвае ён.— Вадзік, на змену!

— Ёсць на змену! — паўтарае Вадзік і празаконны праём асцярожна вылазіць наверх. Малы перадае яму аўтамат і з дапамогай Вадзіка спускаецца ў сутарэнне. Стрымліваючы ўсмешку радасці, ён падыходзіць да штабнога століка і дакладвае:

— Поўны парадак, таварыш камандзір! Дазвольце ісці?

— Можаш ісці! — адказвае Мушэт.— Чарговы сувязны, да мяне!

А Шурыку ў гэты час маці кажа:

— Цётка Аня просіць купіць малака дзецям. На́ табе бітончык і грошы. Возьмеш два літры. Толькі пытайся, каб было свежае.

Цётка Аня — суседка. У яе дзяўчынкі — блізняткі. Ім патрэбна малако. А Шурык — бясстрашны разведчык. Ён ашукае ворага, прарве блакаду і прынясе малака.

Сем разоў пад несупынным агнём мінамётаў яму прыйшлося разразаць калючы дрот, чатыры разы размініраваць праходы ў мінных палях,— і ніхто яго не заўважыў. Каля самага склада з прадуктамі ён двойчы біўся з ворагам, але спрытнымі ўдарамі корціка знішчыў усіх, хто на яго нападаў. Малако ёсць!

— Мне можна гуляць, мама? — пытаецца Шурык, вярнуўшыся з магазіна.

— А вы дзе гуляеце?

— У падвале.

— У што?

— У будан.

Маці ўсміхаецца і, прыгладзіўшы непаслухмяны віхор на галаве сына, ласкава дазваляе:

— Гуляйце!

Пераскакваючы цераз некалькі прыступак, Шурык бяжыць уніз і бачыць за штабным сталом пяцігадовага Вову. Малы няўпэўнена сядзіць на краі круглячка. Ён хоча быць сур'ёзным, тарэшчыць чорныя вачаняты на сувязнога — худзенькага, у акулярах, Петруся.

— Добра! — адказвае на рапарт Петруся Вова.

— Трэба сказаць: «Сачыце за дарогай!» — вучыць Пятрусь.— Ну, кажы!

— Сачыце дарогай! — кажа Вова і падымаецца, шчаслівы.

Усе падрыхтаванні да атакі закончаны. Можна пераходзіць да рашаючага наступу.

Раптам трывога: на ганку Валеркава маці! У дзіцячых гульнях яна бачыць адно свавольства і небяспеку. Хлопчыкі прыціхлі.

Чуваць толькі Слаўкаў шэпт. Ён раіць, каму дзе хавацца.

Валеркава мама, трымаючы за руку Валерку, не спяшаючыся, сышла з ганка і накіравалася ў горад.

— Да атакі падрыхтавацца! — чуецца тонкі галасок Мушэта.

Лепшы джыгіт Каўказа, ён круціць над галавой шашку і крычыць:

— Напе-е-рад!

— У-р-р-а! — парушаюць цішыню вуліцы дзіцячыя крыкі: — Ура-а-а!

Хто адважыцца стаць на дарозе гэтай лавіне?

*1961*

## ЯНЫ ДОЙДУЦЬ

Дом маёй клапатлівай суседкі патанае ў раскошнай зеляніне. Са свайго казачна-квяцістага раю суседка выйшла на дарогу з дачушкай, крахатулькай гадкоў двух, і падала ёй у рукі вышытую кветкамі торбачку. У торбачцы нічагусенькі няма, акрамя газеты. Але маці, звяртаючыся да дачкі, кажа зусім сур'ёзна:

— Трымай, Люсечка, вось так, акуратна. Бачыш, мама замарылася, а ты ёй паможаш. А калі ты зморышся, я табе памагу. Вось так і пойдзем.

— Шчаслівай сцежкі-дарожкі! Шчасліва дайсці! — крычу я ім услед.

Жанчына ўсміхаецца, махае мне рукой. І крахатулька Люся падняла сваю ручанятку — спрабуе ёю, як мама, прывітаць мяне.

Выпадковы падарожны заглядзеўся на гэтую сцэну і ўпэўнена сказаў:

— Яны дойдуць!

*1958*

## ЛІПЕНЬСКІМ РАНКАМ

Пад дахам нашага дома, у вузенькай шчыліне франтона, вераб'іная пара звіла сабе гняздо. Некалькі сцяблінак травы, затрымаўшыся паміж дошак, тырчалі ў розныя бакі. Да адной былінкі прыстала белае пёрка. Аднойчы ліпеньскім ранкам за дошкамі пачуўся слабы піск. Усе жыхары дома па некалькі разоў праходзілі міма, не звяртаючы на яго аніякае ўвагі. Толькі маладая жанчына, будучая маці, пады-

шла, прыслухалася і з гордай радасцю звярнулася да ўсіх, хто быў у двары:

— Вы чуеце? Пішчаць! Там — малюпасенькія дзеці. Ай, як хораша!

Я паглядзеў на прасветлены мацярынскім шчасцем твар жанчыны, на яе спакойныя рукі, скрыжаваныя на грудзях, паслухаў бездапаможны піск птушанят і раптам адчуў, што і неба, і дрэвы, і людзі, і нават сонца — усё навокала прасякнута яе замілаваннем.

*1959*

# РАДАСЦІ ЖЫЦЦЯ

## Ранак

Я сустрэў цябе сёння, мой таварыш. Па праўдзе кажучы, я шукаў сустрэчы з табой. Ты так радасна мне ўсміхаешся. А я рад бачыць цябе. Ты добра адпачыў? У мяне таксама лішак сіл.

А ранак бадзёрыць сваёй свежасцю. З кожным глытком паветра ўліваюцца новыя сілы. Колькі святла, прастору, неабсяжнага шчасця, колькі радасці навакол!

Я іду насустрач і, вітаючы, выклікаю цябе дужацца. Я лёгка паднімаю цяжар твайго пругкага цела, гэтую цудоўную гармонію мускулаў. І ты, прыняўшы выклік, надзейнай сілай сваіх рук падкідаеш мяне ўгору, сціскаеш. Як прыемна твайму імкліваму націску супроцьпаставіць мае рукі, грудзі, спіну, ногі. Як мне патрэбна іх напружанне!

Я і табе даю магчымасць праверыць моц сваіх мускулаў. І ты адчуваеш асалоду сваёй сілы. І ты п'еш радасць гэтага змагання, радасць пераадолення сапраўднага праціўніка.

Я сустрэўся з тваім позіркам. Вочы блішчаць, рот ледзь адкрыты, пасмы валасоў у беспарадку. Я засмяяўся. Ты таксама. Хіба нас адрозніш?

*1960*

## З дарогі

Стомленая, азяблая з дарогі, я ўвайшла ў пакой. Што гэта такое? Хто яго падмяніў? Чаму такое ласкавае цяпло яго паветра? Колькі сардэчнага клопату да мяне ў гэтым цяпле!

Цішыня... Я разгубілася. Я раней не заўважала яе такой. Не! Яна заўсёды нагадвала мне журботныя думкі. А зараз? У ёй бязмерная гатоўнасць суцешыць мяне!

Што за цудоўнае святло ў маім пакоі? Ці не заблудзілася? Трапіла не да сябе? Усё — даўно знаёмае: кветкі, фіранкі, стол, узоры абруса, кнігі — мае даўнія сведкі дзён адзіноцтва... А гэтыя сцены, падлога, столь. Усё — да болю ў вачах маё і не маё! Яны так клапатліва атулялі мяне з дарогі, казалі мне: мы так сумавалі без цябе.

Скідаю з сябе вопратку. Хопіць ёй сціскаць маё цела. Я ж так доўга была ў дарозе. Спяшаюся расплюхаць ваду і вярнуць сабе свежасць... Не, мяне і тут хтосьці зачараваў. Ні разу мне не даводзілася адчуваць такой пяшчоты ад вады. Эх, як хораша абцерціся калматым ручніком і накінуць мяккі халат!..

Дзівосная вячэра. Такая простая і такая смачная. Як сёння ўсё хораша!..

Я спяшаюся ў пасцель. Шамаціць коўдра. Пругкі матрац і мяккія падушкі. Свежыя прасціны і навалачкі як ніколі пахнуць праменнямі сонца. Чарадзейная пасцель! Ты так клапатліва ахутала мяне, напоўніла грудзі водарам сонца, ап'яняючая радасць успыхнула ў кожнай клетачцы майго цела. Вось-вось захлісне мяне салодкая хваля забыцця. О сон, якім моцным ты будзеш у гэту ноч!..

Ты мне сёння адчыніў дзверы і назаўсёды стаў поплеч са мной, мой каханы, і толькі таму ўсё так невыказна перамянілася ў маім невялічкім свеце.

*1960*

## Алік пазнае свет

Наш Алік — цудоўны хлопчык! Не ўсміхайцеся, ведаем, што вы падумалі: «Ат, свае дзеці —лепшыя на свеце», а скажаце што-небудзь прыемнае... Хто ж у такіх выпадках спрачаецца?! Не, мы не ў захапленні ад талентаў сына, зусім не! Для нас ён не «вундэр», а звычайны хлопчык. Як і ўсе дзеці, ён свавольнічае, дакучае непаседлівасцю. А калі ён з намі, здаецца, што і мы нядаўна нарадзіліся. Каб вы ведалі, якая радасць назіраць, як дзіцянё-немаўлятка ад бездапаможнага лопату ідзе да самастойных адкрыццяў, думак, параўнанняў. Мы пазіраем у вочы адзін аднаму і па-бацькоўску шчасліва ўсміхаемся.

Што цікава: Аліка не адарвеш ад усялякіх машын. Калі іх рамантуюць, ён днямі гатоў тарчаць там. Бацька не раз-

біраецца так у машынах, як ён... Захавалі мы адзін яго малюнак. Падай, Рурык, альбом з шафы. Ага, вось ён... Фурман сядзіць на калёсах і паганяе каня, але замест лейцаў у яго руках — аўтамабільны руль.

— Як жа твой дзядзька павароты робіць? — пытаюся я ў Аліка.

— Як і ўсе шафёры. Куды руль, туды і конь. Вось праз гэтыя перадачы...

— Гэта аглоблі,— папраўляю я.

— Ой, якое слова! — скрывіўся Алік.— І дзе ты яго выкапала, мама?

Сёлетнім летам наведалася да нас адна знаёмая. Гасцявала цэлы тыдзень. Такая невялічкая, рухавая. А голас — скорагаворка. Меладычны, звонкі... Ну проста званочкам разліваецца. Вясёлая такая... Алік слухаў яе, слухаў дый кажа:

— Пліска!

І так пасавала да нашае Волечкі Алікава мянушка, што мы самі, дарослыя, пачалі яе зваць:

— Пліска.

Трыццаць гадоў пражыла Волечка на свеце, і нікому ў галаву не прыйшло такое параўнанне.

А нядаўна слухалі мы радыё. Гаварылі пра вайну, пра смертаноснасць тэрмаядзернай зброі, а ў канцы перадачы дыктар кажа: «Вы слухалі апошнія паведамленні». Алік зрабіўся сур'ёзны і ўстрывожана пытаецца:

— Мама, мамачка! Дык гэта — апошнія паведамленні? А пасля ўжо нічога больш не будзе?.. І нас не стане...

Расце наш Алік з кожным днём. І трывогі нашы да яго ўжо даходзяць. Учора ранач распранаецца і кажа:

— Мамачка, мае штаны і кашуля ўсё малеюць і карацеюць.

Убачыла, што ў яго збітыя каленкі.

— Дзе ты так? — пытаюся.

— А гэта я ў космас злятаў! — з гонарам адказвае.

Сёння за сталом пытаецца ў нас:

— А калі гэта камунізм будзе?

— Хутка будзе,— адказваем.

— А туды ўсіх пусцяць?

— Не! — адказваем.

— Я так і ведаў! — узрадаваўся Алік.— Кольку не пусцяць, а мяне з Дзінай пусцяць! Мы далі чэснае-прачэснае слова, што тады возьмем сабе ў магазіне толькі па аднаму гарнітуру і па самай цікавай цацачцы.

— А чаму ж Колю не пусцяць? — пытаемся.

— Бо ён сказаў: «А я ўсё сабе забяру, што захачу!»

Ды хіба ўсё запомніш... Я ж казала, што самае цікавае трэба запісваць... Часу ўсё не хапае. А потым шкадуеш. Выбачайце, мы вам не надакучылі? Не? У вас жа свой гэткі свавольнік. Нават два? Якое гэта шчасце!..

*1961*

## Сустрэча на сцежцы

Іду па сцежцы.

Нібы толькі што выплаўлены ў нетрах зямлі, здаецца, яшчэ гарачы, ляжыць на пяску і перабірае нагамі цёмнасіні з металічным адлівам жук. Нават хочацца ўзяць яго на далонь, ды боязна. Раптам адкінеш і засяпашаешся хукаць на апаленае месца.

Нахіляюся, калі не сказаць схіляюся, перад ім і кажу:

— Вітаю цябе, цуд прыроды! А што ў цябе новага з часу, напрыклад, Карфагена, свяшчэнны скарабей? Маўчыш... Мы вось касмічны карабель накіравалі да Сонца... Чакай, я памагу табе перакуліцца на спіну. Ого, ды ты харобра баронішся нагамі. А людзі атамныя і вадародныя бомбы вынайшлі. Ты ж, мабыць, нічога не ведаеш, толькі што выкарабкаўся на паверхню. Мерцвяком прыкінуўся. Хіба паможа!.. Не бойся, не буду перашкаджаць. Хутка пачнеш ляпіць свае шарыкі, і большага табе нічога не дадзена. Я таксама дзесяткі гадоў па дваццаць чатыры гадзіны ў суткі перакульваю ў небыццё мнагатонныя шары сваіх будняў, а дваццаць пятая ідзе на творчую працу. І, ведаеш што, усё ж такі добра, калі ў жыцці знойдзеш гэтую самую дваццаць пятую гадзіну сутак!

Ну, спрабуй распрастаць скрыдлы, падымайся ў паветра!.. Штосьці кепска ў цябе выходзіць, браток. Скрыдлы ж твае цэлыя?! А ў мяне, бачыш, пасля вайны — мыліцы. Што зробіш? У майго роду сапраўдная гісторыя толькі пачынаецца. Хочацца паскорыць яе прыход, дажыць да новага часу. Вось і скідаеш у мартэны гадоў іржавеючы лом быцця... І як радасна, што не лішні. Так і жывеш, браток мой...

*1958*

## БЕЛЫЯ МЫШКІ

Місіс Кэт Джэры была знясілена так, што яе нельга было пазнаць. Ачнулася яна ў канцы другіх сутак.

«Бэзавая старасць нованароджаных...» — прамільгнула

ў яе туманнай галаве. Рэкламны надпіс, расквечаны нясцерпна яркім святлом.

Адкуль гэта?

Кэт Джэры паспрабавала расплюшчыць павекі і ўспомніць. Але ні першае, ні другое зрабіць не ўдалося. Яна зноў упала ў забыццё. Раптам вочы расплюшчыліся: Кэт апрытомнела. Але ні варухнуцца, ні крыкнуць. Дзе яна?

«Бэзавая старасць нованароджаных...» — неадчэпна праплыло зноў. Нарэшце яна ўспомніла, чыё гэта: Эрыка, яе сына.

Спалох ахапіў усю істоту жанчыны і вярнуў ёй рэчаіснасць: знікшага сына, Лотачку, спаборніцтва.

— Як вы сябе адчуваеце? — над Кэт нахіліўся ветлівы твар, абрамлены хусцінкай Чырвонага Крыжа.— Не хвалюйцеся, вы ў клініцы. Вы добра адпачылі. Мы ўсе рады прывітаць вас з перамогай.

— Я доўга іграла? — ціха спытала Кэт.

— О, даўжэй за ўсіх — сто трыццаць дзве гадзіны!

Першы карэспандэнт, якога дапусцілі да інтэрв'ю з чэмпіёнкай, сказаў:

— Вы не ведаеце, дзе ваш сын? Мы знайшлі яго. Наша газета рада паведаміць...

Вочы Кэт Джэры шырока раскрыліся. Карэспандэнт зашчоўкаў фотаапаратам. Цела жанчыны здрыганулася, нібы ад нечаканага стрэлу. Яна застагнала.

— Не хвалюйцеся!.. Ваш Эрык у ...ане (Кэт не разабрала назвы). Гэта джунглі. Азія... Што ён робіць? Паляванне на бандытаў. Малайчына хлопчык! Бліскучыя магчымасці змыць ганьбу. Ён вернецца героем...

«Божа! Як ён крычаў!.. Маё жаўтаротае птушаня... «Няхай горла Кракатаў цыруе мой гонар. Бывай, маці!» Колькі слёз на гэтых радках! Дык вось дзе ты... І гэта шчасце. Абы не пакутлівае няведанне...»

Толькі праз тыдзень Кэт Джэры вярнулася дахаты. Замаркоціўшыся, Лота абняла маці і не зводзіла з яе вачэй. Яна таропка расказвала, як правяла гэтыя два тыдні. «Толькі ты гавары цішэй,— прасіла маці.— Я так стамілася ад усіх гэтых гукаў...»

Без пачуцця перамогі Кэт блукала па пакоях свайго дома. Ёй здавалася, што доўгія гады яна правяла дзесьці па-за яго сценамі. Ужо не было надзеі зноў быць тут, і толькі адчайная рашучасць вярнула ёй гэты свет. Такое можна перанесці толькі раз у жыцці.

— А дзе твае белыя мышкі, Лотачка?

Вочы дзяўчынкі выказалі непакой.

— Я, ма, даведалася, што мышкі жывуць усяго два гады. Пашкадавала іх, паехала ў парк, да возера, і пусціла на волю. Яны былі так рады. Ты, ма, не злуешся?

— Вядома, не. Ты добра зрабіла. Мы зараз зусім шчаслівыя. Няхай і яны будуць шчаслівымі. Наш Эрык жывы. У нас ужо ёсць грошы для тваё вучобы ў музычнай школе. На ўсе тры гады. А на пенсію мы будзем жыць.

— Ма, я так баялася, што ты памрэш. Дзядзька Жуль прыходзіў і сказаў, што ад гэтага праклятага іграння ў цябе можа разарвацца сэрца.

— Мая белая мышка! — маці прытуліла да грудзей Лотачку.— Усявышні дае матулям моцнае сэрца.

У наступным пакоі позірк Кэт спыніўся на адзінай карціне сына, якая засталася ад яго захаплення жывапісам. Яна была накідана проста на сцяне. Кэт ніяк не магла зразумець, што адлюстроўвае гэта мітусенне фарбаў, перасечанае белай лініяй. Тады Эрык надпісаў унізе:

«Спеў пяску з саскоў грудзей маіх раззлаваў кашалота, сатканага з сігналу «SOS».

Маё «жаўтаротае птушаня»! Кінуць каледж? Уцякаць, нібы ты нейкі злачынец?

«Вывучэнне кінастужкі паказала, што Эрык Джэры павярнуў машыну з белай лініі за адну дзесятую секунды да сутыкнення з машынай Гары Дзіка. Гары Дзік перамог».

Кэт добра памятае гэты рэпартаж. Слова ў слова. Дзіва што!..

Не. Гэта хлусня! Руль машыны з лініі смерці павярнула прага да жыцця яе сына. У гэтым вар'яцкім збліжэнні на белай лініі перамог ён, яе Эрык, а не Гары! А вось, бач... Гары — герой, а Эрыка, як палахліўца, выганяюць з каледжа. Навошта гэтым хлопчыкам спаборнічаць на пагарду да смерці?

Каторы раз Кэт стаяла перад карцінай сына і не магла зразумець, што стварыла ў жыцці ўсю гэтую пакутлівую блытаніну, гэтае пякельнае спляценне чалавечых адносін? Свет нібы пераступіў мяжу простага і яснага і ў шалёнай гонцы без усякай літасці да самога сябе рынуўся ў хаос адчаю.

«Шкілет роспачы праламвае чэрап столі». Кэт здрыганулася. Як табе там, у джунглях, Эрык? Якія радкі вершаў ты прывязеш адтуль? Твой бацька — ужо дваццаць гадоў — спіць на дне мора, дзесьці каля фіёрдаў Нарвегіі. Навошта табе гэтая вайна?

І ўсё ж такі тое, што дзяўчынка вучыцца і жывы Эрык, лепш за ўсякія лякарствы і санаторыі паступова вярталі

Кэт здароўе. Спала пухліна на нагах, сцішыўся пакутлівы боль у кісцях рук, яна магла, праўда нядоўга, слухаць, як іграе дачка. Калі нарэшце Эрык прыслаў ліст з далёкіх джунгляў, «дзе сцяна медуз спрабуе рассунуць горы, дарэмна трынітраталуол выхваляецца сваёй элегантнасцю...» — яна зразумела, што хлопчыку там далёка не весела, але ён жывы, піша, памятае пра маці.

Газеты перасталі цікавіцца сваёй любімай Катрын Джэры, і пра яе забыліся. Ды Кэт і не любіла газет. Найбольш цікавыя навіны ёй паведамляў сусед, дзядзька Жуль, стары халасцяк. Аднойчы ён прынёс ёй на памяць газету з паведамленнем, што піяніна, на якім іграла Кэт, пакінула астравы. За яго заплацілі ў дваццаць разоў даражэй і павезлі за акіян, а фірма рыхтуе новы конкурс. На гэты раз прэмія будзе выдадзена глуханямому за бездакорнае выкананне двухгадзіннай праграмы.

«Канцэрт гіпапатамаў даймае бландзіначку». Эрык, Эрык!

«Да тваіх вершаў і жывапісу патрэбен спецыяльны каментарый»,— аднойчы сказала Кэт. «Навошта? — адказаў Эрык.— Прыгледзься да жыцця. Гэта я — каментатар!»

Наступнае паведамленне дзядзькі Жуля было не такім бяскрыўдным.

Кэт даўно адчувала нешта няладнае з сэрцам. Яна тлумачыла гэта па-свойму. Калі пакідалі сілы, глытала «пілюлі бадзёрасці». «Дзіўны сродак! — паведаміла яна прадстаўнікам рэкламы пасля конкурсу.— Без яго я не пратрымалася б і двух сутак».

І вось вакол гэтага сродку ўзняўся скандал. Абсалютна бясшкодны элексір нястомнасці быў атрутай. Дзесяткі выпадкаў паралічу сэрца. «Гэтым ахвярам пераваліла за шэсцьдзесят. Старым няма чаго ганяцца за страчаным»,— агрызаўся адзін з артыкулаў газеты. «Ружовая мара стомленага чалавецтва вярнуць сабе бадзёрасць застаецца марай. Хто яго чарговы ратавальнік?» — пытаўся другі артыкул.

Дзядзька Жуль засмяяўся:

— Ратавальнікі знойдуцца. Асабліва за грошы. Дай мне, Кэт, тваю надзею ў ружовых пакуначках. Я праглыну яе, калі мне захочацца пагутарыць са сваім дзедам.

— Вось яна! Вось яна! — Кэт Джэры пачула каля сябе крык. Нейкая жанчына, якая выйшла з аўтобуса, паказвала на Лоту і патрабавала яе затрымаць.

Закалаціўшыся, дзяўчынка прытулілася да маці. Папка з нотамі выпала з яе рук на тратуар і раскрылася. Лісты

рассыпаліся. На іх ніхто не звяртаў увагі. Іх таптalі нагамі.

Лота Джэры не прыйшла ў школу. Яна апынулася ў паліцыі.

— Гэта не дзяўчынка, а гангстэр! — жанчына на допыце кідалася да Лоты.— Зайшла да мяне ў магазін і, нічога не кажучы, шпурнула ў мяне белых мышэй. Я павалілася ў непрытомнасці...

Так, гэта была Лота.

Яе маці заўсёды скардзілася, што для сапраўднага навучання музыцы трэба надта многа грошай. А грошай не было. Нарэшце здарыўся шчаслівы выпадак. Маці згадзілася. На чацвёрты дзень мамінага іграння прыйшоў дзядзька Жуль і сказаў, што гэтая дзікунская забава загубіць Кэт. Лота спалохалася. Яна надумала выратаваць маці. Белыя мышкі! Дарослыя так іх лякаюцца... Яна добра гэта ведае. Варта выпусціць іх на прылавак або шпурнуць у касіршу... Тая страціць прытомнасць — і грошы твае!

Але Лота сама спалохалася і кінулася наўцёкі. Яна нічога не ўзяла.

«Заспакоіць смагу крыку паможа выбух ракеты ў фіялетавай сарамлівасці піяніна». Вось ён — наш крык, Эрык!

Вочы ўражанай Лоты нагадвалі вочы напужанай белай мышкі. Лота не падыходзіла да акон, не датыкалася да нот, не чапала кніг. Паліцыя, допыты, суд надламалі дзяўчынку. Яна лякалася званкоў тэлефона, дзвярнога званочка. Не, Лота ні на што не скардзіцца. Дзіця, мабыць, здаровае. Дзядзька Жуль раіўся з доктарам. Проста яе трэба адвезці куды-небудзь. У вёску, на бераг ракі ці возера. Або на лясную ферму. Покуль забудзецца траўма. Дзяўчынка надта ўражлівая. Іншыя нават бравіруюць гэтым.

Так. Трэба ж папярэдзіць у школе, што Лота пакуль што...

«Выбачайце, місіс! Вы чыталі рэпартаж? Так? Выбачайце, мы не можам рызыкаваць прэстыжам сваёй школы. Так, так!.. Што скажуць іншыя бацькі? Так, так. Амаль год? На вялікі жаль, для вашай дачкі нашы дзверы зачынены назаўсёды. Вось так!»

Што ж, гэты далікатны джэнтльмен мае рацыю. Колькі разоў у друку... Вось-вось! Вінавата свабода слова. А хто ж будзе чытаць, глядзець або слухаць, калі нідзе не будзе сенсацый? Добра, што яны не даведаліся, кім даводзіцца Лоце дзядзька Жуль. А які цяпер у гэтым сэнс? Ад іх пытанняў нават дарослы можа спатыкнуцца на ўсё жыццё. Ні святога, ні інтымнага, ніякіх меж для гэтай свабоды...

Вось ён — «Тупік яснасці», «Безнадзейнасць зразумелага». Калісьці Эрык назваў так свае першыя зборнікі. Для Кэт гэтае сутыкненне сэнсу здавалася бязглуздзіцай, як і ўся яго паэзія. Толькі з цягам часу яна навучылася бачыць у ёй адкрыцці.

Дзе яе сын? Паўгода ўжо, як ён маўчыць. Як можна так жыць? Каля цябе дзеці, далёка ад цябе дзеці — непарыўны ланцуг трывог і ўзрушэнняў. «Бэзавая старасць нованароджаных запалонена сонцам, якое праглынуў матор». Гэтыя вар'яцкія хуткасці, гэтая штодзённая пагоня за зданню. Бязлітасна суровы час. Спустошаныя душы амаль з пялёнак.

Доктар параіў Кэт Джэры неадкладна легчы ў бальніцу. «Не,— сказала Кэт.— У моры ёсць адзін від васьміногаў. Сваё будучае патомства ён самаахвярна ахоўвае да поўнага знясілення. Малыя плывуць у мора, а ён гіне. Так і я».

Калі паўзучы туман уладарна ахутаў горад і асабліва цяжка сцяў грудзі Кэт і, здавалася, не было ніякай прасветліны, прыйшоў ліст. Эрык пісаў: «Добры дзень, мама! Горла Кракатаў зацыравала мой гонар. Я перайшоў на бок тых, каго ў нас прынята называць бандытамі. Калі спазнаюць праўду, нараджаюцца другі раз».

Першы раз яе сын Эрык пісаў на зусім зразумелай мове. Відаць, толькі таму Кэт Джэры нічога не змагла зразумець з яго слоў. Яна толькі адчула, што ў жыцці Эрыка сапраўды адбылося нешта вельмі важнае.

*1962*



# ЧАМУ СВЕЦІЦЬ СОНЦА





## ЧАМУ СВЕЦІЦЬ СОНЦА

Пяцігадовая Леначка гуляла на вуліцы з сяброўкамі. Дзяўчаткі вазілі ў скрынцы самаробную ляльку і невялічкае кацяня. Нечакана Леначку паклікалі.

— Бяжы дадому, твой тата прыехаў!

Леначка спалохалася немаведама чаго і, кінуўшы лялькy, пабегла дахаты.

За сталом сядзелі зусім незнаёмыя дзядзька і цётка ў ваенным адзенні. Заплаканая, маці падхапіла Леначку на рукі, пасадзіла на дзядзькавы калені і загадала:

— Абдымі і пацалуй нашага татку.

— Вось якая ты ў мяне! — сказаў дзядзька.

Яго дужыя рукі асцярожна прытулілі дзяўчынку. Леначка адчула ля шчакі халодныя медалі і пяшчоту пальцаў, якія паволі гладзілі яе плечы, шыю, твар. Каля вуха заласкатала. Засмяяўшыся, яна раптам ускінула хударлявыя, запэцканыя ў пясок ручаняткі і, абняўшы бацьку за шыю, спыталася:

— А ты цяпер, татка, назаўсёды?

Цяжка ўздыхнуўшы, бацька адказаў:

— Але, мая дачушка, назаўсёды.

Калі назаўтра раніцай цётка развіталася з імі, а маці пайшла на працу, Леначка засталася дома з бацькам. У насцеж расчыненыя вокны ліўся пах ліпавага цвету. На пад-

лозе ляжалі квадраты сонца. Бацька сядзеў ля акна і слухаў расказы дачкі.

— Мы з мамкай чакалі цябе, чакалі... Мамка варэнне варыла... А я пальчык апякла. І язык.

Раптам Леначка таямніча сказала:

— Тата, а я бачыла!

— Што ты бачыла?

— Бачыла, як ты ўчора вочы вымаў і клаў у шклянку з вадой. А чаму мае вочы не вымаюцца?.. Тата, чаму ты маўчыш?.. Тата, а яны без цябе бачаць?

— Не, дачушка, не бачаць. Ідзі пабегай!

— Не хачу!

— Ну, пакліч маму!

— Ты хочаш абедаць? — Леначка падхапілася.— Зараз.

Зачыніліся дзверы, і былы салдат Аляксандр Мацвееў застагнаў, абхапіў галаву рукамі і захістаўся з боку ў бок, нібы адчуў нясцерпны пякучы боль. Такой нясцерпнай пасля дачушчыных слоў стала цемень, якая ахутала яго на ўсё жыццё.

Толькі праз дзве гадзіны Леначка з мамай вярнуліся з дзіцячага сада, дзе маці працавала выхавацелькай.

— Ну, як наш тата, не сумаваў без нас адзін? — спыталася маці. Яна падышла да бацькі, абняла яго. Падбегла, прытулілася да таты і Леначка.

— Што ты, маці! Я слухаў жаваранка,— адказаў тата.— Я так даўно яго не чуў... А памятаеш, Воля, там, на дарозе, каля дуба, у які ўдарыў пярун, мы стаялі апошні раз... А над балотам стагналі кнігаўкі. Ты плакала...

— А помніш, я сказала, што ты вернешся! Да нас вернешся. І я ўсе гады верыла...

— А я дзе была, калі тата ішоў на фронт? — спыталася Леначка.

— Цябе яшчэ не было.

— Зусім не было?

— На свеце не было. Яшчэ не нарадзілася,— засмяялася маці.— Як пачне задаваць пытанні, толькі адказвай!..

— А мы за вайну з мамкай так нацярпеліся без цябе! — як дарослая, сказала Леначка.— І ты, тата, без нас нацярпеўся?

— І я, дачушка!

Ён узяў Леначку пад локці і, не выпускаючы з рук, пачаў гушкаць. Потым прытуліў, пацалаваў і сказаў:

— Нацярпеліся, дачушка, каб больш ніколі не цярпець. Я не бачу цябе, Леначка... Ні мамы не бачу, ні сонца. Нічо-

га не бачу. Але мы адваявалі сонца для вас. І мне хочацца жыць...

На двары Леначка сказала сваім сяброўкам:

— Мой тата не бачыць ні мяне, ні мамы. Але каб тата не быў на фронце, не было б і сонца.

*1956*

## ХЛОПЧЫК І САЛДАТ

Герой Савецкага Саюза салдат Міронаў пасля вайны вярнуўся дадому ў калгас «Вішанькі». У старэнькай хатцы жылі яго маці і пляменнік Толя. Астатніх сваякоў загубіла вайна.

Толя даўно марыў надзець пілотку, салдацкую гімнасцёрку, узяць у рукі аўтамат і пайсці біць фашыстаў. І вось цяпер ён ніяк не мог адвесці вачэй ад Залатой Зоркі на грудзях дзядзькі, ад яго гвардзейскіх вусоў, а дзядзькавай пілоткай ён завалодаў адразу і штохвілінна папраўляў яе на сваёй галаве.

Назаўтра дзядзька ўстаў рана і ціха, каб нікога не пабудзіць, узяў кавалачак люстэрка, брытву, прымасціўся каля акна і збрыў свае заліхвацкія вусы.

Устала бабуля, глянула на сына і пляснула рукамі:

— Сыночак! Ты ж яшчэ зусім маладзенькі... Быццам і не было гэтага ліхалецця...

І па яе твары пацяклі слёзы.

Прачнуўся Толя, глянуў на дзядзьку і здзівіўся. Яму так хацелася хутчэй падрасці і самому мець гвардзейскія вусы. А тут... Нічога не зразумееш!

Дзядзька дастаў з кішэні чорны шаўковы кісет, вышываны васількамі і рамонкамі, вытрас яго і сказаў:

— На, мама, схавай на ўспамін. Больш не буду курыць.

Толя ахнуў. На грудзях Залатая Зорка, а сам без кісета!

Бабуля адчыніла скрыню, каб схаваць кісет, і дастала пашарпаную кніжку.

— Берагла Толіку,— сказала яна.— Не век жа вайна будзе, думала.

Гэта была першая чытанка пасля буквара.

Узрадаваўся дзядзька.

Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!

Дзядзька чытаў верш за вершам, а Толік слухаў не варушачыся. Першы раз за ўсё сваё гаротнае дзяцінства ён пашкадаваў, што не ўмее чытаць.

— Скажы, сынок,— раптам перабіла бабуля,— а табе дужа страшна было, калі на цябе паўзлі гэтыя танкі, што ты падбіў?

— У такой гарачцы не да страху,— адказаў дзядзька.— Страшна стала пасля, калі я ўявіў сабе, што было б, калі б гэтыя танкі прарваліся...

Бабуля ўзялася гатаваць сняданне. У яе былі ўсяго дзве курыцы. Яна злавіла адну, пярэстую, чубатку, прынесла ў хату і сказала:

— Адсячы ёй, сынок, галаву, калодка на двары. Яна ўжо і несціся перастала.

Дзядзька ўзяў чубатку, прытуліў рукой да сябе і выйшаў з хаты.

Гэта быў яго першы ранак дома.

Усё навакол зіхацела блакітам і зеленню. Стаяла такая мірная цішыня, што нядаўні салдат міжволі спыніўся і залюбаваўся. Яго рука сама пачала гладзіць курыцу. Так дзіўна было бачыць у сваіх руках гэтую чубатку.

— У цябе нават трэцяе павека ёсць! А я і забыўся...

Ён узяў курыцу ў абедзве рукі і, усміхнуўшыся, шугануў яе ўгору, як рабіў гэта калісьці даўно, яшчэ хлапчуком.

А Толік, як толькі за дзядзькам зачыніліся дзверы, замітусіўся па хаце: кінуўся да дзвярэй, да акна, зноў да дзвярэй, а потым упаў на ложак, і яго худзенькія плечы затрэсліся ад плачу.

Толік помніў кожнае пёрка чубаткі. Разам з другой курыцай ён хаваў яе ад фашысцкіх салдат. Чубатка грэла яго цяплом свайго цела, калі хлопчык ратаваўся ад эсэсаўскіх карнікаў у лесе, мёрз на балоце. Чубатка першая бегла да яго насустрач...

— Мама, уцякла ад мяне твая чубатка. Ніяк не мог злавіць... Ну, нічога, з'ядзім і нішчымны крупнік,— сказаў дзядзька, увайшоўшы ў хату.

Бабуля паглядзела на яго і ўсміхнулася. А Толя ўсхапіўся з ложка і, яшчэ ўсхліпваючы, кінуўся дзядзьку на шыю.

*1959*

## МАРМЕЛАД

Настаўніца Вера Цімафееўна, маленькая худзенькая жанчына ў чорнай паношанай сукенцы і стаптаных чаравіках, убегла ў клас і з парога крыкнула:

— Дзеці! Вызвалена апошняя пядзя нашай зямлі! Фашыстаў гоняць...

Што тут было! Голас Веры Цімафееўны патануў у дзіцячай рознагалосіцы. Усе пачалі падскакваць, пляскаць у ладкі.

Настаўніца села за стол і моўчкі пазірала, як радуюцца дзеці.

Калі нарэшце ўсе сціхлі, Пеця з апошняй парты падняў руку, потым устаў і спытаў:

— Вера Цімафееўна! Што такое мармелад?

— Чаму ты ўспомніў пра яго? — спытала настаўніца.

— З намі жыве цётка Шура. Учора позна вечарам яна прыйшла з работы і сказала, што па картцы замест цукру атрымала мармелад. А я не спаў і чуў.

— Дзеці! Хто з вас растлумачыць Пецю, што такое мармелад? — спытала Вера Цімафееўна.

У класе ўсе моўчкі пераглядваліся. Толькі Света падняла руку.

— Гэта празрыстыя кружочкі,— сказала яна.— Ліпкія і дужа салодкія. Розных колераў. Я хварэла, ляжала ў пасцелі. Мама іх прынесла, сказала, што гэта мармелад і што я ад яго абавязкова папраўлюся. А да вайны, помню, я любіла слівачную карамель — цукеркі ў паперках. На кожнай паперцы кароўка намалявана. Вельмі смачныя.

— А яшчэ былі ірыскі,— падказаў Свеце хлопчык, што сядзеў побач.— Па цэлай плітцы адразу!

— І шакалад быў,— успомніла дзяўчынка.

Дзеці, перабіваючы адзін аднаго, загаварылі разам.

— Вера Цімафееўна! А праўда, што саладзей за ўсё на свеце — мёд? — раптам усхапіўся з месца Коля, не па ўзросту высокі і таму, мабыць, самы худы хлопчык.— У майго дзядулі былі пчолы. Мне чатыры гады было, але я ўсё помню, як сёння.

— А я любіла рахат-лукум...

— Павідла таксама смачнае...

— Варэнне яшчэ смачней...

— Марожанае...

Вера Цімафееўна сядзела за сваім сталом, нікога не перапыняла і слухала.

— А я, дзеці, больш за ўсё люблю торт,— не ўцярпела нарэшце і Вера Цімафееўна.— Сама яго пякла. У эмаліраванай каструлі ўзбівала з цукрам яйкі, сыпала туды белую муку, размешвала. Жоўценька-жоўтае цеста вылівала ў глыбокую патэльню, ставіла ў духоўку. Паступова цеста ўзнімалася, такое высокае, пышнае. А я тым часам...

Вера Цімафееўна раптам спахапілася:

— Так дзеці. Усё гэта не толькі было, але і зноў будзе. Не за гарамі дзень перамогі, а тады...

...Пеця прыйшоў са школы дамоў. На абед маці пакінула яму некалькі бульбін у лушпінах і драбок солі.

З тыдзень назад па картцы маці атрымала цукар адразу на цэлы месяц і падзяліла на чатыры роўныя часткі — сабе, Пецю, Лене і Аліку. Цётка Барбара, якая жыла з імі ў адным пакоі, дзяліла свой цукар на тры часткі: Кольку, Жэні і сабе. Цётка Шура не мела дзяцей і прыносіла паёк толькі для сябе.

За дзень ад цукру, які атрымлівалі дзеці, нічога не заставалася. Кожную пясчынку злізвалі языком з паперы і са стала. Толькі маці і цётка Барбара не чапалі свайго цукру. Ён ляжаў у буфеце за шклом. «Мама, чаму не ясі свой цукар?» — пыталіся дзеці. «Яшчэ паспею з'есці...» Напамінкі часцелі, і тады маці і цётка Барбара казалі: «Нешта не хочацца цукру. Прывыклі з соллю чай піць. З'ешце яго самі...»

Быў дажджлівы халаднаваты дзень. Усе дзеці сядзелі ў хаце і займаліся сваімі справамі. Пеця з'еў бульбіны, запіў іх халоднай вадой і пачаў расказваць, што было ў школе. Раптам ён змоўк на паўслове, потым сказаў:

— А ў цёткі Шуры ў тумбачцы мармелад...

Пасля доўгіх спрэчак дзеці дамовіліся зазірнуць у тумбачку, каб даведацца, што гэта такое — мармелад...

Калі ўсе пераканаліся, што мармелад быў загорнуты ў паперку, пачалі зноў спрачацца: можна даставаць яго з тумбачкі ці няможна. Перамагла цікаўнасць.

Асцярожна, на абедзвюх далонях Пеця перанёс пакет на агульны стол, бліжэй да акна, і разгарнуў паперу. Праўда, як і казала Света, гэта былі кружочкі, падобныя на маленькія дранікі: два жоўценькія, два зялёненькія і два малінавага колеру.

— Ох і салодкія, мабыць! — усклікнула Жэня.

— Ты думаеш — смачней за цукар? — спытаў Пеця.

— Ды яны ж рознага колеру,— запярэчыла Лена.— Значыць, і розныя на смак.

— Паспытаць бы! — спакусіўся Алік.

— Што ты! — абурыўся Пеця.

— А што, калі толькі лізнуць? — прапанаваў Коля.

— І следу ніякага не будзе,— падтрымала яго Лена.

— Тады трэба кожнаму па тры разы лізнуць,— усё яшчэ вагаўся Пеця.— З аднаго мы ўсё роўна нічога не даведаемся.

— Ну і лізнём, толькі асцярожна,— папярэдзіў усіх Коля.— А потым пакладзём, як было.

Калі позна вечарам змораныя жанчыны вярнуліся з працы, памыліся, навялі парадак у сваёй гаспадарцы і нагатавалі вады, каб папіць чаю, цётка Шура нечакана сказала:

— У тумбачку нехта лазіў. Пакецік загорнуты не так, як я загортвала.

Мамы моўчкі і сурова пазіралі на сцішаную за сталом дзятву.

— Цёця Шура, даруйце! — праз слёзы сказаў Пеця.— Мы толькі тры разы лізнулі... Кожны колер па разу... І паклалі, як было.

— Праўда! Толькі тры разы! — дружна прызналіся ўсе.— І паклалі, як было...

— Эх вы, сінічкі-верабейкі! — уздыхнула цётка Шура.— Дні якія настаі! Апошняя пядзя нашай зямлі вызвалена ад ворага. А мы ўвесь дзень руіны разбіралі... Давайце пап'ём чаю з мармеладам.

І яна дала дзецям па мармеладцы. А апошнюю, шостую, акуратна разрэзала на тры часткі і паклала: адну перад Пецевай мамай, другую — перад цёткай Барбарай, а трэцюю пакінула сабе.

— Паласуемся і мы,— сказала яна.

*1971*

## У САНАТОРНЫМ САДЗЕ

Адцвітаў бэз. Бялелі свечкі каштанаў. Жывая сетка з пчол, вос і чмялёў вісела ў паветры ля дрэў. Асобныя пчолы і восы злятаі ўніз да водаправоднай калонкі, садзіліся на вільготныя белыя каменьчыкі і прыліпалі да празрыстай жылкі-раўчука.

Удвух з таварышам мы прышкандыбалі сюды, у самы аддалены куток санаторнага саду, і селі на тоўстыя смалістыя бярвенні, нарыхтаваныя на будоўлю.

Паклаўшы ў траву свае неразлучныя спадарожніцы-мыліцы, мы моўчкі сачылі за пчоламі, за вежавым кранам, які павалі рухаўся ўздоўж сцен будоўлі. Над намі быў нясцерпна яркі блакіт паўднёвага неба, пахлі кветкі, куды ні глянеш — радавалася жыццё.

І ўсё ж такі нам было не па сабе. Не, нам ужо ніколі не быць там — на рыштаваннях!..

Раптам над мураванай агароджай, якой быў абнесен сад,

падняліся дзве бялявыя галавы. Не звяртаючы на нас увагі, свавольнікі-хлапчукі пералезлі непадалёк.

— Ты ў які клас перайшоў? — спытаўся я ў старэйшага.

— У пяты.

— А ты?

— У трэці.

— Бач, якімі волатамі ўзнімаецца новае пакаленне! — усклікнуў мой таварыш, і ў яго голасе чуўся гонар.

— Змена,— дадаў я.

— Надзея,— дапоўніў таварыш, уздыхнуўшы.— Пра адно мая думка: яны не павінны ведаць гэтых падпорак! — Ён паказаў на мыліцы.

Але вось хлопцы пабеглі да калонкі. Там адзін з іх дастаў з кішэні сваіх кароценькіх штонікаў звычайную соску, праз якую маці кормяць дзетак маленькіх малаком.

Са здзіўленнем мы сачылі, навошта ім соска.

Хлапчукі падышлі да калонкі. Меншы нацягнуў яе на кран, а большы націснуў на рычаг.

— Зменшы напор,— скамандаваў малы.

Струмень вады распёр соску, і яна зрабілася падобнай на прадаўгаваты балон. Перахапіўшы пальцамі краёчкі соскі, малы зняў яе з крана і з крыкам: «Увага, атам!» — наводмаш кінуў сваю «бомбу».

Скачучы, нібы напалоханая рапуха, балон два-тры разы выкінуў вялікі струмень вады і замёр на каменьчыках звычайнай соскай.

Потым гэтая соска стала «кулямётам». Праз маленькую дзірачку вылятала тонкая срабрыстая нітачка вады. Гэта была «кулямётная чарга». Хлопцы ёю «прачэсвалі» бур'ян ля мураванай агароджы.

Мокрыя з галавы да ног, дзеці бестурботна смяяліся, а пасля пералезлі цераз агароджу і зніклі.

— А-а, чорт, увесь настрой сапсавалі! — сказаў мой таварыш і з вялікім намаганнем падняўся на мыліцы.— Хадзем адсюль...

Я мала ведаў свайго таварыша па бядзе, але добра разумеў адно: ён любіў дзяцей.

*1959*

## ГАНІ, ВАСІЛЬ, ГАНІ...

Зразумеўшы сэнс запіскі, Меліксецян паволі, з напружаннем падняў з ложка сваё ацяжэлае непаслухмянае цела. Як доктар ён не мог памыліцца ў ацэнцы свайго становішча і рашыў: толькі б паспець.

— Дацягнулі да апошняга... Загубілі дзяўчынку! — злаваўся Меліксецян, сядаючы ў машыну.— Ты ўсё захапіў? — ён кінуў вокам на чамадан, што ляжаў на сядзенні.— Гані, Васіль, толькі хутчэй!

— Ёсць, таварыш доктар! — па-ваеннаму адказвае шафёр. І ён хвалюецца, калі чуе такі зварот.— Толькі б паспець! — А памяць (от гэтая памяць!) чамусьці ў такіх выпадках перакідае яго ў 1944 год, у Польшчу, пад мінамётны абстрэл каля Рэмбертава, дзе расшматаная дарога кідала яго фельд-егерскі «віліс» ад аднае ўзрыўной хвалі да другой, а яму ўсё роўна трэба праскочыць па дарозе і паспець.— Мы яе перагонім, доктар! — пад уплывам ахапіўшых пачуццяў кажа шафёр. Ён праз люстэрка пазірае на змораны хворы твар урача.— Не першы раз!

— Каго? — не разумее Меліксецян.

— Смерць, таварыш доктар,— адказвае шафёр.

«Як пастарэў за апошнія гады,— думае ён пра доктара.— Мы ўсе пастарэлі».

— Кажаш, перагонім? — перапытвае доктар.— У нас пад Курскам два лётчыкі перагналі сваю смерць. Дацягнулі да сваіх. Мёртвымі селі.

Боль у грудзях абарваў думку.

— Матор здае. Гані, Васіль, хутчэй!

— Чый матор? — дзівіцца шафёр.

— Мой,— адказаў доктар.— Сэрца здае. Думаў, надоўга хопіць...

Глуха шапочучы шынамі, «Масквіч» спачатку ішоў па асфальце, потым зашоргаў па гравію і нарэшце, збаўляючы ход, падняўся да падножжа скалы, дзе ў цёмнай зелені, нібы складзеныя дзіцячымі рукамі, бялелі кубікі дамоў горнага сялення.

— Прыехалі, таварыш доктар! — кажа шафёр.

— Га?.. Ужо?..— нібы ачуньваючы, уздрыгвае доктар і просіць: — Памажы!..

— Закалыхала,— кажа шафёр, памагаючы доктару падняцца на ганак і ўвайсці ў дом.

— Расчыніце вокны! — загадвае Меліксецян.— Дзе хворая?

Спатыкаючыся, садзіцца на падстаўленае крэсла, працірае вочы, трэ далонню скроні. Нарэшце ён бачыць на ложку хворую дзяўчынку гадоў дзесяці. Яна цяжка і часта дыхае. І, як заўсёды, апынуўшыся каля хворага, Меліксецян знаходзіць у сабе сілы. Абвостраным слыхам ён улоўлівае прастудныя хрыпы ў грудзях.

— Васіль, медыкаменты!

Доктар дастае з чамаданчыка стэрылізатар, ампулы, вату. Ён робіць дзяўчынцы ін'екцыю, прыгаворваючы нараспеў:

— Балець не будзе!.. Балець не будзе!.. Усё будзе добра!..

Паклаўшы шпрыц, доктар гладзіць сваёй халоднай, нямеючай рукой гарачы, мокры лоб дзяўчынкі, раскіданыя на падушцы чорныя косы-тапыркі і зноў супакойвае:

— Усё будзе добра!.. Будзе добра!..

І, заплюшчыўшы вочы, адхінаецца на спінку крэсла.

— Паспець у машыну! — загадвае ён сабе.— У машыну!..

Усё навокал робіцца цьмяна-фіялетавым, плыве ў цемень. На момант доктар траціць прытомнасць. Расплюшчыўшы вочы, ён абапіраецца на ложак і паднімаецца. Акінуўшы праніклівым позіркам засмучаную постаць разгубленай маці, якая бездапаможна прытулілася да сцяны, ён загадвае шафёру падняць дзяўчынку і несці ў машыну.

— Будзеш жыць... І за мяне будзеш жыць!.. У бальніцу, Васіль! Хутчэй у бальніцу!..

*1960*

## БЛАКІТНЫЯ ЕЛКІ

Дзесяць год назад з заказніка прывезлі дзве блакітныя елачкі і пасадзілі ля ўвахода ў дом: адну справа, другую злева.

Калі я дачуўся пра гэта, парашыў абавязкова дабрацца да такіх рэдкасных красунь, бо мне ні разу не выпадала іх бачыць.

Дабрацца было нялёгка. Дом, дзе я жыў, знаходзіўся на процілеглым канцы вуліцы. Пасля трынаццаці год хваробы ногі мае былі скаваны, апірацца на іх было не пад сілу. Зробіш на мыліцах з дзесятак кароценькіх крокаў і спяшаешся сесці на спецыяльную надстаўку ў крэсла на добрае паўгадзіны.

І ўсё ж такі з радаснае згоды маёй нязменнай спадарожніцы — жонкі Лю — я пайшоў у госці да елачак. Лю адносіла крэсла наперад, пакідала на ўзбочыне дарогі, вярталася і пільна сачыла за кожным маім крокам. Дзіва што! Вуліца новая, толькі даводзіцца да ладу. Раптам зачаплюся за што і бразнуся вобземлю.

Выбраліся ў паход ліпеньскім ранкам, калі яшчэ трымалася прахалода. Колькі разоў вымушаны быў прысаджвацца адпачываць — не лічыў, але прыкладна пад поўдзень дабраліся да елачак.

Вось яна, калматая малеча! Іх іголачкі сапраўды блакітныя. Але якая разнастайнасць адценняў! Ад колеру чыстай нябеснай вышыні вясенняга ранку да амаль поўнай попельнасці ўсходняга небакраю пасля заходу сонца. Ад насычанай сінявы перадпавальнічнага неба да пяшчотнай зеляніны з налётам на ёй танюткага слою блакітнага пылку. У кожнага яруса лапак свая палітра. У кожнага ўзросту сваё адценне.

Я ўглядаўся ў елачкі і ўспамінаў гады вайны і лясы Калініншчыны, Падмаскоўя, роднай Беларусі, лясы па рэках Стаходу і Вісле. Яны радзелі, станавіліся абароннымі і наступальнымі рубяжамі, насціламі на разбітых дарогах, мастамі і пераправамі, каманднымі і назіральнымі пунктамі. Бярозы і елкі, асіны і сосны ваявалі і гінулі разам з намі...

...Раз або два разы ў год кожнае лета мы з Лю наведваліся да елачак. Віталі сваіх знаёмых, радаваліся, што падраслі і адчуваюць сябе добра. Адыходзячы, развітваліся з імі. Часам думалася: магчыма, у апошні раз бачуся з імі. І тады — о дзіва! — елачкі суцяшалі мяне:

— Будзь мужным! І ты прыйдзеш да нас. Абавязкова прыйдзеш! Настане час — і мы будзем сустракацца кожны дзень!

Потым здарылася адна бяда за другой. Нейкі хлопчык зламаў у адной елкі вяршалінку, каб пабегаць з ёю па вуліцы і кінуць. А перад Новым годам у адну з цёмных начэй нехта зрэзаў пад корань другую елку.

Гаравалі не мы адны. Амаль усе жыхары нашае вуліцы абураліся, прыдумвалі розныя меры, каб абараніць сваіх зялёных сяброў.

Абламаная хлопчыкам елка доўга не магла папраўіцца, але і такой яна была па-ранейшаму прыгожай, бо свяцілася ўсімі адценнямі сваіх фарбаў. А яе стройнасць і гордая пастава ўгадвалася і без вяршалінкі.

З гадамі бакавы парастак узнімаўся ўсё вышэй і вышэй, абрастаў вакол лапкамі, выпростваўся і нарэшце зусім замяніў зламаную вяршалінку. Елка падрасла...

І я цяпер амаль кожны дзень змог наведвацца да яе. Гэтаму дапамагалі сталы і лаўкі, якіх нарабілі і паставілі дружныя жыхары дома, што стаяў якраз на сярэдзіне майго шляху. Дайду сюды, адпачну крыху — і далей. Палюбуюся

цудоўнай красой сваёй знаёмай — і назад да лавак. Пасяджу, пагутару з тымі, хто бавіць час за сталамі — і дадому. Часцей маімі субяседнікамі былі дзеці.

Там я пазнаёміўся з белявым, ружовашчокім хлопчыкам Вовам, які на лета прыехаў сюды ў госці. І адзін, і з аднагодкамі, ён заўсёды гуляў тут. Захапляўся маляваннем на асфальце і рабіў гэта незвычайным спосабам.

З пажарнай бочкі, што стаяла пад акном, Вова набіраў у якую-небудзь бляшанку вады. Знаходзіў палачку і рабіўся натхнёным мастаком і каментатарам сваіх твораў.

Дарослыя сварыліся на Вову:

— Ледзь не паўбочкі вады разліў! А раптам пажар!..

Яны відавочна перабольшвалі. Вады была поўная бочка. Я з вялікім задавальненнем разглядаў малюнкі Вовы і слухаў яго тлумачэнні:

— А цяпер намалюю міжгародні аўтобус, на якім я прыехаў.

На асфальце з'яўляўся прамавугольнік з кружочкамі ўнізе.

— А ў ім паўнютка людзей.

Зверху, на дах аўтобуса, цесна ў рад Вова рабіў рысачкі. Гэта былі пасажыры. У некалькі радоў запаўнялі ўвесь аўтобус. Я не папракаў аўтара малюнка ў перабольшванні. Не казаў яму, што пасажыры не ездзяць на дахах аўтобусаў і не сядзяць адзін на адным, нібы акрабаты ў цырку. Ён маляваў так, як яму ўяўлялася і хацелася. Умешвацца ў такое я не мог.

Калі мы пасябравалі, Вова зацікавіўся, дзе я жыву. Ён асцярожна дакрануўся да маіх знявечаных пальцаў і пытаўся, чаму ў мяне такія рукі. Браў мыліцы і з радасцю падскакваў на іх. Дзівіўся, чаму заўсёды хаджу на такіх кіёчках. Пытанняў хапала, я на ўсе стараўся даць вычарпальныя адказы. А калі расказаў пра вайну, Вова спытаў:

— Калі я пабуду на вайне, мне таксама можна будзе хадзіць на мыліцах?

Відаць, я так і не здолеў растлумачыць яму, што такое вайна, хоць часта сустракаўся з дзецьмі ў час вайны. У іх было зусім іншае аблічча. Можа, здрадзіла памяць, але цяпер мне здаецца, што ў тыя гады я не чуў, як смяяліся дзеці...

Аднойчы, калі я падняўся, каб ісці далей, Вова спытаў:

— Куды вы ідзяце?

— У госці да блакітнай елкі.

— А навошта?

— Каб пагутарыць з ёю.

— Елкі не размаўляюць! — катэгарычна запярэчыў Вова.
— А вось і размаўляюць,— таксама катэгарычна адказаў я.— Але толькі са сваімі сябрамі.
— А вы яе сябар?
— Канечне. Хочаш, хадзем разам, і ты пачуеш, як яна размаўляе. Пачуеш, калі сам ніколі не крыўдзіў елачак.
У госці мы ішлі разам. А калі да елкі засталося не больш дзесяці крокаў, Вова раптам пабег уперад і схаваўся за яе галінамі.
Я спакойна, нібы нічога не заўважыў, падышоў да елкі, прыпыніўся і сказаў з паклонам:
— Добры дзень, блакітная красуня!
— Добры дзень, дзядзечка! — пачуў у адказ.
— Табе тут добра жывецца?
— Добра, дзядзечка.
— А хлопчыка Вову ты, елачка, ведаеш?
— Ведаю.
— Харошы хлопчык?
— Вельмі харошы,— пацвердзіла елачка.
Я задаваў елачцы пытанне за пытаннем і атрымліваў тут жа адказы. Нарэшце я сказаў:
— Да новай сустрэчы, блакітная красуня. Усяго найлепшага!
— Усяго найлепшага, дзядзечка! — адказала елачка.
Я спакойна павярнуўся ісці. Вова выбег са схованкі і падбег да мяне.
— Ну што? — спытаў я.— Чуў, як елачкі размаўляюць?
— Чуў! — радаваўся хлопчык.— Усё чуў!..
Хутка ў елкі з'явіліся новыя сябры: Света і Міша. Калі мы — ужо чацвёра — падыходзілі да елкі, Света спяшалася схавацца за яе голле, каб ператварыцца ў блакітную красуню. На дзяўчынцы была ярка-аранжавая сукенка, і ад гэтага елка яшчэ больш вылучалася незвычайным блакітам.
Была спякота і суш. Я спытаўся ў елкі:
— Табе хочацца піць?
— Хочацца,— адказала елка.
— А ты папрасі сваіх сяброў: Вову, Свету і Мішу, няхай яны напояць цябе.
У пажарнай бочцы, з якой Вова браў ваду для малявання, хутка сапраўды засталося мала вады. Але затое як пахарашэла елка!
Пачалася восень. Вову і Свету адвезлі дадому. Міша пайшоў у школу. Як і заўсёды ў восеньскую непагадзь, я

расхварэўся і змог выходзіць толькі ў сонечныя дні пасядзець ля свайго дома.

Мішу я ўсё ж такі сустрэў. Калі аднойчы з поўным ранцам ён вяртаўся са школы, я паклікаў яго і спытаў:

— Што сёння нясеш у ранцы?

— Пяцёрку і чацвёрку,— з гонарам адказаў ён.

— А ў гасцях у блакітнай елкі бываеш?

— Бываю. Такая прыгожая стала. Яна і зімой расце?

— Не, зімой яна спіць.

— А чаму іголачкі як летам?

— Каб радаваць усіх,— адказваю.— І напамінаць, што прыйдзе вясна.

*1970*

# ТАЙНЫ ЗАСТАНУЦЦА З НАМІ

## *Дакументальная аповесць*

### Ад Масквы да самага Берліна

Каб схавацца ад сонца, мы з Ігарам селі на лаўку ў цяні каштана. У заўсёды бялюткай кашулі, сініх спартыўных штанах, не па ўзросту высокі, Ігар нагадваў старшакласніка, хаця вучыўся толькі ў чацвёртым. Ён раз-пораз адкідваў назад валасы і весела расказваў, як учора ноччу, запылены і зморены, вярнуўся з ваенна-спартыўнай гульні «Зарніца». Ігар удзельнічаў у галоўнай баявой аперацыі, пранік у распалажэнне праціўніка і захапіў «языка».

— Прабіраюся праз хмызняк. Зірк — вартавы! Зусім незнаёмае хлапчаня. З нейкай іншай школы. Я — з-за куста і яму на рот далонь! Ён на калені, аўтамат выпусціў. Перапужаўся — сама смерць! А ў мяне як на тое — нічога няма, я ж не разгубіўся і шэптам: «Толькі пікні!» Загадаў: «Рукі назад! Пайшлі!» Прывёў у штаб, і ён пра ўсё расказаў. Разумееце, пра ўсё чыста!

— А ты б на яго месцы не спалохаўся?

— Ніколечкі! — запэўнівае Ігар.— Я і ў рукі б не даўся. Ён варон лавіў.

— Ты сапраўдны салдат.

Як і належыць сталаму хлопцу, Ігар не звярнуў ніякай увагі на маю пахвалу.

— Нашы дзейнічалі смела і хутка! — сказаў ён.— Нават баявы атрад заслалі ў тыл праціўніка!

На хвілінку ён змоўк і нечакана спытаў:

— А вы жывога шпіёна бачылі?

Я ўсміхнуўся.

— Абавязкова жывога? А калі мёртвага?

Ігар усхапіўся з лаўкі.

— Вы самі яго забілі?!

— А з кім тады весці допыт?

Ігар развёў рукамі.

— А калі іншага выйсця не было?

— Не, Ігарчык, у нас справы ішлі па-іншаму. «Як хлопцу растлумачыць?» — уздыхнуў я.

Яму абавязкова давай сапраўдных шпіёнаў! Якія неадступна крочаць за табой, нястомна падслухоўваюць, адшукваюць любыя сакрэты. Было і такое. Але мы працавалі інакш.

— За намі заўсёды цікавала яго здань,— нарэшце кажу я.

— Здань?! — здзіўляецца Ігар.— Ад Масквы да самага Берліна? Раскажыце!

## Хто з нас больш рассеяны

— Ды ты сядай! — кажу.

Ён сядае каля мяне. Памаўчаўшы, я пытаюся:

— Ты часта губляеш ключы ад сваёй кватэры?

Чырванеючы, Ігар нахіляе галаву.

— Мама і вам паспела паскардзіцца?

— Не, гэта працяг нашае размовы. Відаць, і ты бываеш рассеяны?

— Мы цяпер усе рассеяныя! — упэўнена кажа Ігар.— Усё бягом, усе спяшаемся.

— А на фронце, у арміі можна быць рассеяным?

Ігар марудзіць з адказам.

— На вайне? — перапытвае.— Крыху можна, ледзь-ледзь.

— Што значыць ледзь-ледзь?

— Не ведаю.

— І я да вайны гэтага не ведаў! Быў настаўнікам, любіў паэзію. Сам складаў вершы. І нават ганарыўся, што рассеяны. Інакш, які з мяне паэт!.. Што твае ключы, Ігарчык! Аднойчы летам я ў цягніку зняў з сябе паліто, кепку, павесіў там на вешалку, а пры перасадцы забыў і ўспомніў толькі дома ў праліўны дождж.

Ігар засмяяўся:

— Можна тату і маме пра вас расказаць? Я толькі з

дзесятак самапісак дзесьці пасеяў ды яшчэ, праўда, ключы... А яны незадаволены!

— Што ж, кажы,— згаджаюся.— Толькі гэта не апраўданне. А цяпер зноў вернемся да ключоў. Не, Ігар, не да тваіх хатніх, а да іншых. Да тых, якіх ніколі нельга губляць.

### Калі трэба хітраваць

— Наша часць будавала ваенныя рубяжы,— пачаў я сваё апавяданне.— У пачатку вайны — абарончыя, потым — наступальныя. Яны дапамагалі стрымліваць праціўніка, біць фашыстаў, гнаць іх да самага Берліна. І кожны наш крок, кожная наша справа павінны былі заставацца для ворага поўнай тайнай! Здаралася, мы ўзводзілі дзве пабудовы. Адну — замаскіраваную, сапраўдную, другую — крышачку прыкметную. Несапраўдную.

Расказваю і паглядаю на Ігара. Можа, яму нецікава слухаць не пра шпіёнаў.

— Несапраўдную! — здзіўляецца ён.— А навошта?

— Каб...— пачаў я і спахапіўся.— А ты здагадайся.

— А я-ак?

Бачу, у ваенна-інжынерных справах яму самому не разабрацца.

— Ты ведаеш што-небудзь пра зенітную або артылерыйскую батарэі? З фільмаў, напрыклад.

— Ведаю... Трохі.

— А пра камандны або назіральны пункт?

— Таксама.

— Цяпер уяві, што адны з іх сапраўдныя, а другія — падробка.

— А з чаго вы несапраўдныя збудаванні рабілі?

— З бярвенняў і дошак.

— І потым нікога там не было?

— А ты як думаеш?

Ігар засмяяўся.

— Вораг разбамбіць бярвенні, дошкі, а сапраўдныя батарэі застануцца.

— І нашы салдаты смяяліся, бачачы, як гэтыя бярвенні разлятаюцца ў шчэпкі.

### Рассеянаму давяраюць тайну

— Дык вось,— працягваю я.— Мы канчалі будаўніцтва рубяжа і рыхтаваліся да пераезду на новы. Нечакана мяне выклікаў да сябе камандзір часці.

— Мікалай Мікітавіч цяжка хворы, няма каму ехаць на новае месца. Мы рашылі ахову дакументаў будучага рубяжа даручыць вам. Вось ключ ад сейфа. Падрабязней пра ўсё вам раскажа Саша.

Сашам мы клікалі памочніка Мікалая Мікітавіча. Ён быў маладзейшы за ўсіх нас.

Са скрыні стала камандзір дастаў ніштаваты ключ і падаў мне.

— Сейф прынясуць салдаты.

— Пастараюся апраўдаць ваш давер! — адрапартаваў я.

— Што за адказнасць кладзецца на вас, спадзяюся, ведаеце? — спытаў камандзір.

— Так точна, ведаю! Дазвольце ісці!

Прыйшоў у свой аддзел, дзе ўжо нікога не было, і пазіраю на ключ. Неўзабаве салдаты прынеслі сейф. Падышоў да яго, адкінуў цяжкое века, памацаў халоднае, са слядамі зялёнай фарбы, тоўстае жалеза. Відаць, даўнавата яно служыць... Зачыніў сейф на замок. А куды дзець ключ? Не дзень і не два ў дарозе. Паклаў ключ у кішэню, пераклаў у другую, трэцюю... І ўсё штосьці не тое. Згубіць можна. Раптам у дзверы пастукалі — і на парозе сакратар.

— Да камандзіра!

Хуценька ўсе паперы замкнуў у нашу агульную, са звычайных дошак скрыню — і бягом. Вярнуўся з пакетамі сакрэтных дакументаў.

«Вось яны — тайны будучага рубяжа! — радуюся.— І не камусьці, а мне давераны! Ад іх аховы залежыць жыццё многіх. І маё таксама».

— Чаму ваша? — спытаў Ігар.

— А калі я згублю гэтыя сакрэты і яны трапяць да ворага, што са мной будзе?

— Разумею,— сказаў Ігар.

Я змоўк. Усё гэта — далёкае мінулае, а для майго юнага сябра і зусім даўніна. Чаму ж яна хвалюе мяне і так цікавіць Ігара?

— А далей што? — пытае ён.

### Раптоўнае знікненне

— Далей?.. Я руку ў кішэню, у другую... абмацаў сябе, як кажуць, з галавы да ног,— няма ключа ад сейфа! Дзесяткі разоў праверыў: няма — і ўсё тут!

Добра памятаю: разам з іншым ключом, маленькім, які

на месцы, паклаў у кішэню. Пальцы яшчэ адчуваюць добра адшліфаваную форму і халодны цяжар, а ключа няма.

Абшукаў пакой, зазірнуў у нашу агульную скрыню, нават столь абвёў вачыма.

Губляюся ў здагадках, успамінаю. З нашага пакоя прабег калідорам, прайшоў праз пакой сакратара, зайшоў да камандзіра. Той жа дарогай назад. Некалькі дзесяткаў крокаў, нідзе нікога, на ганку вартавы...

А ключ знік!

Прыдумаў нейкае пытанне і зноў зайшоў да камандзіра. Ці не пакінуў у яго? Не. І камандзір звычайна пазірае на мяне, размаўляе са мной.

— А вы з пакетамі пайшлі да яго? — пацікавіўся Ігар.

— Пад гімнасцёрку запіхнуў. Усё яшчэ сам спадзяваўся адшукаць прапажу.

— І я сам бы шукаў,— падтрымаў мяне Ігар.

## Хто салдата і школьніка робіць нясмелым

— Стоп! Я забыўся табе сказаць: сакратаром у нас працавала дзяўчына Валя. І яна, калі з ключом я выйшаў ад камандзіра, ціха, але з насмешкай сказала: «Знайшлі каму даверыць тайну — паэту! Ды ён усё пагубляе!»

— І вы пакрыўдзіліся! — упэўнена сказаў Ігар.

— Ніколькі. Разгубіўся. «А Валя ж праўду кажа!» І парашыў: «Не буду рассеяны! Усяго сябе мабілізую, выхаваю!» І вось табе — мабілізаваў!

Зноў іду міма Валі. Які сорам! Прызнацца? Можа, чымсьці дапаможа. Хоць бы паспачувала! Я ж не раз чытаў ёй вершы. Падабалася мне Валя. А прызнацца не асмельваўся.

Ігар вытрашчыў вочы.

— Вы — салдат і... не асмельваліся?!

— Нічога дзіўнага. Дзяўчына і салдата можа зрабіць нясмелым.

— Праўда?! — узрадаваўся Ігар і нават засмяяўся. А потым уздыхнуў.

— Я адной дзяўчынцы... таксама Валя... хачу напісаць запіску. Каб дружыць. І баюся.

— Разумею цябе,— паспачуваў я.— А чаго ж ты баішся?

— Такая насмешніца...

— Мабыць, ты сам чымсьці гэтай дзяўчынцы павінен спадабацца.

— А чым?

Я нават не ведаў, што параіць.

— Можа, сваёй знаходлівасцю або ўвагай...
— А як я даведаюся, што спадабаўся?
— Яна ж смелая! — узрадаваўся і я, што Ігар не адкінуў мае парады.— Сама скажа. Ці напіша.
— Вам сама напісала?
— Не-е,— уздыхнуў я.— Не сказала і не напісала.
— Ясна,— толькі і адказаў Ігар. І, памаўчаўшы, дадаў: — Не, ваша Валя нічога не ведала пра ключ.— Хлопчык задумаўся.— А ведаеце, вы разам з паперамі ў агульную скрыню ключ паклалі. Вас нечакана паклікалі, а вы пра гэта забыліся.
Я здзівіўся. Лёгка і проста Ігар рашыў маю тагачасную пакутлівую загадку.
— Чаму так думаеш?
— Калі я зачытаюся на ўроку цікавай кнігай, а мяне знянацку выклікаюць да дошкі,— усё з галавы! Забудзеш, на якім уроку сядзіш!

## Галодныя кнігі

Нездарма Ігар часам не ведаў, на якім уроку сядзіць. Цікавых кніг у яго было многа. Ледзь не кожны ранак праз гэтыя кнігі бывалі спрэчкі з маці.
— Не дам грошай на сняданак у буфеце,— казала яна Ігару.— Бяры тэрмас і бутэрброд. Усё роўна не снедаеш, а купляеш кнігі.
Маці акідвала сына жаласлівым позіркам.
— Зірні на сябе ў люстэрка! Прывід — і толькі!
— Мама, з мяне смяяцца будуць. Скажуць: «Тэрмас ідзе! Тэрмас прыйшоў!» І куды я яго дзену? У парту?! Не ўлезе ж... І да класнай дошкі з тэрмасам ісці?!
Апошні довад чамусьці бянтэжыў маці. А Ігар ішоў у атаку:
— Ну мамачка, ну мілая! Дай лепш грошы і гэтыя яблыкі. І вось гэтыя цукеркі. І вось гэты піражок...
— У апошні раз веру! — урачыста абвяшчала маці.
Дні праз тры-чатыры Ігар прыносіў новую кнігу. Ён асцярожна паказваў яе мне і папярэджваў:
— Толькі ні слова маме!
А мне і казаць не трэба. Яго маці магла ночы не спаць, усё чытала прыгодніцкую літаратуру. Часам сама пыталася ў сына:
— У цябе, Ігар, нічога новага няма на вечар?
Толькі і чакаў хлопчык гэтага пытання. Ззяючы ад радасці, ён падаваў ёй чарговую кнігу.

— Зноў галодная кніга! — абуралася маці.— Чаму не прасіў на яе грошай?

— Не было калі, мамачка. Яе ж у адзін момант расхапілі!

Маці ведала: сын кажа праўду.

— І што з табой рабіць? — яна змаўкала, але, мусіць, нічога не прыдумаўшы, спахаплялася: — А цікавая?

— Во! — Ігар выстаўляў угору вялікі палец, што азначала: выключная, цудоўная!

## Нараджэнне тайны

Новая сустрэча пад каштанам адбылася ў нас на другі дзень вечарам.

— Якія навіны? — спытаў я ў Ігара.

— Валя «Конніка без галавы» ў мяне папрасіла.

— Цудоўна! А ты?

— Сказаў: «Прыходзь, возьмеш».

— Тваю бібліятэку ўбачыць, ахне і стане яе чытачом.

— Не прыйдзе,— уздыхнуў Ігар.— Кажа, сам прынясі. Лепш раскажыце, што ў вас на новым рубяжы здарылася.

Я задумаўся.

— Здаралася многае,— сказаў нарэшце.— Пра што расказаць, не ведаю. Ну, слухай. Абарончы рубеж будавалі вакол горада. Мы размясціліся на ўскраіне ў невялічкім дамку з выхадам у сад. Мне далі маленечкі пакой. На акно павесілі краты. Сяджу побач з сейфам, прымаю і выдаю тайны. Як і Саша Хлапкоў, вяду строгі ўлік: ад каго што прымаю, каму што выдаю. Прымушаю распісвацца. Трэба ведаць, як нарадзілася тайна, у каго і калі была.

— А як у вас тайны нараджаліся? — перабіў мяне Ігар.

— Проста,— кажу.— Былі вакол горада ўзвышшы, лес, рака. Прыехалі сюды нашы разведчыкі мясцовасці. Мы іх называлі рэкагнасцыроўшчыкамі. Усю мясцовасць вакол горада абгледзелі, параіліся між сабою і рашылі: тут і тут пабудаваць агнявыя пазіцыі для артылерыстаў, мінамётчыкаў, а тут — камандны пункт. Вось так злучыць іх траншэямі, пераходамі. Каб ні з якога боку не прарвацца ворагу да горада, калі ён пойдзе ў наступленне. Сваё рашэнне запісалі, дакладна пазначылі на картах. І, як толькі запісалі і пазначылі, усе гэтыя карты, запісы зрабіліся зусім сакрэтнымі.

— Нарадзілася ваенная тайна! — урачыста ўсклікнуў Ігар.

— І вось аднойчы камандзір загадаў, каб падрыхтаваў я палкоўніку са штаба арміі звесткі пра ўвесь рубеж.

Падрыхтаваў. Чакаю.

Прыязджае палкоўнік:

— Праз паўгадзіны ў мяне даклад. Калі ласка, дайце мне звесткі неадкладна! Заўтра ў дванаццаць нуль-нуль я зноў павінен быць у вас, тады і распішуся...

Я тут жа аддаў палкоўніку ўсе тайны пра рубеж. Ён — бягом да машыны. Чую, ад'ехаў. А калі ад'ехаў, я захваляваўся. Што нарабіў?! Злачынства!

— Чаму? — запярэчыў Ігар.— Палкоўнік жа пазніўся. І сказаў: вернецца.

— Так. Выручыў, паверыў. Нібыта і радавацца трэба. А зразумеў: парушыў парадак аховы тайны.

— Ён жа са штаба арміі! Яму ўсе верылі.

— Ігарчык! Мы ўсе верылі адзін аднаму. Інакш нельга. Аднак верыць — адно, а несці асабістую адказнасць за тайну — другое. Раптам палкоўнік не прыедзе?

— Чаму?

— Неадкладна дадуць яму новае заданне. Або..

Я запнуўся. Ігар насцеражыўся.

— Што «або»?

— Будзе забіты па дарозе. Цяжка паранены трапіць да ворага.

— І пра тайну даведаюцца фашысты,— задумаўся Ігар.— Тады ўсё роўна: з распіскай ці без распіскі.

«Вось дык Ігарчык!» — здзівіўся я.

— Усё роўна для перахопленай тайны. А для тых, хто клапоціца пра яе, ці ж усё роўна? След тайны абрываецца ў мяне!

Я адчуваў, як хацелася Ігару давяраць палкоўніку. А хіба мне не хацелася? Але ж сутнасць не ў гэтым.

— Вы не пайшлі да камандзіра? — спытаўся ён.

— Я выйшаў у сад. Была цёплая восень. Пад нагамі слалася аранжавае лісце. Сінела неба. Высокі дзед з белай барадой у саматканай кашулі абкопваў танюткія дрэўцы. Падышоў да яго. «Мне ўжо не есці гэтых яблыкаў, пра ўнукаў клопаты,— спакойна сказаў ён.— Вайне ж хутка канец».

Мне зрабілася крыху лягчэй на сэрцы. Была толькі восень сорак трэцяга года. А стары такі ўпэўнены!..

Я вырашыў пачакаць да заўтра, да дванаццаці нуль-нуль.

— Правільна! — усклікнуў Ігар.

Назаўтра дакладна ў абяцаны час палкоўнік увайшоў да мяне ў пакой. «Вось і я. Дзе распісацца?»

— Я так і ведаў! — узрадаваўся Ігар.
— Няхай камені з неба ляцяць, ні адна тайна не выйдзе з гэтага сейфа бясследна! — сказаў я сам сабе, калі зачыніў за сабой дзверы палкоўнік.
А мне ўспомнілася...

## Загадкавая прапажа

Аднойчы, яшчэ на папярэднім рубяжы, Саша выдаў мне карты. Паводле ўсіх правіл, вядома. Іх неабходна было размножыць і адаслаць будаўнікам. Добра памятаю: прынёс у аддзел, раздаў таварышам. Гадзіны праз дзве адна з карт знікла. Я — да Сашы.
— Яна ў вас,— адказвае той.
Нас у аддзеле было чацвёра. Мы ўвесь дзень шукалі. Памятаю, як узрушана хадзіў па пакоі мой таварыш Эдуард Стэндэр; нізка схіліла над калькай галаву Тамара Дзяругіна, дзяўчынка з Варонежа. А ў вочы Надзі Собалевай, цёмныя, поўныя слёз, немагчыма было глядзець. Адзінаццацігадовая Надзя і яе маці ў сорак першым уцякалі ад фашыстаў з-пад Нара-Фамінска. Нашы салдаты знайшлі іх у полі зусім знясіленымі. Яе маці стала ў нас друкаваць на машынцы, а Надзя навучылася чарціць карты.
— Вы ёй даверылі ўсе тайны? — здзівіўся Ігар.
— А чаму не даверыць?
— І ў яе быў сапраўдны аўтамат?
— Не, зброі дзяўчынка не мела.
— Ясна...
— Што — ясна? Дзяўчынка сама прасіла навучыць яе страляць з асабістай зброі. І мы навучылі.
— А мяне б узялі, калі б вось так знайшлі ў полі?
— У нас былі і такія, як ты.
Ігар уздыхнуў.
— Шкада, што мяне тады не было...
Ігар — добры субяседнік. Не спяшаўся даведацца, а што ж у канцы падзеі. Сачыў за яе развіццём.
— Вокны былі зачынены? — спытаўся ён.
— Акрамя фарткі.
— Карта не птушка...
— Тамара пра чалавека-невідзімку ўспомніла. Маўляў, зайшоў да нас у пакой і выкраў. Чытаў пра яго?
— Герберта Уэлса. А як жа! Мне і цяпер шкада невідзімку.
— Толькі ў нашым уяўленні...
— Ён быў шпіёнам! — падхапіў Ігар.

— Вось тады нам асабліва зразумелым стаў сэнс прымаўкі: «Пакуль беражэш тайну, яна — твая палонніца. Як толькі яе згубіў або перадаў не па адрасу, ты — яе палоннік».

— І вы сядзелі, нібы палонныя,— уявіў сабе Ігар.

— Так. Але паступова пачалі думаць, што карту Саша выдаў не нам, а іншым, у яго аднойчы было такое. Па чарзе заходзілі да Сашы, запытальна пазіралі на яго. А Саша маўчаў.

— І карта знайшлася ў Сашы,— заключыў Ігар.

— Не, у нас.

— Дзе?!

— Самім было дзіўна!..

Ігар адчуў сябе следапытам.

— Падклеілася да другой карты? — заспяшаўся ён.

— Не.

— Склалася ўдвая, а вы думалі: чысты ліст?

— Не.

— У кнігу трапіла?

— І не ў кнігу.

— А-а, успомніў! Як у майго таты, у скрынку стала паклалі, а яна — за скрынку!

— За скрыню закацілася! За тую, у якую раней трапіў і мой ключ ад сейфа. Скрыня стаяла ля самай сцяны, яе века ўвесь дзень было адкінута. Толькі вечарам зачынілі века, зірнулі, а між сцяной і скрыняй на падлозе згорнута ў трубачку — наша карта!

— Вы потым спыталіся ў Сашы: ён таксама шукаў?

— І не падумаў. Мы, Ігар, нявопытныя, яшчэ не разумелі, што ніколі не паўтаралі адну і тую ж памылку. Так упячатвалася яна ў памяць!

Раптам Ігар ускочыў з лаўкі.

— У мінулае неўзабаве можна будзе вярнуцца,— фантазіруючы, сказаў ён.— На машыне, ой, выбачайце, на ракеце часу.

— І папярэдзіць усе памылкі? — спытаў я.

— Вядома.

— Калі ты на ёй паляціш,— папрасіў я,— успомні пра нас!

— Абавязкова! — усміхнуўся Ігар.

## Жартуйце, але не з тайнай

Мы зноў сядзім з Ігарам пад каштанам. Пялёсткі кветак падаюць на зямлю. Чмялі, пчолы яшчэ прылятаюць сюды, але, зрабіўшы два-тры развітальныя аблёты, спяшаюцца далей.

А мне чамусьці ўспомніліся надпісы на кожным тэлеграфным слупе, якія папярэджвалі нас усю вайну: «Праезд толькі па дарозе». Ігар бачыў здымак дарогі з гэтым клапатлівым надпісам у маім франтавым альбоме.

— Было ў нас трое сяброў,— сказаў я.— Міхась, Пятро і Мікола. Вясёлыя хлопцы, але зусім не падобныя адзін на аднаго. Старшы тэхнік-лейтэнант Міхась Швяцоў быў вялікім аматарам жартаў. Ён адгадаваў сабе даўжэзную бараду і прычосваў на абодва бакі. Ужо ў Берліне пасля вайны, калі Міхась ішоў па вуліцы, немцы дзівіліся. А адзін немаладога веку немец нават спытаў у Міхася: «Вы таксама з татальных?» Ты ведаеш, што за такія татальныя?

— Старыя, хворыя,— сказаў Ігар.— Пад канец вайны фашысты нават старых і школьнікаў на фронт пагналі.

— Ведаеш... Ну, а другі наш таварыш, інжынер-капітан Пятро Котаў, любіў спяваць. Дзе ён, там і песні. «Вниз по матушке по Волге...» — асабліва задушэўна атрымоўвалася ў яго. А трэцім быў старшы тэхнік-лейтэнант Мікола Капелькін. Аднойчы генерал чамусьці раззлаваўся на яго. А Мікола, як і трэба, па ўсёй форме стаіць перад ім, але... усміхаецца! Генерал як крыкне: «Што за смех? Безадказнае свавольства!»

— Я, таварыш генерал, ніяк не смяюся,— яшчэ больш пачаў усміхацца Мікола.— У мяне з дзіцячых гадоў такое засталося.

— А генерал? — развесяліўся Ігар.

— Пахітаў галавой, усміхнуўся і сказаў: «Эх ты, Коля-Мікалаша, дзіцё з яснымі вачыма!»

З таго часу і мы яго так клікалі. Жартавалі, што нават у сне ён усміхаецца.

— І Коля-Мікалаша таксама рабіў геранчныя ўчынкі?

— Аднойчы ў штабе арміі правяралі карту пярэдняга краю варожай абароны. Мікола на гэтай карце знайшоў недакладнасць. Узнікла спрэчка. «Я асабіста праверу!» — сказаў ён.

— І сам пайшоў?

— Так, сам. Ноччу, у завіруху. Немцы яго заўважылі, абстралялі, але ён разведаў усё, што выклікала сумненне. Толькі калі з горкі пад кулямі каціўся, шапку згубіў. А ў

Берліне ў час баёў з-пад агню вынес цяжка параненага капітана Фёдара Федарцова. У шпіталі капітан памёр... Ты ведаеш, дзе ў Берліне героям штурму горада пастаўлены наш помнік?

Ігар адмоўна пакруціў галавой.

— НаЦіргартанскай плошчы, ля былога рэйхстага. Сярод іншых высечана на помніку і капітанава прозвішча. А ля помніка днём і ноччу ў пачэсным каравуле стаяць нашы маладыя салдаты.

— І я ў Дзень Перамогі ля агню Вечнай Славы стаяў! — сказаў Ігар.— Усе ідуць міма цябе, увесь горад! Сцягі, кветкі, музыка...

Мы памаўчалі.

— З вашымі таварышамі здарылася нешта нечаканае? — вярнуў мяне Ігар да пачатку размовы.

— Пятро і Мікола паехалі ў штаб арміі па пакеты. Вярнуліся. Пятро расшпіліў сваю планшэтку.

— Мікола, пакеты ў цябе?

— Не-е,— заўсміхаўся той.— Я думаў, ты ўзяў.

— Цьфу, чорт! — раззлаваўся Пятро.— А я думаў — ты!

— Яны не дамовіліся, каму з іх браць пакеты?! — здзівіўся Ігар.

— Як бачыш, і такое магло здарыцца.

Пятро зноў адправіў Міколу ў штаб, а сам падняўся на трэці паверх у наш пакой. Прылёг адпачыць, а Міхасю сказаў:

«Прыедзе дзіцё з яснымі вачыма, разбудзіш».

Хвілін праз сорак у двары загуў «студэбекер». Пятро адразу ж расплюшчыў вочы.

— Міша, спусціся, калі ласка, спытай, ці прывёз Мікола пакет.

Міхась неўзабаве вярнуўся, прычыніў за сабой дзверы і, заікаючыся, амаль пошапкам сказаў:

— П-пеця, н-няма пакетаў!

Здавалася, незвычайная сіла падкінула Пятра з ложка. Ён кінуўся з пакоя ўніз і загрымеў па прыступках. Міхась у гэты час чамусьці ўсміхнуўся і лёг на свой ложак. Раз'юшаным тыграм неўзабаве ўварваўся ў пакой Пятро і з крыкам кінуўся да Міхася:

«Ты... ты... ты...— задыхаючыся, паўтараў ён.— Ты з чым... надумаў жартаваць?!!»

«Пеця... друг... даруй! — лепятаў Міхась.— Я... я табе... хацеў падарыць... хвілiначку радасці...»

«Радасці?! — закрычаў Пятро.— Якой радасці?»

«Ды ты пачакай!.. Ды ты выслухай! — маліў Міхась.—

Вось спачатку... ты напалохаўся... А калі, калі даведаўся, што пакеты цэлыя, ты ж так узрадаваўся! Праўда ж, узрадаваўся?..»

«Эх ты, барадаты дзівак! — толькі і сказаў Пятро.— А ведаеш, мая першая думка была пусціць сабе кулю ў лоб...»

«Кулю?!» — Міхась збялеў і апусціў галаву.

— І я не разумею...— перабіў мяне Ігар.

— ...Уяві сабе той час. Наша армія вось-вось павінна ісці ў наступленне. Разведчыкі ёй падрыхтавалі месцы будучых прарываў і праходаў праз варожыя рубяжы, пазначылі іх на картах. А Пятру падумалася, што гэтыя карты яны згубілі.

— І затрымалі наступленне,— зразумеў Ігар.

— Так, і што затрымалі наступленне, і што падвялі пад удар ворага нашых салдат.

— Ад інфаркту Пятро мог таксама адразу памерці,— заклапочана сказаў Ігар.— Ад такога хвалявання...

— Мог...

Ігар энергічна ўскінуў галаву, устаў.

— Я ніколі не буду жартаваць з тайнай! — сказаў ён.— Ніколі!

## Галоўны экзамен

— Валя прыходзіла па кнігу? — спытаўся я ў Ігара наступным вечарам.

Ігар спахмурнеў.

— Ану яе!

— Чаму?

— Яна нядобрая.

— Вось табе і маеш! Захапляўся, хацеў сябраваць, і раптам — нядобрая!

— Пакрыўдзіла?

— Мяне?! — здзівіўся Ігар.— Няхай паспрабуе!

— Ты ж прыносіў ёй «Конніка без галавы»?

— Прынёс і не даў. Яна слініць старонкі і загінае лісты. Вось яно што!

— Ты б сказаў: «Нельга псаваць кнігі!»

Ігар фыркнуў:

— Няхай яе тата з мамачкай выхоўваюць!

І, каб спыніць непажаданую размову, тут жа папрасіў:

— Раскажыце, калі ласка, яшчэ пра што-небудзь. У вас жа ўсе выпадкі здараліся толькі па разу,— удакладніў хлопчык.— І ніколі не паўтараліся.

— Як здорава ты захапіў «языка»» — успомніў я.— Другі раз той салдат не будзе варон лавіць. Так і ў нас было... Прыходжу неяк да сябе ранкам у пакойчык, дастаю ключ ад сейфа, устаўляю ў замочную шчыліну, спрабую павярнуць — не паварочваецца. Націскаю — тое ж самае. Не адамкнуць замка, і толькі!

Выняў ключ, агледзеў. Нібыта ніякіх змен. Зазірнуў у замочную шчыліну — нічога не відаць. Рашыў павярнуць сейф шчылінай да святла.

Бяруся за века, сейф жа не лёгкі, і з сілай — р-раз! Века ўгору, я бокам аб стол, ад стала — да сцяны. Ледзь-ледзь утрымаўся на нагах.

— Вы яго не замкнулі! — засмяяўся Ігар.— Усё было цэлае?

— Мігам перагледзеў, пералічыў... Усё ў парадку!

— Нікому пра гэта не казалі? — пацікавіўся Ігар.

— Табе першаму. Я ж сам з сабой вёў барацьбу. І, скажу табе, гэта, Ігар, быў мой апошні выпадак рассеянасці. Неўзабаве паправіўся старшы лейтэнант Мікалай Мікітавіч Руканаў. Я перадаў яму сейф з усімі сакрэтамі.

— Вы страшэнна ўзрадаваліся! — усклікнуў Ігар.

— Канечне! За два месяцы ад маёй рассеянасці і следу не засталося.

— Вось каб і мне так,— уздыхнуў Ігар.— А то бясконца губляю то аўтаручкі, то падручнікі, то кнігі.

І нечакана сціснуў кулакі.

— Пазбаўлюся рассеянасці. Абавязкова! — запэўніваў ён сябе.

— Варта вельмі захацець,— падтрымаў я.

— А мяне дзед так і вучыць: хочаш пазбавіцца якога-небудзь недахопу, стаць валявым — пераконвай сябе: «Пазбаўлюся! Усё роўна пазбаўлюся! Стану, якім хачу!»

Ігарава рашучасць мяне радавала.

А над намі сінела высокае бясхмарнае неба, і неўтаймоўныя ластаўкі лёталі ў ім па сваіх усё новых і новых трасах.

*1975*

## ЦІХА, ЁН СПІЦЬ...

### *Апавяданне старога настаўніка*

— Аркадзь Паўлавіч,— звярнулася да гаспадара кватэры маладая настаўніца,— усе спрачаюцца, а вы маўчыце.

Сярод гасцей Аркадзя Паўлавіча быў і я. Мы ўзрадава-

ліся яе заўвазе. Нашы спрэчкі зацягнуліся. Хацелася, каб нехта іх абагульніў і закончыў.

— Сапраўды, калега,— ледзь не хорам усклікнулі мы.— Вы ж узгадавалі такіх цудоўных дзяцей і ўнукаў! У вас ёсць чаму павучыцца...

Аркадзь Паўлавіч збянтэжана ўсміхнуўся, адпіў з кубачка глыток кавы, паставіў кубачак на сподак.

— Вы, як я зразумеў, сцвярджалі, што сям'я фарміруе характар дзяцей,— сказаў ён.— Але, мне здаецца, трэба помніць, што ў адной сям'і вырастаюць дзеці з рознымі характарамі. Бывае, аднолькавае выхаванне дае супрацьлеглыя вынікі.

Аркадзь Паўлавіч зноў адпіў глыток кавы.

— Калі дазволіце, я раскажу пра выпадак са свайго юнацтва, як я ўзбунтаваўся супраць волі бацькі.

Усе з радасцю згадзіліся выслухаць свайго старшага калегу.

— Маё юнацтва прыйшлося на канец дваццатых гадоў, час бурны і пераломны,— пачаў Аркадзь Паўлавіч.— Жылі мы тады ў невялічкім мястэчку на Полаччыне. Бацька быў звычайным селянінам. Але нас, чацвярых дзяцей, ён стараўся выхаваць такімі ж, як і сам, праўдалюбцамі, стараннымі ў працы і марыў усім нам даць, як ён любіў казаць, самую высокую адукацыю.

Калі апавяданне Аркадзя Паўлавіча было закончана, некаторы час мы сядзелі моўчкі. У кожнага з нас узніклі свае ўласныя ўспаміны, думкі.

Я ўважліва слухаў Аркадзя Паўлавіча. І ў чымсьці яго ўспаміны мне здаліся блізкімі. Пазней яны так пачалі мяне займаць, што я папрасіў у Аркадзя Паўлавіча дазволу на іх аснове напісаць апавяданне. З яго добразычлівага ўхвалення я і прапаноўваю гэтае апавяданне вашай увазе.

Аркадзь сядзеў за сталом — рашаў задачу. Учытваўся ва ўмову, спрабуючы знайсці хоць нейкую зачэпку, з якой можна было б пачаць дзеянне. Каб лепш засяродзіцца, заплюшчваў вочы, зноў і зноў унікаў ва ўзаемасувязь слоў і велічынь. Усё дарэмна.

Ад адчування бездапаможнасці ўзнікла прыкрасць. Ён уявіў: заўтра прыйдзе ў школу, а сябры скажуць: «Мы задачу рашылі». У любым выпадку палавіна аднакласнікаў знойдзе правільны адказ. А чым ён горшы? Дурней, ці што?

— Да раніцы прасяджу! — сказаў сабе.— Не падніму-ся, пакуль не рашу.

— Ідзі сюды,— адчыніўшы дзверы, напаўголасу паклі-

каў бацька.— Хуценька спусціся ў склеп, зірні, што Макс робіць.

Нечаканая размінка! Аркадзь ускочыў з крэсла і ўслед за бацькам увайшоў на кухню.

У падлозе было адкінута вечка, што прыкрывала спуск у склеп. Аркадзь нахіліўся, абапёрся далонямі аб маснічыны, саскочыў уніз. У прыцемку разгледзеў напалоханы твар малодшага брата Максімкі, які адчайна падаваў яму знакі.

Аркадзь памяркоўна ўсміхнуўся, не адказаў на засцерагальныя жэсты брата і вылез наверх. Не пазіраючы бацьку ў вочы, моўчкі выпрастаўся.

«Ледзь не з мяне ростам. Відаць, будзе мажны хлопец»,— падумаў бацька і, не дачакаўшыся адказу, нецярпліва спытаў:

— Ну, што ён?

— Нічога,— сын непаразуменна павёў плячом.— Набіраў у кашолку бульбы.

— Марш у кут! І стой, пакуль не скажаш праўды.

Аркадзь, як здалося бацьку, задзірліва падняў галаву, знарок абыякава засунуў рукі ў кішэні штаноў, падцягнуў штаны і спакойна накіраваўся ў пакой.

«Такога яшчэ не дазваляў сабе,— угнявіўся бацька.— Ну, нічога. Як міленькі прызнаецца і папросіць даравання. Галоўнае — нічога не спушчаць».

З чорнага квадрата падпамосця паказалася кашолка з лазовых прутоў, напоўненая бульбай.

— Тата, падхапі!

Нібы адольваючы неверагодныя перашкоды, з склепа паднімаўся Максімка. Бацька назіраў за ім. Хлопчык збянтэжана апусціў галаву.

— Ты што там рабіў?

— Нічога,— Максімка палахліва ўтаропіўся на бацьку.— Праўда, нічога. Набраў бульбы і вылез.

Не цярпелася спаслацца на брата, але не асмеліўся.

«За свавольства і падман удвая пакараю,— ледзь не вырвалася ў бацькі, але ён спахапіўся.— Пачакаю прызнання Аркадзя. А той замест дапамогі ў выхаванні... Прыйдзецца раз і назаўсёды адвучыць».

— Нясі ў агарод і дапамажы маці садзіць!

Макс паспешліва падхапіў кашолку.

— Работнічкі мне растуць! — кінуў бацька наўздагон.— Сачы ды сачы.

Пакаранне выклікала ў Аркадзя паблажлівую пагарду. Ён спакойна накіраваўся ў сталовую, стаў на даўно адведзенае бацькам месца, павярнуўся тварам да стала, дзе ля-

жалі яго сшыткі. Падумаеш — справядлівасць. Максімка сам добра разбіраецца, што да чаго. Без яго падгляду. А ён не даносчык і ніколі больш ім не будзе.

Аша, Таша, Ашатан
З'ела муху і каштан,—

весела загучала ў яго памяці жартоўная дражнілка для Наташы, якая сядзела за партай перад ім. Прыдумалася калісьці пры гульні ў словы-перакруткі і запомнілася. Вартая дзяўчынка. І любіць вершы... Смех, дый годзе, як жэстыкуляваў Максімка! Ледзь слоік з мёдам з рук не выпусціў. Лячэбны сродак. Палячыцца надумалася! Вядома, бацька адразу пачуў шастанне паперы, калі Максімка развязваў слоік.

Якія ж урокі заўтра? Першым — літаратура. Выдатна! Другім — алгебра. Вось не шанцуе, дык не шанцуе. За ёю анатомія. Гэта лёгка. Потым... Стоп. Стоп-стоп... Эўрыка! Ды к задачы ж прымяніма формула. Калі ўзяць... Калі мы ў самым пачатку возьмем... А потым ураўненне...

Аркадзь забыўся на пакаранне, кінуўся да стала, спяшаючыся, накідаў ход рашэння задачы... Так проста!.. Але, заўсёды проста, калі сам разбярэшся. А цяпер у кут.

Аша, Таша, Ашатан...

У пакой зайшоў бацька, патупаў ля дзвярэй, перасунуў нагамі дыванок, падышоў да стала, памацаў крэслы, нібы правяраючы іх устойлівасць. Сеў і пачаў моўчкі разглядваць сына.

Аркадзь, нібы нічога не здарылася, спакойна, нават весела сустрэў бацькаў выпрабавальны позірк. Задача ж рэшана. Падзяліцца б сваёй радасцю, ды няма з кім.

З-пад стала высоўвалася старая пантофля бацькі. У лахматай дзірцы тырчаў пазногаць вялікага пальца. Нібы адзначаючы такт нячутнай мелодыі, пазногаць стаў то знікаць у дзірцы, то з'яўляцца.

У Аркадзевых чаравіках заварушыліся пальцы. Цікава, ці многа такіх рухаў можна зрабіць?

Раз, два, тры... пятнаццаць... сорак дзевяць, уверх-уніз, уверх-уніз. Сто дзесяць... трыста пяць...

— Урокі зрабіў?

— Але, тата.

Бацька працягнуў руку за сшыткам, паклаў перад сабой, не спяшаючыся, перагарнуў лісты, з разваротам на той жа старонцы паклаў на ранейшае месца і выйшаў са сталовай.

Зайшла маці.

— Зноў? І калі ты паразумнееш?!.

Яна падышла да сына.

— Чаму не просіш дараваць?

І, нібы змоўшчыца, напаўголасу:

— Абед гатую. Я прышлю бацьку.

— Не трэба.

— Дурны! Галодным астанешся.

— Няхай сабе.

Маці падышла да буфета, пабразгатала посудам і, нічога не ўзяўшы, выйшла.

Застацца галодным — паўбяды. Але сёння ж нядзеля. І вечарам у клубе кіно. Кажуць, захапляючы фільм. Як вырвацца? Што ж рабіць?

Дзверы ледзь прыадчыніліся. Паказалася галава Максімкі. Убачыўшы брата ў куце, ён вельмі здзівіўся, працiснуўся ў шчыліну, асцярожна прычыніў за сабой дзверы. Вінавата ўсміхаючыся, на пальчыках наблізіўся да брата і пошапкам спытаў:

— Табе чаго-небудзь прынесці? Я ўмомант.

Аркадзь прамаўчаў.

— Ты нікому не сказаў?.. Не кажы! А то мне пападзе... Ну, чаго табе?

— Нічога,— злосна адказаў брат.

— Ціх-х!..— спалохаўся Макс і азірнуўся на дзверы.— Маці сачэнь з салам паставіла ў духоўку. А тата ў садзе дрэвы акопвае. Ну, я пайшоў. Калі што — я ўмомант. Толькі намякні.

Ён накіраваўся да дзвярэй, але прыпыніўся і, узрадаваны, вярнуўся да брата.

— Прыдумаў! Буду пад акном — свісну. А ты адкажаш.

Не чакаючы згоды, Макс заспяшаўся з пакоя.

Аркадзь з прыкрасцю пазіраў на сонечныя блікі, якія падалі з акна на стол. Пятнаццатая вясна ў яго жыцці. Неўзабаве пятнаццаць гадоў!.. І ніхто з гэтым не лічыцца.

Забягала дзятва — сястра Вера і брат Федзя. Паглядзеўшы на Аркадзя, яны спачувальна ўсміхаліся і тут жа знікалі. З суседніх пакояў, з кухні і веранды даносіліся галасы, бразгат, цяжкія крокі бацькі, паспешлівыя — маці.

Аркадзя не цікавіла гэтая перадабедзенная беганіна. Як добра, што ні сёння, ні заўтра не будзе рэпетыцыі і Наташа-аша або яшчэ хто не забягуць да яго. Непрыемна, калі ўбачаць пакараным. Вядома, Наташа-аша зразумее яго становішча , нікому не скажа, але больш за ўсё і не хацелася б, каб яна ўбачыла. Цікава, каго з хлопцаў караюць і як. Ніхто ў гэтым ніколі не прызнаецца.

Зноў увайшла маці, мокрым ручнікам выцерла на стале цырату. Асцярожна абмінула месца, дзе займаўся і абедаў Аркадзь і дзе цяпер ляжалі яго сшыткі. Расставіла талеркі і ўзяла сына за руку.

— Папросіш?

— Не буду,— адказаў Аркадзь.— Я нічога дрэннага не рабіў.

Абедалі, нібы не заўважалі вінаватага. Прыціхла дзятва. Макс ні на кога не адважваўся зірнуць. Бацька з маці гутарылі аб ранняй вясне, колькі патрэбна градак пад капусту і цыбулю, пад агуркі і моркву, скардзіліся, што будуць замаразкі. Крадком маці пазірала на Аркадзя і ледзь прыкметным паваротам у бок бацькі прасіла павінавацiцца.

Ні крыўды, ні прыкрасці на бацьку не было ў Аркадзя. Думкі прасіць даравання ён адкідваў. І есці не хацелася. Здавалася, сам абед і яго ўдзельнікі перамясціліся ў прасторы і часе, сталі адбіткамі даўно знаёмага фільма.

Зацікавілі садовыя мушкі — веснікі вясны, якія лёталі пад столлю вакол лямпы. Вясёлая карусель, лёгкая, несупынная. Спробы прасачыць палёт адной з мушак не ўдаліся — мігцела ў вачах.

Аркадзь сустракаўся з калючым позіркам маці, у якім быў дакор, з выпрабавальным позіркам бацькі. Шкада маці, так добра і ўважліва адносіцца яна да яго. І хвалюецца, калі хто пакараны, але...

— Мама,— раптам запытала Вера,— а калі Аркадзь будзе абедаць?

— Не клапаціся, дачушка, аб ім,— адказаў бацька.— Сам надумаецца, калі абедаць.

— Ён жа есці хоча,— падтрымаў сястру Федзя.

— Калі б хацеў,— запярэчыла маці,— даўно б сядзеў з намі за сталом.

— А за што яго пакаралі? — цікавіўся малы.

— Будзеце сваволіць і ашукваць,— маці зірнула на прыцішанага Макса,— і вас пакараюць.

Калі б можна было зрабіцца маленькай мушкай і паляцець у акно, Макс паляцеў бы не раздумваючы. Сваё становішча ён лічыў безнадзейным. З кожнай хвілінай маўчання магчымасць прызнання меншала і меншала. Нарастала віна і расла збянтэжанасць перад павелічэннем пакарання.

І нічога нельга павярнуць назад, нельга нічога прыдумаць, прадбачыць. Уцячы б, ды няма куды. Заставалася адно — з заміраннем чакаць, што будзе.

Незразумела, чаму так доўга маўчыць Аркадзь. Раней паўгадзіны не праходзіла, вініўся. Раз, другі, трэці — па-

куль бацька не адступаўся. Калі б Аркадзь нічога не сказаў! Ніколі! Ён ратаваў бы Макса. Што прыдумаць, каб не прызнаўся? Бацька ўсё роўна свайго даможацца.

Пакараўшы Аркадзя, бацька не сумняваўся ні ў сваім праве, ні ў сваёй праваце, як не сумняваўся, што неадкладнасць і строгасць у падобных выпадках прыносяць відавочную карысць. Пакаранаму хапае часу як след падумаць пра свой учынак, поўнасцю адчуць сваю віну і справядлівасць самога пакарання. А прызнанне віны і выпрошванне даравання толькі замацоўваюць бацькоўскі аўтарытэт і надоўга адахвочваюць ад паўтарэння ўсякіх правінак. Услед за адным адразу ж будзе выкрыты і адпаведна пакараны другі. Добры ўрок для ўсіх.

Калі паводзіны Аркадзя абуралі бацьку, то паводзіны Макса пачалі яго непакоіць. Чаму ж ён маўчыць? Няўжо яму не шкада брата? Не маленькі — дванаццаты год! Нібы якісьці эгаіст і баязлівец. Дзе, ад каго паспеў набрацца такіх якасцей?

Аркадзь нікольки не асуджаў Макса. Не ўтрымаўся — і толькі. Падрасце — перастане. Калісьці самому пападала за тое ж самае.

Падлашчванне Макса, яго жах перад пакараннем выклікалі ў Аркадзя прыкрасць і злосць, але яны перайшлі не ў пагарду, а ў спачуванне да брата. Аркадзь адчуў усвядомлены пратэст супраць зацверджанай бацькам самой сістэмы пакарання, якая, як ён зараз думаў, нічога, акрамя абразы і прыніжэння, не дае. У яго даўно расла і ўзмацнялася нянавісць да нагаворвання, ахвотнікі якога дзеля свайго спакою і карысці каго хочаш ставяць пад удар і якіх, як сёння здавалася Аркадзю, дарослыя толькі заахвочваюць.

Успомніўся выпадак, што быў яшчэ ў шостым класе.

Прыйшоў першы, сапраўды цёплы, сонечны дзень вясны, калі нясцерпна захацелася кінуць кнігі, школу і ўцячы з класа куды вочы глядзяць.

— Увага! — крыкнуў адзін з хлапчукоў.— Давайце з вялікай перамены ўсім класам уцячом у лес па кветкі.

— І на алгебру не прыйдзем,— падтрымаў яго другі.— Не разлічылі і — баста! З усімі нічога не зробяць.

Уцяклі. Усе, да апошняй дзяўчынкі. Прапусцілі алгебру, спазніліся на наступны ўрок. Аказалася, тыя двое вярнуліся своечасова. Атрымалі выдатныя адзнакі за адказы, за прыкладныя паводзіны, а ўсім папала. Яшчэ смяяліся з нас... Дагэтуль аднаго Тараканам, а другога Уюном завуць.

Не забыліся. Яны прыкідваюцца, быццам гэтыя мянушкі для іх нічога не значаць. Можа, прывыклі...

Рашэнне працягваць з бацькам паядынак поўніла Аркадзя спакойнай упэўненасцю. Гэтую перамену адразу ж заўважыў Макс, які прынёс на талерцы кавалак духмянага, натомленага ў духоўцы сачня.

— Маці перадала. Смачны!

— Аднясі назад.

— Ніхто не ўбачыць. Тата аб нечым пашаптаўся з ёю і выйшаў некуды, а дзятва на вуліцы. Хочаш, я пакаравулю. Ну?!.

— Аддай маме. Не буду.

Дзіўна. Незразумела. За адну хвілінку можна з'есці. Аж слінкі бягуць. Ён бы...

Але Макс не стаў спрачацца. Мабыць, брат ведае, што рабіць. Малайчына.

Увайшла маці. Аркадзь убачыў яе зморанай, заклапочанай. І засмучанай. Той жа сачэнь на талерцы.

— З'еш!

Перад здзіўленай маці Аркадзь рассмяяўся.

— Людзі ў пустыні бываюць тыднямі — ні драбочка ў роце, а выходзяць пераможцамі над стыхіяй...

Невядомае дагэтуль пачуццё гонару і ўслед за ім — трывогі ахапіла маці. Яе першынец, яе хлопчык нечакана ўявіўся, здаўся другім — мужчынам. Што яго чакае наперадзе? Як аберагчы ад будучых небяспек, насустрач якім ён ужо спяшаецца?..

Пад вечар зайшоў бацька, пануры, маўклівы. Прайшоўся па пакоі, зірнуў на сына. Неверагодна — дагэтуль не прызнаецца. Бацька выйшаў, пакінуўшы дзверы ў калідорчык адчыненымі...

І вось на ўсю ноч ён — адзін. Дзіўна, незвычайна, нават займальна.

Не, ён не пакараны, а вартавы на пасту. Дзе-небудзь на пагранзаставе. І трэба ўслухоўвацца ў гэтую падманную, падступную цішыню, лавіць кожны гук і шастанне. Пільна ўзірацца ў цемень, у ледзь бачныя прадметы і заўважаць самы непрыкметны рух. Адказнасць, небяспека, несупыннае напружанне.

Чуў, некалькі разоў да дзвярэй падыходзіла маці. Прыслухоўвалася...

У акно лілося святло месяца. У старой раме на сцяне абазначылася рэпрадукцыя з «Алёнушкі». Аркадзь не бачыў — помніў яе.

Калі б Алёнушка зрабілася Наташай-ашай, яна і саско-

чыла б на падлогу. Мякка, нячутна, як кацяня. І ціхенька падышла б да яго. Ён узяў бы яе за рукі і пазіраў бы ў яе вочы. Было б лёгка, радасна, хвалююча. Так і стаялі б да самага ранку.

Папасці б з ёю на адну пагранзаставу. І каб у перастрэлцы з парушальнікамі цяжка параніла. Ён апрытомнеў бы ў шпіталі, расплюшчыў вочы, а перад ім — Наташа! Яна — медсястра і ўвесь час праводзіць ля яго пасцелі, корміць з лыжкі...

Несакрушальная і легендарная,
Ў баях узняўшая сцяг перамог.
Табе, любімая народа армія,—

ціха пачаў і, захапіўшыся, Аркадзь праспяваў усе строфы да канца. Потым ледзь чутна, амаль у думках, узяўся чытаць вершы. Без усякага парадку.

У цемнаце, у засяроджанай адзіноце ўсё, што прыпаміналася, гучала, незвычайна ўражваючы, хвалявала.

Я той, каго ты ноччу чула,
Чый вобраз бачыла ты ў сне...

Захапляла амаль незнаёмае адчуванне прыгожага, узнікала пачуццё здзіўлення ад самастойнага адкрыцця не заўважанай раней красы, ад прыналежнасці да яе.

Потым неяк адразу затуманіла і скавала неадольная зморанасць. Аркадзь дакрануўся лапаткамі і патыліцай да сцяны і не помніў, калі і як заснуў на падлозе.

Разбудзілі цяжкія крокі па калідорчыку. Ускочыў, выпрастаўся. Бацька! Выйшаў у двор. Бачыў ці не?..

А яшчэ разведчыкам сябе ўяўляў! Заснуў бы на пасту, а дыверсант у гэты момант прайшоў бы незаўважаным. Сапраўдная здрада! Ганьба і сорам! Аднае ночы не змог прастаяць! У цяпле! А там — на марозе, завіруха, буран...

Сціснуў сківіцы і заскрыпеў зубамі. Чортаў пястун! Хлюпік, падобны на таго самага Таракана, які падгаварыў уцячы ў лес, а сам...

Неўзабаве пачало світаць. Ціўкнуў верабей. Адгукнуўся другі, трэці. Потым адразу выбухнуў вясёлы птушыны пераклік. Праснуліся і загаманілі ў доме. Бацька заспяшаўся на працу. Зайшла ў пакой маці, спуджана зірнула на сына.

— Як ты тут?

— На «выдатна».

— Прысладь? Папросіш? А то пойдзе.

— Не трэба.

— Ты што сабе думаеш?

— Нічога не думаю.

Маці ўздыхнула і выйшла, зачыніўшы дзверы.

— Няхай снедае і ідзе ў школу,— пачуўся гучны голас бацькі.— Вернецца, паабедае, вывучыць урокі і няхай зноў становіцца ў кут.

Толькі зачыніліся за бацькам дзверы, прыбег устрывожаны Макс з мылам і ручніком. Хоць, на яго думку, Аркадзь быў сапраўдным героем, загад бацькі ўнёс у яго сэрца замяшанне.

— Пайшоў! Ідзі памыйся. Я табе паллю. А маці гатуе сняданак. Яечню на сале. Скваркі во такія!.. Я ўжо сабраўся ў школу. І табе дапамагу.

Вера і Федзя бачылі, калі Аркадзь вяртаўся са школы. Пабеглі, сустрэлі. Федзя схапіў партфель з кнігамі, Вера аберуч узялася за братаву руку. Шчабечучы, яны ішлі побач.

— А мы зранку памылі падлогу і на рэчку,— пахваліўся Федзя.— Там дзед Хвядос рыбу вудзіў.

— Назбіралі кветак, жоўценькіх, сіненькіх. Прыбеглі дамоў, паставілі ў вазу,— дасказала Вера і пацікавілася: — А ты сёння пяцёркі нясеш?

— Поўны партфель,— засмяяўся Аркадзь.— Аж не падняць.

— А я падніму! — кінулася Вера да Федзі.— Дай мне!

За абедам Аркадзь не ўтрываў, сказаў маці, каб яна зірнула ў дзённік. Там стаялі тры пяцёркі. За сённяшнія адказы. Самому не верылася.

— Бачыш, які ты разумны! — узрадавалася маці.— На ўсё здатны. Няўжо табе цяжка павінавацiцца перад бацькам? На яго ж плячах усё трымаецца!

— Трэба вучыцца думаць і адказваць за свае ўчынкі,— нечакана для самога сябе выказалася ў Аркадзя.— А вінавацiцца па-рознаму можна.

Ён паабедаў і адразу ж сеў займацца. Маці, прыбраўшы на стале, узяла шытво.

— Я, сынок, не перашкоджу, калі тут сяду?

— Што ты, мама! — адказаў Аркадзь.— Мне весялей.

— А Макс на вуліцу пабег. Сказаў — усё вывучыў. Ён не лянуецца? Як ты думаеш?

— Не, мама. Калі што, я б яго прыцiснуў.

— Дзіця яшчэ... Ты пішы, пішы, не буду перашкаджаць.

— Гавары, мама Ты мне нiколькі не перашкаджаеш.

Гадзіны праз паўтары ён стаў на свой пост у куце.

— Ты што робіш?! — здзівілася маці.

— Выконваю загад.

— А ўрокі?

— Вывучыў.

— Бацькі ж няма. Прыйдзе пад вечар. Ідзі з гадзіну пабегай. Або пачытай.

— Не маю права. Я не хлус.

Настрой быў прыўзняты, і стала лёгка. На ўроку літаратуры ён з такім, як заявіла Вера Ільінічна, пранікненнем у запаветныя думкі і пачуцці паэта прачытаў верш, што слухаць было адно задавальненне.

А як на яго пазірала Наташа-аша! Здаецца, дзеля яе аднае і чытаў.

І на алгебры, калі выклікаў Ермалай Іосіфавіч, выйшаў да дошкі, дакладна, без адзінага лішняга слова прадэманстраваў ход рашэння ўчарашняй задачы, рашыў новую.

Спакой і яснасць памяці захаваліся да канца ўрокаў, і ён яшчэ зарабіў пяцёрку.

Пад вечар вярнуўся з работы бацька. Памыўся, пераапрануўся і зайшоў у сталовую.

— Ну, добры вечар! Здаецца, не бачыліся.

У інтанацыі голасу — шкадаванне аб тым, што здарылася, надзея на замірэнне.

— Добры вечар, тата.

— Як справы?

— Нічога.

— Нічога — пустое месца.

Узяў сшыткі, знайшоў дзённік, пералістаў.

— Што ж, малайчына!

Аркадзь прамаўчаў. Бацька пастаяў у чаканні і выйшаў.

На кухні, дзе шчыравала маці, ён сеў ля акна і замаркоціўся. Потым схамянуўся.

— Памятаеш, Анка, калі наш Аркадзь быў немаўляткам, аніводнага зубіка. І ў яго нешта балела, а што — знайсці не маглі. Ты зусім знемаглася, а я цябе змяніў на ўсю ноч. Трымаю яго на руках, ён плача, аж заходзіцца. Бачу — вось-вось... І слова не можа сказаць, што ў яго баліць... Ды пасядзі ты хоць з хвілінку,— сказаў ён жонцы.

Яна моўчкі села на табурэт.

— І таму, што ні ён мне, ні я яму,— працягваў бацька, — такія родныя, блізкія, плоць ад плоці, кроў ад крыві, слова адзін аднаму сказаць не можам, мне стала так крыўдна, што я зраніў слязу... І ўсё марыў, што прыйдзе дзень, настане часіна, калі мы з ім аб усім будзем гутарыць, з паўслова разумець адзін аднаго і ніколі не нагаворымся... А цяпер — быццам і гаварыць няма пра што...

— Строгі ты з імі, Паўлік,— уставіла маці.

— Ды які ж там строгі! Я толькі дабра ім жадаю. З-за іх упрогся ў такую работу. Зразумей ты мяне хоць раз да канца! Мне страшна робіцца, калі мой сын мне кажа няпраўду, калі мае дзеці мне ў вочы хлусяць!.. Як жа яны такія пойдуць у жыццё? На што аддадуць сваю навуку?

— Памыліўся ты. Пагарачыўся. Дарма ўзлаваўся,— атакавала яго маці.— Табе здалося.

— Не памыліўся. На свае вушы чуў. Ды, у рэшце рэшт, не ў гэтым справа.

— Ат, заладзіў адно: чуў, чуў!

— І да таго ж... Як мне цяпер адступіцца?

— Боязна за аўтарытэт,— з горыччу падхапіла маці.— А другія суткі мучыць невінаватых не баішся! Аркаша заўсёды ж прызнаваўся. А цяпер — не падступіся.

— Падрос. Не тым стаў. А я, мабыць, і не даўмеў... Само жыццё дзеліць нас, а выйсця няма. Сын не бачыць, дзе цэлы дзень бацька, а я не бачу, дзе ён і што. Учора ўзяў сшытак па алгебры, перагарнуў, і ўсё — няўцям, хоць і сам вучыў. От, дзядам лягчэй было з малымі. Чуць падрастуць — у адным хамуце труцца.

Бацька стаяў у ружовых прыцемках пакоя і пакашліваў. Потым раззлаваўся на сябе самога, падышоў да дзвярэй, адчыніў іх, і пакой заліло яркім святлом.

— Ну, вось што, Аркадзь. Я, відаць, не тое зрабіў. І больш ніколі цябе не пакараю,— бацька падняў вочы на сына, па-новаму ўглядваючыся ў яго твар.— Толькі ты сам... дапамагай мне. Аднаму, бачыш, цяжка. А ты ўжо...

— Дапамагу,— амаль бязгучна, адным рухам вуснаў адказаў сын.

На вячэру Аркадзь не з'явіўся. Шукала яго дзятва на чале з Максам. Нарэшце Макс адшукаў брата ў спальні на ложку. Забеглі Вера і Федзя.

— Ціха! — шапнуў Макс.— Ён спіць.

— Спіць,— паўтарылі малыя.

Яны прыкрылі босыя ногі брата коўдрай, прыслухаліся да яго размеранага дыхання і бясшумна падаліся са спальні.

*1969*



# ДАКЛАДНЕЙ САМОГА ПАШПАРТА

Прачытаў жанчыне немаладога веку з маладой цікаўнасцю ў вачах і з задзірынкай у характары апавяданне, якое толькі што напісалася. Пільна сачыў за выразам яе твару, за кожным рухам. Лавіў кожнае слоўца. Часам паслухаеш такія заўвагі — і нібы з цікавым літаратурным крытыкам пагутарыш.

— І назва дрэнная і апавядаеш пра абы-каго,— кажа мая слухачка пасля некаторага роздуму.

— Чаму?

— Табе палюбілася абразлівае слова? — іранічна пытаецца яна.— Нават у назву ўставіў! Іншага не знайшоў? Чысцейшага, гладзейшага?

— Не маё гэта слова, Марыя Пятроўна, а той, пра якую пішу.

— Узяў бы і выкінуў або замяніў.

— У мяне такога права няма, каб падробкамі займацца. Яно ж для яе прывычнае, неаддзельнае.

Суседка засмяялася.

— Сам пішаш, а не можаш! Так я і паверыла. Скажы шчыра — не хочаш... І нейкае імя недарэчнае выдумаў, ды яшчэ да нашага звычайнага бацькоўскага прычапіў. Ты думаеш, чым закавырысцей, тым лепш?

— Вось ужо ў гэтым граху я зусім невінаваты. Бацькі далі гэтай дзяўчыне такое імя. І выхавалі адпаведна...
— За чужыя спіны хаваешся! І слоўца пра іх у цябе нідзе не кінута.
— Дарагая Марыя Пятроўна! Няўжо сапраўды вы думалі, што мне гэтае імя спадабалася?
— Змяніў бы на прывычнае. Гэта ж не пашпарт.
— Слушна кажаце. З самага пачатку і даў я гэтай задзіры звычайнае імя. Дык яна адразу ж запярэчыла, нават абурылася. «Я вам не якое там звычайнае дзяўчо!» Як жа я мог ісці насуперак?
Суседка ўсміхнулася.
— Гаварыў: само за адзін сённяшні ранак усё гэта прыдумалася. З жыцця адну маленечкую зачэпачку ўзяў.
Я паказаў Марыі Пятроўне стос чарнавікоў.
— Бачыце, колькі ўжо пра гэтую асобу пісана і перапісана.
— За сённяшні ранак? — не паверыла суседка.
— А што рабіць? Дзесяць гадоў мінула, як я за гэтую зачэпку зачапіўся. Усе гады яна мяне, праклятая, непакоіла. Сон часам адбірала. І гэты стос — толькі пачатак.
— Пісаў бы пра паважаных людзей. І табе б спакойней. І слухаць было б прыемна.
Я уздыхнуў.
— Яно ж хочацца, але не заўсёды можацца.
— І то праўда,— згадзілася Марыя Пятроўна.
— Дзякуў за спагаду!
— Няўжо гэтая дробязь так доўга тваю памяць мазоліла? — здзівілася субяседніца.
— У тым і бяда мая, а можа, і шчасце,— кажу я.— Нештачка нейкае было, а апавядання няма і няма. А я адчуваю: павінна быць! Вось і непакоіўся прыдумкамі. Каб яны праўдзівей сапраўдашняй праўды зрабіліся. Дакладней самога пашпарта.

*1973*

## УСЕ ДОБРЫЯ!

На лясную сцежку вынырнулі з-за дрэў і кінуліся да мяне жанчына з хлопчыкам.
— Вы тут не бачылі школьнікаў з настаўнікам? — спытала жанчына.— Усім класам.
— На вялікі жаль...

За яе спіной — велічэзны рукзак. У руцэ гаспадарчая сумка, набітая пакункамі і бутэлькамі, у другой — таўшчэзны кій з жалезным наканечнікам. Тэрмасы, біклагі і нават невялічкая сякера ў чахле звісалі ў яе з усіх бакоў. Толькі ў хлопчыка адзін-адзінюткі фотаапарат на жываце.

— І трэба ж прыдумаць такое! — жанчына з сілай уваткнула кій у зямлю.— Экскурсія за горад, а дзецям толькі ўчора пра гэта сказалі! Барысок, гэта мой унук ад старэйшай дачкі, ужо ў шостым, прыбег у дванаццаць са школы. Я абед гатавала, ля пліты стаяла. Як сказаў пра паход у лес, траха не самлела я, каструлю з варам на сябе ледзь не перакуліла. Увесь дзень, вечар, усю ноч рыхтавалася. І сёння прыцемкам усхапілася.

— А мяне не разбудзіла! — скрозь слёзы сказаў хлопчык.— Я ж прасіў!..

— Ах, Барысок! Перад такім нечаканым сур'ёзным выпрабаваннем ты павінен быў добра выспацца,— сказала яна ўнуку, вырвала і зноў уваткнула кій у зямлю.— Гэта ж злачынства — так рана весці малых немаведама куды! Які жах!

— Ужо дзесяць гадзін,— запярэчыў я.

— А што такое дзесяць? Я ж толькі сёння паходную палатку Барыску адшукала!

— Купілі! Навошта?

— А раптам лівень з навальніцай ды яшчэ з градам! Дзе беднаму дзіцяці схавацца?

— На небе ж ні хмурынкі. Ды і сіноптыкі...

— Надвор'е хавае столькі нечаканасцей, што ні на якое яснае неба нельга спадзявацца,— перапыніла мяне жанчына.— Праз хвіліну ўраган можа наляцець! Дрэвы з карэннем угору паляцяць!..

— Тады і палатка не паможа,— кажу я.

Яна ўставілася на мяне так, нібы я і быў гэтым самым страшэнным ураганам.

— Ой, не, не кажыце! Усё ж такі...

І, пільна агледзеўшы неба, пачала бездапаможна азірацца вакол.

— Дык ты ў шостым? — звярнуўся я да хлопчыка.

— У шостым! — не дала і слова яму вымавіць бабуля.— І яшчэ па класу піяніна займаецца... А прыроду ой як любіць! Усё пейзажы малюе.

— Ты з натуры малюеш?

— Навошта з натуры?! — здзівілася бабуля.— З кніжак. Так яшчэ лепш. Ён у мяне сапраўдны мастак. Ад самога

Шышкіна не адрозніш! Мы ўсе яго малюнкі збіраем. Пяць альбомаў ужо зрабілі. Ах, калі б вы маглі пабачыць!..

Раптам яна спахапілася:

— Ну, Барыска, рабіць тут няма чаго. У нас адна, у іх сто дарог. Ды і гарачыня, твая галоўка разбалелася. Ой, як шчокі палымнеюць!.. Не пярэч, сама бачу! Пойдзем дадому!

— Раз вы спазніліся, а рыхтавацца прыйшлося з такім...— я хацеў сказаць камфортам, але чамусьці не асмеліўся,— з такім прадбачаннем, застаньцеся да вечара ў лесе. Унук няхай пабачыць сапраўдныя дрэвы, пачуе птушак...

— Нам ужо не да птушак! — перапыніла мяне жанчына.— Барыска, выпі апельсінавага соку! Ён, здаецца, у гэтым тэрмасе... Не, не тут... І зноў не тое. Ды дзе ж ён?!

— А навошта вам кій такі цяжкі? — не ўтрымаўся я.

— Малады чалавек! — ускіпела жанчына.— Відаць, вы тут упершыню. У гэтым няшчасным лесе паўнютка самых ядавітых змей. Ад аднаго ўкусу дарослы гіне!.. А тут — дзіцё!.. Ну, Барыска, пайшлі!..

Я саступіў са сцежкі, але раптам жанчына павярнулася і, трасучы перада мной кіем, зноў угневалася:

— Самі педагогі вінаваты! У такую небяспеку павялі дзяцей! Без усякай падрыхтоўкі! Бацькі таксама добрыя! Абы дзяцей з рук збыць! Я іх ведаю!.. І ўспомніце мае словы: нікога не прыцягнуць да адказнасці, калі што здарыцца Будзьце ўпэўнены!

*1973*

## А ЯК ПАКРЫЎДЗІЦЦА

От было зненавідзела я Мікалая Міканоравіча! Бачыць спакойна не магла...

Прынялі мяне да яго рахункаводам у разліковую групу. Правалілася я ў інстытуце. З трэскам, як кажуць. Вось і прыйшлося прыткнуцца абы-дзе, каб год дарма не змарнаваць. Вядома, не туды, куды хацелася, але што зробіш...

Цяжка маладзенькай дзяўчынцы на гэтай пасадзе! Сядзі дзень пры дні ды лічы! І ў прыдачу думкі розныя, мары ўсякія ў галаве. І чаму я такая непрыдатная? Усё не па-мойму, усё не так, як хочацца...

А тым часам дапёк мяне Мікалай Міканоравіч: тое не так, гэта не гэтак, тое пералічыць, гэта перапісаць. І без

яго млосна, а ён і ўздыхнуць не дае. Падумаеш, начальства — галоўны бухгалтар! Ды вас ўсіх электронна-вылічальная машына заменіць. За хвіліну выдадзе тое, што за сто год вам не вылічыць! Яшчэ толькі намерыцца падысці да мяне, а я ўжо кплю: «Скарынка ты зачарсцвелая! Лічба на дзвюх нагах!» Ён заўсягды казаў: «Што гэта ў вас за лічба! Дзесяць гадоў вучыліся, а пісаць не ўмееце. Перапісаць!»

А ў мяне сем і чатыры не адрозніш. У школе па матэматыцы ніколі чацвёркі не было. Не любіла я яе.

Што ж... Нічога не зробіш — перапісваю, а сама душу адводжу: «І стварыла ж прырода робата бессардэчнага! І хто цябе любіць, камянюку бяздушную?» Па праўдзе кажучы, баялася яго — аж сэрца замірала. Ледзь з работы не збегла. Сяброўкі з мяне ўсё кпілі: «Папалася да Мікалая Міканоравіча. Ён цябе лепш універсітэта навучыць. На ўсё жыццё!»

Аднойчы надумаліся ў нас вечар самадзейнасці арганізаваць. Узрадавалася я: хоць якая, ды забава. Доўга рыхтаваліся. Я ў спектаклі ўдзельнічала. П'еску добра прынялі. Мне нават апладзіравалі. Потым я перайшла ў залу, каб глядзець, як далей пойдзе. Расхінулася заслона, зірнула і сабе не веру: стаіць сярод сцэны Мікалай Міканоравіч. Я ўжо прыцярпелася да яго, ды і настрой пасля апладысментаў на адпаведным узроўні. «Робат на сцэне!» — смяюся сабе. А ён у модным гарнітуры навюткім, пры гальштуку і... калодкі ўзнагарод у некалькі радоў. Я спачатку падумала, што ён ролю якую выконвае, а потым разгубілася: няўжо ўзнагароды ў яго? Вось кім-кім, а ваенным Мікалая Міканоравіча ніяк не магла ўявіць!

Уздыхнуў ён ды як зацягнуў: «Вот мчится тройка почтовая...» Голас прыемны, гучны, усю залу запоўніў. Бровы падняліся, вочы жывыя, шчокі палымнеюць, грудзі ўздымаюцца... А як заспяваў: «Однозвучно звенит колокольчик» — я і зусім разгубілася. Даўнейшая песня. Коні. Куды ім да сённяшніх сродкаў. Хоць бы да веласіпеда? Кпіла я з гэтых песень. А тут нібы сама па стэпе на тройцы еду і сумую. Таўхель пад бок Васіля, сябрука па школе: «Што ў яго за ўзнагароды?» — «Маскву абараняў, герой Валгаграда, Берлін штурмаваў. Капітанам быў»,— адказаў Васіль.

Мяне нібы варам абдало. За што ж яго так, бедалагу, распісвала? Сорамна стала, нават Васіль заўважыў: «У цябе што, тэмпература ўзнялася?» А я ўсё папракаю сябе: і чаму толькі зараз дазналася, што ён не робат? А ка-

лі б не гэты вечар! Зусім настрой сапсаваўся. Вось і думаю зараз пра ўсё расказаць Мікалаю Міканоравічу, ды баюся. А калі пакрыўдзіцца?

*1956*

## МАБЫЦЬ, ТАМУ

Маёй маме няма калі мяне любіць. І тату няма калі. Яны заўсёды на рабоце. А калі дома, дык абавязкова прымусяць мяне штосьці неадкладнае зрабіць.

Добра, што ў мяне сучасная бабуля. Яна сама ўсё робіць. За сябе і за мяне. «Я,— кажа,— не хачу, каб маёй Светачцы ўся гэтая мука-дакука даставалася».

Я ведаю, што ў мяне павінна быць бясхмарнае дзяцінства. А калі я падрасту, робаты будуць. Ідзеш загараць або ў кіно і толькі скажаш, а робат пасцель засцеле і абед згатуе. Усё зробіць, як мая бабуля. Вернешся, а ён смачненькае табе на стол паставіць.

Я вельмі люблю сваю бабулю. Праўда, твар яе ў зморшчынках, а рукі такія, што калі дакранецца, ажно мурашкі па скуры. Мне лянота займацца гімнастыкай, але я ўсё роўна буду прыгожай. Чаму ўсё роўна? Навука для нашага пакалення эліксір прыгатуе. Не такі, як у мамы, для скуры, а каб ніколі не старэць. Я сама пра гэта чула. Па радыё. Тата сказаў, што гэта фантазія для лянівых. А навошта тады навука?..

Шкада, што бабуля не разумее школьных задачак, а мне няма дзе купіць робата, які сам лічыць. Я хачу, каб ён быў падобны на чорнага чорціка з доўгім хвастом. І ўсё нецікавае за мяне рабіў. Тады маё дзяцінства будзе зусім бясхмарнае.

Прыкра, што мяне і маю бабулю ніхто не разумее. Нават сяброўкі. Яны смяяліся, калі я сказала, што да праса не дакранаюся. Беларучкай празвалі. І слухаць не жадаюць, што я зусім не так павінна расці, як мае бацькі. «Ну і дурнічка ты яшчэ! — здзівілася бабуля.— Навошта прызнавацца, што за цябе робяць? Калі ёсць за кім, чаму не паленавацца!» Якая ж я шчаслівая, што маю такую свядомую бабулю!..

А ўчора мы з ёю да цёткі Зіны ездзілі. У аўтобусе поўна людзей і толькі адно незанятае месца. Бабуля адразу пасадзіла мяне, і я стала глядзець у акно. Я так люблю назіраць, як міма цябе ўсё праносіцца, мільгаціць.

І вось у дарозе ўзяў і прычапіўся да мяне дзядзька. У капелюшы, з рыжай барадой. Зусім незнаёмы. Загадаў мне ўстаць, а бабулю запрасіў сесці. Бабуля кажа, што я яе ўнучка і што ён не мае права да мяне чапіцца. А дзядзька давай яшчэ мяне сароміць! Тады бабуля сказала, што ён самы сапраўдны эгаіст, які ўсіх сваіх дзяцей пакідаў і зненавідзеў чужых. Усе ў аўтобусе смяяліся. А бабуля дала мне шакаладку і сказала, каб я не хвалявалася. Але я зусім замарылася сядзець. І на сваё месца я пасадзіла бабулю, а ўсю шакаладку з'ела стоячы.

Пасля такога выпадку я добра зразумела, хто такія эгаісты. Яны не любяць дзяцей і прымушаюць рабіць толькі тое, што ім хочацца. Гэта яны думаюць, нібыта мне цяжка будзе жыць на свеце. Бабуля кажа, што яны ад зайздрасці так гавораць. Ну і няхай! Я ўсё роўна буду шчаслівай.

Крыўдна, што гэтага не разумее ні мой тата, ні мая мама. Мабыць, таму, што ім заўсёды некалі.

А вы як думаеце: права я са сваёй бабуляй ці не? Можа, і вы мне будзеце зайздросціць?!

*1978*

## НУ І НЯХАЙ!..

Таня з сяброўкамі гуляла на лузе. Алік з хлопчыкамі па-пластунску падкраўся з-за дрэў і атакаваў іх. Ён адразу пагнаўся за Таняй. Яна так напалохалася, што кінулася да канавы і пераскочыла яе. Нават Алік не рызыкнуў скочыць услед. Толькі здзіўлена свіснуў і сказаў:

— Ура! Танька на першым месцы па скачках у даўжыню.

А тая са здзіўленнем пазірала на Аліка, на хлопчыкаў і дзяўчынак, што засталіся там, дзе і яна толькі што была. І здалося Тані, нібы яна пераляцела на другую планету. І тут, далёка адышоўшыся ад берага і разагнаўшыся, да яе пераскочыў Алік.

«Няўжо і я так? Не. Я не адбягала,— прыгадвала Таня.— Адразу кінулася...»

І не кранулася з месца, калі падыходзіў Алік, толькі павярнулася да яго бокам.

— Гайда ў той лясок! — прапанаваў хлопчык і паказаў на малады бярэзнік непадалёк ад іх.

— Мне і тут добра,— адказала Таня.

— Там суніцы паспелі.

— Не хачу суніц.

— Зловім вужа. Вось такой даўжыні! — Алік раскінуў рукі ў бакі.

— І вужа не хачу.

— Ты будзеш скакаць назад? — памаўчаўшы, спытаў ён.

Таня асцярожна зірнула на Аліка.

«Вылінялыя шорты, запыленыя ногі. Чорны ад загару, як і ўсе хлопчыкі. І чаго я збаялася? — Яна ўбачыла яго вочы.— Якія доўгія і выгнутыя вейкі! Нібы ў дзяўчынкі...»

— Захачу — і скокну! — задзірліва сказала яна.

— Хадзем у Баравое, у магазін,— прапанаваў Алік.— Мне трэба купіць падручнікі.

«Я ж цяпер не пераскочу назад! А там па дарозе мост!.. Здагадаўся?! Які ён!..— у Тані і слова адразу не знайшлося.— Які ён... добры! Няўжо?!.» Схаваўшы радасць, яна згодна кіўнула галавой і моўчкі пайшла ўздоўж канавы.

— Та-а-ня, ты куды-ы? — паклікалі з таго боку сяброўкі.

— У Баравое,— адказаў за яе Алік.

У полі пры дарозе стаяла старая груша-дзічка.

— Давай узлезем,— прапанаваў Алік.

— Не хачу,— адмовілася Таня.

— Адтуль усё ўбачыш! Нават свой дом! Не верыш?.. Ды ты не бойся, я падтрымаю!..

Таня зайздросціла ўсім, хто смела лазіў на дрэвы, садзіўся на галіну, нібы на звычайнае крэсла. Толькі яна, няшчасная баязліўка, заўсёды заставалася на зямлі, суцяшаючы сябе тым, што ніколі не ўпадзе з вышыні і на ўсё жыццё, як палохала маці, не зляжа ў ложак.

— Дзяўчаткі не лазяць па дрэвах. Хіба толькі...— Таня хацела сказаць па-мамінаму: шаляніцы, але сказала: — Хіба самыя адважныя.

Тады Алік сам хуценька ўскарабкаўся на дзічку.

— А я бачу твой дом! З коміна дым ідзе,— крыкнуў ён.

— Хлусіш! — засмяялася Таня.— Няма ніякага дыму. І нашага пасёлка адсюль не відаць.

Алік ускарабкаўся на самую высокую галіну і заспяваў:

Огромное небо, огромное небо,
Огромное небо — одно на двоих.

«Які ў яго прыгожы голас!» — здзівілася дзяўчынка.

Дома Таня пахвалілася:

— А я на нашым лузе цераз канаву скокнула. Як на крылах усё роўна пераляцела!

— Не выдумляй абы-чаго! — супыніла яе маці.

— Праўда-праўда! Алік пагнаўся за мной. Я напалохалася. Скок — і на тым беразе!

— Гэты свавольнік не дае табе праходу!.. Заўтра ж пайду да яго бацькоў!

— І зусім ён не свавольнік. Ён такі, як усе хлопчыкі,— запярэчыла Таня.— Толькі вельмі смелы. Я разам з ім у Баравое хадзіла. Ён хацеў, каб я на дзічку ўзлезла... І чаму я так яго баялася, сама не ведаю?

— Знайшла кім захапляцца! — абурылася маці.— Ён цябе навучыць!

— Ну і няхай!

— Што гэта з табой здарылася, не згаварыцца! — здзівілася маці.

— Ну і няхай! — заўпарцілася Таня.

«Маці праўду кажа,— думала Таня.— Мне сапраўды хочацца дзіўнага: зноў пераскочыць цераз канаву. Няхай Алік зноў мяне напалохае». Але, нібы знарок, цэлы тыдзень ён не трапляўся Тані на вочы. А Таня ўсё чакала яго. Яна б цяпер з ім пайшла і ў лес вужоў лавіць, і на дзічку б палезла. Таня паўтарала песню, якую ён спяваў на дзічцы, і ёй здавалася, што героі песні — яны з Алікам. Гэта яны на самалёце ўдваіх. Гэта ў іх сапсаваўся матор, а пад імі — горад... Таня засынала і прачыналася з гэтай песняй і з адчуваннем узрушанай радасці.

І вось нарэшце яна зноў сустрэла Аліка. Ён вучыў ездзіць на трохколавым веласіпедзе маленькую дзяўчынку ў ружовай сукенцы.

— Ты па чарзе націскай нагамі на педалі,— ласкава казаў ён.— І веласіпед сам пакоціцца. Ну яшчэ, яшчэ!..

Ад хвалявання ў Тані застукала сэрца: «Уцячы?.. Падысці?..»

Але ў малой нічога не атрымлівалася. Тады Алік зняў дзяўчынку з сядзення, паставіў на дарогу, сеў сам на яе месца і паехаў. Такі вялікі — і на маленькім трохколавым...

— А, Таня! — гукнуў ён.— А я ў бабулі гасцяваў. Сястрычку прывёз. Павучы яе катацца!

«У Аліка ёсць сястрычка?!. І ён такі з ёю пяшчотны! — здзівілася Таня.— Але яна ніколечкі на яго не падобная...»

— Як цябе завуць? — спытала Таня ў малой.

— Любачка.

— Колькі ж табе гадоў, Любачка-галубачка?

Малая паказала чатыры растапыраныя пальчыкі на руцэ, а пяты, вялікі, прытуліла да далонькі.

— Паглядзі яе,— сказаў Алік.— А я на хвілінку да Санькі збегаю. Можаш сама пакатацца.

Таня ніколі не ездзіла на веласіпедзе. Нават на трохколавым.

— Ты па чарзе націскай нагамі на педалі,— паўтараючы словы Аліка, казала Таня.— І веласіпед пакоціцца... Хочаш, пакажу?

Таня зняла Любачку з сядзення, асцярожна села на веласіпед, паставіла ногі на педалі. І раптам паехала па Алікавым следзе.

— А цяпер ты паспрабуй...

Але веласіпед у малой то каціўся назад, то крута паварочваў убок. Раптам Любачка пахіснулася і пачала падаць. Таня паспела падхапіць яе, але ўпала сама.

— Не баліць? Не выцялася? — ускочыўшы на ногі, спытала Таня.— Я ж цябе ўтрымала? Праўда ж, утрымала?!

— А я ўсё роўна ўпаду! — пахвалілася Любачка.

— Чаму?

— Я заўсёды падаю!

— А вось і я,— нечакана з'явіўся Алік.— У цябе, Таня, калена ў крыві. Давай ёдам памажу!

— Ой, праўда! Гэта Любачка падала, я падхапіла і не ўтрымалася.— Таня глядзела на пунсовы струменьчык, які павалі цёк па назе.

— Ёдам? — успомніла яна.— Памаж, калі ласка!

Алік збегаў дадому, прынёс ёд і вату.

— Ды ты не бойся! Ну і дзівачка! Зараз усё пройдзе...

Таня моцна заплюшчыла вочы, так шчымела, так страшна было ад дотыку Алікавых рук, ад усяго, што здарылася.

— Вось і ўсё. Мігам зажыве!

Дадому Таня ішла радасная, з подбегам, з падскокам. Яна заўсёды зайздросціла ўсім, у каго былі збітыя калені, локці ці хто насіў драпіны! Толькі ў яе ўсё абыходзілася без здарэнняў. А сёння і яна выявіла адвагу. Любачка ж магла зламаць ручку, ножку, а яна падхапіла яе і ўратавала. І сам Алік памазаў ёй рану ёдам! Сапраўднае прызнанне адвагі!

Перад Таніным домам стаяла высокая чарэшня. Абіраць спелыя чарэшанькі лазіў бацька. Таня і маці тады стаялі воддаль і пазіралі ўгору. Маці раз-пораз паўтарала:

— Асцярожней! Глядзі не сарвіся!..

...Цяпер, заміраючы ад захаплення і страху, Таня пад-

скочыла, ухапілася за ніжнюю галіну і, чапляючыся нагамі за ствол, узлезла на чарэшню.

«І зусім не страшна!..»

Адпачыла, пералезла вышэй на галіну і таксама пасядзела.

Памалу дзяўчынка забралася так высока, што апынулася вышэй страхі. Агледзелася навокал, залюбавалася блакітам неба. Усё было незвычайным. Яна зірнула ўніз, і ў яе дыханне перахапіла.

— Вось каб убачыў Алік...

Огромное небо, огромное небо,
Огромное небо — одно на двоих,—

раптам заспявала Таня, і адразу знік страх. Яна спявала, ёй здавалася, што голас яе чуюць ластаўкі ў небе, сяброўкі, тата з мамай, Алік з Любачкай і далёкі горад. Усе, усе!

«Зараз мама прыйдзе. А я тут! Няхай сама ўбачыць!» — сказала сабе дзяўчынка.

— Таня, дзе ты? — з адчыненага акна пачуўся голас таты.— Чую, спяваеш. Зайшоў у дом — нідзе няма.

— Я тут! Тут! — закрычала Таня.

— Ого! — падняўшы галаву ўгору, толькі і сказаў бацька.

— Тут так хораша!

— Ты асмелілася ўзлезці на дрэва? — тата выйшаў з хаты.— Табе памагчы злезці?

— Я сама!

Таня асцярожна пачала злазіць. На ніжняй галіне яе падхапіў бацька і пасадзіў побач з сабой на лавачцы.

— Ведаеш, тата, я распраграміравалася.

— Што, што?

— Рас-пра-гра-мі-ра-ва-ла-ся!.. Праўда-праўда! І стала смелай! Я сама цераз канаву скокнула! І на веласіпедзе пракацілася! Зірні, як я калена пабіла! Ой, хоць бы яно не так хутка зажыло! Я малую ратавала, тата.

— Гэта добра, што ты яе ратавала! — пахваліў тата.

Таня глыбока ўздыхнула, памаўчала і пaціху спытала:

— А яшчэ, татка, сказаць табе нешта?

— Скажы.

— Усё-ўсё?!

— Вядома, усё.

— Я з Алікам пасябравала. Ён харошы хлопчык. Я сама не чакала. У яго сястрычка ёсць. Пацешная-пацешная!.. Тата, а словы ў песні можна перарабіць? Каб героі не гінулі? — раптам спытала Таня.

— Думаю, можна.

— Ой, як гэта будзе хораша! — узрадавалася дзяўчынка.

*1972*

## «СЛІМАК, ПАКАЖЫ РОЖКІ!»

Лідачка расплюшчыла вочы: «Няўжо праспала?» Падскочыла да будзільніка. Так і ёсць! Яна хуценька нацягнула сукенку і зазірнула на кухню.

— А я толькі што збіралася па крапіву ісці,— пажартавала маці.— Мыйся ды хутчэй за стол!

За сняданкам Лідачка засмяялася:

— Мама, ледзь не забылася. Сон бачыла. Такі дзіўны! Ляжу на белай-бялюткай пасцелі, а вакол мяне — кветкі... Учора мы з Надзяй ля рэчкі вянкі плялі. І дамовіліся ў ягады ісці... Ой, што з табой, мама?! — ускліснула дзяўчынка, убачыўшы, як збялела маці.

— Ды... нічога,— сказала маці.— Нешта сэрца сціснула. Не дыхнуць.

Лідачка прыціхла. А паеўшы, папрасілася:

— Можна, мама, у лес схадзіць? Кажуць, суніц поўна. Чаму ты так глядзіш на мяне?

— Пабудзь дома! — папрасіла маці.— Тата павінен прыехаць...

— І яму прынясу. І табе, мамачка... Можна?..

— Толькі не адна, а з Надзяй і Сёмкам.

Лідачка падскочыла да маці, пацалавала яе. Запляла коску, знайшла ў сенцах на паліцы берасцянку і пабегла да суседкі. Надзі і яе брацікa не было.

Лідачцы захацелася піць, і яна вярнулася дахаты. Квас быў у сенцах. Дзяўчынка напілася, падышла да дзвярэй у хату і раптам пачула размову.

— Не к дабру гэта,— казала маці.— Некалі маёй сястры прысніўся сон пра брата Мікалая. Нібыта ён спіць, а вакол яго — кветкі. Да змяркання і памёр...

— Не ўсе ж сны праўдзяцца.— Лідачка пазнала голас цёткі Дар'і.— А дзе Лідачка?

— У ягады пайшла,— адказала маці.— Я ўжо шкадую, што пусціла.

Лідачка на пальчыках выкралася з сенцаў і — наўцёкі. Лес быў недалёка, кіламетры за два. Дарога ішла праз

поле і цераз рэчку. Апынуўшыся за вёскай, дзяўчынка спынілася, каб аддыхацца.

«Ну і што з таго, што сніліся кветкі? А потым я прачнулася, і нічога не было...»

Але Лідачка міжволі задумалася. Ёй прыпомніліся дзве смерці, якія яна бачыла.

Першая была год назад. Пад машыну трапіў Юрка, з якім яна сядзела на адной парце. Лідачка ўбачыла хлопчыка ў труне, і ёй здалося, што Юрка проста заснуў. На другі дзень, калі села за парту адна і зразумела, што ніколі больш не ўбачыць гэтага хлопчыка, яна горка расплакалася.

А зусім нядаўна Сёмка пацэліў з рагаткі ў вераб'я. Лідачка ўзяла яго, яшчэ жывога, і яе ўразіла вока птушачкі — невялічкая чорная кара́лінка,— у якой паступова згасала жыццё.

Лідачцы ўспомнілася гэтая каралінка, і здалося, што так бездапаможна і яна будзе ляжаць на ложку. З яе вачэй паступова знікае жыццё, а Надзя і Сёмка будуць стаяць і моўчкі глядзець на яе.

Вось і рэчка. Гадоў пяць назад — Лідачка не памятае, але ўсе кажуць — тут утапіўся п'яны. Ішоў па кладцы і зваліўся ў ваду.

Кладка — два доўгія бервяны, падчасаныя зверху. Лідачка па некалькі разоў перабягала туды і назад. На сярэдзіне рэчкі садзілася на іх, спускала ногі або лажылася на кладку, сцёбала галінкай па вадзе, прыглядалася да дна, дзе над белымі каменьчыкамі праплывалі акунькі і плотачкі, адшуквала цёмныя мясціны, дзе хаваліся ракі.

А цяпер дзяўчынка ступіла нагой на кладку, і ёй зрабілася боязна. Адразу ўспомнілася: яна сёння павінна памерці. Толькі таму, што прысніліся кветкі. Глупства нейкае! Лідачка прыціснула кулачкі да грудзей, пачула, як калоціцца сэрца, і ногі нібы здранцвелі. Боязна глянуць уніз. Так туды і цягне. Бярвенні доўгія. Канца ім няма. Прыпомнілася — сом у вірах жыве. Пуд заважыць. Кажуць, адразу цяля заглытвае...

Толькі на беразе Лідачка супакоілася. Яна крышку пасядзела на траве, убачыла вузкую сцяжынку, якая вяла ў лес, і пайшла па ёй.

Лес сустрэў Лідачку пахам смалы і суніц. Усе мясціны Лідачка тут добра ведала. Вось і палянка. Першая ягадка ў рот. І другая... Ягад — хоць кладзіся ды бяры жменямі. А тыдзень назад зусім зялёныя былі. Ой, дзве разам! Хто ягадцы паклоніцца, той і ўбачыць. Глядзіш — нібы і няма,

нахілілася — чырванее. Бач ты — слімак. Таксама — на салодкае. Паўягады выгрыз. «Слімак, слімак, пакажы рожкі!» Лідачка ўголас паўтарыла гэтую просьбу, але не стала чакаць, што будзе. Кажуць, нібы з-за Азёрнага ў лес перабраліся змеі. Цётка Дар'я бачыла. Лісток варухнуўся... Змяя! У Лідачкі перахапіла дыханне.

— Ну і дурніца! — сказала яна.— Лісток ад ягады вызваліўся, а я падумала...

Але насцярожанасць не знікала. Ля кожнага кусціка ёй уяўлялася небяспека. Толькі абяцанне прынесці ягад утрымлівала дзяўчынку ў лесе.

«Добра, што мядзведзі ў нас не жывуць, а ваўкі толькі зімой набягаюць»,— думала яна.

Дзесьці далёка завуркатала. Лідачка прыслухалася. Не, здалося. Ужо мала збіраць, менш палавіны. Зноў грукоча. Ды гэта ж навальніца!..

Стрымгалоў кінулася дзяўчынка з лесу.

Першыя важкія кроплі ўпалі, калі Лідачка дабегла да свае хаты. Адсунуўшы засаўку — маці некуды пайшла,— Лідачка ўбегла ў пакой: «Паспела!»

Яна паставіла ягады на стол, схапілася за яго край, аддыхалася. Потым села на лаўку, агледзелася.

Ой, як страшна! Але пакуль што нічога не здарылася. Толькі да змяркання яшчэ далёка. А мамін брат памёр на змярканні. Раптам і яна да вечара памрэ?

Дзяўчынка падышла да свайго століка ў пакоі, узялася праглядаць сшыткі. Апошняя пяцёрка па дыктанце. А вось тройка па арыфметыцы. Надзька вінавата. Збіла з тропу.

Грошы... Тата даў на партфель і кнігі. «Пайсці ў магазін, можа, купіць шакаладак? Усё роўна паміраць...»

Лідачка паглядзела ў акно. Навальніца як быццам прайшла. Дождж скончыўся.

Дзяўчынка схавала грошы ў кішэньку на сукенцы, закрыла дзверы на засаўку і заспяшалася ў магазін. Па дарозе сустрэла Надзю.

— Надзейка мая! Я цябе так люблю! — узрадавалася Лідачка і абняла сяброўку.— Пойдзем па цукеркі!

Купіўшы ласункаў, дзяўчаткі накіраваліся за вёску на ўзгорачак, каб знайсці Сёму. Сустрэлі яго, селі разам і пачалі частавацца.

А калі з'елі цукеркі, Лідачка ўскочыла і крыкнула:

— Давайце пабегаем навыперадкі!..

Толькі позна ўвечары вярнулася яна дадому. Маці па-

давала бацьку на стол вячэру. На стале стаяла і берасцянка з ягадамі. Лідачка зірнула ў яе і ўрачыста сказала:

— А я ўсё ж такі не памерла!..

*1967*

## ГАННАЧКА І ПЯТРУСЬ

Хораша на зімовых канікулах. Вакол вёскі цвёрды снегавы шарпак. Бегай дзе хочацца.

А яшчэ лепш на рэчцы. Яна роўная, нібы стол. І вядзе далёка-далёка ў запаведнік, дзе, кажуць, бабры ў хатках жывуць.

Дзень такі сонечны, што зусім не холадна. Снег увесь у зорачках. Зіхаціць, аж у вочы коле.

У полі ледзь-ледзь ветрыкам павявае. А на рэчцы і зусім ціха. Хлопчыкі і дзяўчаткі тут бавяцца. Хто на санках, на каньках, а хто і так бегае. У каго лыжы — у поле падаліся.

Ганначка і Пятрусь гулялі разам з усімі, а потым Пятрусь падышоў да дзяўчынкі і сказаў:

— Пабеглі бабровыя хаткі шукаць!

Яна падумала і згадзілася.

Петрусю лепш за ўсё гулялася з Ганначкай. Калі настаўніца Наталля Аляксееўна пасадзіла іх на адну парту, то сказала:

— А вы падобныя, нібы брат і сястрычка. Вось і сябруйце!

Некаторыя хлопчыкі штурхалі дзяўчатак, біліся з імі, тузалі за коскі, думаючы, што ад гэтага становяцца сапраўды храбрыя. Вядома, дзяўчаткі абараняліся, а то і самі наступалі. А Пятрусь з Ганначкай пасябравалі.

У белым футры і шапачцы і ў белых футравых боціках Ганначка, нібы зайчаня. Варта крыху адбегчы — і не адрозніш ад гурбы. Коціцца калабком — не дагоніш. А дагоніш — крутнецца ўбок.

І яшчэ прыдумала. Здаецца, вось-вось схопіш яе, а яна — раз! І прыгнецца. І Пятрусь кулём ляціць у снег. Рогату да слёз.

Але і Петруся не лёгка дагнаць. Эх, каб скінуць паліто і валёнкі! Хай бы паспрабаваў хто ўгнацца за ім. Хіба што на лыжах. Ганначчын бацька абяцаў ім лыжы. Ды ў горад не выберацца. А аднойчы з'ездзіў — лыж не было.

Вось рэчка паварочвае. Забеглі за паварот, і адразу ці-

ха зрабілася. Усе дзіцячыя крыкі перасталі сюды далятаць. Ля берагоў высокія гурбы снегу. Толькі верхавінкі вербалозу ды алешын тырчаць.

— Ой, задыхалася...— крыкнула Ганначка.— Пачакай.

Пятрусь спыніўся.

— Кажуць, там цэлае бабровае паселішча,— сказаў ён.

— Але бабры днём спяць,— запярэчыла Ганначка.

— Мы сляды пашукаем,— адказаў Пятрусь.— А па слядах хаткі знойдзем.

І яны пабеглі.

— У запаведніку мядзведзі ёсць! — крыкнуў Пятрусь і зноў прыпыніўся.— Толькі зімой яны ляжаць у берлагу і лапы смокчуць.

— І я...— Ганначка прыпынілася.— І я, калі была малая, любіла свае пальцы смактаць. Мама мяне па руцэ, па руцэ... А мядзведзя біць за гэта ніхто не асмеліцца.

— Яго лёгка навучыць на веласіпедзе ездзіць,— сказаў Пятрусь.— І нават на матацыкле.

— А калі такога мядзведзя ў кабіну пасадзіць? Замест шафёра. Ён і машыны павядзе? — спытала Ганначка.

— Вядома, павядзе,— упэўнена адказаў Пятрусь.— Толькі правілам вулічнага руху трэба навучыць.

— І камбайнерам можа стаць,— сказала Ганначка.

— Не,— падумаўшы, не згадзіўся Пятрусь.— На камбайнера розуму не хопіць. Гэта складаная тэхніка.

Так, перагаворваючыся, то пабраўшыся за рукі, то паасобку, супыняючыся і абганяючы адзін аднаго, яны беглі па беразе замёрзлай рэчкі. Ужо далёка ззаду засталіся пасёлак і месца, дзе яны забаўляліся.

Нечакана Пятрусь убачыў перад сабой плямку лёду: нібы дзіцячая коўзанка на дарозе, якую дарослыя абыходзяць. Ён надумаў пакоўзацца.

Ганначка бегла ўслед за Петрусём. Ён пабег хутчэй, а дзяўчынка, наадварот, трошкі прыпынілася і раптам убачыла, што Пятрусь знік. Толькі вось быў перад ёю, і няма. Адна жоўтая шапка-вушанка засталася сярод чорнага правалу.

Дабегшы да палонкі, разгубленая Ганначка спынілася. Яна ўбачыла, як Петрусёвы рукі ляглі на беражок і як, звонка хруснуўшы, лёд абламаўся.

Па снезе дзяўчынка абабегла палонку і ўбачыла збялелы твар таварыша: вочы вялізныя, напалоханыя і сінія-сінія.

У Петрусёвых вачах засвяцілася надзея: ён жа не адзін. Ганначка дапаможа выбрацца!..

Са снегу Ганначка ступіла на лёд, каб падбегчы і схапіць Петруся за руку, але тут паслізнулася і ўпала тварам у снег. Паднялася — зноў упала. Калі Пятрусь праваліўся, вада заліла лёд. Ганначка зразумела, што на такім лёдзе ёй ніяк не ўтрымацца. Яна выбралася на снег, крыкнула Петрусю:

— Зараз! — і пабегла да берага.

Адзежа на хлопчыку рабілася ўсё цяжэйшая і цяжэйшая. Мокрыя рукавы паліто саскоўзвалі з краю палонкі. Пятрусь зноў і зноў апускаўся ў ледзяную ваду. А Ганначка бегла да зараснікаў вербалозу і алешніку, прыкідвала, што зламаць. Вербалоз пругкі, не адолееш. Алешына крохкая, паддасца лягчэй.

Вось і зараснікі. Але снегу тут ледзь не з хату вышынёй. Правальваючыся па плечы, абвальваючы гурбы на сябе, Ганначка прабівалася да бліжэйшай алешыны.

На галінках алешыны чорныя шышачкі, сям-там прысыпаныя снегам. Крок, яшчэ крок. Дзяўчынка дабралася да дрэва, абхапіла яго рукамі і рванула на сябе. Не паддаецца. Тады Ганначка палезла на верхавіну, разгайдала дрэва і рыўком адкінулася назад. Ствол унізе хруснуў. Ганначка паляцела ў гурбу.

«Канец яму, верх мне»,— рашыла дзяўчынка. Яна трывожна кінула вачыма на палонку. Пятрусь трымаецца!

— Бягу-у! — крыкнула.

Не дабегшы да краю палонкі, цераз паласу лёду падала зламаны канец Петрусю. Хлопчык ухапіўся за стволік адной рукой, потым другой і яму адразу стала лягчэй трымацца.

Узяўшыся за развілку верхавінкі, Ганначка ўперлася нагамі ў снег і пацягнула. Рукі Петруся напружыніліся, ён падняўся над беражком, але выбрацца з палонкі не змог.

Ганначка пераступіла шырэй, мацней пацягнула. Не, так нязручна. Тады павярнулася да Петруся спіной, закінула голле на плечы, прыціснула рукамі, нахілілася ўперад.

Цяжка было Петрусю выбірацца з вады. Трымаючыся за алешыну, ён спрабаваў абапірацца аб лёд локцямі,— і саслізгваў, зноў упіраўся і зноў саслізгваў.

Нарэшце Ганначка так нахілілася наперад, што ўпала. Падаючы, моцным рыўком пацягнула Петруся за сабой і выцягнула на лёд. З рукавоў і з-за каўняра хлопчыкавага паліто цяклі струменьчыкі вады.

Ганначка адпусціла алешыну, моцна-моцна зажмурыла вочы, радасна ўздыхнула.

— Цяпер можна смела казаць, што ты ў баброў гасцяваў. Трэба дадому бегчы! — сказала яна.— А то мароз...

Пятрусь ішоў павольна, хістаючыся. Адзежа на ім хутка заінела і адубянела. Крокі хлопчыка рабіліся ўсё карацейшыя, і неўзабаве ён зусім змогся.

— Кладзіся! — сказала Ганначка.

Пятрусь упаў на снег. Ганначка ўхапіла яго за рукаў і бокам пацягнула па сваіх слядах.

Як хутка і лёгка яны дабеглі сюды! І якая нечакана доўгая дарога назад!

Але пра гэта не трэба думаць. Ганначка добра ведала, што Петруся нельга кідаць аднаго. Нахіляючыся ўперад і крыху ўбок, яна ступала і ступала па зорачках рыпучага снегу.

Пятрусь стараўся варушыць пальцамі рук і ног. Яму было няёмка перад Ганначкай. І было боязна, што бацька і маці насварацца на яго і на Ганначку накрычаць. А яна ж ні ў чым невінаватая... Можа, удасца дома хуценька пераапрануцца, каб ніхто не заўважыў... Вось, каб невідзімкай...

У Ганначкі калацілася сэрца, пот заліваў твар. Яна цяжка дыхала, але ішла і ішла. Спынялася, каб толькі перамяніць руку.

У роце перасохла, у грудзях гарэла...

Раптам з-за павароту, пра які зусім забылася Ганначка, пачуліся крыкі. Ганначка ўбачыла дзятву, што спяшалася насустрач. У вачах пацямнела, ногі падагнуліся, і дзяўчынка ўпала.

Ганначка не чула, як дзеці асцярожна паклалі яе і Петруся на санкі і бягом пацягнулі ў вёску.

Яна амаль не помніла, як яе прынеслі дамоў, як маці распранула яе, напаіла гарачым малаком з мёдам і паклала ў пасцель.

Спала Ганначка моцна і доўга. Нават не чула, як да позняга вечара і назаўтра ранкам да іх прыходзілі суседзі, прыбягалі дзеці. Была і настаўніца Наталля Аляксееўна.

І Пятрусь, якога маці напаіла гарачым чаем з малінай і добра нацерла спіртам, спаў доўга-доўга.

Прыснілася яму, што яны з Ганначкай усё ж такі гасцявалі ў баброў. Пілі там чай з малінай, а закусвалі хрусткімі вербалозавымі галінкамі.

*1967*

# ХАЙ ВОЖЫКІ ЧЫТАЮЦЬ...

Мы з Лідай сядзім за адной партай, разам рыхтуем урокі і разам ходзім у школу. Толькі погляды на жыццё ў нас зусім розныя.

Мяне ўсё цікавіць: што ў свеце адбываецца і ці ёсць дзе яшчэ такая цывілізацыя, як у нас на Зямлі; ці думаюць такія волаты, як дуб або баабаб, і што ёсць у Эрмітажы. А для мае сяброўкі ўсё такое — абы-што, непатрэбнае. «Хай вожыкі пра гэта чытаюць!» — весела смяецца яна.

А цяпер пра адну з нашых спрэчак.

Вяртаемся мы ўчора са школы. Сонечны вясновы дзень такі ціхі і цёплы, што хочацца ісці павольна і любавацца ўсім наваколлем. І мы не спяшаемся. Памахваем партфелямі, азіраемся, штохвілінна спыняемся. Неяк я нахілілася да ўзбочыны дарогі і адразу здзівілася:

— Ліда, зірні сюды!

— Знайшла? — пытае яна.— Пакажы што!

— Ды не,— адказваю,— намалявана.

— Дзе?

— Ды вось, перад намі,— паказваю на ўзбочыну.— Птушкі скакалі, ці што?

— Гра-азь,— скрывілася мая Ліда.— А я думала...

А я ўпершыню ўбачыла такі дзівосны ўзор. Нібы іголкі на яловых лапках, і ўсё ў розныя бакі! Як на цiснёнай тканіне.

— І тлуміць галаву няма чаго! — адказвае Ліда.— Прайшлі і натапталі.

— Хто? Тады б сляды былі.

— Машына праехала,— першае, што прыйшло ў галаву, кажа Ліда.

— Якая ж гэта машына? — пярэчу я.— Гразь не ўціснута.

— Ну, нехта намаляваў. Палачкай.

— Хіба столькі намалюеш! — здзівілася я.— Зірні: уся абочына... Можа, зрэзаную елку хтосьці цягнуў?

— Выдумваеш,— бярэ мяне за рукаў Ліда.— Пайшлі!

А як пойдзеш, калі не церпіцца самой да ўсяго дашукацца. Калі елку цягнеш, так не адцiснецца. А тут лапкі, лапкі! Ды ўсё ўзорчата!

— Знайшоўся мне следапыт! — смяецца Ліда.— І глядзець няма на што.

— Няма на што! — узбунтавалася я.— А адкуль такі дзіўны ўзор, і не ведаеш!

— І ведаць не хачу пра рознае глупства.

— А можа, не глупства,— гарачуся я,— а цэлае адкрыццё!

Ліда смяецца:

— У гразі і — адкрыццё! Ну і насмяшыла!..

— А ты ведаеш, што такое гразь? — зусім раззлавалася я.— Зямля з вадой. Не было б гразі — і хлеба не было б! І нас з табой!

— Што вы спрачаецеся? — дагнаўшы нас, спытаў Юрык, наш аднакласнік.

— Ды вось,— смяецца Ліда.— Ірка не ведае, хто нашу дарогу размаляваў.

— Вось гэта?! — махнуўшы партфелем, Юрык здзеклівым позіркам акінуў узорыстую паласу.— Я размаляваў!

— Я ж ёй казала! — зарадавалася Ліда.

— Няўжо! — разгубілася я.— Н-не можа быць!

Мне падабаецца Юрык. Ён так здзіўляюча адкажа табе на любое запытанне, што ніяк адразу не разбярэш: верыць яму ці не верыць.

— Праўда! — нават не ўсміхнуўшыся, пацвярджае Юрык.— З вады, што тут была, ноччу я намарозіў іголачак і рассыпаў па ўзбочыне, а днём высушыў на сонцы. Іголачкі пакінулі сляды. Вось і ўся тэхніка...

Сказаў і пабег далей.

— Ну што! — з пачуццём уласнай перамогі сказала Ліда.— Чула?

— Ды няўжо ты не зразумела, што Юрык здзекаваўся з нас? — адказала я сяброўцы.— Чаму ж мы з табой не дацямілі, што гэта — самая звычайная з'ява прыроды?! Як ты думаеш?

— Нічога не думаю,— зноў весела прызнаецца Ліда.— І думаць не буду! Хай вожыкі гэтым цікавяцца!

З пачуццём нечаканай крыўды і жалю за сяброўку і чамусьці за сябе я сказала:

— Так зусім не цікава жыць на свеце!

— Не цікава, ды лёгка! — крутанулася яна перада мной.— А што лепш?

Я не пярэчыла. Спачатку ад здзіўлення не знайшлася, што сказаць, а потым падумала: спрачайся не спрачайся — словамі Ліду не пераканаць.

А мне нават крупнік згатаваць або спаднічку сабе пашыць і то трэба падумаць! Кілімную дарожку вынесеш ля дома і глядзіш, дзе стаць, каб на цябе пыл не ляцеў...

А вось чаму ва ўсім гэтым я сваю сяброўку ніяк не пераканаю — не ведаю. І на вожыкаў спаслацца не магу.

*1967*

# ГОРАД БЕЗ ПАПУГАЙЧЫКАЎ

Валодзя, худзенькі хлопчык з вялікімі задуменнымі вачыма на бледным твары, апрануты ў цёплы пушысты гарнітур, застаўся дома адзін. Бацька з маці пайшлі на работу, сястрычку адправілі да бабулі. Валодзя доўга хварэў, і ў школу яго пакуль што не пускалі.

Каб не адстаць у вучобе, Валодзя рыхтаваў урокі, чытаў, маляваў. Ён прыбіраў кватэру, сам на электрычнай плітцы падаграваў яду, але ўсё надакучыла.

Хлопчык марыў аб незвычайным. У далёкай Бразіліі ў кожнай сям'і жыве анаконда — да дзесяці метраў даўжынёй. Без яе ні адно дзіця кроку не ступіць. Яна — смерць для ўсіх ядавітых змей. Пяшчотная, нібы кацяня. Валодзя сядзеў бы з ёю на тахце і забаўляўся.

Вядома, пра анаконду можна толькі марыць. Надзеі аніякай. Але ў аўтобусе аднойчы ён убачыў дзядзьку, які трымаў на каленях клетку. У клетцы сядзелі два папугайчыкі — зялёны і блакітны. Дзядок падрабляў голас, свіркаў. Птушкі дружна адгукваліся. Было вельмі весела. Гаварыў, што папугайчыкаў вязе ўнучцы.

Не можа быць, каб ні ў каго ў горадзе не было гэтых дзіўных птушак...

Хлопчык зручней прымасціўся ля тэлефона, паклаў перад сабой кнігу абанентаў і адшукаў спіс хатніх адрасоў.

Абакалін Н. В.— 29-74, Абакрын В. С.— 74-91, Абалкін Ю. Ю. Можа, лепш пачаць з канца? Вось Яшчук І. І.— 22-00, Якарчэня Н. В. ...І тут нейкія незнаёмыя прозвішчы. Не, ні з пачатку, ні з канца, а лепш з сярэдзіны...

Доўгія гудкі з перапынкамі ідуць адзін за адным: ту-у-у — цішыня, зноў — ту-у-у... ту-у-у... Ніхто не падыходзіць.

Валодзя ўявіў: недзе ў горадзе на другім або трэцім паверсе ёсць кватэра. Кухня, спальня і пакой, калідор і ванна. У пакоі — стол, шафа з кнігамі, тэлевізар, у спальні — канапы, шыфаньер з люстэркам. І нідзе нікога. Толькі вада з крана на кухні: пюнь, пюнь.

Хлопчык смялей набраў наступны нумар. Кароткія гудкі: ту-ту-ту. Хтосьці размаўляе.

У газетах пішуць, што хутка тэлефоны заменяць відэатэлефонамі. Ля кожнага апарата — экран, бачыш, з кім гаворыш. Тады нельга будзе розным недарэкам свавольнічаць па тэлефоне: «Давайце трыццаць тры сігналы праверкі» або «У вас прышчэпкі ёсць?».

21-21. Лёгка запомніць. І прозвішча не страшнае: Пап-

чанка М. М. «Ту-у-у...» і адразу — «Я слухаю». Сярдзіты густы бас. Валодзя ўздрыгнуў. «Я слухаю»,— нецярпліва паўтарыў бас.

«Высачэзны, тоўсты, у шэрым, з гальштукам, лысіна, бровы чорныя... Сядзіць за сталом, нібы дырэктар у школе, піша»,— уявілася Валодзю. Але чаго маўчаць? Смялей!

— У вас папугайчыкі ёсць? — Валодзя не пазнаў свайго голасу.

— З падобнымі пытаннямі належыць звяртацца да кіруючай адміністрацыі адпаведных устаноў,— адказаў бас і паклаў трубку.

Расхацелася пытацца.

За акном на шэрай зямлі брудныя плямы снегу. Воддаль рыжаватая сцяна шматпавярховага дома. Цёмныя прамавугольнікі акон. У адным чамусьці ўсе дні гарыць лямпачка. І нідзе нікога.

Пазваніць яшчэ...

Пасля першага гудка цікаўнае, нясмелае: «Хто там?» Дзіцячы голас. Відаць, дзяўчынка. Адна ў пакоі. Бабуля пайшла ў магазін або сядзіць на кухні ля пліты і вяжа.

— У вас папугайчыкі ёсць?

— А хто пытае: хлопчык ці дзяўчынка?

— Хлопчык.

— Мне мама забараніла гаварыць з хлопчыкамі.

— Чаму?

— Бо яны ўсе хуліганы.

Валодзя не ведаў, што адказаць. Дзяўчынка трубку не клала.

І зноў цікаўнае:

— А навошта табе папугайчыкі?

— Гуляць з імі.

— Ты адзін?

— Але.

— Як цябе зваць?

— Валодзя.

— А мяне — Зіна. А што ты робіш?

— Хварэю.

— І я хварэю. Мне вельмі сумна.

— І мне.

— У цябе таксама нікога — ні брата, ні сястры?

— Сястру адаслалі да бабулі.

— А я зусім адна. Мама рада, што я радзілася дзяўчынкай. Цяпер хлопчыкі — адно гора. І пра цябе мама так кажа?

— Не ведаю. Мама пра Кацю гаворыць, што ёй трэба было хлопчыкам нарадзіцца.

— Праўда! Я хацела б з ёю пазнаёміцца. І з табой. Толькі мая мама...

Валодзя пачуў, як дзяўчынка ўздыхнула.

— Дарослыя знаёмяцца, з кім пажадаюць,— працягвала Зіна.— «Мы ведаем, з кім можна, а з кім нельга»,— кажа мама. А я таксама ведаю.

Валодзя прамаўчаў. З кім ён дружыць або сустракаецца — дома не пытаюць. Ён сам аб усім расказвае.

— Ой, нехта зараз зойдзе! — заспяшалася Зіна.— Дзе ты жывеш? Скажы нумар! Заўтра пазва...

Не дагаварыўшы, яна паклала трубку.

Валодзя ўсміхнуўся. Размова па тэлефоне яму спадабалася.

На наступны выклік доўга ніхто не адгукаўся, але хлопчык не клаў трубку — слухаў песню, якая гучала па лініі:

Зайчык маленькі,
Чым ты жывенькі?
— Я і сам дзіўлюся.
Чым я жыўлюся.
Пасаджу капусту
Ні рэдка, ні густа.
Пайду я рана,
Капуста парвана,
Пайду я позна,
У капусце...

Рэзкае і кароткае «Алё-ё!» абарвала песню.

— У вас... скажыце, калі ласка... папугайчыкі ёсць?

— Што?

— У вас папугайчыкі ёсць?

— Не паспеў навучыцца трубку трымаць, а ўжо хуліганіш. Вось паклічу міліцыю, і твайго бацьку аштрафуюць, а тэлефон абрэжуць. Шыбенік няшчасны!

Голас хрыпаты. Нейкая зласлівая старая, відаць, падобная на тую, што жыве ў суседнім пад'ездзе. Курыць і крычыць на хлапчукоў, а з пераносся пудра сыплецца.

— Якіх табе, хлопча, папугайчыкаў трэба? — здзівіў Валодзю пявучы голас невядомага Памяранцава А. А. Хтосьці, падобны да чарадзея з казак!

— Аўстралійскіх.

— А навошта?

— Навучыць размаўляць.

— Эге, мілы! А тыгра або гіпапатама табе не хочацца? Кракадзіла ці кобру? Во гэта дзіва. А лепш за ўсіх, ведаеш, каго?

— Не-а.

— Нашага верабейку. Ты толькі прыгледзься да яго. Якая ва ўсім незалежнасць! Вось дзе характар! А што такое папугаі і папугайчыкі? Трашчаць, на ўсе галасы паўтараюць даўно вядомае... Вось яно як, хлопча.

Валодзя засмяяўся, хоць і не зусім зразумеў, што сказаў гэты Памяранцаў.

Пры наступных выкліках хлопчыку зноў не шанцавала. Або не адгукаліся, або адказвалі: «Не, няма» — і адразу клалі трубку. Валодзю абрыдла званіць.

— Ніяк не магла дазваніцца! — здзівілася маці, вярнуўшыся з працы.— Усё занята. Ты з кім размаўляў?

— З папугайчыкамі,— адказаў Валодзя.

— І на цябе не сварыліся? — строга сказала маці.— Глядзі, а то нам тэлефон адключаць.

Назаўтра Валодзя ўспомніў пра папугайчыкаў толькі тады, калі ўбачыў праз акно дзяўчынку з партфелем. Пазваніць Зіне? А нумар забыўся. Здаецца, гэты. Вось узрадуецца. Далікатнае жаночае: «Я вас слухаю» выклікала ў хлопчыкавай памяці твар тоўстай жанчыны з цырульні, якая падстрыгала яго і ўсё распытвала, кім працуе бацька, маці, дзе яны жывуць.

— Скажыце, калі ласка, у вас папугайчыкі ёсць?

— Як вы сказалі?

— У вас папугайчыкі ёсць?

— Даруйце — не разумею. Зараз падыдзе муж.

Валодзя пачуў прыглушанае:

— Ідзі сюды!.. Я не магу... Там пытаюцца пра нешта незразумелае...

— Я слухаю,— насцярожаная, але паспешлівая інтанацыя, нібы ў настаўніка па арыфметыцы.

— У вас папугайчыкі ёсць?

— А каму вы звоніце?

— Вам.

— Нам! Як прозвішча і па якім тэлефоне?

Валодзя назваў прозвішча і нумар тэлефона.

— А адкуль вы даведаліся?

— З нашай кніжкі.

— Вось што, малады чалавек,— голас гучаў так рэзка, што аж затрымцела ў трубцы.— Я такімі глупствамі не займаюся! І вам не раю!

— Перапужаліся,— гучна сказаў Валодзя.

Ён чамусьці ўспомніў пра вочка, якое ўставіў іх сусед у сваёй кватэры. Перш чым пусціць каго, гаспадар доўга глядзіць у вочка. І ў гэтых, мабыць, тое ж самае. А дзверы

на тры замкі. І на паштовай скрынцы нумарны замочак.

— Дзяўчаткі, ціха! — пачулася ў трубцы пасля таго, як хлопчык набраў чарговы нумар.— Што-што? Папугайчыка? Можа, лепш папугайку? У нас ёсць. Марынка, цябе запрашаюць! Хочуць пазнаёміцца.

— Яна сама папугайка! — закрычаў другі голас.— Колькі табе гадоў? Ты цалавацца ўмееш?

Пацалункі Валодзю не зацікавілі. Ён лёгенька націснуў на рычажок.

— Табе з заўмагазінам трэба б сазваніцца. Але шкада, у нашым горадзе такога магазіна няма,— пачуў ён спакойны голас мужчыны, калі набраў яшчэ адзін нумар.— Што ж прыдумаць? Магчыма, што ў каго ёсць папугайчыкі, у таго няма тэлефона. Ты даўно шукаеш?

— Даўно.

— Але, брат, задача нялёгкая. Не вырашыць адразу. Настойлівасць і час патрэбны. Мабыць, хварэеш, калі ўзяўся за такія пошукі?

— Я паправіўся, а ў школу не пускаюць.

— У майго пляменніка акурат такая непрыемнасць. Але ён без тэлефона,— з людзьмі ніякіх кантактаў... Ну, вось што. Ты дай свае каардынаты: адрас, тэлефон... На рабоце ў мяне заўтра выхадны. Я ў сяго-таго распытаю і заўтра пазваню. У гэты ж час — у пятнаццаць нуль-нуль. Дамовіліся?.. Запісваю. Ого, брат, мы, аказваецца, цёзкі! Мой нумар не забудзеш? А пошукі працягвай.

— А кім вы, дзядзька Валодзя, працуеце?

— Ну, брат, не ўсё адразу. Пры сустрэчы пагаворым. Ясна?

— Ясна! — адказаў хлопчык.

Ён паклаў трубку. Уявіў сабе дзядзьку Валодзю. Спачатку дзядзька Валодзя быў падобны на марака Жору, які мінулым летам вярнуўся са службы. Усе хлапчукі гужам хадзілі за ім. Шкада, паехаў вучыцца. Потым успомніўся дзядзька Мікола — машыніст электравоза. Потым... Хутчэй бы пазваніў. Калі б ён жыў у гэтым доме...

Шукаць папугайчыкаў расхацелася. Пазваніла маці, потым Соня, шэф з іх піянерскага звяна. Дзяўчынка расказала, што ў школе, што задалі на заўтра. Валодзя запісаў. Радасць не пакідала яго ні на хвіліну.

— Соня, а мне папугайчыка абяцалі. Я па тэлефоне пазнаёміўся. Каб ты ведала, які гэта чалавек! Мой цёзка! Вось убачыш, ён з ваенных. Нядаўна дэмабілізаваўся. Так і кажа: «Заўтра ў пятнаццаць нуль-нуль».

Хлопчык ледзь дачакаўся заўтрашняга дня. Ён баяўся,

што на іх лініі раптам абарвецца сувязь ці сапсуецца тэлефон у дзядзькі Валодзі. Баючыся забыць, паўтараў нумар. Рупіла пазваніць самому. Ён набіраў першую лічбу, другую, трэцюю, а на апошняй спыняўся. Калі дамовіліся, нельга непакоіць.

У пятнаццаць нуль-нуль пачуўся званок.

— Я слухаю.

— Вітаю цябе, цёзка. Як здароўе?

— Добрае.

— Ты скажы, да цябе можна зайсці?

— А як жа! Я і маме, і тату пра вас казаў.

— Вельмі добра. Хвілін праз дваццаць буду.

Дзядзька Валодзя быў не падобны ні на марака Жору, ні на дзядзьку Міколу. Значна старэйшы, з кіёчкам і накульгваў.

— Праходзьце!.. Сядайце!.. А я думаў...

— Ты думаў — я зусім малады,— засмяяўся дзядзька Валодзя.

— Вы франтавік, як і мой дзядуля? З «кацюш» стралялі? Праўда? І Берлін штурмавалі?

— Так, брат, адгадаў,— усміхнуўся госць.— Артылерыстам быў. А да Берліна не дайшоў. Пад Варонежам параніла. А дзе твой дзядуля?

— У шпіталі. Яму кожны год трэба лячыцца.

— Знаёмая гісторыя. Ну дык бліжэй да справы.

З кішэні пінжака дзядзька Валодзя выцягнуў невялічкую кардонную каробачку, напакаваную ватай, і дастаў з яе...

— Што гэта?

Хлопчык разгубіўся і не ведаў, што сказаць. Дакладней, ведаў, але не рашаўся. А раптам у гэтай звычайнай рэчы хаваецца нешта нечаканае.

— Ну... курынае яйка.

— Зусім правільна! — узрадаваўся дзядзька Валодзя. Ён асцярожна паклаў яйка на стол пасярод невялічкага кальца, якое зрабіў з вяровачкі, што выцягнуў з кішэні. Потым устаў, адышоўся ад стала да дзвярэй і прытуліў абедзве далоні да рота.

— Кр-ру, кр-ру! — пачуўся далёкі, нібы крык крумкача, гук.— Кр-ру, кр-ру, кр-ру!

Яйка само нібы зварухнулася на стале, падкацілася да вяровачкі.

— Такога дзіва ніколі не бачыў? — спытаўся дзядзька Валодзя.

— Не-а,— адказаў хлопчык.

— І не ведаеш, чаму яно круціцца?

Валодзя пакруціў галавой.

— Скора здагадаешся. А не здагадаешся — скажу... Ну, вось што, брат. Папугайчыкаў няма. Усю знаёмую дзятву апытаў. Яна ж ведае, дзе што. Але я мяркую,— гаварыў дзядзька Валодзя,— і без іх абыдземся. Сваіх цудаў вакол нас — поўным-поўна... Вось што. Я пакіну яйка са скрыначкай. Давай паставім ля батарэі. Табурэтка ёсць? Цудоўна! Праз паўгадзінкі паслухаеш. А гадзіны праз дзве-тры ты будзеш сведкам... Не будзем забягаць наперад. Тады мне пазвоніш. Дамовіліся? А пакуль — бывай!

Не прайшло і дваццаці хвілін, як Валодзя, прытуліўшы вуха да скрыначкі, пачуў выразнае:

— Тук-тук. Тук-тук-тук. Тук-тук.

— Жывое! — узрадаваўся хлопчык.— Куранятка!

А калі з дзірачкі ў шкарлупіне паказалася дзюбачка, Валодзя кінуўся да тэлефона, хуценька набраў нумар і на момант збянтэжыўся, пачуўшы надта ўжо далікатны жаночы голас:

— Я вас слухаю.

«Зноў тыя самыя баязліўцы,— падумалася хлопчыку.— Бедная Зіна. І як я да іх трапіў?»

— А папугаі ў вас... Я ведаю, ведаю! — неяк само сабою вясёлае, гарэзлівае вырвалася ў Валодзі.— І ў дзвярах — вочка. А дзверы зачыняюцца на тры замкі з ланцужком!

— Хто гэта? Хто гаворыць? Хто гэ...

Валодзя больш не слухаў. Ён зразумеў, што замест двойкі набраў тройку. І Валодзя нанава круціў дыск.

— Дзядзька Валодзя! Куранятка прадзяўблося! — крычаў хлопчык.— І я здагадаўся, чаму яйка пакацілася...

*1972*



# ПЯЦЁРКА З ТРЫМА ПЛЮСАМІ





## БЕЗРАЗМЕРНАЯ ГАЛАВА

Нарэшце я навучыўся выходзіць з сябе. Гэта мяне сястрычка навучыла. Аднойчы мы бегалі, бегалі, ды так хутка, што нават адпачыць захацелася. Селі на лаўку, а яна і кажа:

— Давай седзячы забаўляцца.

— А як? — пытаюся.

— Будзем выходзіць з сябе і прыходзіць.

— Як выходзіць?

— А так: заплюшчым вочы і паляцім куды захочацца.

Заплюшчыў, а ў мяне нічога не атрымалася.

— Гэта ж вельмі лёгка! Зірні! — сястрычка заплюшчвае вочы. Не прайшло і секундачкі, а яна расказвае:

— Вось я выйшла з сябе і паляцела, паляцела прама ў лес на палянку. А там ты і мядзведзь...

— Ой, баюся! — крыкнуў я.— Расплюшчы вочы!

Сястрычка смяецца:

— Чаго баішся?

— Цябе з заплюшчанымі вачыма! Ты невідзімкай паляцела?

— Невідзімкай.

— Уся-ўся паляцела?

— Вядома, уся.

— А сама засталася на месцы. Хіба так можна?

— Можна.

— І ты бачыш, куды ляціш?

— Усё бачу.

— А я так не магу.

— І я не ўмела,— кажа яна.— А памятаеш, наш тата расказаў, як на рабоце так раззлаваўся, што зусім выйшаў з сябе, выскачыў з-за стала і кінуўся бегаць па кабінеце.

— Ты яшчэ спытала: «А сам ты, тата, застаўся за сталом сядзець ці таксама бегаў?» Тата здзівіўся: «Канечне, бегаў!»

— А ты хіба не зразумеў,— дзівілася з мяне сястрычка,— што яны ўдвох бегалі: сам тата і татаў невідзімка?

— Адзін за адным?! — рассмяяўся я.— Вось гэта здорава!

— А я адразу здагадалася! Тата ж нават сказаў, што ніяк не мог прыйсці ў сябе.

— І мама часта выходзіць з сябе,— успомніў я.— Асабліва калі спалохаецца або зморыцца.

— Я пыталася ў маці,— прызналася сястрычка,— як выходзіць з сябе. «Гэтага яшчэ не хапала! Вырасцеш, сама навучышся». І не сказала. А я адразу захацела навучыцца.

— І доўга ты вучылася? — не цярпелася мне.

— Не. Спачатку пужала сябе, злавала, бегала, каб аж зваліцца ад зморанасці. Аказваецца, нічога такога не трэба. Варта заплюшчыць вочы, крыху пачакаць — і выходзіш з сябе, а расплюшчыш — прыходзіш...

Я слухаў сястрычку, слухаў і раптам выйшаў з сябе і паляцеў кудысьці. Спалохаўся, вочы самі расплюшчыліся, а я зноў тут. Добра, што не ўвесь выйшаў. Нават сэрца застукала. Сястрычка пытае:

— Што з табой?

— Думаў: не вярнуся назад!

Пасля я супакоіўся і ўзяўся трэніравацца. І хутка сваю сястрычку перагнаў. Не толькі седзячы, лежачы, але і на хаду цяпер магу выходзіць з сябе. На роўным месцы, вядома.

Дзе толькі не пабываў я за гэты час! Нават на камеце. Хто туды прылятае, таму жыхары каметы дораць безразмерную галаву. Надзенеш, і ўсё, што ні прачытаеш, само запамінаецца. Якая хочаш кніга!..

Не верыце? Паспрабуйце самі выйсці з сябе і злётаць на камету. А вернецеся, раскажаце, што было і як вас там сустрэлі. Добра?

*1973*

# УСЕ Б АХАЛІ!..

Ем сёння ранкам абаранак. Я вельмі люблю абаранкі. Сястрычка падыходзіць да мяне і кажа:

— З'ясі абаранак, пакінь мне дзірку ад яго.

— Дзірку ад абаранка! — здзівіўся я.— А хіба такія дзіркі бываюць?

— А што ж гэта, па-твойму? — паказвае яна пальцам на пустату пасярод абаранка.

— Дзірка,— кажу.

— У чым? — пытае яна.

— У абаранку,— адказваю.

— Вось я і прашу: пакінь яе для мяне. Шкада табе, ці што?

Зусім рассмяшыла. Мне шкада дзіркі ад абаранка!

— Калі ласка! Толькі ніяк не ўцямлю, навошта яна табе спатрэбілася?

— Усе ў класе штосьці збіраюць. Маркі, значкі, паштоўкі. А я надумалася збіраць дзіркі ад абаранкаў. Зразумеў?

— Зразумеў.

— Ты штодня з'ядаеш ледзь не па дзесятку абаранкаў. Падлічы, якая калекцыя назбіраецца за адзін толькі месяц! А за год!

Яшчэ чаго не хапала! Нібыта мала школьных задачак!.. Але прыкінуў: нешта больш за тысячу!..

— Добра,— згадзіўся.— Буду пакідаць. Нават самому цікава, колькі за год з'ем абаранкаў.

Я ўзяў чысты сшытак і на яго вокладцы напісаў прыгожымі рознакаляровымі літарамі:

*КАЛЕКЦЫЯ ДЗІРАК АД АБАРАНКАЎ*

Потым падумаў і дапісаў ніжэй:

*...ЯКІЯ Я З'ЕЎ.*

Я так захапіўся надпісам, што і не заўважыў, як ад майго абаранка застаўся малюсенькі кавалачак. Спахапіўся і рот разявіў ад здзіўлення:

— А дзе ж дзірка? З'еў разам з абаранкам!..

Каб яшчэ раз так не здарылася, на старонкі сшытка адзін за другім я па чарзе паклаў усе абаранкі і абвёў іх з сярэдзіны алоўкам.

— Атрымлівай тое, што ты прасіла! — прынёс я сястрычцы сшытак.

«Калекцыя дзірак... якія я з'еў»,— прачытала яна.

— Я не так напісаў!

Яна перагарнула старонкі майго сшытка.

— А вось і памеры тых самых дзірак, якія ты з'еў... Ого! Так многа! Ты іх з'еў разам з абаранкамі ці без абаранкаў?

— Я яшчэ нічога не з'еў! — пакрыўдзіўся я, выхапіў з яе рук сшытак і ўцёк у свой пакой.

Прачытаўшы надпіс, я рассмяяўся:

— Усё зразумела! Сястрычка сказала праўду.

І, скамечыўшы сшытак, шпурнуў яго ў самы дальні куток.

Потым узяў новы абаранак і пачаў асцярожна абкусваць яго бакі. Нарэшце ад абаранка засталася вузенькая палоска, падобная на кольца.

Каб парадаваць сястрычку, я прынёс ёй не адно, а пяць такіх кольцаў.

— Атрымлівай свае дзіркі!

— Гэта не дзіркі, а аб'едкі,— сказала яна.

— Гэта самыя сапраўдныя дзіркі ад тых самых абаранкаў, якія я толькі што з'еў! — абурыўся я.

— Вось і давай мне гэтыя дзіркі, а не агрызкі розныя.

— Можа, лепш табе збіраць абаранкі без дзірак,— параіў я.

— Абаранкаў без дзірак не бывае,— запэўніла яна.— Гэта не абаранкі, а пышкі ці ляпёшкі.

«Сапраўды! — спахапіўся я.— А што, калі зрабіць фотаздымкі дзірак або з паперы выразаць?.. Не, зноў не тое...»

— Хочаш мець калекцыю,— раззлаваўся я,— сама еш абаранкі і сама збірай дзіркі ад іх!

— Я б цябе і не прасіла,— адказала яна.— Толькі я бачыць не магу гэтых абаранкаў.

Пайшоў я ад сястрычкі да сваіх абаранкаў і задумаўся. Дзе ж разгадка?

«Абаранкаў без дзірак не бывае»,— кажа яна. А дзіркі ад абаранкаў без гэтых самых абаранкаў хіба бываюць? А раптам бываюць?!.

Я падышоў да акна. Ад сонечнага святла прымружыліся вочы. І ў паветры зазіхацелі і паплылі празрыстыя кружочкі.

Вось яны — дзіркі ад маіх абаранкаў! Збірай!

Вось яно як... Галаву зломіш, пакуль разбярэшся. Можа, вы падкажаце? Тады ў нас была б такая калекцыя, што ахалі б усе!

*1971*

# МАЛЮНАК

Настаўніца загадала нам намаляваць з натуры кветку ў вазоне.

— А кактус — кветка? — спытаў я.

— Безумоўна,— адказала яна.

Я ўзрадаваўся. Наш кактус падобны на зялёны гурок, які ўваткнулі ў зямлю. Лёгка маляваць. Рэбры з калючкамі раз-раз алоўкам і — гатова.

Калі маляваў, укалоў аб кактус палец.

— У-у, злюка! — схапіўся я за палец.— Не чапай мяне, зялёны вожык!

І тут я ўспомніў дражнілку:

— Ты чаму калючы, вожык?
А вожык адказвае:
— А хіба без голак можна?

І растлумачвае:
— Тут са мной жывуць суседзі:
Воўка, лісы і мядзведзі.

Дзяўчаткі з нашай вуліцы любяць паўтараць гэтую дражнілку мне. Гэта ж я — Воўка. Мне робіцца весела. Падабаецца, што вожык успамінае мяне сярод такіх страшных і хітрых звяроў.

Дзяўчаткі сябруюць са мной. Я заўсёды абараняю іх ад задзір. Няхай хто-небудзь зачэпіць якую дзяўчынку, я хапаю таго за руку і кажу:

— Ану, сцісні кулак! Сагні руку ў локці. Мацней!

Той згінае, я мацаю яго руку і пытаюся:

— Гэта што ў цябе? Мускулы. А ты на каго кідаешся? Ты мяне зачапі!

— І зачаплю,— надзімаецца задзіра, але стараецца непрыкметна адступіць.

Бывае, што і мне пападае. Але гэткае рэдка здараецца. Калі на чужой вуліцы я адзін пападуся.

Здаецца, кактус на малюнку атрымліваецца зусім падобны на наш. Засталося рэбры дадаць ды на рэбрах калючак-зарачак наставіць.

Бач ты, павучок пад калючкамі! Знайшоў сховішча. Зялёны — і не заўважыш адразу. Маскіровачка. А вось і моль на цэлы дзень спаць сюды забралася. Хітрая. Ад мамы схавалася.

Ну, кактус, падымай сваю калючую галаву! Яшчэ тут правесці зялёным алоўкам. А тут чорным. Вось так. Мабыць, пазіраеш на мяне і думаеш: «Малюй, малюй! Бачыш,

як і ты, я не толькі сябе абараняю. Стаю ў вазоне на акне, грэю бакі на сонцы і расту паціху. Ты нават паліваць мяне забываеш. Добра, што я родам з мексіканскай пустыні і магу вытрываць любую суш».

Чакай, адкуль жа я даведаўся, што кактус з Мексікі? Здаецца, разам з мамай у энцыклапедыі чыталі. А кактус нам нехта з гасцей мінулым летам прынёс. На гэтых рэбрах раслі барадаўкі. Аказалася, гэта яго дзеткі — маленькія кактусяняты. Сядзяць па баках, растуць і карэньчыкі ўніз пускаюць. Кактусянят мы з мамай паздымалі. Што знаёмым падарылі, а што наўкруг рассадзілі. Цяпер кактусу весела. Можа, і кактусянят дамаляваць? Не, цеснавата на лістку — не атрымаецца.

А што ж гэта за зорачка ля самага краю вазона? Вожык з прасяное зерне. Хоць у лупу разглядай. Вось здорава — кактусяня!.. Зелянее! Значыць, жывое! І нават карэньчык выпусціла. Толькі чамусьці не да зямлі! Убок расце. Ды гэта мы з мамай яго адарвалі і не заўважылі! Паліла яго сонца. З акна сушыла скразнякамі. Ніхто не паліваў. Мо калі-нікалі перападала расінка. І есці не было чаго. А ён цэлы год прастаяў на сваіх іголках і — жывы! Вось гэта стойкасць!

Добра, што настаўніца такое заданне прыдумала. Ану, вожык, станавіся ў гэтую ямку! Ты яшчэ і выскакваеш! І ўжо колешся!.. Вось так — карэньчыкам уніз. Зараз вакол цябе зямлю алоўкам утрамбую. А цяпер палью. Расці, дружа! Цябе я абавязкова намалюю. Вось тут, збоку. І ўсю тваю сям'ю. А заадно і хітрага павучка з моллю.

Месца малавата. Але нічога. «У цеснаце, ды не ў крыўдзе!» — кажа маці, калі за сталом поўна гасцей.

Сёння за свой кактус атрымаў тройку. Іншыя дзеці розныя краскі — лілеі з гартэнзіямі — намалявалі! А я не з-за кветак маляваў кактус з кактусянятамі! Я, можа, за яго характар так стараўся! Хацелася характар перадаць.

А можа, не здолеў перадаць?.. Падумаеш, бяда! Затое маё кактусяня расце!..

*1967*

## НЕ ТАКІ

Я вучуся на трэцяй парце ў трэцім «Б» класе разам з адной дзяўчынкай. Ну, што я сказаў смешнага? Нічога. Усе хлопчыкі вучацца з якой-небудзь дзяўчынкай на якой-

небудзь парце. А мяне нават мама запэўнівае, што я стараюся так казаць, каб абавязкова кагосьці рассмяшыць. Бывае, нічога не скажу, а ўвесь клас смяецца. Вуснамі не паспею варухнуць, а настаўніца папярэджвае: «Толькі без клаунады!»

Неяк настаўніца спытала мяне: «Што такое экватар?» Дробязь, а не пытанне. «Уяўная лінія, якая праходзіць на роўнай адлегласці між Паўночным і Паўднёвым полюсамі і дзеліць зямны шар папалам». І толькі хацеў сказаць «уяўная», як падумаў: «А як яна можа дзяліць папалам, калі яе ніхто не бачыць?» І ў мяне само адказалася: «Гэта невысокая і ярка афарбаваная агароджа. Здалёк відаць, і лёгка пераскочыць». Клас так і грымнуў ад смеху.

Мама ўсім кажа: «Гэта ў яго з дзяцінства!» Я і сам помню, як мама паўтарала мне: «Мікробы вельмі баяцца мыла!» А я ўсё пытаў: «Яно ім таксама ў вочкі пападае?» Хіба гэта смешна? Я больш, чым гэтыя мікробы, мамінага мыла баяўся!

На ўроку прыродазнаўства настаўніца пытае: «Колькі гадоў жывуць мышы?» Я адразу ж адказваю: «Ёсць мышы дзікія, навуковыя і цыркавыя. Працяг жыцця дзікіх мышэй залежыць ад кошак, навуковых — ад таго вучонага, які іх вывучае. І толькі такія, як у Дурава, паміраюць сваёй звычайнай смерцю».

Настаўніца абураецца: «Зноў фантазія! Не можаш адказваць, як усе?» А я пярэчу: «Не, не фантазія! Дрэсіроўшчыкі Дуравы ўсіх сваіх звяроў шкадавалі і шкадуюць. А вучоныя правяраюць на мышах новыя лякарствы. Я сам пра гэта чытаў».

Мама таксама мяне вучыць: «Адказвай, як усе! І табе лёгка будзе вучыцца і лёгка будзе жыць на свеце...» А я думаю: «А навошта я тады на свет нарадзіўся? Каб, як малпа, усіх пераймаць?» Ды яно ж і не атрымоўваецца!

Чамусьці заўсёды ў мяне ўсё выходзіць наадварот. Я зусім не ўмею хлусіць, а мяне на кожным кроку папракаюць у хлусні!

Сёння, напрыклад, мама пытае:

— Ты лазіў у шафу па цукеркі?

— Не.

— А хто іх з'еў?

— Я.

— Значыць, хлусіш, што не лазіў.

— Не, не хлушу. Я нават не ведаў, што там нейкія няшчасныя цукеркі. Я лазіў па талерку.

Не верыць. «Зноў выкручваешся!» І не верыць, што мне

зусім лёгка вучыцца. Раз прагледзеў, што зададзена,— і ўсё зразумела. А мне кажуць: «Не лянуйся! Двоек нахапаеш!»

Ды схапіць двойку, калі ўсё ведаеш, куды лягчэй, чым калі нічога не ведаеш! Бывае на ўроку сумна. Захопішся тым, чаго не ведаеш. А цябе раз — і да дошкі.

Учора мяне выклікаюць, а я разгубіўся і кажу:

— Ды я ж ведаю, што ўсё добра ведаю! Нават, калі ішоў да дошкі, не ведаў, што не ведаю!

Зноў смех.

І як усіх пераканаць, што я разгубіўся! Увесь клас у поклад ад смеху, а мне ніколечкі не смешна.

І калі ласка — двойка за падман і за клаунаду.

Да ролі клоуна я прывык. Нават пачаў губляцца, калі я ля дошкі нешта кажу, а ніхто не смяецца. «Ну,— думаю,— зусім заблытаўся!» А ўсё роўна казаць не тое, што само адказваецца, не магу.

Можа, сапраўды я не такі, як усе?

*1976*

## ЗАЎВАЖАНАЯ ПАМЫЛКА

Я рашаў задачы. Засталася адна. Думаў — самая лёгкая. Як ні біўся — не паддаецца.

З мукі спяклі хлеб. Па кілаграму буханка. Трэба даведацца, колькі атрымалася буханак, калі прыпёк склаў чацвёртую частку.

Варта мне было дайсці да слова «прыпёк», як успамінаўся пагорак, дзе я загараў на сонцы, калі да бабулі ў вёску ездзіў у госці.

На пагорку раслі кветкі. Як здорава пахлі! Іх водарам так і хацелася дыхаць. І бабуля гэтыя кветкі любіла. Называла чабаром. Нават у яе хаце пахла гэтым чабаром!

На тым пагорку і вакол усё звінела, стракатала. Аднойчы ў траве нешта варухнулася. Амаль перад самым носам я ўбачыў яшчарку! Сама зялёная, вочкі рудыя, з залацістым абадком. Мы ўтаропіліся адзін на аднаго і замёрлі. Толькі з рота ў яшчаркі язычок выскакваў. Мабыць, ад здзіўлення. Чорны, тонкі, дзіўна раздвоены. Выскакваў і хуценька хаваўся.

Эх, каб зноў лета! Забрацца б на той самы пагорак, на самы прыпёк! Бабуля смяялася, што мяне дома ніхто не

пазнае, такі чорны зрабіўся ад загару!.. «І чаму такі дзіўны язык у яшчаркі?» — усё не выходзіла з маёй галавы.

Пачуўся тэлефонны званок. Я схапіў трубку.

— Сань, гэта ты?!. Вось добра, што пазваніў. У цябе задача з прыпёкам атрымалася? Не? І ў мяне — не выходзіць. Што? Да цябе? Лепш ты прыходзь.

Санька не прымусіў чакаць сябе.

— Чытай задачу! — загадаў ён мне.

— Ды я сто разоў яе чытаў.

— Ну, давай мне. Значыцца, колькі атрымалася буханак, калі прыпёк... Эх і люблю я гэты прыпёк!..— Санька пракаўтнуў слінкі.— Калі буханка добра падсмажана, я па дарозе ўсе вуглы аб'ем, пакуль дамоў данясу. Так смачна! А нядаўна,— Санька засмяяўся,— прыехалі госці, я пабег у магазін, усяго накупіў, а пра гасцей забыўся. Сеў сабе ў альтанку пад дрэвам, што ў парку, і давай скарыначкі абломваць.

— І я скарынкі люблю,— сказаў я.— Чым чарней, тым смачней. Усё, што ў маці падгарае, мне пакідаецца. А тата не церпіць гэтага прыпёку.

— Дык што ж такое прыпёк? — пачаў разважаць Санька.— Ясна: добра падсмажаныя, нават падгарэлыя скарынкі... А калі мука гарыць, уся яе вага ў чад ператвараецца. У звычайны дым.

— І на адну чацвёртую частку зменшыцца вага мукі, што ў задачы! — падтрымаў я Саньку.— Усё проста. Хуценька падлічым!

— А-ў падручніку ў адказе больш...— сказаў здзіўлены Санька.

— Цю! — свіснуў я.— Што ж гэта такое?

— Нават калі вялікі пень згарае, ад яго жменька попелу застаецца! — гарачыўся Санька.— Памятаеш у лагеры наша вогнішча?

Я моўчкі кіўнуў галавой і сказаў:

— Можа, памылка?

— Яўная памылка! — ускочыў Санька.— І не проста памылка, а заўважаная! Разумееш, намі заў-ва-жа-на-я! Ведаеш што! Мой тата ўчора па падпісцы энцыклапедыю атрымаў. Таўшчэзная таміна! А ў ім лісток. Так і называецца: «Заўважаныя памылкі». Вось тата абураўся! «Такое,— кажа,— аўтарытэтнае выданне, і памылкі!»

— А тут звычайны задачнік,— сказаў я.

— Потым тата прачытаў,— успомніў Санька,— што за ўсе дасланыя заўвагі і пажаданні выдавецтва будзе вельмі ўдзячна... А што, калі мы пашлём у выдавецтва пісьмо?

— Абавязкова пашлём! — усклікнуў я.— Так і напішам: «Заўважаная памылка».

— І нам проста ў школу з самога выдавецтва падзяку прышлюць! — узрадаваўся Санька.— Вось гэта будзе здорава!

Санька пайшоў дамоў, а я сяджу і думаю: «А раптам гэта не памылка?!»

А што тады?..

*1973*

## ПЯЦЁРКА З ТРЫМА ПЛЮСАМІ

Я не раз чуў пра вундэркіндаў і ўсё думаў: мяне гэта не датычыць. Раптам маці кажа:

— Ты ў мяне заўсёды нейкае выключэнне!

Вось гэта нечаканасць! Я адразу ўспомніў пра ўсякіх там дзіва-дзяцей. Усё ў іх не так, і ўсе ім кажуць, што яны вы-ключ-ныя!

Тут жа за сталом я спытаў:

— Мама, а што яны ядуць?

— Хто?

— Гэтыя самыя кіндэрвунды.

— Хто-хто?

— Гэтыя... як іх,— я нібыта не мог прыпомніць,— вундэры-кін-дэры.

— Усё, што паставяць на стол.

— Усё?!. А ў якім парадку?

— Я з імі не сустракалася, з вундэркіндамі,— адмахнулася маці.

«Зараз сустрэнешся!» — узрадаваўся я і абед пачаў з кампоту, потым з'еў катлету і запіў яе супам.

— У цябе сёння штосьці ўсё наадварот! — здзівілася маці.

— Пошукі самага-самага такога гэтакага! — адказаў я.

— Ну і як? Смачна?!

— Працяг будзе! — з гонарам адказаў я, і ў мяне сам сабой прыдумаўся дэвіз: «Усюды, заўсёды і ва ўсім не так, як усе!»

— А ты кампот пасалі, а катлету з'еш з варэннем,— параіла маці...

«Штосьці тут не тое»,— падумаў я.

І мне расхацелася праводзіць падобныя доследы.

«Што ж яшчэ прыдумаць?» — доўга пакутаваў я. І раптам убачыў, як з акна скокнула кацяня.

— Эўрыка! — узрадаваўся я.— Навошта дзверы, калі ёсць акно!

Тыдні два я не падыходзіў да дзвярэй і з выглядам пераможцы ўлазіў і вылазіў праз акно. Толькі гэтага ніхто не хацеў заўважаць. Адна маці мімаходзь сказала:

— Вокны ты ўжо асвоіў. Добра, што мы жывём на першым паверсе. А ці не пара табе навучыцца хадзіць па сценах і столі?

Вы думаеце, ад гэтай прапановы я збянтэжыўся або яна захапіла мяне знячэўку? Дарма! Цыркавыя матагонкі мяне даўно хвалявалі, а пра такія боты, каб бегаць, не падаючы, па сценах і столі, я заўсёды марыў. Але для таго ж і існуюць перашкоды, каб іх пераадольваць!..

Вы ведаеце, што калісьці ў продкаў чалавека было трэцяе вока і ў Італіі жыве інжынер і ў яго ад нараджэння два сэрцы! Я сам аб гэтым чытаў. Раптам у мяне два сэрцы, а пра іх ніхто не ведае, нават я сам! А калі б яшчэ і трэцяе вока! Ад яго ж у нашым мазгу нават нерв захаваўся!

Я знарок спытаў у маці, дзе ў нашых продкаў было гэтае самае вока. «А табе дзе б яго хацелася мець?» — адказала яна. Вось і паспрабуй здзівіць! Тата дык і зусім хацеў мяне заблытаць: «А трэціх павек табе не хочацца або плавальных перапонак між пальцаў?» Ад перапонак я б не адмовіўся, а лішнія павекі навошта?

...Ледзь не з месяц я хадзіў самым звычайным хлапчанём і ўжо зусім засумаваў, як раптам настаўніца Ія Іосіфаўна сказала, каб мы па апорных словах прыдумалі свае апавяданні. І прадыктавала нам гэтыя словы.

«На парце або пад партай! — нечакана сказаў я сабе, успомніўшы старадаўні дэвіз: «На шчыце або са шчытом».— Цяпер ці ніколі!»

Два дні я сачыняў сваю гісторыю, а калі здаваў сшытак, нават страшна зрабілася. І яшчэ дзень хадзіў сам не свой. Такога ў мяне ніколі не здаралася.

І вось раздае Ія Іосіфаўна сшыткі, а ў мяне сапраўды ў пятку сэрца схавалася і тукае там. Раздала, а мой, апошні, разгарнула і ўсміхнулася.

— А гэта,— кажа,— сачыненне Валодзі Папко. Вы толькі паслухайце, што ён напісаў!

І чытае:

«Сцішыўшыся, я сядзеў на беразе юпіцерыянскага вадзянога возера і назіраў. Раптам сярод вадзяністых медуз

і вадзяной чумы нешта заварушылася. Я ўбачыў, як на водную гладзь выплыў зусім зялёны і ўжо зусім вадзяністы ад старасці Вадзянік. Ён пускаў вадзяныя пухіры і вакол сябе распаўсюджваў круглыя трохкутнікі і квадратныя кругі. Як і на зямной вадзе, з іх складалася прыгожая зыбучая рабізна».

Усе ў класе смяяліся. Смяяўся і я.

— Калі ў цябе, Валодзя, была апошняя пяцёрка? — пытае Ія Іосіфаўна.

Я не памятаў, ці была ў мяне наогул пяцёрка. Нават першая.

— Н-не ведаю. З-забыў.

— Вясёлую фантазію трэба заахвочваць,— нечакана кажа Ія Іосіфаўна.— Стаўлю табе пяцёрку з плюсам.

Пяцёрку з плюсам! Я нават спалохаўся ад радасці. Як усё ж такі здорава, калі ты хоць што-небудзь ды знаходзіш!

А што будзе, калі я так пачну вучыцца, што для мяне пяцёрак і з трыма плюсамі будзе мала?!

*1977*

## КАСМІЧНАЯ ТАЙНА

Са мной здарылася неверагоднае. Я стаў мурашыным царом. І ўсё — праз Дзімку. Як гэта здарылася? Ды зусім нечакана.

Дзімка жыве ў суседнім доме. І ўсяго яму шэсць гадоў. Наогул, нядрэннае хлапчаня. Але толькі не любіць мурашоў. Ні вялікіх, ні малых. Было — топча іх на кожным кроку. Дзе толькі ўбачыць.

А я мурашоў паважаю. Ваююць яны, як сапраўдныя салдаты. Нават палонных захопліваюць. Сады і гароды ўласныя маюць.

Ёсць мурашкі, якія вісяць у спецыяльных сутарэннях на столі, а іх таварышы збіраюць з кветак нектар і кормяць іх, кормяць, пакуль тыя ў бочачкі не раздуюцца. А зімой з гэтых бочачак уся мурашыная сям'я ласуецца. Вось здорава!

Пра ўсё гэта я расказаў Дзімку. Расказаў, што мурашкі і шкоднікаў знішчаюць, што яны — санітары зямлі. Нават сваіх нябожчыкаў хаваюць. А яму — быццам да сценкі гарох. Як ні зірну — топча мурашак і топча. Мала таго, дык іншых яшчэ падбухторвае. Малечу розную.

Аднойчы не вытрымаў я і ў лесе на сцежцы падступіўся да Дзімкі. Адлупцаваць або за вушы надзерці? Ды стрымаўся: хіба так трэба выхоўваць!

Трымаю браканьера за каўнер, а сам разважаю: «І што ты за дзіва такое?! Нейкая дашкольная драбяза, ані перавыканаць, ані выхаваць! Ці я сам ні на што не здольны?..» Зірк — рыжы лясны мураш вусеня цягне. І проста на нас! Вусень то ляжыць нерухома, а то як выгнецца, як падскочыць! Разы са два вырываўся са сківіц мураша, але і паляўнічы не здаваўся.

Я тут жа адпусціў Дзімку. Якая цікавая барацьба ідзе! А Дзімка р-раз! І — нагой! Я нават аслупянеў ад разгубленасці, а потым раззлаваўся ўжо не на жарт:

— Гэтага я табе ніколі не дарую! Ты не ведаеш, што я вучу мурашыную мову? Ужо нават размаўляю. Буду іх уладаром, мурашыным царом! Сёння ж, зараз жа збяру ўсіх мурашак, запрашу да сябе іх мурашыную царыцу і раскажу, які ты дрэнны хлопчык! Потым пакажу царыцы пакой, дзе ты спіш. А мурашы самі прыдумаюць табе пакаранне.

Дзіўна, але пагроза так падзейнічала, што Дзімка, гэты неслух, раптам звярнуўся да мяне, нібы да дарослага:

— Не кажы, калі ласка, пра мяне царыцы! Я ніколі не буду нішчыць мурашоў!

І, нібы піянер, ускінуў правую руку.

— Чэснае слова!

— Ладна,— строга сказаў я.— Пра нашу размову нікому ні слова! Можаш ісці!

Дзень мінае, другі. Бачу з акна, Дзімка ля дома ўсю малечу сабраў.

— Мурашкі — санітары зямлі,— тлумачыць дзецям.— Будзем ім домікі будаваць! Насіце пясок!

Потым сам падбег да мяне.

— Я ні аднае мурашкі не забіў! — пахваліўся ён і ціхенька пытаецца:

— А як цябе мурашкі клічуць: уладаром ці царом Валодзем Першым?

— Пра гэта нават на Марсе нельга ні пытацца, ні адказваць! — папярэдзіў я.— Гэта касмічная тайна!

— А мне можна мурашынай мове навучыцца? — пытае Дзімка.

— Калі будзеш ахоўваць мурашоў, думаю, можна...

Прыбег я дамоў, кінуўся на канапу, смяюся да слёз! Расказаў пра Дзімку тату, маме. Яны таксама пасмяяліся. Толькі тата сказаў, што я ўжыў антыпедагагічны

прыём. Нельга ашукваць малых. Трэба іх толькі пераконваць.

Дык я ж усё лета пераконваў, і якая карысць! А тут невялічкі ўзлёт фантазіі, і адразу дапамагло. Нават сапраўды захацелася зрабіцца мурашыным уладаром. Царом Валодзем Першым!

Якое гэта ашуканства?..

*1972*



5 Зак. 2992



## МІХАСЬКАВА НАЗНАРОШКА

Жывуць у Міхаські цацачныя папугай і чарапаха. Яркі жоўта-зялёны какаду ўмее разгойдвацца і куляцца на сваёй трапецыі. Шэранькая чарапаха любіць спаць у каробачцы з-пад цукерак, а калі яе зачапіць, кратае галавой і хвосцікам.

Чарапаха зусім маленькая, бяскрыўдная, але дарослыя чамусьці яе пужаюцца. Аднойчы маміна знаёмая адчыніла каробачку, дзе спала чарапаха, спалохана ўскрыкнула і адкінула каробачку прэч ад сябе. Міхаська смяяўся да слёз. Пасля таго выпадку хлопчык усім, хто прыходзіў да іх, паказваў каробачку з чарапахай і прасіў яе адчыніць.

Ёсць у Міхаські і зубасты кракадзіл з разяўленай пашчай. Ён любіць плаваць у вадзе. Аранжавае тоўстае медзведзяня сядзіць на канапе і пазірае на чырвона-залацістага бегемота. Але з бегемотам мама не дазваляе гуляць. Ён заўсёды заняты: стаіць на стале і ў пашчы трымае для таты алоўкі і ручкі.

Ёсць у Міхаські яшчэ і поні — блакітны конь у белыя яблыкі, толькі ён захварэў — у яго няма нагі. Конік стаіць у цёмным кутку пакоя і з крыўдай пазірае, як яго гаспадар разам з зялёнай рапухай скача па пакоі.

Да Міхаські прыходзяць звяры і птушкі з тэлебачных фільмаў. Да іх таксама хочацца падбегчы, каб пагуляць

разам або, калі асабліва страшна, уцячы ад іх. Толькі ўсе яны нечакана з'яўляюцца і раптам знікаюць. Вярнуць іх не можа ніхто: ні тата з мамай, ні дзядзька дыктар.

Звяры і птушкі з кніжак спакойна чакаюць, калі хлопчык успомніць пра іх і зацікавіцца, чым яны без яго займаюцца на сваіх старонках. А займаюцца яны ўсё тым самым, пра што добра ведае Міхаська. І ён любіць вяртацца да сваіх нязменных сяброў. Калі пры чытанні яго кніг нехта збіваецца, Міхаська горача пратэстуе. Дарослыя ў захапленні. «Наш хлопчык ведае на памяць дзесяткі кніг!» — кажуць бацькі. Ён толькі ўсміхаецца.

Любіць Міхаська сустракацца з жывёламі і птушкамі, пра якіх апавядае суседка цётка Марына. Яны запамінаюцца і ўяўляюцца так ясна, што прыходзяць нават тады, калі ён спіць. Неўтаймоўнае галчаня Кар-кар разяўляе сваю жоўтую дзюбку і просіць у Міхаські хлеба, размочанага ў малацэ. Ласкавае кацяня Кіс-кіс даганяе яго паперку на нітачцы. Рыжая сабачка Мікі становіцца перад ім на заднія лапкі і танцуе. Хлопчыку асабліва падабаецца белая козачка з цёцімарынінага апавядання пра сваё дзяцінства. Яна так смешна выстаўляе рожкі: «Забадаю! Забадаю!» А слова «казка» для Міхаські гучыць не як небыліца, а як што ні на ёсць сапраўдная ява, расказаная цёткай Марынай.

У мінулую суботу ў Міхаські здарылася незвычайная падзея. Тата і мама пасадзілі хлопчыка ў легкавую аўтамашыну і павезлі за горад, у поле і да рэчкі. Замест шэрых сцен гарадскога замкнутага двара хлопчык убачыў блакіт высокага неба са стрыжамі і ластаўкамі, з нясцерпнай яркасцю сонца. Сонц было нават некалькі: адно — нібы вогненны вожык з доўгімі зіхатлівымі іголачкамі, другія — цёмна-карычневыя са светлымі абадкамі. Яны, нібы баючыся пакалоцца, скакалі каля гэтых іголачак. Міхаська спрабаваў сачыць за іх гульнёй, але вочы хутка пачала засціць сляза, і ён са здзіўленнем углядаўся ў бяскрайнюю чысціню зялёных палеткаў і дрэў. Тут, у полі, ён упершыню пачуў незвычайную цішыню зялёна-блакітнага прастору. Яе нібы дапаўняў і ўзмацняў спеў нябачнага жаваранка. Так і запомнілася яна хлопчыку — зялёна-блакітная цішыня з пяшчотнай мелодыяй.

Ля рэчкі, і таксама ўпершыню, Міхаська ўбачыў жывога каня і кароў. Яго не так уразілі іх памеры, як незвычайнае дыханне — з шумным пафыркваннем і чмыханнем.

У цяні пад дрэвамі Міхаська апынуўся зусім недалёка ад дзяўчынкі ў ружовай сукенцы. Яна гуляла з белай ко-

зачкай, і Міхаську здалося, што гэтая дзяўчынка таксама прыбегла з апавядання цёткі Марыны.

Міхаська моўчкі сачыў, як дзяўчынка і козачка ганяюцца адна за адной, ухіляюцца ад пагоні, падскокваюць. Хутка Міхаська асмеліўся, падышоў бліжэй.

Заўважыла яго козачка! Нахіліла наперад лоб з маленькімі рожкамі, падбегла, зрабіла выгляд, што бадне, падкінула ўверх заднія ногі і адбегла ўбок. Міхаська рассмяяўся і сам пагнаўся за козачкай.

Увесь дзень хлопчык правёў у полі і каля рэчкі. Пад вечар, ужо ў машыне, яго зморыў сон, а прачнуўся Міхаська сонечным ранкам у сваёй пасцелі. Прачнуўся і ўбачыў знаёмы дыванок на сцяне. Заяц і зайчыха ў белым фартушку частуюць морквай зайчанятак, якія ў белых нагрудніčках сядзяць за сталом. Міхаська ўдыхнуў пах смажанай бульбы, што дайшоў з кухні, знаёмы водар маміных духоў і раптам успомніў, дзе ён быў учора і што бачыў.

І адразу залаціста-зялёны певень залопаў крыламі і закрычаў сваё кукарэку-у, загагаталі белыя гусі, што стаялі на чырвоных лапах. А адзін, з чорнай дзюбай, усё выцягваў шыю і сіпеў. Шумна ўздыхалі рагатыя каровы. Сцёбаючы сябе хвастом і матляючы галавой, адфыркваўся рыжы конь.

— Мама, а чаму мой конь не дыхае і маўчыць? — было першым Міхаськавым пытаннем да мамы, якая зайшла ў спальню.— І папугай маўчыць?

— А-а, ты ўжо прачнуўся, мой маленькі вандроўнік! — усклікнула маці.— Ну і праспаў ты!..

Калі пасля сняданку хлопчык падбег да сваіх цацак, яны нібы страцілі для яго самае галоўнае: перасталі здавацца жывымі істотамі.

«А калі паспрабаваць іх вучыць?» — надумаўся Міхаська.

— Вось ты, чарапаха. Чаму ў цябе нерухомыя ногі? — запытаўся хлопчык.— Давай будзем хадзіць! Нацiскай на іх! Тапы-тапы!.. Топ-топ!.. Што ж яны ў цябе адскочылі?.. Пабачыш, я папугая навучу кукарэкаць. Хочаш, попка? Вось і добра!.. Раскідвай крылы, бі імі і крычы: «Кукарэку-у!»

«І ў цябе крылы адламаліся. А што ўсярэдзіне? Пуста... Не хочаце вы са мной забаўляцца...»

Міхаська ў маці адпрасіўся на вуліцу.

У двары на лавачцы сядзела цётка Марына і вязала зялёную кофту. Хлопчык убачыў яркую зелень вязання, падбег да цёткі і сказаў:

— А мы ўчора бачылі!..

— Раскажы, Міхаська, раскажы, дзе вы былі і што бачылі,— пацікавілася цётка Марына.

Хлопчык расказаў пра вялізныя дрэвы ў полі, дзе стаяла іх машына, і пра ўсё, што было. Успомнілася дзяўчынка ў ружовым з белай козачкай. Яны і цяпер недзе там даганяюць адно аднаго і бадаюцца назнарошку.

Хлопчык спытаўся ў цёткі Марыны:

— А жывы сабачка ў вас быў?

— Быў. Мікі... Ён згубіўся.

«Быў,— падумаў хлопчык.— Як і дзяўчынка ў ружовым з белай козачкай».

— А каცяня Кіс-кіс у вас ёсць? — спытаў Міхаська.

— Ёсць,— адказала цётка Марына.

«Ёсць! — узрадаваўся хлопчык.— Гэта не раней было, а цяпер ёсць! Цётка Марына — толькі пажадаць — забаўляецца з Кіс-Кіс, як я забаўляўся б...»

Міхаська так жыва ўявіў, як белая, на тонкіх нагах козачка з вялікімі кара-зялёнымі вачыма і маленькімі рожкамі на галаве падскоквае ў іх на верандзе, што не стрымаўся і сказаў:

— А ў нас козачка ёсць.

— Козачка?! — здзівілася цётка Марына.— Адкуль?

«Ды тая самая, яшчэ з вашых казак! — хацелася сказаць хлопчыку.— Тая, якая падбегла да мяне, каб баднуць! З учарашняга дня...»

Але Міхаська ўспомніў, што дарослым такога не кажуць. Нават калі яны — цётка Марына. Трэба казаць, як для іх будзе на самай справе, а не як ўяўляецца яму самому, бо ўсё роўна яны нічога не зразумеюць.

— Тата купіў,— сказаў Міхаська і тут жа згадзіўся са сваім адказам. Усё, што з'яўляецца ў іх сям'і, купляюць тата або мама.

— Навошта? — яшчэ больш здзівілася цётка Марына.— У вас жа няма каму даглядаць. Абое на рабоце.

«Як добра! — узрадаваўся Міхаська.— Яна верыць, што ў яго сапраўдная козачка. А можа, яна сапраўды прыбегла і скача па пакоях?»

— І навошта яна вам? — паўтарыла цётка Марына.

— Яна будзе даваць малако,— адказаў Міхаська.

«Ой, як добра! З ім козачка будзе забаўляцца, а дарослым — даваць малако».

Наступным днём цётка Марына сама запыталася ў хлопчыка пра козачку, і Міхаська, удзячны за ўдзел у яго гульнях, сказаў:

— Я з ёю ўвесь час баўлюся.

— Дзе ж вы яе трымаеце?

— На верандзе.

— А чым корміце?

— Я даю хлеб і марожанае, а мама... — хлопчык запнуўся.— А мама — траву з кветкамі.

— Марожанае?! — рассмяялася цётка Марына.— Мне сёння няма часу, а заўтра вечарам абавязкова прыйду пабачыць,— паабяцала яна.

Хлопчык запытальна зірнуў ёй у вочы.

«Заўтра вечарам? О, гэта яшчэ зусім не скора!» — мільганула ў Міхаськавай галаве.

Але сённяшні дзень паступова падышоў да вечара, да пары класціся спаць дзецям. А ранкам стаў учарашнім. А заўтрашні дзень за адну ноч стаў сённяшнім. Ён такі ж сонечны, як і ўчора. Нават не ведаеш, як і назваць той дзень! Яшчэ тады, калі ён слухаў пявучую зялёна-блакітную цішыню. Адкуль да яго прыходзяць конь, карова і дзяўчынка ў ружовай сукенцы.

— Як ваша козачка? — зноў пытаецца цётка Марына.— Сёння прыйду паглядзець.

— А ў нас яе няма,— ратуючыся ад дарослай цёткі, кажа хлопчык.— Яна ўцякла.

— Як ўцякла?! — спахапілася цётка Марына.

— Мы ляглі спаць, пакінулі козачку на верандзе. Ранкам прачнуліся — нідзе няма.

— А вы прывязвалі?

— Прывязвалі. І травы паклалі. І піць паставілі.

— Шукалі?

— Усю раніцу шукалі. Ніхто не бачыў.

Цётка Марына ўздыхнула.

— Вось і мой Мікі кудысьці збег. Нідзе не знайшла. Такі разумны быў! Ніяк не магу забыць...

І яна ўпусціла вялікі зялёны клубок пражы. Міхаська дагнаў клубок, абабіў ад смецця і падаў цётцы Марыне.

Вечарам тата паклікаў Міхаську з двара на веранду. Там сядзелі цётка Марына і маці.

— Вось ён, наш герой! — усміхаючыся, сказаў бацька.— Ану, прызнавайся, што ты насачыняў цётцы Марыне? Пра якую козачку ты ёй расказваў?

Хлопчык убачыў здзіўленыя твары таты, цёткі Марыны, маці.

Ён сумеўся, кінуўся да маці, уткнуўся тварам у яе калені. Маці спрабавала падняць сына і пасадзіць да сябе, але Міхаська яшчэ мацней абхапіў яе калені ручаняткамі і не паднімаў галавы.

Цётка Марына таксама чамусьці сумелася і, каб дапамагчы Міхаську, сказала:

— Ён харошы хлопчык, паслухмяны! Заўсёды ласкавы, далікатны такі...

— Я назнарок, а не сапраўды,— зірнуўшы на маму, пошапкам сказаў Міхаська і шчыльней прыціснуў палаючы твар да халоднага шоўку мамінай спадніцы.

Пры руху павек яго вейкі шамацелі аб шоўк, і Міхаська ўжо захапіўся сваім новым незвычайным адкрыццём.

*1968*

## МАЛІНАВАЕ ВАРЭННЕ

Бабуля вярнулася з горада з пакупкамі. Першай, вядома, пазнаёмілася з імі Ніна. Таз і тры эмаліраваныя каструлі. Зверху каструлі блакітныя, а ўсярэдзіне — белыя. Блакітныя і накрыўкі. Вельмі прыгожыя. У кожную з каструль можна пасадзіць лялькy або медзведзяня і выкупаць.

— Ты на Месяц ляцець сабралася, ці што? — здзівіўся дзед, зайшоўшы на кухню.— Гэтулькі накупіла!

— Але, на Месяц! — адказала бабуля, расстаўляючы каструлі.— Вось у гэтай добра будзе гатаваць крупнік, у гэтай халаднік трымаць, у тазе — варэнне варыць. Ну, а гэта...

Бабуля сумелася, бо не магла растлумачыць, навошта купіла трэцюю каструлю, і накінулася на дзеда:

— Ты ніколі не купіш, хоць і бачыш, што трэба. Сподкі пабіліся. Хутка чаю не будзе з чаго піць.

— Ну годзе, годзе,— апраўдваўся збянтэжаны дзед.— Я вунь табе халадзільнік — з шафу велічынёй — купіў, а сподкі — дробязь...

Твар у бабкі адразу палагаднеў, але яна ўсё ж не здавалася:

— Дробязі, дробязі, а без іх ні кроку.

Пасля такой размовы Ніна зразумела, што бабуля будзе рабіць з тазам і каструлямі на Месяцы. Патрэбна толькі невялічкае ўдакладненне:

— Бабуля! А варэнне з малін?

— З малін.

І Ніна ў думках убачыла на Месяцы густыя зараснікі малінніку з пахучымі ягадамі — ну якраз як у дзядулі ў садзе. Ягады смачныя, а варэнне яшчэ смачнейшае.

— З клубніц таксама? — дапытваецца Ніна.

— Таксама,— адказвае бабуля.

Значыць, на Месяцы ёсць і градкі з клубніцай. Ніна разам з бабуляй будзе збіраць там ягады і варыць з іх варэнне ў новым бліскучым тазе.

Ну, а паколькі Ніна і ўся сям'я вечарам п'юць чай, сабраўшыся за сталом, то і на Месяцы ёсць такі ж утульны пакойчык з плафонам пад столлю і карункавымі фіранкамі на вокнах.

— Бабуля, а на чым я палячу? — пытаецца Ніна.

— Куды?

— На Месяц.

— Ах, вунь ты пра што! — усміхаецца бабуля і сур'ёзна адказвае: — На сваім самалёціку.

Ніна разумее, што бабуля жартуе, і пярэчыць:

— Самалёцік маленькі. Гэта цацка. Я палячу з вамі на ракеце, як у кніжках намалявана. Усе разам сядзем у ракету. Я закрычу: «Уперад!» — і ракета паляціць: «Піп-піп, піп-піп!»

Бабуля з дзедам кудысьці збіраюцца ісці. Папярэдзіўшы Ніну, каб яна хораша гуляла і не сваволіла, яны пакідаюць яе адну.

Але, узрушаная хуткім адлётам, дзяўчынка не можа сядзець спакойна. Яе позірк спыняецца на пыласосе. Ура! Вось яна, сапраўдная ракета!

Ніна выцягвае пыласос з-пад ложка, садзіцца на яго вярхом, упіраецца нагамі ў падлогу, і пыласос коціцца на колцах. «Піп-піп! Піп-піп!» — радуецца Ніна.

Нешта застапарылася. Перакруціліся дарожкі на падлозе. Прэч іх! Расчыніць усе дзверы! Наперад, наперад! «Піп-піп! Піп-піп...» А што, калі ракета, як у бабулі, загудзе?.. Трэба дацягнуцца з провадам да разеткі і ўторкнуць гэтыя бліскучыя ножкі. Не дастаць, высока... А калі падставіць крэсла? Во, цяпер добра. Уставіла! А чаму не гудзе? Ой, забылася: яшчэ трэба вось так шчоўкнуць...

Гу-у-у...

Ніна ажно спалохалася, калі загуў пыласос. Во, цяпер сапраўдны палёт! Да мяне, мае лялькі! Мядзведзь, сюды! Сядайце спераду. Не бойцеся, я з вамі! Піп-піп! Гу-у-у!

— Гэта што яшчэ за забаўкі? — раптам чуецца ад дзвярэй вокліч маці. Яна кідаецца да разеткі, вырывае шнур.— Ты толькі паглядзі! — звяртаецца яна да бацькі, які таксама заходзіць у пакой.— Не дзяўчынка, а нешта неверагоднае!

— І ёй хочацца ў космас! — усміхаецца бацька.

Зняўшы дачку з пыласоса, ён пытае:

— А дзе ж бабуля з дзедам? Чаму яны пакінулі цябе адну?

— Бабуля з дзедам,— хітра прыжмурыўшыся, кажа дзяўчынка,— паляцелі на Месяц. Яны там у новым тазе будуць варыць малінавае варэнне...

*1961*

# І Я ТАК ЗАХАПІЛАСЯ...

Калі б вы ведалі, што было! Толькі вінаватая не я была, а брат Міша. Гэта ён надумаў мне паказаць, чым захапляецца.

Я і сама бачыла, як ён увесь дзень са слоўнікам ходзіць, штосьці выпісвае, вуснамі варушыць. А запытаць, што шукае і чаму шэпча, не запытала. Думала — нецікава. Аказалася, наадварот.

Аказалася, кожнае слова Міша чытае не толькі так, як усе мы, у адзін бок, а туды і сюды. І атрымліваецца зусім неверагоднае. Бярэш самае звычайнае слова. Напрыклад, «нос». Чытаеш, як усе: «Н-о-с». А прачытаеш наадварот, атрымліваецца — «сон»! Звычайны «кот» ператвараецца ў «ток», а «рак» у вароніна карканне — «кар»! Хіба такое не захопіць?

Я імя сваё — Міла — напісала наадварот, і яно стала хлопчыкавым — Алім. Імя мае сяброўкі — Соня — ператварылася не ў імя, а ў дражнілку: «Я — нос!»

І гэта яшчэ не ўсё. Міша паказаў, як можна складаць цэлыя сказы, якія чытаюцца туды і сюды аднолькава. Называў іх паліндромамі. Казаў, што ў старажытным Егіпце сем тысяч гадоў таму назад імі захапляліся. Прачытаў усё, што сам склаў. Доўга чытаў, але я запомніла толькі смешнае: «А Ліза — мазіла». Сказаў, што ёсць цэлыя паэмы, дзе кожны радок можна чытаць туды-сюды аднолькава.

Паэм складаць я не адважылася. Няхай Міша, калі хоча, гэтым займаецца, а вось пераварочванне слоў мне спадабалася.

— Ідзеш, напрыклад, па вуліцы. Бачыш на магазіне шыльду са словамі: «ХЛЕБ — МЯСА — МАЛАКО». Даўно знаёмыя словы, нецікавыя. Спяшаешся прачытаць наадварот і ахаеш: «БЕЛХ — АСЯМ — ОКАЛАМ!..» Вось гэта здорава! Адразу весела становіцца. Смяяцца, падскокваць хочацца! Кашолкай з бутэлькамі размахваць і крычаць: «БЕЛХ!», «АСЯМ!», «ОКАЛАМ!».

І я так захапілася гэтымі пярэвертнямі, што аднойчы прыйшла ў магазін і кажу: «Дайце мне, калі ласка, ОНДА ОКАЛАМ, АВД АБЕЛХ і яшчэ, будзьце ласкавы, ЕАН-ДАЛАКАШ ЕАН-АЖОРАМ!..» Гэта я так сказала пра малако, хлеб і шакаладнае марожанае!

Усе пазіраюць на мяне здзіўлена, а адна прадаўшчыца кажа:

— Гэта дзяўчынка з Індыі! Я,— кажа яна,— помню пенджабскую песеньку. Там якраз такія словы. Матыў у яе вясёленькі.

Я разгубілася. Стаю і зусім не ведаю, што казаць.

— Ха-ха-ха! Ды якая яна індуска? — раптам чую голас цёткі Марусі.— Гэта дзяўчынка ў адным доме са мной жыве. Але ў апошні час дзіўная нейкая зрабілася. Загаварвацца пачала. Трэба з яе мамай пагаварыць. Можа, яна захварэла?

Я з магазіна ўцякаць!

А на ўроку сяджу і думаю: «Усе словы наадварот можна прачытаць. А як жа слова «я» сказаць наадварот?».

Чую, выклікаюць да дошкі нейкую дзяўчынку. Знаёмую-знаёмую. А я не магу ўспомніць, хто ж гэта такая Тасева Міла. А Коля, мой сусед, штурхель мяне ў бок: «Цябе да дошкі!» «Мяне?!. Хіба гэта я? Мяне ж завуць Алім Авесат!..»

Настаўнік па матэматыцы дзівіцца. Трэба пісаць 68, а я, мабыць, па прывычцы пішу 86, а дзе трэба 86, пішу 68. І так усё папераблытваю, што не толькі сама, а ніхто нічога зразумець не можа. Была выдатніцай, а цяпер і двойкі нельга паставіць. Да калоў-колікаў качуся.

У школе — перапалох, дома — паніка! Усе на мяне пазіраюць, галовамі ківаюць. «Гэта ж тая самая Мілачка! Бедная дзяўчынка! Сама сябе з кімсьці блытаць пачала!.. Няшчаснае дзіця! На нейкую неверагодную мову перайшла! Ці то на якой у джунглях Афрыкі размаўляюць, ці то ў джунглях ракі Амазонкі... І дзе яна толькі гэтую мову пачула?»

Міша — сам не свой! Разгубіўся, не ведае, што і рабіць. Навучыць навучыў, а адвучыць не можа. Нават з гэтай цёткай Марусяй згаджаецца, што мяне... нібыта да ўрача трэба весці! І не да звычайнага, а да нейкага асаблівага, пра якога і чуць ніколі не чула: да псі-хі-ятра!

А я як пачула пра псіхіятра, дык адразу з гэтага слова пярэверцень зрабіла. Атрымалася нешта зусім фантастычнае — Р-ТЯ-І-ХІСП! Гэта... мне... ісці... да Р-ТЯ-І-ХІСПА!.. А нават разгубілася. А як жа ён размаўляць са мной будзе? На якой мове?

І тут мне ўспомніліся дзікія кацяняты. Яны нарадзіліся ў падвале пакінутага дома, чалавека не бачылі і на ўсіх шыпелі. А шыпелі яны ІХІСП, ІХІСП!..

Раптам як апанаваў мяне смех. Да слёз. Смяялася я, смяялася. Успомню пра Р-ТЯ-І-ХІСПА і кацянят, якія шыпяць, так і смяюся.

А як высмяялася, здалося, што з усіх слоў, якія ёсць на свеце, я зрабіла пярэверцень і больш няма чаго пераварочваць. А калі няма чаго, і гульні канец!

Вы яшчэ не гулялі ў пярэверцені? Можаце паспрабаваць.

*1978*

## СЫНАВА КАЗКА

Разам з бацькам Юрык вярнуўся дамоў з дзіцячага сада. Маці сядзела ў пакоі за сталом. З-за кніг і сшыткаў яе нават не было відаць.

— Вось і мы прыйшлі! — падбег да стала Юрык.

— А-а! — маці пакінула глядзець у сшытак і пяшчотна зірнула на сына.— Я кончу рашаць задачку, тады пагаворым. Добра?

І зноў пачала глядзець у сшытак.

Юрык пастаяў ля мамы, потым асцярожна дакрануўся да яе рукі.

— Усё вучышся?

— Вучуся.

— Хутка экзамены?

— Але, сынок, хутка.

Юрык памаўчаў і зноў спытаў:

— Мабыць, стамілася?

— Стамілася.

— А ты адпачні.

— Няма калі, сынок.

— А ты трошкі-трошкі. Я табе салодкую казку раскажу.

— Салодкую казку?! — здзівілася маці і зазірнула ў вясёлыя, гарэзлівыя вочы сына.— Раскажы, я паслухаю.

— Толькі ты лажыся на канапу.

— Добра,— усміхнулася маці.— З прыемнасцю паляжу крышачку.

Яна ўстала і выйшла з-за стала, падышла да канапы, а калі лягла, закінула рукі за галаву. Юрык падбег да ўзгалоўя.

— Слухаю тваю казку,— сказала маці.
— Заплюшчы вочы,— папрасіў Юрык.
— Заплюшчыла.
— Не, зусім-зусім, каб мяне не было відаць.
— Ужо не бачу.
— А цяпер адкрый рот.
— Рот? Навошта?
— Так трэба? Ну адкрый!

Прыйшлося паслухацца. Пачулася асцярожнае шамаценне паперкі, і маці адчула на языку слівачную карамельку.

— Вось і ўся казка! — радасна сказаў Юрык.

— О-о! — усклікнула маці.— Такую салодкую казку ты мне яшчэ ніколі не расказваў.

— Гэтую цукерку табе даў тата,— даверліва прашаптаў Юрык.— А пра казку я сам прыдумаў.

*1971*

## БЕЗ МАМЫ

Мама нахілілася над Стасем, паправіла на ім касцюмчык і сказала:

— Сёння ў садзік пойдзеш адзін, без мяне.
— Адзін? — здзівіўся Стась.— Чаму?
— Ты ўжо вялікі. Дарогу не забыўся?
— Не.
— Прыйдзеш — цётка Феня ўзрадуецца. І я рада, што ты ў мяне ўжо вялікі. Толькі не спяшайся.

Стась выйшаў з хаты на ганак, азірнуўся. Маці шчыльна прычыніла дзверы. Ён па прыступках збег уніз, паглядзеў на вокны. Не, і за вокнамі мамы няма.

Хлопчык уздыхнуў і павалі выйшаў на вуліцу. Каля суседняга двара грэбліся ў пяску куры. Вялікі рыжы певень падазрона паглядзеў на хлопчыка. Стасю захацелася пужнуць курэй, каб яны з кудахтаннем разляцеліся куды каторая, але ён стрымаўся і рушыў далей.

Ля агародчыка перад наступнай хатай стаяла незнаёмая цётка з дзяўчынкай. Ну што на іх глядзець. Ой, не! У дзяўчынкі на сукенцы сядзіць жук з бліскучымі нагамі, вялізны, рагаты. Цікава, чаму на яго не звяртае ўвагі дзяўчынка? Можа, не бачыць? А жук нібы варушыцца на сукенцы.

Нечакана з хаты выйшла яшчэ адна цётка і засланіла сабой дзяўчынку.

Што ж, трэба ісці далей. Падскокваючы, Стась кінуўся бегчы ўздоўж клумбы, ды раптам убачыў на рамонку такога калматага вусеня, што міжволі спыніўся. Эх, каб тут была мама! Стась азірнуўся. Мамы нідзе не было. А рознакаляровы вусень, выгінаючыся, поўз па зялёнай сцяблінe і вадзіў сюды-туды чорнай бліскучай галавой.

Стась асцярожна дакрануўся сандалеткай да рамонка, каб вусень перапоўз на нагу, ды не разлічыў — вусень зваліўся ў траву і знік.

Стась перайшоў плошчу. Нечакана перад ім, нібы з-пад зямлі, з'явіўся стары. Не, не стары, а кій, ягоны кій. Ніколі хлопчык не бачыў такіх кіёў. Наверсе галава страшнага кудлатага сабакі з разяўленым ротам, белымі ікламі і даўжэзным чырвоным языком. Стасю здалося, быццам кій сам скача на адной назе і цягне за сабой старога ў завулак.

Стасіку захацелася хутчэй расказаць пра ўсё маме! Ён кінуўся бегчы назад дахаты, але дарогу заступіў сапраўдны сабака. Што рабіць? Заплакаць? Але навошта плакаць, калі няма побач мамы? Хлопчык са страхам сачыў за сабакам, але той, зрабіўшы круг па плошчы, пабег услед за старым у завулак. Стась супакоіўся, успомніў, што сёння ён сам ідзе ў садзік, і пакрочыў далей.

Вось і знаёмыя блакітныя аканіцы дзіцячага сада. А на страсе — галубы. Іх можна карміць. І можна браць у рукі.

З крыкам: «Фр-р-р!» — Стась, размахваючы рукамі, кінуўся да дзвярэй дзіцячага сада, а калі здзіўленая цётка Феня сустрэла яго, ён даверліва прытуліўся да выхавальніцы, потым узняў галаву і з гонарам сказаў:

— Я прыйшоў адзін, без мамы!

Не ведаў Стась, што маці сачыла за кожным яго крокам і радавалася, што яе сын стаў зусім самастойным.

*1958*

## НАШЫ З МАМАЙ РАЗМОВЫ

Наскакалася я, нагулялася з сяброўкамі, а калі засталася адна, падбегла да мамы. Мама сядзела на лавачцы ля дома. Дыхала перад сном свежым паветрам.

— Пойдзем дахаты,— сказала яна.— Бо позна.

Я прытулілася да мамы і нібыта не разумею.

— Каму позна? — запытваю.

— Табе.

— А я гэтага не адчуваю,— кажу.

— Заўтра адчуеш, калі будзіць пачну.

Гэта праўда. Прачынацца ранкам — бяда. Але я не здаюся:

— А калі заўтра будзе добрае надвор'е?

— Пры чым тут надвор'е? — не разумее мама.

— А ты заўсёды кажаш: дрэнная пагода — дрэнны настрой. У дрымоту кідае.

— Гэта ж зусім іншая справа.

Мне так хочацца пярэчыць! І я здзіўляюся:

— Іншая?!. А чаму?

— Таму, што нас цяпер не датычыцца.

— А чаго датычыцца?

— А таго, што табе спаць пара.

— А хто толькі што сказаў: «Як тут хораша!»?

— Хораша, ды не заўсёды.

— А калі — не заўсёды?

— Калі спаць пара.

Пярэчыць нельга. Я з хвіліначку маўчу.

— Мама, а чаму зоркі льсняцца, мігцяць? — раптам пытаю

— Ты мне зубы не замаўляй!

— Я не замаўляю. Я хачу ведаць.

— Таму, што зоркам спаць захацелася.

— А што, калі да нас іншапланецяне прыляцяць?

— Яны да цябе соннай прыляцяць.

— У сне не з'явяцца. Ты сама казала: сон — гэта тое, што ўспомнілася ды пераблыталася.

— Падумала і сама сабе адказала,— смяецца мама. Яна таксама спрачаецца са мной назнарок. Хто каго пераможа.

— А мы з імі зможам размаўляць?

— З кім — з імі?

— З тымі, хто прыляціць з іншай планеты.

— З недысцыплінаванымі яны не размаўляюць.

— А як яны даведаюцца, што мы — не-дыс-цып-лінаваныя?

— Не мы, а ты,— папраўляе мама.— Зірнуць на гадзіннік і даведаюцца.

— На які гадзіннік? На крамлёўскай вежы?

— Што на вежы.

У мяне раптам цяжэюць павекі, і я пазяхаю.

— Калі... ве-е-льмі захачу, я і ў сне...— сустрэнуся з іншапланецянамі. Пойдзем, мамачка, спаць!

От і наспрачалася!.. Якая ў мяне цудоўная мама!

*1978*

# ПАЕХАЛІ, СЫНОК!

Маці адпачывала ў крэсле і чамусьці ўсміхалася. Да яе падбег пяцігадовы Віталік.

— Я хачу да цябе на калені.

— Нельга, сынок.

— Я ціха-ціха буду сядзець. Не варухнуся.

Маці прытуліла Віталіка да сябе, спытала:

— Табе каго прывезці з радзільнага дома: дзвюх Дзюймовачак ці двух Чабурашак?

— Чабурашак,— адразу адказаў Віталік.

— А калі Дзюймовачак? Яны такія маленькія, бездапаможныя. Нібы ў казцы. А ты хлопчык з добрым сэрцам. Ты ж таксама іх будзеш і любіць, і абараняць.

— Буду! — рашуча запэўніў Віталік.

— Я так і ведала.

— Мама! Можна і Чабурашак і Дзюймовачак?

— Усіх разам? — засмяялася мама.— Колькі ж іх тады будзе?

Віталік падумаў, падняў руку і растапырыў усе пальцы.

— А ты, сынок, харашэнька падумай!

Малы падумаў і вялікі пальчык прыгнуў да далоні.

— Дзвюх сястрычак Дзюймовачак і двух брацікаў Чабурашак? — здагадалася маці.

Віталік у знак згоды хітнуў галавой.

— Яны тут? — малы асцярожна дакрануўся далонькай да мамінага халата ля пояса.

— Тут толькі двое. Два брацікі або дзве сястрычкі. Магчыма, брацік і сястрычка. Калі ў раддоме цёці ў белых халатах дапамогуць ім адсюль выйсці, мы даведаемся, хто ў нас будзе.

— Мама,— ціха спытаў Віталік,— а нас яны слухаюць?

— Канечне. Але нічога не разумеюць. Яны ж зусім крахатулечкі і не ўмеюць размаўляць. Толькі адчуваюць, што мы ўсе іх любім і чакаем.

— І я адсюль выйшаў? — спытаў Віталік.

— Я ж табе пра гэта казала.

— А ты і пра мяне не ведала, што я выйду?

— Адкуль жа я магла ведаць? Пакуль не ўбачыла, не ведала.

— А калі ўбачыла, я быў маленькі-маленькі з вялікімі вушамі. Як Чабурашка. І размаўляць не мог,— прыдумваў хлопчык.

— Не, не мог,— згаджалася маці.— Усё спаў і спаў. Ма-

лачко піў. Пустышку любіў смактаць. І ўсё рос і рос. Пакуль не вырас такі, як цяпер.

— Я ўвесь час буду расці?

— Будзеш, сынок.

— Пакуль з тату не выраст у?

— Так, а можа, нават вышэй, чым тата.

Шчаслівы, хлопчык засмяяўся, уявіўшы сябе вышэй самога таты.

Калі ранкам наступнага дня Віталік прачнуўся, мамы не было. Тата адвёз яе ў раддом, потым паехаў на працу. Дома завіхалася бабуля, якую тата прывёз з вёскі. І хоць Віталік яе любіў і яна прывезла жывых трусоў, з якімі, здавалася, не засумуеш, малы штохвілінна пытаўся, калі вернецца тата і калі яны паедуць да маці ў раддом.

Тата вярнуўся ў час абедзеннага перапынку, прама на вуліцы падхапіў Віталіка і са словамі: «Сынок, паехалі!»— пасадзіў да сябе ў запыленую машыну, і яны памчаліся да маці.

У прыёмным пакоі раддома за сталом у белым халаце сядзела цётка і ветліва пазірала на іх. Тата падвёў да яе Віталіка.

— Ну, сынок, спытай!

— Цёця,— смела сказаў Віталік.— Каго наша мама нарадзіла: Чабурашак або Дзюймовачак?

Цётка здзіўлена зірнула на бацьку, які ўсміхаўся.

— Як прозвішча вашае мамы? — спыталася.

Віталік назваў.

— Імя, па бацьку.

Віталік адказаў.

Цётка пазваніла па тэлефоне, пачула адказ.

— А табе каго б хацелася? — раптам усміхнулася яна малому.

— І Чабурашку і Дзюймовачку!

Цётка зірнула на бацьку і засмяялася:

— Яго жаданне здзейснілася.

— Што? — усклікнуў тата.— Сын і дачка!

— Сын і дачка.

— А ўсе... усе яны як сябе адчуваюць.

— Выдатна! — усміхалася цётка.— Усё выдатна!

— Дзякуй за радасць!

Тата падхапіў Віталіка на рукі, выбег з раддома, падкінуў сына ўгору і, кружачыся разам з ім, крычаў:

— Ай ды мама! Дзяўчынка і хлопчык!.. Сын і дачка!.. Сястрычка і брацік!.. Дзюймовачка і Чабурашка!.. Ура, Віталік, нашай маме! Крычы, сынок, «ура!».

*1977*

# САМА ЗНАЙДЗІ

*Хельзе Рэйсман з Таліна*

Хельга асцярожна дакранулася пальчыкамі да высокай, выгнутай дугою бліскучай ручкі. Каляска кранулася з месца і спынілася. Хельга дакранулася яшчэ раз, і каляска, ледзь пагойдваючыся, пакацілася па асфальце.

Абхапіўшы абедзвюма рукамі цёплы ад сонца метал дугі, Хельга ўсё смялей і смялей штурхала каляску перад сабой і не спускала вачэй з дзяўчынкі. «Яе тварык падобны да майго!» — радавалася Хельга.— І пасмачкі валасоў завіваюцца, як у мяне!»

На рагу вуліцы ці то ад лёгкага штуршка пры няўмелым яшчэ павароце калясці, ці то ад сонечнага зайчыка, што адскочыў ад люстэрка з вітрыны магазіна і трапіў на тварык дзяўчынкі, яна раптам шырока расплюшчыла вочы. «Ой, вочы якія прыгожыя!— у замілаванні падумала Хельга.— Сінія-сінія».

Дзяўчынка смешна закратала ручкамі, пульхнымі, нібы перавязанымі ў запясці, а пад ружовым лёгкім аксамітам засукаталі ножкі, быццам выконвалі практыкаванне пад назвай «веласіпед».

— Хутка прыедзем дадому. Я цябе вазьму на рукі, мая маленькая крахатулька, мая...

Хельга змоўкла і задумалася. Каляска лёгка і плаўна кацілася. Пад густымі кронамі старых дрэў адчувалася прахалода і стаяў мядовы пах ад цвітучых ліп. Амаль пад кожным дрэвам у такіх самых калясках спалі малыя, а побач шпацыравалі з кніжкамі ў руках або сядзелі на лаўках мамы і бабулі. Хельга з гордасцю акінула іх радасным позіркам і зноў звярнулася да дзяўчынкі:

— І цябе, мая Эмачка, я прывязу сюды... — сказала яна і ўзрадавалася: — Ой, як добра! У мяне ж ёсць Эмі — любімая лялька. Зараз у мяне дзве Эмі! Я вас пазнаёмлю. Вы будзеце сябраваць. І ў ляльі вочы сінія-сінія. Яна іх заплюшчвае і пішчыць: «Пі... пі-пі!» У яе ёсць брацік Арно. Ён яшчэ зусім малы...

— Бач ты, якая цудоўная маці! — усклікнула цётка ў ружовым, якая сядзела на лаўцы, калі Хельга параўнялася з ёю. Хельга зразумела, што пахвала адносіцца да яе, усміхнулася, і яе твар заліўся чырванню.

На выхадзе з алеі парку Хельга ўбачыла дзяўчынку, якая, не спускаючы вачэй, сачыла за ёю, а потым нясмела падышла.

— Як яе завуць? — ціха спыталася дзяўчынка.

— Эмі.

— А ў мяне нікога няма,— сказала дзяўчынка.— Мне так хочацца мець брацікa.

— А ты папрасі маці,— параіла Хельга.— Няхай купіць.

— Прасіла. І тату прасіла. Не купляюць.

— А ты сама знайдзі!

— Я сама баюся.

— Якая ж ты нясмелая! — рассмяялася Хельга.

Дзяўчынка пакрыўдзілася і адстала.

«Так і будзеш адна забаўляцца з лялькамі»,— падумала Хельга. Але ёй стала шкада дзяўчынку.

— Прыходзь да мяне,— сказала яна, абярнуўшыся.— Я жыву тут недалёка, у наступным правулку. Дом дваццаць, кватэра шэсць. Я табе ўсё раскажу.

У сваім правулку Хельга спаткалася з шумным натоўпам незнаёмых хлопчыкаў і насцярожылася. Хлопчыкі змоўклі і пачціва расступіліся перад каляскай. Сэрцайка Хельгі закалацілася ад гордасці.

Ля ганка свайго дома Хельга сустрэлася з суседзямі — цёткай Онікай і дзядзькам Рудольфам.

— Хе-ге! — усклікнуў дзядзька Рудольф.— Што я бачу? Ты каго вязеш, Хельга?

— Сваю сястрычку.

— Сястрычку?! — здзівіўся дзядзька Рудольф і паглядзеў на цётку Оніку.— Адкуль у яе сястрычка?

— Ты лепш дапамажы Хельзе каляску падняць на прыступкі,— адказала цётка Оніка.

— У цябе ж, здаецца, не было сястрычкі? — не сунімаўся цікаўны дзядзька Рудольф.

— Я сама знайшла!

— Брава, Хеля! — рассмяялася цётка Оніка.— Так яму і трэба адказваць.

У кватэры нікога не было, і Хельга асцярожна ўкаціла каляску ў пакой, узяла малую на рукі, прытуліла да сябе яе гарачае цельца і адчула зусім невядомы дагэтуль прыліў пачуцця пяшчоты. Яна цалавала яе кудзеркі, тварык, ручаняткі і ўперамешку з пацалункамі выказвала ўсе словы пяшчоты і ласкі, якія толькі магла прыдумаць. Хельга насіла малую па кватэры, паказвала ўсе куткі і рэчы і зноў асыпала яе пацалункамі.

— Вось тут мы з табой будзем забаўляцца, мая любая крахатулька. А спаць ты будзеш у спальні, вось тут, побач са мной, каб я чула, як ты прачнешся ноччу... А вось наш

тэлефон. Мы можам пагутарыць з татам. Ён на працы. І яшчэ не ведае, што ты знайшлася.

Хельга паклала дзяўчынку ў каляску і набрала нумар.

— Ало! Гаворыць Хельга. Паклічце, калі ласка, майго тату!.. Што?.. Добра. Дзякую.

Расхліснуліся ў прыхожай дзверы. Хельга павярнулася і перапужалася.

Ніколі яна не бачыла такой сваю маму. Задыхаючыся, не зводзячы з дачкі вачэй, маці вобмацкам дабралася да крэсла і ўпала.

— Усе... усе вуліцы абабегла... А цябе... нідзе няма! Чаго и толькі не перадумала!..

Малая ў калясцы падала голас.

Маці ў непаразуменні прыслухалася.

— Дзе ты яе ўзяла?

— Там, каля універмага,— апусціўшы галаву, адказала Хельга.— Вы з татам толькі абяцалі купіць сястрычку. Я і першы клас скончыла на «выдатна». Вось, я сама і знайшла.

Маці кінулася да тэлефона.

*1964*

## ПРАВУЧЫЛІ

Мазік — чорнае пушыстае кацяня з белай, як банцік, плямай на грудзях. Сваё пушыстае футра Мазік вельмі шануе: часта мые яго. Таму пляма на грудзях заўсёды беленькая.

Сёння ранкам Мазіку ўдалося злавіць маленькага верабейку, які выпаў з гнязда. Мазік з'еў птушаня, памыўся лапкай і парашыў:

«Хопіць лазіць па цёмных падвалах сярод рознага ламачча і ганяцца за нейкімі няшчаснымі мышамі! Я цяпер буду лавіць птушак. А птушыных гнёзд паўнютка пад дахамі дамоў».

Па лесвіцы Мазік узбег на гару. Праз шчыліну ў абшыўцы з дошак праціснуўся пад дах і выбраўся на карніз. Яго чуйны слых улавіў папіскванне птушанят. Ластаўчына гняздо ляпілася пад тым самым карнізам, на якім стаяў Мазік.

Ластаўка, што жыла пад дахам суседняга дома, першая ўбачыла Мазіка. Крута шугануўшы ўгору, з трывожным крыкам яна паляцела склікаць суседак.

«Сюды! На дапамогу!» — азначаў яе крык.

Ластаўкі былі вельмі занятыя. Адны ад світання лавілі мошак і мушак, каб карміць птушанят. Другія ў дзюбках неслі камячкі гліны і зямлі, каб падрамантаваць гняздзечкі. Але ўсе яны адразу ж кінуліся на трывожны сігнал.

Мазік з цікавасцю сачыў за палётам ластавак. «Іх тут такая безліч, што і злавіць няцяжка,— парашыў ён.— Трэба толькі злаўчыцца. Мышэй гэтулькі разам ніколі не было, а я лавіў іх без промаху».

Калі б Мазік разумеў мову, на якой размаўлялі ластаўкі, ён пачуў бы:

— Збіць яго! Збіць! З налёту!

Але Мазік не разумеў нават і вераб'інага крыку. А вераб'і таксама крычалі:

— Гэта ён з'еў наша птушанятка. Збіць яго! Збіць!

«Як тут цікава, нават весела,— дзівіўся Мазік. Вочы ў яго зіхацелі, а хвост варушыўся ад радасці.— Зараз я схаплю каго-небудзь і з'ем!»

Мазік падняў лапу, каб злавіць ластаўку. Але ў гэты момант убачыў, як з неверагоднай хуткасцю ляціць на яго нейкая страшэнная вялізная птушка. Мазіку нават здалося, што крылы гэтай птушкі засланілі ўсё неба. Пачуўся прарэзлівы крык, у яго ажно закалола ў вушах.

Мазік не разабраўся, што на яго ляцела не адна птушка, а цэлая чарада дружных ластавак. Ён і апамятацца не паспеў, як яны сваімі крыламі збілі яго з ног і ён паляцеў уніз. Усё ж такі Мазік паспеў у паветры перакруціцца і ўпаў не бокам, не на спіну, а адразу ж стаў на ногі. Яго ахапіў такі страх, што ён стрымгалоў кінуўся ў бліжэйшае падвальнае акно. Там зашыўся ў самы цёмны куток, дзе ляжала рознае ламачча і вісела густое павуцінне, якое, нібы коўдрай, з галавы да хваста накрыла ўсяго Мазіка.

З крыкамі аб перамозе дружныя ластаўкі пранесліся над домам яшчэ раз і заспяшаліся хто куды.

Доўга потым чысціўся Мазік ад пылу і павуціння. Азіраючыся па баках, нарэшце выбраўся з падвала і павалокся дадому. Галодны, ён спадзяваўся выпрасіць у сваёй гаспадыні малака з хлебам. Не, лазіць пад страху па птушанят Мазік больш ніколі не будзе.

*1967*

# ЧЫ-ЧЫ-ЧЫ

У няясным прыцемку кутка нешта варухнулася. Але я ад чытання не адарвалася. Калі вакол цябе ўтульная цішыня, блакітны абажур пасылае святло настольнай лямпы на старонкі кнігі, а ты захапілася паходам піянераў-следапытаў па Белавежскай пушчы — іншае не цікавіць.

Загадкавае варушэнне паўтарылася. «Здалося»,— падумала я, падняла ўгору рукі, выпрасталася на крэсле, салодка пацягнулася. І на малінавым полі дарожкі разглядзела шэры пульсуючы камячок, пушысты, з чорнай бліскцінкай. Камячок падкаціўся да майго століка, і я спалохана крыкнула брату:

— Алесь, мышаня!

Алесь чытаў у суседнім пакоі.

— Дзе? — азваўся ён.— Зараз заб'ю!

Мышы ў нашых дамах з'яўляюцца кожную восень. Мама кажа, што яны палявыя і ўцякаюць ад маразоў. І ўслед за нашэсцем мышэй ва ўсе кватэры да нас наведваюцца жанчыны з гарадской санэпідэмстанцыі і пытаюцца: «Грызуны ёсць?» Жанчыны, хто папросіць, рассыпаюць у шчыліны пад падлогу камячкі атручанага цеста або раздаюць пасткі, якія насмерць забіваюць гэтых грызуноў. І заўсёды растлумачваюць, што мышы і пацукі вельмі небяспечныя, таму што разносяць чуму, жаўтуху і ўсякія інфекцыйныя захворванні. Вось чаму, калі Алесь сказаў, што заб'е мышаня, я не супярэчыла. Але, шчыра кажучы, калі немагчыма з героямі кнігі паехаць у Белавежскую пушчу і ўбачыць жывога зубра ці вавёрку, хацелася паназіраць хоць бы за гэтым жывым камячком. А я толькі моўчкі сачыла, як з пантопляй у руцэ Алесь на дыбачках краўся да мышаняці, замахнуўся і ўдарыў па ім. На маё здзіўленне, мышаня ніколечкі не спалохалася і спакойна падкацілася да Алесевых ног.

— Яно ж прыручанае! — узрадавалася я і, саскочыўшы з крэсла, нахілілася над мышанём. У мяне неяк само сабой выказалася ласкавае, зваротнае:

— Чы-чы-чы! Чы-чы-чы! Ты, мабыць, галоднае. Павартуй яго, Алеська, а я прынясу яму есці.

І пабегла на кухню.

Калі на фольгавай накрыўцы ад малочнай бутэлькі я прынесла Чы-чы-чы малака і кавалачак булкі, Алесь, працягнуўшы перад сабой самкнутыя рукі, ляжаў на падлозе. А ў гэтай агароджы спакойна сядзела Чы-чы-чы і абнюхва-

ла яго далоні. Я прыклеіла да свайго пальца кавалачак булкі і паднесла мышаняці.

— Есць! — здзівіўся Алесь.— Зірні, Наташа! От здорава!

Мышаня цягнулася пыскай да мякішу і хуценька-хуценька варушыла пушыстымі, з вусамі шчочкамі. Раптам яно драпанула мяне за палец. Я адхапіла руку.

— Ой! — напалохалася.— Яно мне скуру пракусіць? А што тады? Чума? Памру?! Прымусяць уколы рабіць!..

Але палец быў цэлы, і я асцярожна падсунула накрыўку з малаком. Чы-чы-чы ўткнулася пыскай у малако і пачало піць, а мы, не адрываючыся, сачылі за кожным яго рухам і адчувалі сябе сапраўднымі даследчыкамі.

— Трэба пастку схаваць,— падняўся Алесь.— Хай мышаня ў нас жыве. Нічога ж не здарыцца.

Алесь, вядома, меў на ўвазе, што заўсёды гаварылася пра шкоднасць мышэй і што тата і мама могуць насварыцца на нас. Я таксама падумала аб гэтым. Але Чы-чы-чы было такім даверлівым, такім пушыстым і маленькім, што ні пра якую чуму не хацелася думаць. Я ўздыхнула і сказала:

— Ужо здарылася.

— Што? — занепакоіўся Алесь.

— Мы яго хацелі забіць, а цяпер кормім. Чаму так раптам?

— Таму, што яно нібы прыручанае,— сказаў Алесь і пагладзіў пальцам спінку мышаняці.— У Дурава таксама ёсць мышы!

— А можа, яно такое малое, што нават нас не спалохалася,— сказала я і таксама пагладзіла спінку мышаняці.— Мы ж ніколі яго так блізка не бачылі! Мабыць, яно засталося без мамы і ўпершыню выбралася з норкі.

Чы-чы-чы паела хлеба, папіло малака, потым села на заднія лапкі, а пярэднімі выцерла пыску і пакацілася прэч. Алесь далонямі перагарадзіў яму дарогу. Чы-чы-чы спакойна пералезла цераз далоні і знікла пад атаманкай.

— Мы навучым яго фокусы рабіць,— узрадаваўся Алесь.— Вось будзе сенсацыя ў класе! Свой школьны цырк!

— Схавай пастку,— напомніла я брату.— А хлеб з малаком пад атаманку паставім.

Калі тата і мама вярнуліся з тэатра, мы расказалі пра нашае Чы-чы-чы і папрасілі дазволу застацца яму ў нас.

— А вы рукі мылі пасля вашага Чы-чы? — спалохалася мама.

— Ты, Наташа, рукі мыла? — прашаптаў Алесь.

— А ты? — спытала я ў брата.

Разам з татам і мамай мы сядзелі за сталом, пілі чай і ўсё пазіралі на свае рукі. Можа, надта позна іх вымылі?!.

— Калі я быў малы,— сказаў тата,— у нас у вёсцы было многа мышэй. На кухні стаяла шафа, дзе ляжаў хлеб. У шафе была дзірка. Яе прагрызлі мышы. Наш кот быў стары-стары і ўжо нікога не лавіў. Адным ранкам ля хлеба маці знайшла нованароджаных мышанят, зусім голых, сляпых. Падобных на ружовыя фасолінкі. Штук восем.

— І ніхто не захварэў? — спытаў Алесь.

— Тады людзі яшчэ не ведалі, што мышы такія небяспечныя,— адказала маці.— Яны хварэлі і не здагадваліся ад чаго.

— Кошкі іх ловяць,— не здалася я,— і зусім не хварэюць.

— У кошак да мышыных хвароб неўспрымальнасць,— заявіла маці.— Імунітэт. А ў нас яго няма.

— А Дуравы? — успомніў Алесь.— Усё сваё жыццё са звярамі.

— А вы думаеце, што яны садзяцца за стол, не памыўшы рукі?

Усё ж такі мы ўпрасілі маму, і яна дазволіла Чы-чы-чы прыходзіць да нас. Мы абяцалі пасля яго кожнага прыходу па паўгадзіны мыць рукі ў гарачай вадзе з мылам і содай.

Але наш шэры камячок не прыйшоў да нас ні ранкам наступнага дня, ні вечарам. Не паказаўся і ва ўсе астатнія дні. Можа, папаўся ў пастку, з'еў атруты. Можа, дзе заблудзіўся або яго злавіла кошка. А можа, у суседняй кватэры забілі пантопляй. Хіба даведаешся, куды ён знік?

Вечарам блакітны абажур пасылае святло настольнай лямпы на старонкі падручніка. Мы з братам рыхтуем урокі, пішам, чытаем. Не-не, я зірну ў куток, дзе ў няясным змроку канчаецца дарожка. Раптам здаецца, што там варушыцца шэры камячок.

— Алесь! — шапчу я.— Чы-чы-чы!

— Хлусіш! — адказвае Алесь.

*1968*

## ЮЛЬЧЫН РАНАК

Ужо колькі разоў, устаючы ранкам, Юлька хацела сама прыбраць пасцель. Ды кожны раз што-небудзь перашкаджала. То ў хаце былі дарослыя, і яна саромелася. То на два-

ры сабака з кошкай схопяцца, а гэта ж — ой як цікава! А звычайна проста не хапала рашучасці. Ложак засцілала маці. І Юльцы заставалася толькі дзівіцца, як у матулі ўсё хутка і хораша выходзіць.

Сёння ж усе нібы змовіліся дапамагчы дзяўчынцы. Падкраўшыся да ўзгалоўя, яе пабудзіла само сонца. Юлька была адна ў хаце, з вуліцы яшчэ не даносіліся галасы сяброўак. І — самае галоўнае — Юлька адчула, што сёння яна ўжо можа прыбраць пасцель зусім гэтак жа, як і мама. Ну, вядома, ні мама, ні хто іншы нават не здагадваюцца, на што ўжо здольна Юлька.

Дзяўчынка хуценька спаўзла з ложка, надзела сукенку, якая ляжала поруч на табурэце, і, не бавячыся, перанесла з ложка на табурэт коўдру. У адзін момант коўдра апынулася на падлозе! Каля ног у дзяўчынкі паднялася мяккая копачка, на якую так і захацелася сесці з падскокам. «Што я — маленькая?» — стрымала сябе Юлька і пасля некалькіх спроб усцягнула коўдру на табурэт.

Падушкі былі цяжкія. Адну яшчэ сяк-так удалося пакласці на коўдру, а другую прыйшлося кінуць на падлогу.

Сцягнуўшы з пярыны прасціну, дзяўчынка выбегла на ганак, каб вытрасці яе. Юлька ўскідвала прасціну перад сабой, трэсла, але не, гучных стрэлаў, гэтакіх, як у мамы, не атрымлівалася. Вярнуўшыся ў хату, дзяўчынка пачала ўзбіваць пярыну. Во дзе цяжар!..

Тады Юлька забралася пад пярыну з нагамі і пусціла ў ход усё: галаву, локці, калені. Дзяўчынка пыхкала, падала, упіралася рукамі і нагамі, падымалася і зноў падала, але свайго дамаглася: пярына перавярнулася. Крыху перадыхнуўшы, Юлька замалаціла па ёй кулачкамі: «Вось табе! Вось табе!» У носе заказытала. Юля чыхнула. «На здароўе, дачушка!» — «Дзякую!» — сказала сама сабе дзяўчынка. Ну, цяпер можна заслаць прасціну, а па ёй і коўдру. І зноў трэба то ўзбірацца на ложак, то злазіць. Там пасцель запала, нібы лагчынка, а тут во — нібы купіны...

Нарэшце засталося ўсцягнуць падушкі. Адну на адну. Каб было высока. А рагі затаўчы ўсярэдзіну... І гэта атрымалася! Можна злезці — падзівіцца. Трэба трошкі падправіць коўдру... Ну, вось і ўсё!

Юльчынай радасці не было канца. Падскакваючы, яна пабегла на кухню — памыцца. «Хто гэта так хораша заслаў?» — чулася дзяўчынцы запытанне мамы. Але Юля — сціплая. Яна не кінецца адразу выхваляцца: «Гэта я! Гэта я...» Пачакае, пакуль мама яшчэ раз не перапытае: «Дачушка, няўжо ты сама?» Вось тады ўжо Юля падбяжыць да

мамы, прытуліцца. «Я,— скажа ціхенька.— Я цяпер кожную раніцу буду сама прыбіраць у пакоі».

Так думала дзяўчынка, чакаючы маму. Наспех памыўшыся, наспех з'еўшы пірага з малаком, яна то пазірала ў акно, то выбягала на ганак, а маці ўсё не было.

Адчуўшы сябе гаспадыняй у хаце, дзяўчынка перакапала зямлю ў вазонах і паліла іх. Вось як добра, як весела будуць цяпер расці кветкі, напіўшыся вадзіцы. Юлька асцярожна прытулілася шчакой да зялёных лісточкаў. Заўважыўшы, што крыху разліла каля вазонаў ваду, дзяўчынка пабегла на кухню, узяла анучу і выцерла падлогу. У гэты час прыйшла маці.

— Ты, дачушка, толькі прачнулася?

— Ага, мама.

«Мама паверыла! Зараз яна зойдзе і ахне!» — думала Юлька.

Радасная ўзрушанасць дзяўчынкі расла з кожнай хвілінай. А маці ўсё нешта перабірала ў сваім кошыку, даставала бутэлькі з малаком, масла, цыбулю. Нібы нельга потым усё гэта расставіць і раскласці!..

Нарэшце мама зайшла ў пакой. Асцярожна, на пальчыках, затаіўшы дыханне, следам за мамай ішла Юлька.

Агледзеўшы пакой, мама здзіўлена пляснула рукамі:

— Хто ж гэта ў нас прыбраў гэтак хораша?

Юлька з палёгкай уздыхнула.

— Гэта я...

— Памочніца мая любая! — прытуліла маці дачушку.— Работніца мая залатая!

— Я заўсёды буду так,— паабяцала Юлька.

— А цяпер, дачушка,— сказала маці,— ідзі пагуляй. Потым мы з табой возьмемся гаспадарыць — бялізну мыць будзем.

Юлька крутнулася на адной назе і пабегла да сяброўкі.

— Ага,— не ўцярпела, пахвалілася яна,— а мы з мамай сёння будзем гаспадарыць!..

Падумала і дадала:

— Бо я ўжо вялікая...

*1961*

# НЕЗНАРОК І ЗНАРОК

Лужына яшчэ здалёк убачыла Юру і ўзрадавалася.

— Бяжы сюды, пагуляй са мной! — паклікала яна.

Юра з разгону пераскочыў цераз лужыну, толькі пырскі ва ўсе бакі паляцелі з-пад чаравікаў.

— Давай гуляць, хто вышэй падскочыць,— сказаў Юра.

Лужына, нібы дураслівае шчаня, то адступала перад хлопчыкам, то хапала яго за ногі, узлятала фантанам і абсыпала дажджом. Нарэшце яна так раздурэлася, што абліла Юру з галавы да ног.

— Ай! — спужаўся хлопчык.— Што я цяпер буду рабіць?

— Бяжы да мяне! — паклікала Юру гліна, што ляжала непадалёку.— Мяне дождж размачыў, і ты налепіш сабе цацак.

Прысеў Юра перад глінаю і ўзяўся за работу. Вылепіў ракету, паставіў яе на пляцоўку для запуску. Побач выстраіліся самалёты і самазвалы. Вартаваць ракетадром даручыў кату Цімку і аўчарцы Сігналу, якіх вылепіў пасля.

Зірнуў Юра на свой касцюмчык, уздыхнуў і пабег далей па вуліцы.

Тут убачыў яго высокі плот і пачаў дражніцца:

— А ты не ведаеш, што я за спіной хаваю?

— Падумаеш,— адказаў Юра,— узлезу на цябе і пагляджу.

— Не, не ўзлезеш. Я высокі.

Падбег Юра да плота і пачаў караскацца. Узабраўся, сеў, паглядзеў наўкол і сказаў:

— Хто перамог?

— Пабачым, як ты злезеш,— усміхнуўся плот.

— Магу нават саскочыць,— пахваліўся Юра.

— А я цябе не пушчу,— плот учапіўся сучком за Юраву куртачку.

— А я ўсё роўна саскочыў,— адказаў Юра, апынуўшыся на зямлі.

Калі хлопчык сядзеў наверсе, яго ўбачылі каменьчыкі, насыпаныя каля хаты цёткі Дашы, і паклікалі да сябе.

— Нам так абрыдла ляжаць на адным месцы. Пагуляй з намі.

Падбег Юра да каменьчыкаў і пачаў падкідаць іх угору.

Усім было весела, і кожны каменьчык спяшаўся хутчэй трапіць у рукі да хлопчыка.

Раптам адзін, самы нецярплівы, вырваўся з пальцаў у Юры і паляцеў зусім не ў той бок. Юра і ахнуць не па-

спеў — дзын! Каменьчык разбіў шыбу ў акне цёткі Дашы і заляцеў у пакой.

Спалохаўся Юра, разгубіўся. Але тут яго выратавалі ногі. Яны самі — хлопчык і вокам не паспеў міргнуць — прынеслі Юру дадому.

— На каго ты падобны! — пляснула рукамі маці.

— Я незнарок,— адказаў Юра.

— Што ж ты цяпер будзеш рабіць? — спытала маці.

— Не ведаю.

— Хіба ты забыўся, чаму я цябе вучыла?

— Не: зрабіў дрэннае незнарок — папраў на добрае знарок.

— Ну дык бярыся за работу.

Юра зняў куртачку, зашыў яе, вымыў, павесіў сушыць, паваксаваў чаравікі, памыўся сам, пераапрануўся і моўчкі падышоў да маці.

— Вось і малайчына! — пахваліла маці.— Але чаму ты такі сумны?

— Эх,— уздыхнуў Юра,— так незнарок усё робіцца. Мама, я да цёткі Дашы павінен схадзіць. У яе шыба разбілася.

*1966*

## АЛАЧКА-ЗАБЫВАЛАЧКА

У нашым дзіцячым садзе ёсць дзяўчынка Алачка. Раней яна ўвесь час забывала сваё імя. І празвалі яе Алачка-забывалачка.

Неяк раз нянька паклікала адну дзяўчынку:

— Мілачка, дзе ты? Ідзі шакаладку сваю вазьмі!

Замест Мілачкі падбегла да нянькі Алачка-забывалачка і стала перад ёю.

— Хіба ты Мілачка? — здзівілася нянька.

Алачка заміргала вачыма і кажа:

— Мне здаецца, што я Мілачка.

— А можа, ты Алачка? — пытаецца нянька.

— Няўжо я Алачка? — глытаючы слінкі, уздыхнула наша забывалачка.— Мне так хочацца быць Мілачкай...

А то накідае Алачка смецця на падлогу або паломіць цацку. Пачнуць шукаць, хто гэта нарабіў. Наша забывалачка возьме і схаваецца.

— Ала, Алачка, дзе ты? — клічуць яе.

А яна ні гу-гу! Не абзываецца.

Нарэшце знойдуць яе і кажуць:

— Што ж ты маўчала?

— А я думала, што вы другую дзяўчынку шукаеце.

— Дык ты ж у нас адна, Алачка,— дзівяцца нянькі і выхавальніцы.— Хіба ты забылася?

— Забылася,— адказвае Алачка.

— І што смецця накідала, таксама забылася?

— Таксама,— адказвае наша забывалачка.

Аднойчы надзела Алачка Петрыкаву шапку і стала сярод хлопчыкаў.

— Ты хто? — спыталі ў яе.

— Хлопчык,— адказала яна.

— А як цябе зваць?

— Петрык.

Выхавальніца ніяк не магла зразумець, як гэта ў групе апынуўся лішні хлопчык, а дзяўчынкі не хапае. Думала, думала, пакуль не здагадалася, хто ў гэтай блытаніне вінаваты.

І дома ў Алачкі заўсёды што-небудзь здаралася.

Шукае яе маці, шукае старэйшая сястра.

— Ала, Алачка! Дзе ты? Абед астывае.

Алачка ж гуляе непадалёку і маўчыць.

— Ты чаму не абзывалася, калі мы цябе клікалі? — пытаецца маці.

— А я тады была не Алачка, а Мушка-зелянушка,— адказвае хітруха.

Аднойчы вярнулася Алачка з вуліцы ўся з галавы да ног мокрая-мокрая, хоць бяры ды выкручвай.

— Дзе ты так выкупалася?! — здзівілася маці.

— Я не выкупалася,— запярэчыла дачушка.— Гэта я на белай хмарцы пракацілася.

— На якой такой белай хмарцы?

— Што ў лужыне пасля дажджу засталася,— спакойна адказала Алачка.

Нядаўна прыйшла ў садзік Алаччына мама. Узрадавалася дзяўчынка, бяжыць да яе.

— Хіба ты мая дачушка? — пытаецца маці.

— Твая! — упэўнена адказвае Алачка.

— Штосьці не помню. Здаецца, у мяне была другая дачка: Лідачка ці Жэнечка.

— Не, мама. У цябе я адна! І завуць мяне Алачка.

— Няўжо? — дзівіцца маці.— Ніяк не магу ўспомніць. Пайду дахаты. Успомню — зноў прыйду.

Напалохалася Алачка, што маці сапраўды забудзецца

пра яе. І ўсе забудуцца. Пераблытаюць з другой дзяўчынкай або нават з хлопчыкам.

А потым зірнула на маму і прытулілася да яе.

— Ты, мамачка, мяне не забыла! — радасна сказала дзяўчынка.— Па вачах бачу. Я твая Алачка-незабывалачка.

*1960*

# МОЦІК-АБАРОЦІК

Жыве на нашай вуліцы хлопчык. Завуць яго Моцік-абароцік. Спачатку хлопчыка звалі толькі Моцік. І быў ён, як усе хлопчыкі. А калі крыху падрос, дык пачаў больш глядзець не наперад, а назад.

Ідзе Моцік з мамай па вуліцы і ўвесь час азіраецца. Паверне галаву назад і ідзе. Маці яму кажа:

— Перастань!

А Моцік адказвае:

— Мне так цікавей. Калі я гляджу толькі наперад, дык не бачу, што робіцца ззаду.

Вось і пачалі яго зваць Моцік-абароцік.

Сядзе Моцік абедаць, загледзіцца на што-небудзь ззаду і нясе лыжку міма рота да вуха. Ды яшчэ і перакуліць часам. Пачне есці мяса і павернецца, каб паглядзець, што за акном робіцца.

Круціцца Моцік, а сабачка Жучок даўно за ім сочыць. Падскочыць Жучок да відэльца,— гам! — і няма мяса.

— Мама! — плача Моцік.— Сабака мяса схапіў.

— Так табе і трэба! — кажа маці.— Не круціся за ядой, не аглядвайся назад.

Ды хіба Моцік паслухаецца! Ён вельмі ўпарты хлопчык. Пра яго нават песеньку склалі:

Моцік, Моцік,
Абароцік!
Шлёпнуўся на павароце,
Збіў аўтобус і трамвай,
Плача: «Мама, ай-я-яй!»

Выйдзе Моцік на двор, разбяжыцца і раптам спалохаецца: а ці не прапусціў ён чаго цікавага ззаду? Паверне галаву назад, а сам бяжыць, пакуль не спатыкнецца або не ўпадзе.

Лоб Моціка-абароціка заўсёды быў у сіняках і гузах, а калені, локці ніколі не зажывалі.

Аднойчы ішоў Моцік па тратуары, загледзеўся назад ды як стукнецца дзядзьку галавой у жывот! Узяў дзядзька Моціка-абароціка за плечы і пытае:

— Чый гэта такі дзіўны хлопчык, што ходзіць не так, як усе?

І паколькі дзіўны хлопчык не вырываўся і маўчаў, дзядзька зноў у яго запытаўся:

— Ты ў кабіну да шафёра калі-небудзь залазіў?

— Я з дзядзькам Петрусём нават у лес па грыбы ездзіў,— пахваліўся Моцік-абароцік.

— А ты заўважыў там люстэрка, у якім дзядзька Пятрусь бачыць усё, што робіцца ззаду?

— Заўважыў.

— Прымацуй да пляча перад сабой такое люстэрка,— параіў дзядзька,— і табе не трэба будзе азірацца назад.

Моцік-абароцік засмяяўся. Хіба люстэрка ўтрымаецца на яго плячы!

Пачне іншы раз Моцік глядзець назад, забудзецца ды павернецца. І тое, што было ззаду, становіцца спераду. Моцік зноў павернецца, заблытаецца і ўжо нічога не можа разабраць. Так і круціцца ваўчком, пакуль не зачэпіцца нагой за нагу і не паваліцца.

Аднойчы пайшоў Моцік у заасад. Стаў перад клеткай з жырафай, а сам павярнуўся і пазірае на вярблюда. Вярблюд глядзеў, глядзеў на Моціка, а потым як фыркне ад здзіўлення.

Неяк раз маці купіла Моціку трохколавы веласіпед, падобны на ракету.

З крыкам: «Я лётчык-касманаўт!» — не азіраючыся назад, Моцік імчаўся дамоў, міма дзіцячай пляцоўкі, усё наперад і наперад, усё хутчэй і хутчэй.

А калі навучыўся ехаць наперад, захацелася Моціку, не паварочваючы ракету, навучыцца імчацца назад.

Тут і пачаліся непрыемнасці: то на тэлеграфны слуп наляціць, то на дрэва. Людзі ад яго кідаюцца ва ўсе бакі. Толькі міліцыянер не збаяўся Моціка-абароціка і затрымаў на скрыжаванні дарог.

— Ты парушаеш правілы вулічнага руху! — строга сказаў ён Моціку.— Хто ты такі?

— Я лётчык вышэйшага класу,— адказаў Моцік.

— А ты бачыў, каб лётчыкі вышэйшага класу налятал на слупы і палохалі людзей?

— Не.

— То-та ж! На першы раз даю заўвагу. На другі — адбяру правы на карыстанне ракетай.

Зараз Моцік вучыцца кіраваць сваёй ракетай без аварый і здарэнняў.

І паспяхова.

О, гэта вельмі настойлівы хлопчык!

*1959*

## ШТО ВАЖНЕЙ

Галачка і яе маці зайшлі ў магазін. Сярод высокіх гор з цукерак і печыва стаяла прадаўшчыца. Яна звярнулася да Галачкі:

— Што ты збіраешся купіць у нас, малышка?

Галачка не адказала.

— Як жа цябе, птушанятка, завуць?

Дзяўчынка нахмурылася і нават адвярнулася ад прадаўшчыцы.

— Што з табой здарылася? — здзівілася маці.— Ты забыла сваё імя?

Галачка маўчала.

— Ты чаму не адказала? Чаму не сказала, як цябе зваць? — спытала маці ў дачкі, калі яны выйшлі з магазіна.

— Я не малышка і не птушанятка. Я вялікая! — растлумачыла Галачка.

— Ты паводзіла сябе, як самая звычайная малеча. Не адказала ні на адно пытанне. Як жа прадаўшчыца магла даведацца, што ты ўжо вялікая?

Маці змоўкла, а Галачка задумалася. Так яны моўчкі ішлі па вуліцы, пакуль да іх не падышоў дзядуля, падобны на дзеда-мароза, і не сказаў:

— Добры дзень!

Галачка раней за маці так ветліва і выразна адказала: «Добры дзень, дзядуля!», што ён ласкава паглядзеў на Галачку і спытаў:

— Як жа цябе, унучка, завуць?

— Мяне завуць Галачкай,— заспяшалася дзяўчынка.— Толькі скажыце, што я ўжо вялікая!

— Раз называеш сваё імя, значыць, не маленькая,— згадзіўся дзядуля.— А яшчэ чым ты дакажаш, што вялікая?

Галачка трохі падумала.

— Я... Я сама... умею есці лыжкай і відэльцам. А яшчэ туфлікі надзяваю. Сама іх зашпільваю.

— І дапамагаеш маме,— падказаў дзядуля, угледзеў-

шы, што Галачка трымаецца за маміну сумку.— Так-так, ты сапраўды вялікая дзяўчынка.

Галачка так узрадавалася, што ўсім, хто стаў пападацца ім насустрач, пачала казаць:

— А мяне завуць Галачкай. І я ўжо вялікая.

Але дарослыя або не звярталі на Галачку ўвагі, або з усмешкай пазіралі на яе.

— У цябе ж не пытаюцца,— сказала маці.

— Няхай усе ведаюць, што я вялікая.

— Выхваляцца сабой, дачушка, непрыгожа. Калі людзі ўбачаць, што ты навучылася рабіць добрыя справы, тады і скажуць, якая ты.

— Чакай, калі скажуць! — пакрыўдзілася нецярплівая Галачка.— А можа, і не скажуць.

І, памаўчаўшы, напомніла:

— Я ж сама сёння надзела туфлікі. І ты мяне пахваліла.

— Правільна,— згадзілася маці.— Значыць, што важней: твае словы ці твае справы?

*1961*

## МЫШКІ І МІШКІ, ТАЛЕРКІ, ПЫШКІ І ШЫШКІ

Мы з татам вярталіся з прагулкі дадому. А калі праходзілі ля магазіна з цукеркамі, я папрасіла:

— Тата, купі мне «Мішак на Поўначы».

— Мышак на Поўначы?! — здзівіўся тата.— А хіба да нас з поўначы прывозяць мышэй? Адтуль прывозяць у заапарк белых мядзведзяў, цюленяў, маржоў.

Я падумала, што тата недачуў, і сказала:

— Не мышак, а мішак.

— Навошта табе пышкі? — спытаў тата.— Ты іх ела, калі снедала.

— Ніякую не пышку, а цукерак «Мішка на Поўначы»,— паўтарыла я.— Разумееш: міш-ка!

— Можа, лепш купіць талерку: з місак цяпер ніхто не есць.

Я зусім разгубілася. Няўжо замест «мішка» я сказала «міска»?

— Не трэба мне ні талерак, ні місак, ні пышак і ні мышак. Я хачу мішак.

— Нарэшце зразумеў,— сказаў тата.— Не трэба ні та-

6 Зак. 2992

лерак, ні місак, ні пышак і ні мышак. Зараз пойдзем у парк да вунь той блакітнай елкі і назбіраем табе шышак.

— І шышак не хачу.

Тут я сама ўсё пераблытала і сказала:

— Я хачу мышак на поўначы, і больш нічога! Не, не мышак, а мішак.

— Ну вось,— спакойна адказаў тата.— Ажно ты і сама не ведаеш, чаго табе хочацца. Зірні, нават вераб'і на рабіне дзівяцца з цябе.

— Гэта яны з цябе, тата, дзівяцца,— раззлавалася я.— што ты нічога не разумееш.

— Не,— запярэчыў тата,— вераб'і дзівяцца, чаму ты ніяк не хочаш зразумець і запомніць адно...

Я ўздыхнула. Кожны дзень мне гавораць пра гэта.

— Ну што ты ўздыхаеш? — сказаў тата і ўзяў мяне за плячо.— Можа, мне самому хочацца гэтых самых цукерак. А таму пойдзем хутчэй дадому. Нас мама даўно чакае.

Прыйшлі мы дадому. Толькі пераступілі парог, як закрычу я:

— Мамачка, даражэнькая. Тату вельмі хочацца цукерак «Мішка на Поўначы»! Будзем хутчэй абедаць.

— Толькі тату хочацца гэтых цукерак? — здзівілася маці.— А табе?

— Тату хочацца яшчэ больш, чым мне! — сказала я.

Ніколі ў мяне не было такога апетыту. А калі я з'ела ўсё, што мама падала, на стале з'явілася вазачка з нашымі любімымі цукеркамі «Мішка на Поўначы».

*1966*

## ТАТА, ВЯРТАЙСЯ ХУТЧЭЙ!

Дагэтуль на паштоўках Валерык адно малюнкі разглядваў. А ўчора маці прынесла некалькі паштовак, паклала перад ім.

— Тата і ад цябе чакае пісьма. Напішы яму.

І яшчэ маці сказала:

— Нашу фабрыку занеслі на Дошку гонару. Мы атрымаем прэмію.

Калі раней мама так гаварыла, Валерык добра ўяўляў: вежавы кран падымае маміну фабрыку высока ўгору і пераносіць на вялізную чырвоную дошку, што ляжыць на зямлі.

Самому смешна, што так думаў. Быў маленькі і не толькі не ведаў, што такое спаборніцтва, а нават не ўмеў маляваць і пісаць. Цяпер Валерык ведае — Дошка гонару стаіць у парку. На ёй ёсць фота мамы і фота цёткі Галі — Наташынай мамы з суседняй кватэры. Ён адразу іх убачыў. Мама ўсміхаецца, а цётка Галя нібы пачула, што ляціць рэактыўны самалёт, і ўглядаецца ў неба, дзе ён.

Сёння нядзеля. Валерык прачнуўся рана і разам з мамай вытрусіў у двары дывановыя дарожкі. Потым дапамог чысціць бульбу.

Паснедаўшы, маці пайшла ў горад, а Валерык пабег на пясчаны ўзгорак, дзе заўсёды збіраюцца яго сябры. Ля іх стаяў Валодзя. З каробкі, на якой з блакітных хваль выглядалі смешныя дэльфіны, Наташа частавала сяброў цукеркамі. Узяўшы цукерку, Валерык сказаў:

— Давай гуляць у спаборніцтва.

— Бяжым, хто хутчэй? — прыгатавалася Люда.

— Не, будзем будаваць, хто што захоча. У каго лепш атрымаецца, таго прэміруем...

— Каробкай цукерак,— падхапіла Наташа.

Дзеці рассыпаліся па ўзгорку.

Наташа хуценька набудавала з пяску дамоў на цэлую вёску. Ля кожнага наставіла сцяблінак лебяды. З залацістых кветак дзьмухаўцу выклала газоны, сярод іх расставіла лаўкі.

Так захапілася, што яшчэ прыдумала пляцоўку для дзіцячых гульняў, шпакоўні, сажалку для карасёў. Люстэрка сажалкі дзяўчынка выклала з кавалкаў шкла.

Валодзя ўзяўся ўзводзіць сцены Брэсцкай крэпасці з равамі і насыпамі вакол. Амбразуры хлопчык выкладваў каменьчыкамі. З амбразур высоўваліся дулы вінтовак і кулямётаў. Як і заўсёды, будаваў Валодзя моўчкі і ўмела. Але цяпер неўзаметку для хлопчыка сцены крэпасці атрымоўваліся больш тоўстыя, равы глыбейшыя, а валы вышэйшыя.

А Люда ніяк не магла прыдумаць, з чаго пачаць, і мітусілася, цікавячыся, хто што будуе.

— Я так не хачу! — казала яна.— А я не так зраблю!

Яна выкапала глыбокую яму, але раптам закідала яе і пабегла ў зараснікі бур'яну. Назбірала палак, наламала лісцяў дзядоўніку. З палак дзяўчынка ўзвяла каркас, абклала лісцямі. Атрымаўся шацёр.

Пад яго зялёным купалам Люда наставіла галінак, навесіла нітак павою. Потым збегала дамоў, прынесла фігуркі медзведзянят, клоунаў, Бураціна, якія яна сама нама-

6*

лявала на тоўстай паперы і выразала. Рассадзіла іх па «канатах» і «трапецыях». Над уваходам у шацёр прымацавала паперку з надпісам «ЦЫРК» і закрычала:

— Пачынаецца вясёлае відовішча. Спяшайцеся ўбачыць!

А сама кінулася зірнуць, хто што зрабіў.

— Ва ўсіх гатова,— сказала яна Валерку.— А ў цябе?

— І ў мяне гатова,— адказаў Валерка.

— А што гэта?

— Дом з ліфтам.

Усім падабаўся Валерыкаў дом з ліфтам. Падабалася Валодзева Брэсцкая крэпасць. І Наташын пасёлак. І Людзін цырк.

— А каму ж каробку? — спытала Наташа. Здавалася, пацешныя дэльфіны на малюнку таксама чакалі пераможцу.

— Каму? — Валерык зірнуў на дэльфінаў і таксама не ведаў, што адказаць. Ва ўсіх па-рознаму, і ўсё падабаецца.

— Давайце пабяжым навыперадкі,— прапанавала Люда, якой не цярпелася пабегаць.— Хто першым дабяжыць да вунь тых тэлеграфных слупоў і вернецца назад, атрымае прэмію.

Усе пабеглі. Першыя вярнуліся Люда і Наташа. За імі — Валодзя і Валерык.

— А каробка адна,— сказала Люда.

— І цукерка адна,— раскрыўшы каробку, сказала Наташа.— Давайце адкусваць па кавалачку.

Адкусілі па кавалачку, і ўсім захацелася піць. Пабеглі да Валерыка дамоў, напіліся, Валерык павёў сяброў да століка, дзе ляжалі віншавальныя паштоўкі.

— Мне яшчэ трэба тату пісьмо пісаць,— сказаў ён.

— А ў мяне такая ёсць! — усклікнула Люда і схапіла адну з паштовак, дзе ў сіняе неба ўзляталі і рассыпаліся рознакаляровыя агеньчыкі ракет.— Гэта «Аўрора» на блакітнай Няве. А гэта касмічны карабель ляціць на Месяц,— пераказвала Люда змест малюнкаў і перадавала іх з рук у рукі.

— Ой, а гэта што такое?

На стале, дзе працаваў Валерыкаў тата, Люда ўбачыла вялізную ракавіну.

— А я ведаю,— сказала Наташа.— Гэта аманіт.

— Тата з экспедыцыі прывёз.

— Які цяжкі! — Люда з напружаннем падняла ракавіну, перадала яе Валодзю.

— Давайце каменны дзённік глядзець,— прапанавала

Наташа. Яна правяла далонню па вечку адной са скрынак на стале — скрынкі былі падобны на вялізныя тоўстыя кнігі — і адкінула вечка.

Каменны дзённік... Валерык ганарыўся гэтымі скрынкамі, дзе ў кожнай ячэйцы было столькі цікавага, незвычайнага. Камяні, дзеля якіх тата і яго сябры ездзілі па ўсёй краіне! Людзі цярпелі пякельную гарачыню пустынь і лютую сцюжу Поўначы, узбіраліся на горы, спускаліся ў прадонні, забіраліся ў пячоры. За час пошукаў у рукзаках за плячыма яны перанеслі не адну тону камянёў.

Вяртаючыся дадому з чарговай экспедыцыі, тата нязменна папаўняў свой дзённік новымі знаходкамі. Калі яму хацелася палюбавацца калекцыяй, успомніць пра сяброў і перажыць ранейшыя прыгоды, ён клікаў Валерыка.

— І таварышаў пакліч,— казаў бацька.— Вы ж разам рыхтуецеся ў экспедыцыю.

Часам іх збіралася так многа, што не было куды пасадзіць, а часцей за іншых прыбягалі Наташа і Валодзя. Яны ўтраіх уладкоўваліся на крэсле, слухалі апавяданні Валерыкавага бацькі і па чарзе разглядвалі кожны камень...

— Гэта пірыт,— асцярожна ўзяўшы з ячэйкі гронку залацістых крышталяў, сказала Наташа.— Зірніце, як зіхаціць, нібы праменьчыкі загараюцца!

Валодзя таксама выцягнуў са скрыначкі кавалак чырвонага каменя і сказаў:

— А гэта кінавар. З яе фарбу робяць. Дзе яна знаходзіцца, там у зямлі шмат жалезнай руды.

— З Марухскага раёна Паўночнага Каўказа,— дадаў Валерык.— Там на адхоне гары тата за мядзведзіцай назіраў. Яна сваіх дзяцей вучыла мурашнікі пад камянямі знаходзіць...

— Успомніла, успомніла! — узрадавалася Люда.— Дзядзька Толя зімой расказваў. Мядзведзіца падыдзе да каменя, агледзіць яго, потым лапамі ці плячом штурхне з гары. А малыя не разумеюць і штурхаюць абы-як. Мядзведзіца за гэта іх лапай — шлёп-шлёп!

— А памятаеце, дзядзька Толя пра баброў расказваў,— сказала Наташа.— Там яны шукалі... Ой, забылася!

— Сільвініт,— Валерык падняў вечка з другой скрынкі.— Соль з Салігорска, толькі горкая. Яе па полі рассейваюць, каб ураджай быў лепшы.

Дзеці слухалі Валерыкаў пераказ аб пошуках сільвініту і аб тым, што на рэчцы Беседзі яго тата прасядзеў ноч на дрэве не варухнуўшыся, але ўсё ж такі сваімі вачыма пабачыў, як бабры пілуюць дрэвы і рамантуюць плаціну.

Усе па чарзе лізнулі горкія крышталі, нібы сапраўдныя даследчыкі, і паморшчыліся.

— А дзе наша знаходка? — успомніла Наташа.— Пакажы!

Гэта быў асаблівы гонар Валерыка і Наташы! Кавалак вапняку з маленькімі ракавінамі. Адшукалі яго сярод цэлай гары зямлі і камянёў, выкінутых экскаватарам.

Тата так радаваўся! Сказаў, што з гэтай знаходкі ў дзённіку пачынаецца новая старонка. І паабяцаў узяць дзятву з сабой у экспедыцыю на ўсё лета.

— Ой, як у вас цікава! — сказала Люда.— Мы да цябе заўтра прыйдзем.

Сябры пайшлі. Валерык вярнуўся да свайго століка і ўзяў адну паштоўку. Ссунуўшы бровы, прыжмурыўшы вочы, ён пільна ўглядаецца ў нешта такое, што вельмі далёка. А разглядзець усё роўна трэба.

Вось так, ссунуўшы бровы, пазірае перад сабой бацька, калі сядзіць за сталом або ходзіць па пакоі і падлічвае, ці многа знойдзена багацця ў падземных кладоўках. Тады Валерык стараецца як мага цішэй займацца сваімі справамі.

Першы ліст. Трэба пра ўсё напісаць. Пра маміну прэмію і з кім ён гуляе. Што чытае і як навучыўся маляваць. Валерык сядае за стол і на адваротным баку паштоўкі выводзіць вялікімі літарамі: «Дарагі тата!»

Хацелася напісаць, каб тата хутчэй вяртаўся дадому і прывозіў многа ўсяго-ўсяго, але месца на паштоўцы не хапала. Прыйшлося дапісаць напалову меншымі літарамі: «Прыязджай хутчэй! Твой Валерык».

*1968*

## ТВАР У ПАЛОСКУ

Калі б у гарсавеце ў мяне спыталі, як назваць нашу вуліцу, я, не задумваючыся, адказаў бы:

— Вуліцай Юных мастакоў.

Як толькі промні вясенняга сонца высушаць асфальт, ён пакрываецца малюнкамі. Малюе дзятва з усіх дамоў нашай вуліцы. Працуе настойліва, самаададдана, з ранку да позняга вечара. Усё ідзе ў ход: крэйда і вугаль, цэгла, атынкоўка, мяккі пясчанік.

Вось з трэцяга паверха нашага дома, пераскакваючы праз некалькі прыступак, бяжыць з крэйдай у руках белявы хлопчык.

Яму шэсць гадоў. Завуць яго Дзіма. Ён ускудлачаны, куртачка яго запэцкана крэйдай. Разгублена зірнуўшы на мяне, ён з ходу бярэцца за працу. Ледзь не на ўсю шырыню асфальтавай дарожкі ля свайго дома малюе хвалі, усярэдзіне ачэрчвае невялікі круг. Счырквае яго ўвесь крэйдай, сядае ў гэты круг, размахвае рукамі і гудзе.

— Гэта што ў цябе? — пытаюся.

— Мора! — адказвае Дзіма.— А я па моры плыву на шлюпцы.

Праз некалькі хвілін на шлюпцы з'яўляюцца ветразі, а сама шлюпка ператвараецца ў шхуну. Яе капітан ужо не сядзіць, а стаіць, пільна ўглядаючыся ўдалячынь.

І раптам хвалі перакрэсліваюцца вялізнымі зігзагамі. Дзіма бегае па іх і нема лямантуе. Я зразумеў: здарылася нечаканае — на моры ўзнялася бура. Велізарныя хвалі заліваюць Дзімаву шхуну. Раз-пораз бліскае маланка. «Трах-та-ра-рах!» — грыміць у небе. Шхуна разбіваецца аб скалы, а яе капітана хвалі выкідваюць на бераг.

Кароткі адпачынак. Мастак зноў разглядае свой твор. Па твару Дзімы відаць, што ён задумаў стварыць новы малюнак. Некалькі дадатковых ліній — і хвалі мора становяцца хмарамі, шхуна — касмічным караблём, а сам мастак — касманаўтам.

У гэты час з таго ж, трэцяга, паверха, не дакранаючыся да парэнчаў і балансуючы выцягнутымі ў бакі рукамі, асцярожна сходзіць чысцюлечка Таня.

— Што ты тут намазюкаў? — Яна іранічна глядзіць на Дзіму.— Дай кавалачак крэйды. Ха-ха-ха! На каго ты падобны?! Будзе табе прыпарка...

Перш чым узяцца за працу, Таня прыдзірліва адшуквае месца. Акуратна прысеўшы на кукішкі, малюе на асфальце роўныя кружочкі, абмалёўвае іх пялёсткамі і прырысоўвае па сцябліне з лісточкамі. Рамонкі ёсць! Над імі Таня малюе стракоз, чмялёў, пчол. Яшчэ вышэй — ластавак, а над імі — сонца. Унізе з'яўляецца трава, а ў ёй — яшчаркі, чарапахі і чамусьці адна змяя.

— А ты намалюй тыгра! — раптам гаворыць Дзіма, уважліва сочачы за Танінай працай.

— Тыгры пад рамонкамі не жывуць,— адказвае Таня.— Вось зараз намалюю джунглі.

З суседняга дома выбягае Анжэліка. Маленькая галоўка ў залацістых кудзерках, сама стройненькая, зграбная, нагадвае ўрубелеўскую дзяўчынку на фоне кіліма.

— Калякі-малякі! — радасна вітае яна сваіх сяброў.—

Што вы тут робіце? А-а-а!.. А ты прымалюй Дзімку нос, як у Бураціны.

— А я намалюю,— усміхаючыся, гаворыць Дзіма,— як цябе анаконда глытае.

— Пачакайце,— расхінаючы ля плота траву, кажа Анжэліка.— Зараз я пашукаю свае фарбы.

Дзяўчынка знаходзіць кавалкі жоўтага пясчаніку, ідзе туды, дзе на асфальт падае цень ад дома, і вычэрчвае раўнюсенькі квадрат. Потым закрэслівае ўсю плошчу квадрата лініямі, завіткамі і выпростваецца. Адышоўшы на некалькі крокаў, уважліва аглядае сваю працу, нешта перараблае. Нарэшце, зірнуўшы апошні раз, уздыхае і задаволена ўсміхаецца.

— Калякі-малякі, кілім гатовы! А які мяккі ды пушысты,— кажа яна.— Кладзіся, Дзімка, адпачывай, а я наш дом намалюю.

І зноў, цярпліва выводзячы кожную лінію, Анжэліка малюе дом, усе тры паверхі.

— Гэта балкон,— тлумачыць яна.— А на ім Жорка стаіць.

— Вось я намалюю твайго брата! Хай сам глядзіць, які ён!— кажа смяшлівая Ірачка, худзенькая дзяўчынка з бялявай грыўкай валасоў над вачыма. Яна таксама падбегла да мастакоў і ўзялася за работу.— Жорка! Ідзі паглядзі! Я табе намалявала твар у палоску! А Сёмку я намалюю твар у крапінкі. Вось яму, вось! Будзе ведаць!..

Колькасць мастакоў з кожнай хвілінай расце. Той, хто пакрыўдзіўся на крытыка, кідаецца сціраць шарж на сябе або пад заахвочвальныя воклічы балельшчыкаў малюе партрэт крыўдзіцеля. Узнікае вясёлае спаборніцтва.

Ля кожнага дома на нашай вуліцы — свае мастакі. І любы з іх уяўляе сабе свет па-свойму. Некаторых малюнкаў нельга зразумець, але іх аўтары заўсёды гатовы падрабязна ўсё растлумачыць.

Міма па сваіх неадкладных справах спяшаюцца мамы і таты, дзяды і бабулі. І калі хто-небудзь з прахожых выпадкова наступіць на хвост паласатага тыгра або на хобат слана, дык спагадліва і вінавата ўсміхнецца юнаму мастаку, нібы просячы ў яго прабачэння.

Шкада, жывуць гэтыя непаўторныя шэдэўры не больш аднаго-двух дзён. Толькі мне здаецца, у памяці саміх мастакоў яны пакідаюць след на ўсё жыццё.

*1965*



# АСА

І сёння мы палуднавалі ў садзе. Я, тата і мама. Там гэтак хораша! Пад каштанам стаяць стол і ўслоны. Усюды сонца, а ў нас цянёк. Летам мы заўсёды ў садзе палуднуем. Да нас прылятаюць госці. Не верыце? Праўда-праўда! Хіба мухі — госці? Як смешна вы кажаце!..

Першая сёння прыляцела аса. А мы рыбу елі. Села аса на залаты абадок талеркі. З самага краю. Працёрла лапкамі свае вочы, вусікі. Такая прыгожая, проста дзіва!

Мы з татам нават пра яду забыліся. Назіраем. У асы сківіцы, як два сярпочкі. Падбегла да рыбы. Сківіцы — раз-раз, туды-сюды. Адрэзала кавалачак, мала менш за сябе, падсунула бліжэй, прыціснула ножкамі і паляцела — сваім дзецям панесла.

Толькі мы папалуднавалі, аса вярнулася. Села на абрус з крошкамі хлеба. А побач з ёю муха. Аса — раз! — павярнулася, кінулася на муху і прыціснула яе. Мушка толькі нагамі варушыць, а зрабіць нічога не можа.

— Мама, зірні сюды! — сказала я пошапкам, каб не спудзіць асу.— Паглядзі, якая наша госця! Убачыла, што гэтая брыдкая муха не давала мне спакою, і схапіла яе.

# ПЧАЛА

Мы з мамай зварылі кампот. З ягад. Такі салодкі... Я перабрала ягады, а мама зварыла. Потым мы яго ў садзе за сталом пілі. Я і тата. А мама сказала:

— Я ўжо на кухні напілася.

Раптам на пальчык мне пчала села. Вось на гэты. Мама ў крык:

— Танечка, цябе пчала ўкусіць!..

Мама ў нас такая: усяго палохаецца. А тата спакойна кажа:

— Няўжо ты не ведаеш, што пчала джаліць, а не кусае?

Гэта праўда. У пчалы ззаду жывоціка джала схавана. А кусацца чым жа яна будзе?

— А яшчэ,— кажа тата,— дзе ты бачыла, каб госці кусаліся?

Мама ад нас падалей.

— Я,— кажа,— бачыць яе не хачу, вашу госцю! Ты будзеш вінаваты, калі што здарыцца з Таняй!

А мы з татам на пчалу глядзім. Я ўзяла лыжачку з кампотам і паднесла ёй. А пчала язычок высунула. Маленькі, руды. Быццам пэндзлік, якім малююць. І давай салодкі кампот злізваць. Цікава глядзець, як пчолы п'юць.

Піла пчала доўга-доўга. А потым узнялася і давай над намі кружыцца, каб запомніць, хто яе так добра пачаставаў.

Паляцела пчала. Не прайшло і хвіліны, а яна зноў тут. Села да мяне на пальчык. На той самы. Нават мама здзівілася:

— Ці не тая самая?

Мама толькі палохала, што пойдзе ад нас, а сама засталася.

— А якая ж? — сказала я маме.— Тая самая. Я адразу яе запомніла і пазнала.

Пяць разоў прылятала пчала. «І чаму яна так многа п'е?» — дзівілася я кожны раз. А як успомніла пра мёд, здагадалася, што яна не толькі для сябе, а для ўсёй сваёй сям'і п'е. Вось нап'ецца, прыляціць у вулей, усіх пачастуе і нават скажа, у каго была.

Калі мама аднесла ўсе шклянкі на кухню, пчала яшчэ раз наведалася да нас. Так было шкада, што нічога для яе не засталося!

## ПАВУК, СТРАКАЗА І КОТ

Пасля полудня тата прылёг пад кустом бэзу. І я з ім.

— Глянь,— паказаў тата,— якое кола над намі. Гэта пастка павука-крыжавіка.

Ну і вялізнае кола з павуціння! Сапраўдная пастка! Вісіць між дрэў... А вы ведаеце, чаму павука крыжавіком завуць? Не? У яго на спіне крыж. Белы. А сам павук тоўсты. Толькі яго не відаць. Ён у сухі ліст схаваўся. У трубачку. Каб нікога не пужаць. Сам за павуцінку трымаецца адной нагой. Пільнуе, калі павуцінка задрыжыць. Гэта ў яго сігнал такі. Задрыжыць павуцінка — значыць, хтосьці папаўся. Верабей? Ды вы што?! Хіба ён утрымаецца! Павуцінка зусім тоненькая. Нашы павукі толькі мух ловяць. Гэта ў гарачых краінах ёсць такія павукі, што нават сонных птушачак хапаюць.

Ну дык вось... Лётала па садзе страказа. Лётала, лётала. За мушкамі ганялася. Яна мушкамі жывіцца. Камарыкамі рознымі. Захапілася паляваннем, а павуціння і не ўбачыла. Кінулася ў наш бок, а крыльцы да павуціны і прыліплі.

І так разгубілася страказа, што зусім прыціхла. А потым як затрапеча крыльцамі. Гэта яна вырвацца хацела, каб адразу і паляцець.

Тут да страказы павук выкаціўся. Тоўсты-тоўсты. Пуза круглае, вялізнае. А на спіне крыж. Крыжавік, значыцца. Бачыць павук, што не муха папалася. Спужаўся ды як дасць лататы. Назад у сваё сховішча. Толькі яго і бачылі. Збаяўся, каб самога не з'елі.

А тут з кустоў кот выскачыў. Вялізны, вачышчы зялёныя. Гэта ён пачуў, як страказа крыльцамі трапеча. Як кінецца да страказы, каб схапіць. Раз падскочыў, другі, трэці. І не дастаў... Нават павуціння не зачапіў.

Сеў кот на заднія лапы. Падняў пярэднія ўгору. Глядзіць на страказу, а сам: «Мяў, мяў». Жаласна так, быццам плача.

Страказа крыху адпачыла ды так ірванулася, што ад павуціння толькі лахманы павіслі. А сама ўзнялася ўгору і паляцела.

Мы з татам нават у ладкі запляскалі. Ад радасці. Кот — шусь у кусты! З перапуду. Мы так смяяліся! Да слёз.

Во якая страказа! Герой, дый годзе!

# У САДЗЕ НОЧЧУ

А ведаеце, хто жыве ў пяску пад нашым ганкам? Ніколі не здагадаецеся! Старая-старая рапуха. Чаму старая? Ды яна вельмі многа гадоў там жыве, зрабілася тоўстая і цяжка дыхае.

У пяску ўтульная норка. Калі ўсюды спёка, там халаднавата і цёмна. Днём рапуха ў норцы адпачывае. А ноччу ў садзе палюе. У гэты час па садзе калматы Тузік бегае. Ён у нашых суседзяў жыве. Ох і дурны! Брэша абы на каго. Заўсёды брудны, а стараецца лапы мне на плечы пакласці.

Аднойчы падбег Тузік да рапухі, панюхаў, схапіў зубамі ды як падкіне ўгору! Гульню сабе знайшоў! Рапуха ўдарылася аб зямлю і моцна выцялася. А дурны Тузік пабегаў па сцежках ды — на свой двор.

Ляжыць рапуха ў траве. Цяжка дыхае. Варухнуцца баіцца. Доўга ляжала. А піць і есці хочацца. Цалюткі ж дзень галодная. Кінула свой язычок да ліста, расінку злізала.

Непадалёку груша-дзічка расла. Маленькая. Усяго тры лісточкі. А тут чарвяк-прожар на яе накінуўся. Ні днём, ні ноччу не даваў спакою. Рапуха ўбачыла чарвяка і праглынула. Змучанае дрэўца з палёгкаю выпрасталася.

Потым рапуха перабралася на новае месца. Ціхенька, каб Тузік не пачуў. На траве матылька ўбачыла. Матылёк сабраўся ляцець на яблыню. Хацеў на галінку кучку яек пакласці, каб з іх вусені вывеліся. Калі вусень завядзецца — на дрэвах ні лісця, ні яблыкаў не будзе... Матылёк толькі памкнуўся ляцець, а рапуха — хоп яго! — і праглынула!

У нашым садзе клубніцы растуць. Вельмі смачныя. Асабліва з малаком або з цукрам. А на клубніцы ўсе смаўжы спаўзаюцца. Агідныя такія. Тоўстыя і нібы студзень. Паўзуць і след пакідаюць за сабой. Яны мякаць у ягадах выядаюць. Рапуха ўсіх смаўжоў пералавіла... Мама раніцай назбірала на сняданне поўную талерку клубніц і нават не здагадалася, хто ягады выратаваў.

На каранях старога каштана рапуха злавіла жука-караеда. Ну што ў ім есці? Цвёрды, калючы. Яна ж і жука праглынула!

Так наша старая ўсю ноч і палявала. А калі пачало світаць, яна паскакала дадому, да свае норкі. Зноў спаць да вечара.

Аж па дарозе ёй кацяня сустрэлася. Кацяня ўсю ноч

спала ў цёплым закутку. Ранкам пад'ела малака, і захацелася яму пазабаўляцца. Выбегла на ганак і давай са сваім хвастом дурэць. Круціцца, лапкамі хапае. А тут якраз рапуха з палявання вярталася. Кацяня скок да яе з ганка. Рапуха да зямлі прытулілася, вочы лапкамі прыкрыла. Разумная такая. Кацяня да яе носам. І — апчхі! У носе заказытала. А рапуха да норкі — скок! Кацяня зноў да яе: думала, што рапуха гуляе з ім. Хоп — і перакуліла. А рапуха са спіны на жывот ды зноў — скок, скок! Пакуль не схавалася ў норцы.

## ЗНАХОДКА

Ранкам я выбегла на ганак. Гляджу, на прыступцы мамін жук. Мама ім кофту зашпільвае. Зарадавалася я: мама згубіла, а я знайшла. Схапіла, а жук як драпане па далоні! Я з перапуду кінула яго — і ў крык. Прыбегла мама, потым выйшаў тата. А жук ляжыць на сцежцы дагары нагамі і варушыцца, каб як-небудзь перакуліцца.

— Ён за руку мяне драпнуў. Утаплю яго! — сказала я.

— Паспрабуй,— адказаў тата.

Кінула я жука ў начоўкі з вадой, што стаялі на ганку, а ён нырнуў і давай плаваць.

— Бедны жук! І патануць не можа,— засмяялася мама.— Гэта ж плавунец. Ноччу пераляітаў з аднае сажалкі ў другую і выпадкова сюды заляцеў.

— А чым ён у вадзе жывіцца? — спыталася я.

— Пражора і драпежнік,— адказаў тата.— Нават на маленькіх рыбак кідаецца.

— Драпежнік?! — здзівілася я.— А які прыгожы! Нават брошкі робяць падобныя на яго.

— Давай, маці, акварыум Танечцы зробім,— прапанаваў тата.— Хай бачыць, хто ў вадзе жыве.

А што такое акварыум, я не ведала. Ажно аква па-лацыні — вада. Акварыум, значыцца, куток вадзянога жыцця.

Быў у мяне з марлі сачок, матылькоў лавіць. Узялі мы шкляны слоік, гэты сачок і пайшлі з татам на сажалку.

## КАГО МЫ ВЫРАТАВАЛІ

Вакол сажалкі растуць вербы, лазняк. А ля берага — асака, хвошч, аер. Раптам чуем: ля самай вады трапечацца нешта. Асцярожна расхінулі траву, бачым — вялізная стра-

каза сядзіць на аерыне. Хвост яе ў вадзе, а ў яго ўпіўся нехта. Падобны на перакуленага жучка, толькі заднія ногі доўгія, як вёслы, і ўсё па вадзе грабуць. Небарака-страказа ні скінуць яго з сябе не можа, ні ўгору падняцца, толькі крыльцамі трапеча. Потым мы здагадаліся, што страказа прымацоўвала пад вадой яечкі да сцяблінкі,— а ў гэты момант клоп-гладыш, які ў вадзе жыве, і падпільнаваў яе.

Ледзь адарвалі мы гэтага крывасмока ад стракахы. Пасадзілі страказу адпачываць на беразе, а гладыша ў слоік з вадой укінулі.

## НЕЧАКАНАСЦЬ

Налавілі мы поўны слоік розных дробных жывёлінак. Набралі куклянак, ручайнікаў. Нават лічынку стракахы знайшлі. Закінулі сачок апошні раз, пацягнулі па дне сажалкі і паднялі. Бачу — у сачку павук сядзіць.

— Няшчасны павучок! — пашкадавала я.— З вярбы, мусіць, зваліўся.

Тата ўсміхнуўся і кажа:

— Давай і яго ў слоік.

Я паглядзела на тату: мабыць, жартуе. Няўжо павук у вадзе жыць зможа? Але маўчу. Тата перакінуў павука ў слоік, а ён нырнуў на дно і давай плаваць. Адно жывот срэбрам блішчыць. Я потым дома разгледзела: увесь павук валаскамі аброс. Калі павук пад вадой, гэтыя валаскі ўтрымліваюць паветра, і павук срэбным пухірком здаецца. Тата сказаў, што яго так і завуць серабранкай.

«Няўжо ён і павуцінне пад вадой тчэ?» — падумала я, але не спытала пра гэта. Надумала сама ўсё падгледзець.

Накідалі мы на дно слоіка розных каменьчыкаў, насыпалі жменьку чыстага пяску, укінулі некалькі галінак вадзяных раслін і пайшлі дахаты. А дома ўсё ў сапраўдны акварыум перанеслі. Я і жука-плывунца сюды перанесла.

Да самага вечара я не адыходзілася ад акварыума. Павук увесь час у вадзе сярод галін плаваў, месца, мабыць, сабе шукаў. Толькі зрэдку кончык жывата з вады высоўваў: паветра свежага набіраў. Я і заснула ля акварыума. Мяне потым у пасцель мама перанесла.

Назаўтра прачнулася я раненька і — да акна, дзе мой акварыум. Так і ёсць! Павук знайшоў сабе месца сярод раслін, выткаў з павуціны каўпак пад вадой, напоўніў паветрам і сам туды залез.

## НЕЗВЫЧАЙНЫ ДРАПЕЖНІК

— Зірні, Таня, якога я табе драпежніка прынесла,— сказала мама і апусціла ў акварыум раслінку з кволымі лісточкамі-іголачкамі. А на некаторых кістачках празрыстыя пухіркі вісяць, нібы маленькія колбачкі.

— А дзе драпежнік? — пытаюся я.

— Будзь цярплівая — убачыш,— адказвае мама.

Я зусім разгубілася. Няўжо гэтая галінка з колбачкамі на іголках — драпежнік?! Ні вачэй, ні рота, ляжыць у вадзе, не скранецца. Чым жа яна будзе каго-небудзь лавіць?

Назіраю за раслінкай, затаілася. Чакаю, калі яна заварушыцца.

А маленькія весланогія рачкі і вадзяныя блохі таўкуцца, скачуць вакол новай галінкі і апускаюцца на яе адпачываць. Адзін чырванавокі рачок сеў на колбачку і раптам усярэдзіне апынуўся, нібы праваліўся туды. Гляджу, і ў іншых пухірках рачкі сядзяць, нібы хаткі сабе пазнаходзілі. А назад ні адзін не спяшаецца вылезці.

Праз тры дні ў акварыуме не засталося ні дафній, ні рачкоў. Усіх гэтыя пухіркі пералавілі і з'елі. А галінка расліны-плывунца на некалькі лісткоў падрасла.

Я сама выкінула яе з акварыума.

## НАРАДЖЭННЕ СТРАКАЗЫ

Прыйшлі да мяне Вера, Люда і Коля — мае сябры. Яны кожны дзень прыходзяць акварыум глядзець.

Назіраем, як ручайнік сабе хатку-трубачку дабудоўвае. Адгрызе кавалачак лістка і прыклейвае да трубачкі, у якой сам жыве. Новыя кавалачкі зялёныя, а старыя, з якіх склеена трубачка, пачарнелі. Сам ручайнік на вусеня-карантыша падобны. Пачуе небяспеку — і ў хатку з галавой хаваецца. Усё сваё жыццё і носіць на сабе сваю хатку. Ды як не хавацца, калі навокал столькі драпежнікаў.

Вось і зараз лічынка стракозы непадалёк прытаілася. Так і чакае, каб схапіць.

Але, замест таго каб да ручайніка падкрадацца, лічынка паднялася ўгору і з вады высунулася.

— Нас разглядае,— сказаў Коля.

А потым лічынка і зусім на чарацінку вылезла. Глядзім, а ў яе шчылінка на спіне паказалася, нібы скура лопнула. Ніколі мы такога не бачылі. Кінулася я клікаць маму, а яе няма дома.

— Лічынка ліняе, як вужака,— сказала Люда.— Вужака, як толькі падрасце, са старой скуры вылазіць, бо ёй цесна там робіцца.

Пакуль мы спрачаліся, са шчылінкі нешта павольна вылазіць пачало. Вылезла і ўніз адкінулася.

Прыгледзеліся, бачым — галава, тулава з нагамі, на галаве вочы вялізныя, нібы шкляныя, вясёлкай зіхацяць. Мы ў адзін голас як закрычым:

— Страказа! Страказа нараджаецца!

Неўзабаве страказа ўчапілася нагамі за сваю былую скуру і ўся выцягнулася.

— Толькі без крыльцаў,— здзівілася Вера.— А як яна жыць будзе?

— Бачыце на спіне празрыстыя лусачкі? — заўважыла я.— Яны ж потым вырастуць. І будуць крыльцы.

— А калі не вырастуць? — засумнявалася Вера.

Тым часам прыйшла мама. Усе разам мы пачалі расказваць. Мама запрасіла нас падсілкавацца малаком з пірагамі і сказала:

— Нованароджаная адпачываць будзе, пакуль крыльцы не адрастуць, як у дарослай.

— А што я казала! — узрадавалася я.

Пакуль мы пілі малако, у страказы крыльцы раслі, і яна ўсё ўстрэсвала імі і ўстрэсвала, каб раслі хутчэй.

Раптам страказа адарвалася ад аерыны і пачала лятаць па хаце. Ад радасці мы кінуліся ў скокі, а потым расчынілі акно і хутчэй на вуліцу.

Страказа вылецела з хаты, паднялася ўгору, пакружылася над намі і паляцела. А на аерыне скурка ад лічынкі засталася.

## ПАДАРУНАК

Алёша — ён ужо ў трэцім класе вучыцца — убачыў у мяне акварыум і прынёс макрапода, рыбку такую. Толькі параіў, каб я дастала з вады клапа-гладыша і жука-плывунца. Я так і зрабіла, укінула іх у маленькі слоік з вадой. Цяпер падыду да акварыума, а макрапод плыве ўжо насустрач і глядзіць сваімі карычневымі вачанятамі з залацістым абадком. Хутка пачаў мяне пазнаваць!

Я назвала яго Шчаўкунчыкам. Ведаеце чаму? Кіну яму сухога мучнога чарвячка, а ён падымаецца да яго зусім недзе збоку, паволі, нібы і не цікавіцца здабычай, нават плаўнікамі не варухне. Хітрун такі! А як падплыве бліжэй,

кінецца да чарвяка і сківіцамі — шчоўк! Ды так моцна, нібы стрэльне. Нават бурбалачка з рота выскачыць. Адкусіць Шчаўкунчык кавалак чарвяка, на мяне зіркне і зноў — шчоўк!

Усё лета жыў у мяне Шчаўкунчык. І я вельмі яго любіла. Устаю, кажу яму: «Добрай раніцы!» Кладуся спаць, кажу: «Спакойнай ночы, Шчаўкунчык!»

Аднаго разу падышла, глянула, а мой Шчаўкунчык ляжыць на вадзе дагары жывоцікам і не варухнецца. Дакранулася, а ён нежывы.

Паклала яго на далонь, а слёзы з вачэй самі сыплюцца. Плачу, ніяк не магу стрымацца.

Падышла мама, а я і слова не вымаўлю. Толькі на Шчаўкунчыка паказваю.

Тут якраз прыйшла суседка, цётка Феня. Даведалася, што здарылася, і гаворыць:

— Падумаеш, нейкая драбяза здохла. Выкінула б на сметнік, дый годзе!

Пакрыўдзілася я і сказала:

— Гэта мухі дохнуць, а рыбкі паміраюць!

І пахавала свайго Шчаўкунчыка ў садзе пад кустом бэзу.

## СЫР І ВАДЗЯНЫ ПАЦУК

Прыйшоў да таты знаёмы — дзядзька Пятро. Па справе. Гаварылі яны, гаварылі. Усё пра нецікавае. Потым дзядзька Пятро кажа, што ён усе дні на рыбалцы прападае. Я здзівілася: як гэта на рыбалцы можна прападаць? Пачала прасіць, каб расказаў.

Падумаў дзядзька Пятро і кажа:

— Сяджу на беразе ракі з вудамі. Сачу, калі рыба чарвяка схопіць. Як схопіць, ад паплаўка па вадзе кругі пабяжаць. Чакаю, чакаю, а рыба не бярэцца. Дастаў хлеб і сыр. Толькі адкусіў, паплавок — торг, торг. Сыр, хлеб — гуць. Доўга сядзеў аднойчы. Ажно есці захацелася.

А ў торбе сыр з хлебам ляжаў. Дастаў дзядзька Пятро з рук. У сапраўднага рыбака заўсёды так. Усё тады з рук! Схапіў вудзільна. Выцягнуў — вусач! Рыба такая. Вусы — во! На ўсе бакі. Паклаў у вядро і зноў вуду закінуў.

Супакоіўся дзядзька Пятро, пра сыр успомніў. Зірк туды, зірк сюды — няма сыру! Ён яшчэ паглядзеў — няма! Паўзіраўся, аж ля самага берага трава варушыцца. Сыр уцякае. Дзядзька Пятро да яго. А сыр ад яго. І хто б, вы думалі, злодзей? Пацук вадзяны. Ён, нібы мыш, толькі

большы. Ухапіўся зубамі за сыр і — задам, задам. Валачэ сыр. Дзядзька Пятро давай крычаць, рукамі махаць. А пацук хоць бы што! Шкада дзядзьку Пятру сыру. Кавалак — грам трыста! Ды дзядзька Пятро і галодны яшчэ. А пацук сабе цягне ды цягне. Схапіў дзядзька Пятро торбу ды па пацуку. Ледзь адбіў!

Расказвае дзядзька Пятро, што пацук такі нахабны, а мне так шкада пацука стала. Ён жа, мусіць, ні разу ў сваім жыцці сыру не каштаваў.

— І вы яму ні кавалачка не далі? — спытала я.

— А за што? — здзівіўся татаў знаёмы.

— Ён жа такі смелы!

— І не падумаў,— адказаў дзядзька Пятро.— Усё сам з'еў.

— Які ж вы скнара! — сказала я.— А я ўвесь бы сыр яму падарыла.

Тата мне пальцам пагразіў. Я зразумела і нават уздыхнула. Тата баяўся, што дзядзька Пятро пакрыўдзіцца. І я забаялася. А дзядзька Пятро толькі ўсміхнуўся.

## ШТО Я ЗРАЗУМЕЛА

— А што яшчэ было? — асмялеўшы, спытала я.

— Што яшчэ? — дзядзька Пятро нават лоб наморшчыў. Ніяк не мог прыпомніць.— Неяк раз таксама сяджу я на беразе. На вуды пазіраю. Раптам у траве заварушылася нешта. Зірк туды — рак! Падняў клюшню і быццам грозіць камусьці. Бачу, насупраць жаба сядзіць. Вялізная, пузатая. Вось-вось, здаецца, да рака ў бойку кінецца. Вочы на яго вылупіла. Бакі раздзімае...

Я нават дыхаць баялася, так цікава...

— А далей што? — пытаю.

— А далей рыба пачала браць. Я за вуду, а пра іх і забыўся. Толькі цяпер і ўспомніў.

— Забыліся!..— ледзь не заплакала я.— Пра самае цікавае забыліся...

Дзядзька Пятро больш нічога не расказваў. Развітаўся і пайшоў.

Тут я і зразумела, чаму дзядзька Пятро на рыбалцы прападае. Ён жа сядзіць, глядзіць на свае паплаўкі, а навокал нічагусенькі не бачыць.

# І ЧАМУ ТАК ЗАВУЦЬ МЯНЕ

Ускрай гарадской дарогі, дзе расла траўка, жыў пад зямлёй дажджавы чарвяк. Днём і ноччу ён працаваў: узрыхляў для траўчыных карэньчыкаў зямлю. І траўцы добра было расці і лёгка дыхаць.

Стаяла спёка. Доўга не было дажджу.

— Мы хочам піць,— скардзіліся карэньчыкі дажджавому чарвяку.

— Мне стала цяжка працаваць,— казаў ім чарвяк.— Зямля стала цвёрдай, нібы камень.

— Зрабі, каб пайшоў дожджык! — прасілі карэньчыкі.— Ты ж дажджавы чарвяк.

— Хоць мяне і завуць дажджавым, але я не ведаю, што рабіць, каб пайшоў дожджык.

Неўзабаве ў тым горадзе, дзе ўскрай дарогі расла траўка і дзе пад зямлёй жыў дажджавы чарвяк, з'явілася машына з вялізнай аранжавай цыстэрнай і з вясёлым чалавекам у кабіне. Не спяшаючыся, кожны дзень вясёлы чалавек праязджаў па ўсіх дарогах і спорным дожджыкам змываў з асфальту пыл. У пырсках вады зіхацела вясёлка, і дзеці з крыкамі беглі за ёю. Патокі вады сцякалі да траўкі, прасочваліся ў зямлю.

— Мы напіліся! — радаваліся карэньчыкі.

— А мне лягчэй працаваць! — радаваўся чарвяк.

Аднойчы лінуў вялікі лівень, затапіў усё навокал. Адчуў чарвяк, што няма чым дыхаць, і заспяшаўся на паверхню зямлі. Яго падхапіў паток вады і вынес у лужыну на асфальце.

На лужыну з хмар яшчэ падалі апошнія кроплі. Празрыстыя купалы парашуцікаў выскаквалі з-пад кропель.

— Ратуйце мяне! — прасіў іх чарвяк.

Але парашуцікі не паспявалі яму нават адказаць. Ледзь з'явіўшыся, яны тут жа лопаліся і знікалі.

— Траўка, траўка! — прасіў чарвяк траўку.— Ты ж мяне ведаеш. Ратуй!

— Я б выратавала,— казала траўка,— але ў мяне няма рук. Прасі людзей.

— Людзі, людзі! Ратуйце! — ледзь варушачыся, прасіў-маліў чарвяк аб дапамозе.

Людзі, убачыўшы чарвяка ў лужыне, казалі адзін аднаму:

— Ён так любіць купацца пасля дажджу! Яго таму і празвалі дажджавым.

«Нічога людзі не ведаюць пра мяне»,— трацячы прытомнасць, падумаў чарвяк.

У гэты час з дому выбегла Таня і яе тата. Ім захацелася прайсціся па лужынах, падыхаць чыстым паветрам, палюбавацца вымытай траўкай і лісцем дрэў.

— Тата! — закрычала Таня.— Глянь — дажджавы чарвяк. Выратуем яго!

Яны знайшлі саломінку і асцярожна перанеслі чарвяка з лужыны на траўку.

— І чаму людзі завуць мяне дажджавым? — апрытомнеўшы, усё ніяк не мог уцяміць чарвяк.

*1963*





## ТАЙНА ПЕРАЗВОНУ

Прыйшоў Рома з мамай у прадуктовы магазін, дзе шмат усяго-ўсякага, чаго толькі можа захацецца. Маці звяртаецца да прадаўшчыцы:

— Адважце, калі ласка, кіло цукерак! Вунь тых, шакаладных.

Прадаўшчыца бярэ з прылаўка празрысты мяшэчак, насыпае ў яго цукерак, кладзе іх на металічную талерку на важкай падстаўцы. Талерка то апускаецца, то падымаецца, а па лічбах на белай сценцы вагаў узад-уперад бегае стрэлка. Яна паказвае, многа ці мала ўзята цукерак.

Вагі ўжо не цікавяць хлопчыка. Ён ведае: кілаграм цяжэй за паўкілаграма і ў ім у два разы больш цукерак або яблыкаў. Дзесяць кіло і зусім цяжка несці. А ён сам у трусах і тапках важыць дваццаць тры кілаграмы і дзвесце грамаў.

Цукеркі ўзважаны. Мама вымае з сумкі грошы, пералічвае, аддае прадаўшчыцы і толькі потым бярэ цукеркі. Цяпер цукеркі сталі мамінымі, і яна можа рабіць з імі, што пажадае. Чаму, каб нешта купіць, патрэбны манеткі? Што ў іх такое захавана?

Да папяровых грошай Рома доўга быў абыякавы. Яго цікавілі бліскучыя кружочкі з дзіўным перазвонам. Відаць, у кружочках уся таямніца, якая дазваляе іх уладальнікам купляць, што пажадаюць. Але што ж гэта за таямніца?

## У КАГО ЁСЦЬ ГРОШЫ

Рому здавалася, што ў дарослых заўсёды ёсць грошы. Варта пакапацца ў сумачцы або пашукаць у кішэнях. Нават калі днём ці вечарам іх няма, да раніцы, пакуль усе спяць, яны ўсё роўна там з'яўляюцца.

Пазней ужо Рома даведаўся, што тата і мама атрымоўваюць грошы за сваю работу. Гэтыя грошы яны называюць зарплатай. Тата кажа, што без любімага занятку жыць не можа. Гэта яго радасць. А работа ў таты цікавая: па ўсім горадзе вазіць пасажыраў. Сам Рома не раз ездзіў на тым аўтобусе.

Рома ганарыўся сваім бацькам, бачачы, з якой павагай усе да яго ставяцца.

У маці таксама цікавая работа. Яна ў кіёску прадае паштоўкі, часопісы з малюнкамі і газеты.

Газеты да мамы прывозяць ранкам, і перад кіёскам становіцца вялікая чарга. Бывае, Рома памагае маці: ён залазіць на табурэтку і падае пакупніку паштоўку, якую той просіць. Маму ў горадзе амаль усе ведаюць і заўсёды цёпла вітаюцца з ёю.

Калі не працаваць, грошай не будзе. А каб навучыцца працаваць, трэба хадзіць у школу. Гэта ясна.

## ХВАЛЮЮЧАЯ ПАДЗЕЯ

Рома заўсёды прасіў бацьку і маці браць яго з сабой, калі яны збіраліся ісці ў які-небудзь магазін. Спачатку ён толькі назіраў за тым, што там робіцца. Але аднойчы...

Гэта была хвалюючая падзея. Яны з бацькам ішлі па вуліцы і за шклом у вітрыне дзіцячага магазіна ўбачылі чорны пісталет. Мара — не пісталет! Адзін-адзінюткі раз ён бачыў такі пісталет у незнаёмага хлопчыка.

— Тата! Татачка! — толькі і змог вымавіць Рома.

Бацька добра разумеў настрой сына. Ён адлічыў грошы і сказаў сыну:

— Сам купі! А я тут пачакаю.

Самым шчаслівым хлапчуком на ўсім белым свеце выбег Рома з магазіна. Падбег да таты.

— Вось! І яшчэ пакецік з зарадамі...

Бацька ўважліва агледзеў пісталет. Потым падняў угору і націснуў на спуск. Хлопчыку здалося, што пачуўся аглушальны стрэл, а з ствала вырваўся струмень полымя.

## УЛАДАЛЬНІК ВЯЛІКАЙ ТАЙНЫ

З нядаўняга часу маці пачала пасылаць Рому ў магазін па хлеб і розную дробязь. Ён выбягаў на вуліцу, пераглядваў манеткі, заціснутыя ў кулаку. Раптам у краме скажуць:

— На гэтыя грошы белага хлеба мы не даём. Сёння на іх можна купіць самакат ці канькі з лыжамі.

Або раптам цётка аб'явіць:

— Хлопчык! Ды ты можаш узяць столькі прадуктаў, што і не данесці. І акрамя таго...

Рому ўяўлялася: ён прыносіць дамоў розныя мяшкі і мяшэчкі, пачкі, булачкі, баначкі, урачыста выкладвае на стол. Маці ахкае, а ён спакойна кажа:

— Тут яшчэ здача ёсць.

І высыпае поўную жменю маленькіх-маленькіх манетак. Яны ваўчком круцяцца па паверхні стала і звіняць, звіняць, а маці кажа:

— Толькі цябе буду пасылаць па ўсе пакупкі. Мне ж на тыя грошы, што табе дала, не купіць і сотай долі! А ў тваіх руках яны становяцца чарадзейнымі. Ты — уладальнік вялікай тайны!

## САМІ НЕ ВЕДАЮЦЬ

Часта ў Ромавай галаве ўзнікала адно і тое ж пытанне: аднойчы ранкам людзі прачнуцца, а ўсе грошы зніклі! Што яны будуць рабіць? Хочацца квасу, марожанага, трэба ехаць на аўтобусе, схадзіць у кіно, а грошай няма.

Дарослыя смяюцца, калі Рома задае такія пытанні. Самі не ведаюць, што будуць рабіць.

## ВОСЬ ДЗІВА

У школу для Ромы маці ў пергаментны мяшэчак наклала мудрагеліста пакручанага, салодкага, падсмажанага ў масле, храбусткога печыва, ад якога так смачна пахла. Маці сказала, што яно называецца хворастам.

На перапынку ў класе Рома выцягнуў мяшэчак з партфеля. Таня, якая сядзела ззаду, адразу пацягнула носам паветра і нахілілася да Ромы.

— Дай пакаштаваць!

— Купі! — сарвалася з языка ў Ромы.

— А што табе даць? — зусім не здзівілася Таня.
Аказваецца, нават мамчын хворасг можна прадаць! І ён сам назначае цану! Вось дзіва!..
— Па капейцы.
— Дзевачкі! — крыкнула Таня.— Ромка хвораст прадае.
Умомант яго акружыла дзятва і раскупіла ўсе хварасцінкі. У прадаўца апынулася жменя манетак.
«А калі б я сказаў — дзве капейкі,— разважаў хлопчык,— узялі б ці не? А пяць?»
Але Рома не смуткаваў. Капейкі яму больш за ўсё падабаліся. Шкада, так хутка скончыўся яго гандаль.

## ЧАМУ ДАРОСЛЫЯ НЕ ЛЮБЯЦЬ ПЫТАННЯЎ

Наступным ранкам маці вярнулася з рынку і, выкладваючы з сумкі на кухонны стол прадукты, сказала сыну:
— Вясна позняя, і ўся зеляніна такая дарагая — не падступіцца. Першыя агуркі — проста жах! Толькі парачку і ўзяла.
Рома з усіх бакоў абгледзеў агуркі, на адным скалупнуў бугарок з чорным шыпам.
— Мам! Як ты даведалася, што яны дарагія?
— Бо многа грошай заплаціла.
— А хто іх робіць дарагімі?
— Той, хто прадае.
— Чаму?
— Таму, што мала.
Рома запярэчыў маме:
— Учора ты казала, што ў магазін прывезлі шмат футравых паліто. І таксама скардзілася, што дарагія.
— Адчапіся! — сказала маці.— Некалі мне з табой разважаць. Вырасцеш — зразумееш, што дорага, а што танна.
Рома ўздыхнуў. Заўсёды адно і тое ж: «Вырасцеш, вырасцеш...»

## НЯЎДАЛЫ ВОПЫТ

Сёння па яго просьбе маці дала з сабою ў два разы больш хворасту. Але прадаваць яго не давялося. Вітусь-Мітусь так штурхануў Рому ў двары школы, што ён упаў на свой партфель. Нераструшчаныя хварасцінкі пасля першага ўрока забрала Таня. Не паспеў разгарнуць мяшэчак, яна пералічыла і сказала:

— Дзесяць капеек. Атрымай!

— Я так не хачу,— запярэчыў Рома.

— А як? — хрумстаючы хворастам, здзівілася Таня.

— Ты спытай: «Колькі каштуе?»

— Я ведаю, колькі каштуе.

— Я не хачу па капейцы.

— Што ты — спекулянт? — усклікнула Таня.

— Чаму спекулянт? — пакрыўдзіўся Рома.— Мне іх мама напякла.

— Усё роўна ты скнара!

Рома разгубіўся. Ніякі ён не скнара. Не цярпелася праверыць, ці можна змяніць ранейшую цану. І акрамя таго, зусім не цікава так прадаваць. Забрала ўсё адразу, дала адну манетку...

## ЦУДОЎНЫ НАБЫТАК

Разам з Казікам, сябрам па парце, яны даелі тое, што засталося ў мяшэчку.

— Што я табе пакажу! — пахваліўся Казік.

Па дарозе са школы яны забеглі да яго ў двор, і Казік вынес пачак паперак ад шакаладу. Хлопцы прыселі на кукішкі. Казік тут жа, на зямлі, пачаў раскладаць паперкі.

Вось пажарнік тушыць пажар. А вось міліцыянер-рэгуліроўшчык у белых пальчатках стаіць на перакрыжаванні дарог. Касманаўт у гермашлёме павіс у чорным космасе над караблём. Марак у цяльняшцы стаіць на вартавым катэры і ўглядаецца ўдалячынь. А гэта суворавец кагосьці вітае... Кот у ботах... Чырвоная Шапачка... Іванька-дурань едзе на печы...

Чырвоныя, сінія, зялёныя, малінавыя фарбы на серабрыстым фоне зіхацелі пад сонечнымі промнямі так ярка, што мружыліся вочы.

— Ух ты! — усклікнуў Рома.— Дзівосы!

— Вазьмі, калі хочаш,— прапанаваў Казік.— Мне грошы на дзінамку патрэбны.

— Колькі табе?

— А колькі ў цябе ёсць?

Рома высыпаў з партфеля на кепку манеткі.

— Як другу — аддаць? — пералічыўшы грошы, завагаўся Казік.— Ты перавадны малюнак яшчэ дасі. Той, дзе індзеец у арліным пер'і з кап'ём. Я на веласіпед перавяду. Вось будзе здорава!

— Ладна, заўтра прынясу. А хочаш — зараз...

## І ЗНОЎ НЕПРЫЕМНАСЦЬ

Рома беражна ўклаў малюнкі сярод старонак падручніка і подбегам памчаўся дадому. А калі пераступіў парог кватэры, адчуў, што здарылася непрыемнае. Маці з галавы да ног агледзела яго і, хоць усё было ў поўным парадку, моўчкі прасачыла, як распрануўся, выцяг з партфеля кнігі, сшыткі, паклаў на сваім стале.

— Будзеш абедаць?

— Буду,— адразу згадзіўся Рома і супакоіўся.

Паабедаўшы, Рома выйшаў з-за стала. Маці, выразна вымаўляючы кожнае слова, загадала:

— А зараз раскажы, што ты рабіў з хворастам, які я давала табе ў школу.

— Ні-і-чога,— прамямліў Рома.

— А ўсё ж?

— У мяне дзяўчынкі папрасілі паспытаць і...

— Што — і?

— Ім спадабаўся. І яны заплацілі.

— Заплацілі, кажаш? Выкладвай грошы!

— У мяне іх няма. Я прамяняў.

— Паказвай, на што прамяняў.

Рома прынёс паперкі з малюнкамі ад шакаладак.

— Столькі шакаладу з'еў! — уразілася маці.— Гэта ж трэба прыдумаць! Ідуць дзяўчынкі са школы, сустракаюць мяне і кажуць: «Цётка Ліза, а Рома на перапынках хворост прадае». Сорам які!

## ЯКІМІ ПАВІННЫ БЫЦЬ ГРОШЫ

Маці пералічыла паперкі ад шакаладак:

— Неверагодна! Дзе ты столькі грошай узяў?

— Я не ўзяў. Гэта малюнкі. У Казіка былі.

— Нічога не разумею. Ты прадаў хворост. А на грошы што? Купіў гэтыя карцінкі?

— Так.

Маці засмяялася.

— Табе яны падабаюцца?

— Ой, мама! — узрадаваўся Рома.— Калі б ты іх бачыла на сонцы! Пойдзем пакажу.

— Праз іх ты два дні быў галодны!

— Ды не...— Рома не дагаварыў.— Мам! Калі б з такіх малюнкаў рабілі грошы!

— Тады ўсе дзеці, накшталт цябе, напэўна былі б галодныя.

— Чаму? — не згадзіўся Рома.— А калі грошы рабіць разам з шакаладкамі?..

*1972*





## САМА КАЗКУ СКЛАЛА

— Ой! Я так рада вас бачыць! Добры дзень, Іра! Добры дзень, Алік! Сядайце за стол! Вось цукеркі, яблыкі. Частуйцеся! А я ж гасцявала ў цёткі Мілы. І яна там навучыла мяне складаць казкі. Не верыце?

Дома бабуля ды мама мне іх расказвалі. Я ўсе казкі праслухала. І папрасіла цётку Мілу прыдумаць яшчэ адну казку.

— Лепш ты мне прыдумай! — адказала яна.

— Я ўмею толькі слухаць,— сказала я.

— Табе не здаецца, што мне расказваць, а табе толькі слухаць — несправядліва? — усміхнулася цётка Міла.— Мне таксама хочацца паслухаць.

— Але ж я не дарослая, а дзіця! Дарослыя расказваюць дзецям казкі, а не наадварот.

Цётка Міла пасадзіла мяне побач на канапу і пачала расказваць пра сваё маленства. Калі яна была маленькай, тэлевізараў нідзе не было. У кіно ніхто не хадзіў. Марожанага не прадавалі. Не толькі малака з хлебам, а самай звычайнай бульбіны не заўсёды хапала. Таму што была вайна з фашыстамі.

Хлопчыкі тады гулялі ў лётчыкаў, танкістаў і снайпераў, а дзяўчаткі — у зенітчыц і медсясцёр.

Цётка Міла расказвала, што ў іхнім двары было выкапана глыбокае сховішча. Толькі пабачыць варожыя самалё-

ты, хапае лялькў і разам з мамай бяжыць да сховішча ратавацца ад бомбаў. Раз бегла і папала ў яму. Сама пабілася, а ў лялькі нага згубілася. І яна ўсім казала, што нагу адарвала асколкам.

І электрычнасці тады не было. Адны газовачкі...

Расказвае цётка Міла, а мне страшна. Бо калі рвуцца бомбы і забіваюць, вельмі страшна! Нават у кіно глядзець страшна.

Я прытулілася да цёткі Мілы і сказала:

— Хочаце, раскажу вам казку? Сваю!

— Раскажы! — узрадавалася цётка.

Я памкнулася са сваёю казкай і тут жа спалохалася. Умомант забылася пра тое, што хацела баяць.

Зірнула ў акно, на белыя сцены пакоя, уставілася ў столь. Вісяць лямпачкі ў рознакаляровых плафонах. Я сама іх уключала! У пакоі адразу весела станавілася. І тут я пра газовачку ўспомніла. Ты, Іра, газовачку бачыла? І Алік не бачыў? А я бачыла!

Неяк патухла ў нашай хаце святло. Тады бабуля недзе ў кладоўцы адшукала газовачку. Сапраўдная бляшанка з-пад кансерваў, толькі з ручкай. Зверху таней за аловак трубачка. З яе абгарэлы скруцік нітак тырчыць. Бабуля кнотам яго назвала і падпаліла запалкай. Кнот з бляшаначкі газу цягне, таму і гарыць. Святло дрыжыць, ледзь жывое. А па сталі і па сценах цені даўжэзныя хістаюцца. Аж боязна.

Успомніла я пра бабуліну газовачку і адразу пачала сваю казку:

— Жылі-былі лямпы.

Пачала, а сама яшчэ не ведаю, што далей казаць.

— Жылі-былі лямпы,— паўтарыла.— Жывыя і мёртвыя. А ў лесе жыла дужа злая ведзьма. І надумалася яна ўсе жывыя лямпы выкрасці ў людзей і пахаваць. Каб нікому не свяцілі.

— А што такое — жывыя лямпы? — спыталася цётка Міла.

— Тыя, што ўключаюць,— сказала я.

— А ёсць мёртвыя лямпы?

— Былі. Тыя, што запалкамі запальваюць. Вы ж самі пра іх казалі.

— Газовачкі?

— Ага, газовачкі,— і я папрасіла: — Не перабівайце мяне, цёця Міла, а то я збіваюся!.. І вось пачала злая ведзьма хаваць жывыя лямпы. А людзі замест жывых вымушаны былі ставіць мёртвыя.

Так ведзьма рабіла кожную ноч. Засталася ў людзей толькі адна самая яркая лямпа. Надумалася ведзьма і яе выкрасці і схаваць.

Цёмнай ноччу паднялася небывалая бура. Падкралася ведзьма да апошняй лямпы. Схапіла, ды так апалілася, што адразу кінулася ў лес. У пячору, што была пад зямлёй. Там і прапала.

А ў лесе жыла маленькая дзяўчынка. Як яна туды трапіла, я яшчэ не прыдумала. Толькі яна ўсё-ўсё бачыла, што рабіла злая ведзьма.

— Дык твая маленькая дзяўчынка сапраўднай партызанскай разведчыцай была! — здзівілася цётка Міла.

— Так-так, разведчыцай! — узрадавалася я.— Бачыць дзяўчынка: не выходзіць ведзьма з пячоры. Здагадалася, разумніца, што няма яе на белым свеце. Дзяўчынка пазбірала ўсе жывыя лямпы, якія пахавала ведзьма, і вярнула іх людзям... Вось і казцы канец.

Тут я спахапілася — у казках такога канца не бывае — і даказала:

— І я там быў...

— Была,— паправіла мяне цётка Міла.

— Няхай была,— згадзілася я.— І ўсё піла. Па вусах цякло...

— У дзяўчынкі і — раптам вусы! — здзівілася цётка Міла.

— Па вуснах цякло,— паправілася я,— а ў рот ні кропелькі не папала.

Тут я саскочыла з канапы і давай танцаваць на адной назе.

— Ура-а! Я складаніца-чараўніца! Сама казку склала!

Цётка Міла рассмяялася і сказала, што складаніца — не тое слова. Трэба — складальніца або прыдумшчыца.

А я рассмяялася, зноў заскакала і закрычала:

— Прыдумшчыца-выдумшчыца!.. Сама казку прыдумала!

Вось і ўсё. А цяпер давайце гуляць у хованкі. А нагуляемся, будзем самі сабе казкі складаць. Добра?..

*1967*

## ХВАЛЬКО

— Паглядзіце, паглядзіце! — закрычаў верабейка з гнязда, якое знаходзілася пад дахам блакітнага дома.— У нашым садзе шпакі. Я праганю іх.

— Не смяшы людзей,— сказала бабуля-вераб'іха, спыніўшы прыборку ў гняздзе.— Не нам, вераб'ям, ганяць шпакоў.

— Я індыкоў і курэй не баюся,— важна надзімаючыся, падскочыў верабейка.— У іх з-пад дзюбаў хапаю зерне і крошкі.

— Нічога дзіўнага,— прыхарошваючыся перад люстэркам, заўважыў дзядуля-верабей.— Індыкі і куры — непаваротлівыя. А ты маленькі і спрытны.

— І ў дадатак шалянец,— сказала бабуля.— Папомніш мае слова, адарвуць табе галаву, свавольніку няўрымслівач!

— Мы ведаем пра тваю смеласць,— з гонарам сказаў дзядуля.— Але шпакоў не варта чапаць. Яны нам радня.

— А мне што да таго! — узляцеў верабейка на дах і з крыкам: «Што да таго! Што да таго!» — шуганууў у сад.

У садзе па траўцы бегалі шпакі.

— Здаецца, мы тут ні разу не былі,— сказаў шпак.

— Былі. Не так даўно тут рос адзін бур'ян,— адказала шпачыха.

— Праўда, праўда! — узрадаваўся шпак.— Адразу відаць, што тут пасяліліся людзі, якія любяць зямлю. Была пустэча, а стаў сад.

— Гэта сад наш! — наскакваючы бокам на шпакоў, закрычаў верабейка.— Мы тут жывём!

— «Наш, наш»,— перадражніў шпак.— А мядзведак і земляных цвыркуноў паўнютка. Сад трэба даглядаць...

І доўгай дзюбкаю падчапіў і выцягнуў з норкі тоўстага цвыркуна.

Верабейка аж прысеў ад здзіўлення. Ён баяўся, што ў гэтых норках вужакі хаваюцца. А тут вунь які смак!..

Верабейка падбег да шпака, выхапіў у яго цвыркуна.

— Бач, задзіра! — здзівілася шпачыха.— Адлупцуй яго як след.

— Што ты, мамачка! — запярэчыў шпак.

І шпак звярнуўся да верабейкі:

— Глядзі і вучыся, як самому лавіць.

Шпак выцягнуў з-пад каранёў у яблынькі мядзведку з вялізнымі зубчастымі лапамі-рыдлёўкамі.

— А-я-яй! — верабейка з перапуду кінуўся ўбок.

— Відаць, ты баязлівец,— засмяялася шпачыха.

— Гэта абраза! — адразу закрычаў верабейка.— Я нават вужак не баюся.

І ён здзёўб з трыпутніку вусеня.

— Во як я з імі распраўляюся!

— Што ж, для пачатку нядрэнна,— пахваліў шпак.

— Ну, я пад'ела! — праглынуўшы павука, сказала шпачыха.

— І я наеўся! І я наеўся! — падскакваючы, закрычаў верабейка.

— Падрастуць дрэвы, і вучні для нас хаткі на іх павесяць,— сказаў шпак і, пацягваючыся, дадаў: — Не шкодзіла б пакупацца.

— Паляцім зноў на мора,— згадзілася шпачыха.

— І я з вамі,— узрадаваўся верабейка.

— А тата з мамай табе дазволяць? — занепакоілася шпачыха.

— Тата з мамай на цэлы месяц паляцелі ў камандзіроўку,— адказаў верабейка.— А мяне дома пакінулі. Дзеда з бабуляй даглядаць.

— Бач ты яго! — здзівілася шпачыха.

— Я на мора паляцеў! — крыкнуў верабейка бабулі, якая на краі гнязда вытрасала кілімавую дарожку.

— Утопішся! — закрычала наўздагон бабуля.— Я табе, шыбеніку, задам тады лупцоўкі!..

Але верабейка не чуў бабулінай пагрозы. З усяе сілы трапечучы крыльцамі, ледзь паспяваў за шпакамі.

Засопшыся, ён нарэшце даляцеў да берага, дзе апусціліся шпакі, і адразу закрычаў:

— Вось і я! Вось і я!

Шпакі ўжо купаліся. Яны падскаквалі, білі па вадзе крыламі, апырсквалі адзін аднаго. Адным словам, раздурэліся, як дзеці, калі іх ніхто не стрымлівае.

«У лужынах пасля дажджу яшчэ лепш я падскакваю»,— падумаў верабейка.

Ён крыкнуў:

— Зірніце на мяне!

І кінуўся да шпакоў у ваду, але не дастаў дна, адчайна затрапятаў крыльцамі і залямантаваў:

— Ратуйце! Таплюся!

— То-та ж, хвалько,— выцягваючы верабейку за каршэнь, сказаў шпак.— Гэта табе не лужына.

Больш верабейка не стаў купацца разам са шпакамі. Цяпер ён з берага асцярожна ступаў у ваду. Як толькі вада даставала да калена, спалохана кідаўся назад.

І ўсё ж такі верабейку тут было весела. Ён пазнаёміўся з прыгожымі плісачкамі. Яны жвава пакручвалі хвосцікамі і бегалі па пяску. Верабейку таксама захацелася прабегчыся. Ён ледзь было не крыкнуў: «І я!..», але азірнуўся на шпакоў і своечасова стрымаўся.

Нечакана верабейка сустрэўся з чарапахай, якая вылазіла з вады. Яму здалося, што сунецца каменны дом, а з усіх яго шчылін паўзуць вужакі.

З перапуду верабейка ўзляцеў высока ўгору і разгубіўся. Ён зусім забыў, дзе яго дом.

— Я хачу да бабулі! — падляцеўшы да таполі, дзе адпачывалі шпакі пасля купання, заенчыў верабейка. З вачэй у яго пакаціліся слёзы.

— Не плач! — супакоіла шпачыха.— Зірні: вунь блакітны дах з тэлевізійнай антэнай. Там і жывуць твае бабуля і дзядуля. Не адхіляйся, ляці проста, бо згубішся.

Верабейка нават забыў падзякаваць і развітацца са шпакамі. Ён ляцеў і баяўся, што ніколі ўжо не ўбачыць свайго гнязда.

Бабуля яшчэ здалёк пазнала ўнука.

— Ляціць мой родненькі! — пляснула яна крыламі.— А я ўжо думала, што ніколі яго не ўбачу!

Як толькі верабейка сеў на гняздо, моцна прытуліла да сябе.

— Я табе маннай кашы зварыла. На малачцэ...

— А я ў моры купаўся! — вырываючыся з абдымкаў бабулі, сказаў верабейка.— А калі шпак тапіўся, ратаваў яго. Ён частаваў мяне земляным цвыркуном і мядзведкай... Не хачу тваёй манкі! Еш сама!

— Бач ты,— з гонарам сказаў дзядуля.— Самога шпака ратаваў! Які малайчына! Вырасцеш — сапраўдным вераб'ём станеш.

*1968*

## ЛЮСТЭРКА

Гэта было вельмі даўно. Жылі на свеце светлая кучаравая дзяўчынка і чорнавалосы хлопчык. Яны разам гадаваліся і заўсёды разам гулялі.

Дзяўчынку звалі Айя, бо яна часта гушкалася на галінках дрэў і спявала:

— Ай-я!.. Ай-я!..

Хлопчыка празвалі Пуф: у яго была звычка моцна надзімаць шчокі. Айя любіла ўскапваць градкі, садзіць кветкі і даглядаць іх. Пуф зрываў кветкі або ганяўся за матылямі.

— Паслухай, Пуф! — аднойчы сказала Айя.— Чаму я бачу неба і траву? Бачу, як ноччу зіхацяць зоркі, бачу ця-

бе, а сябе ніяк не магу ўбачыць? Хацелася б ведаць, якога колеру мае вочы, які твар, на каго я падобная.

— Кажуць,— адказаў Пуф,— што мы бачым толькі іншых і ніколі — сябе. Я добра бачу рыбак пад вадой, бачу цябе, нават у сне, а які я, не ведаю.

— Ты,— сказала Айя,— падобны на таго, хто хістаецца ў вадзе, калі ты нахіляешся над ёю. Але ўсё ж такі гэта не ты.

— І я не раз бачыў у рэчцы дзяўчынку, падобную на цябе, але ні разу не змог злавіць, як лаўлю цябе ў час гульні.

Засмуцілася Айя.

— Прыдумаць бы нештачка, дзе можна было б бачыць сябе так, як мы бачым іншых,— сказала дзяўчынка.

Падслухаў гэтую гутарку стары добры чарадзей. Раней, калі людзі яшчэ нічога не ўмелі прыдумваць, сярод іх жылі добрыя чарадзеі. Як маглі яны дапамагалі людзям.

Тры дні і тры ночы думаў чарадзей, і яму ўдалося зрабіць сапраўднае люстэрка. Глянеш у яго — бачыш сябе. Варухнешся — і твой адбітак паўтарае тыя ж самыя рухі.

Узрадаваўся чарадзей і прыйшоў да дзяцей. Падносіць люстэрка да Айі.

— Хто гэта там? — спытала Айя.

— Ты! — адказаў чарадзей.

— Гэта я? — здзівілася Айя і доўга ўзіралася на сябе.

— А чаму я не бачу там Пуфа? Не бачу іншых? Я хачу, каб усе там былі на ўвесь рост.

Чарадзей спагадліва ўсміхнуўся і сказаў:

— Хай падыдзе Пуф.

— Гэта я? — спытаўся Пуф і доўга-доўганазіраў за сваім адбіткам.— А чаму, калі я адыду ўбок, мяне там няма? — незадаволена сказаў хлопчык.— Я хачу заўсёды быць там і каб усе мяне бачылі!

— Добра,— пагадзіўся чарадзей.— Дайце час, і я зраблю, як вам хочацца.

Чарадзей знік.

Вырас Пуф і стаў каралём у сваёй дзяржаве. Вырасла Айя і стала нявестай Пуфа. У дзень вяселля з'явіўся чарадзей і падарыў ім абаім па люстэрку.

Нагледзелася Айя ў сваё люстэрка і, радасная, запрасіла да яго ўсіх гасцей, што былі на вяселлі. Усе падыходзілі да люстэрка Айі, дзівіліся і не маглі надзівіцца: ніхто ж ні разу так ясна не бачыў усяго сябе адразу. І ніколі Айя не была такая шчаслівая: гэтулькі радасці прынесла гасцям яе люстэрка!

І Пуф быў вельмі задаволены падарункам чарадзея, які

выканаў яго даўняе жаданне. Але госці, убачыўшы ў люстэрку аднаго надзьмутага Пуфа, адышлі ад яго адбітка і зноў стоўпіліся перад люстэркам Айі.

Пуф выказаў чарадзею жаданне мець столькі сваіх адбіткаў, колькі людзей у яго дзяржаве, і каб усе мелі гэтыя адбіткі. А ў той час і чарадзеі слухаліся каралёў, і пажаданне Пуфа было выканана. Хутка не засталося ніводнага дома і ніводнае сцяны ў дзяржаве Пуфа, дзе б ні віселі адбіткі яго асобы.

Пуф загадаў разбіць люстэрка Айі. І гэта было зроблена. Але цішком людзі пазбіралі ўсе асколачкі ад люстэрка і, хаваючыся ад каралеўскіх наймітаў, любаваліся ў іх на свае адбіткі. З замілаваннем яны заўважылі, што нават сонца і кветкі любяць адлюстроўвацца ў гэтых асколачках.

Ішлі гады.

Даўным-даўно памерлі Пуф і Айя. Без дапамогі чарадзеяў людзі навучыліся выраблядь усялякія люстэркі, дзе ўбачылі, якія прыгожыя і яны самі, і іншыя. Ніхто не захаваў адбіткаў Пуфа, а ў люстэрку Айі мы дзівімся на сябе і па сённяшні дзень.

Так і ўсё добрае, што робіцца для людзей, назаўсёды застаецца ў іх памяці.

*1961*



# І ТАК КОЖНЫ ДЗЕНЬ

*Са старонак дзённіка*





# ДЗЕЛЯ НАШАГА БУДУЧАГА

Мой сябар, пяцігадовы Светазар, або Свецік, вельмі заклапочаны:

— Хачу зрабіць робата. А з чаго, не ведаю. Корпус можна з кавалка дрэва. А дзе ўзяць дрэва?

А з чаго галаву? Калі б знайсці кардонную каробку. Рукі, ногі з палачак можна. Антэну з дроту... І чарцёж намаляваць...

Пытаюся:

— Навошта табе робат?

— Навучу яго дапамагаць мне. Даставаць цацкі. Прыбіраць на стале, калі я паем.

— Што прыбіраць?

— Талеркі, лыжкі і адносіць мыць бабулі.

З дапамогай цёці Клавы мы ўтраіх ствараем робата. З кавалкаў пенапласту. Свецік малюе робата. Я малюю яго чарцёж. Цётка Клава выразае. Стопы, ногі, корпус, галаву. Складаем, замацоўваем дротам. Устаўляем антэну.

— Намалюйце дзве кнопкі: чырвоную і сінюю,— просіць Свецік.

— Дзе?

— На грудзях.

— Навошта?

— Каб уключаць і выключаць робата.

— І кішэню намаляваць?
— Не. У іх кішэняў не бывае.
— А як спатрэбіцца самапіска і блакноцік? Куды ж іх класці?
— Тады дамалюйце,— згаджаецца Свецік.— А вось як навучыць яго размаўляць, не ведаю.
— Трэба падумаць.
— Так, трэба падумаць.
У вачах і на твары Свеціка-Светазара такая засяроджанасць! Такі пошук і клопаты! Як у сапраўднага генеральнага канструктара.
Што гэта? Гульня?.. Не! Самая сур'ёзная і нялёгкая праца.
Дык навучымся паважаць яе.
Дзеля нашага будучага.

*1977*

## НА МАТАЦЫКЛЕ

Валерык стаяў на сцежцы за дамамі, трымаўся за руль «матацыкла» (матацыкла, вядома, ніякага не было. Валерык толькі ўяўляў яго сабе) і, настойліва націскаючы на «педаль», паўтараў гукі матора, якія ніяк не заводзіцца:
— Др-р-р!.. Др-др!.. Др!..
Зусім незнаёмая дзяўчына з рукзаком на плячы раптам прыпынілася ля Валерыка і таксама паўтарыла гэтыя гукі, але ў адваротным парадку:
— Др!.. Др-др!.. Др-р-р!..
— Не вучыце мяне! — пакрыўдзіўся хлопчык.
— А я не вучу,— спагадліва сказала дзяўчына.— Я сама паехала.
І пайшла, прыгаворваючы, нібы ехала на матацыкле:
— Др-др!.. Др-р-р!..
І ўжо зусім спакойна:
— Тах-тах. Тах-тах. Тах-тах...
Валерык разгубіўся. Захацелася яшчэ разок зірнуць на такую дзіўную дзяўчыну.
Ён кінуўся ўслед, забег наперад, з цікавасцю зазірнуў ёй у вочы, але загаварыць не адважыўся.
— А якая марка ў твайго «матацыкла»? — сама запытала цётка.
— «Урал»,— адразу адказаў Валерык.
— О, гэта вынослівая машына! І даўно ездзіш?

— Нядаўна. Я сам яго купіў.

— А каго ты ў люльцы возіш?

— Тату і маму на работу, а сястрычку ў дзіцячы сад.

— І сам навучыўся разбіраць і рамантаваць?

— Яшчэ не зусім. З маторам цяжкавата. Не заўсёды заводзіцца.

— Гэта не бяда. Навучышся, я табе свой буду аддаваць у рамонт. А то ездзіць умею, а рамантаваць не магу.

— Добра,— радасна згадзіўся хлопчык.

— А пакуль што бывай! Мабыць, табе пара на работу. І я спяшаюся. Усяго найлепшага! Тах-тах, тах-тах, тах-тах!..

Дзяўчына сапраўды заспяшалася і толькі на павароце сцежкі азірнулася і на развітанне падняла руку.

Валерык у адказ ускінуў угору абедзве рукі, і яму здалося, што гэтая, такая дзіўная і цудоўная, дзяўчына паехала на толькі што адрамантаваным ім матацыкле.

*1968*

## САМО ВЫРВАЛАСЯ

Наведаўся да мяне таварыш з жонкай і чатырохгадовай дачушкай Марынкай. Дзяўчынка не з палахлівых, яна хутка асвоілася з незнаёмым асяроддзем.

Падабалася ёй наша атаманка, шырокая, пругкая. Калі Марынка падскоквала на ёй, атаманка, нібы трамплін, падкідвала яе ўгору.

— Тра-бра-кра! — вырваўся ў дзяўчынкі крык замілавання.

Нечаканасць, з якой вырваўся гэты крык, здзівіла саму Марынку. Адкуль раптам узяліся такія дзівосныя словы не словы, і нават не разбярэш адразу, што такое?!.

— Тра-бра-кра! — ужо не падскокваючы, паўтарыла дзяўчынка і з цікаўнасцю паглядзела на кожнага з нас.

Убачыўшы, што дарослыя не звяртаюць на яе ўвагі, Марынка яшчэ раз крыкнула і прыслухалася. Можа, дзе-нідзе ды адгукнецца?

— Тра!..

Як раскаціста! А язык у роце дрыжыць, вібрыруе. І чамусьці рукі самі ўзлятаюць угору, а цябе нешта падкідвае...

— Бра!..

Рукі апускаюцца, каленкі падгінаюцца. Прысела.

— Кра!..

Ой, не! Дзесьці штосьці паўтарае Марынку. Нават у вушах звініць. Ану, зноў! Зноў!..

— Марынка, перастань,— кажа маці.

Але дзяўчынка не можа спыніцца.

— Я каму кажу?! Ану, перастань! — ужо злуецца маці.

— Тра-бра-кра!..

— Марынка,— спакойна, спагадліва, нават з нейкай загадкавасцю звяртаецца да яе бацька,— у цябе на сукенцы ёсць кішэнька?

Дзяўчынка здзіўлена пазірае на бацьку.

— Пашукай там іншае слова,— кажа ён.

Марынка мацае, дзе ў яе кішэнька, вымае з яе паперкі ад цукерак, каменьчык, асколачак каляровага шкла; нарэшце адтапырвае край кішэнькі, зазірае туды і забывае, чаго яна хацела.

*1964*

## МЫ СПІМ

— Мама, крэслы спяць?
— Спяць, сынок, спяць. І ты спі!
— Кладуцца на спіну?
— На спіну, сыночак, на спіну.
— Ім так лепш спаць?
— Лепш. І ты засынай!
— А потым паварочваюцца на бок?
— Паварочваюцца.
— У сне? Як і я?
— Як і ты. У сне.
— І сталы таксама кладуцца спаць?
— Усе кладуцца.
— А што на стале, падае?
— Не, побач кладзецца, спіць.
— А лямпа, што вісіць, як засынае?
— Як выключыш, так і засынае.
Малы туліць да сябе самазвал і, уздыхнуўшы, адказвае:
— Мы спім.

*1977*

## У КУПЭ

У прыгарадным цягніку едзе бацька з малым. Хлопчык кажа:

— Хачу бананаў!

— Засталося тры,— адказвае бацька.

— А мы купім яшчэ?

— Больш няма дзе купіць.

Дзіцянё задумалася:

— Мне — адзін, а маме?.. Не!.. Мне — два, а маме?.. Не... Маме — два, а мне?..

Бацька ўбачыў, што за хлопчыкам з цікавасцю назіраюць суседзі па купэ, збянтэжыўся і перапыніў малога:

— Хопіць табе разважаць!

Малы змоўк, а калі бацька засяродзіўся на разглядванні часопіса, хлопчык асцярожна выцяг з кашолкі апошнія бананы і прыняўся іх уплятаць. А самазадаволены тварык яго нібы казаў усім:

— Сапраўды, навошта разважаць!

*1965*

## НЕ ХАЧУ ТАКІХ ВЕРШАЎ

Нэля прыбегла да Галі пагуляць у лялькі і ўбачыла ў сяброўкі новую цацку — зялёна-блакітнага, з вялікімі аранжавымі вачыма коціка. Спінка дугой, хвост тарчма.

Дзяўчаткі доўга бавіліся з коцікам, прыдумвалі ўсё новыя і новыя гульні. Коцік па чарзе, а то і разам вазіў на сваёй спіне лялек, падскакваў, як акрабат, гуляў з лялькамі ў хованкі, у кошкі-мышкі, вазіў самазвал, ездзіў на самакаце.

У Нэлі коцік часцей за ўсё сваволіў і за гэта меў пакаранне: стаяў у куце. Галю ж коцік заўсёды слухаўся. Па яе даручэнню ён хадзіў у магазін па малако і хлеб, купляў марожанае, цукеркі і ўсіх частаваў. Дапамагаў гатаваць абед, і лялькі за гэта запрашалі яго да сябе за стол.

Нарэшце, Нэля сказала:

— Пра ўсе нашы цацкі мы склалі вершыкі, а пра коціка яшчэ няма. І пра яго трэба.

— Пачынай,— згадзілася Галя.

Нэля ўспомніла, як маці загадала ёй выйсці з хаты, каб не замінала прыбіраць, і ў дзяўчынкі само сабой сказалася:

— Мама... мама... на кухні...

Галя ўспомніла, як учора памагала маме, і падхапіла:

— Мама бялізну надумала мыць.

— Правільна! — узрадавалася Нэля.— А коцік вады заспяшаўся наліць.

— Ой! — усклікнула Галя.— Як адразу хораша атрымліваецца. А потым... Потым мама стамілася... І лягла.

— О-о! — падхапіла Нэля.— Мама на ложак лягла адпачыць.

— А коцік,— пачала новы радок Галя,— а коцік... Коцік бялізну...

— ...узяўся дамыць,— хуценька закончыла Нэля.

Дзяўчынкі заскакалі ад радасці, паўтарылі свой новы верш коціку, лялькам. Потым павярнуліся адна да аднае і разам сказалі:

— Складзём да канца?.. Складзём!

— Мама сказала,— пачала Нэля: — «Ты... ты... Ты прэч, не дурэй!» А тата...

Галя здзіўлена пазірала на сяброўку.

— А тата... Тата дадаў: «А ты дзягай агрэй!»

— Не, не тое! — запярэчыла Галя.— Ні мама, ні тата не маглі так сказаць.

— А вось маглі.

— Не маглі.

— Маглі! — упарцілася Нэля.

— Чаму?

— Таму, што коцік нічым не памагае дома. Ён толькі перашкаджае ўсім.

— Не хачу я такіх вершаў! — адказала Галя.— Давай лепш па-другому.

— Што ж, паспрабуй,— пакрыўдзілася Нэля.

У Галі радасна заблішчалі вочы. Дзяўчынка падумала і выразна вымавіла:

— Маці сказала: «Расце памагаты!»

Потым ціха, з пяшчотай у голасе закончыла:

— На́ малачка табе! — кінуўся тата.

*1972*

## НЕВІНАВАТАЯ

Правярала маці сшытак у Іры і заўважыла памылку. Замест слова «заяц» Іра напісала «зац».

— Я невінавата,— сказала Іра.— У буквары няма гэтай літары.

Зірнула маці ў буквар, бачыць — і праўда, дачушка невінавата. Там, дзе павінна стаяць літара «я»,— дзірка, нібы гэтую літару певень выдзеўб.

Назаўтра маці зноў праверыла сшытак у Іры і ўбачыла, што яна прапусціла не літару, а цэлае слова.

— Я невінавата,— сказала Іра.— У буквары няма гэтага слова.

Зірнула маці ў буквар, бачыць — сапраўды дачушка невінавата. Там, дзе павінна стаяць слова, нічога няма, нібы гэтае слова і не было надрукавана.

Узялася маці правяраць сшытак у Іры на трэці дзень і здзівілася: дачушка нічога не перапісала.

— Я невінавата,— сказала Іра.— У буквары няма апавядання, якое настаўніца загадала нам перапісаць.

Зірнула маці ў буквар, бачыць — праўда, дачушка невінавата. Няма старонкі, на якой надрукавана тое апавяданне. Мабыць, з кнігай кот Пушок забаўляўся і выдраў.

— Які нядобры буквар,— сказала маці.— Штодня ашуквае нас.

Назаўтра праверыла маці сшытак у Іры, аж бачыць — яна зноў нічога не перапісала.

— А сёння хто вінаваты? — спытала маці.

— Я невінавата,— сказала Іра.— Буквара не знайшла. Шукала, шукала... І дзе б ён мог згубіцца, сама не ведаю!..

— Не бядуй,— сказала маці.— Я куплю табе новы буквар.

Назаўтра прыйшла маці з работы і заспяшалася праверыць, як дачушка падрыхтавала ўрокі па новым буквары.

Бачыць — ні сшыткаў, ні буквара.

— Я невінавата,— надзьмулася Іра.— Партфель знік. Шукала, шукала, так і не знайшла.

— Што ж,— паківала галавой маці,— прыйдзецца нам заўтра ісці разам у школу, шукаць вінаватага.

Уздыхнула Іра і кажа:

— Я сама пашукаю. Можа, калі я на санках коўзалася, Тузік партфель да сябе ў будку зацягнуў.

— І буквар знойдзеш? — спытала маці.

— І буквар пашукаю,— сказала Іра.— Можа, калі я з лялькамі гуляла, яго кот Пушок пад канапу закінуў.

— І старонку з буквара знойдзеш?

— І старонку з буквара знайду,— сказала Іра.— Можа, калі Пушок спаў, мышы яе пад шафу завалаклі.

— А згубленыя слова і літару знойдзеш? — усміхнулася маці.

— Не,— уздыхнула Іра.— Іх мая гумка з'ела.

*1966*

# ЧЫЙ ДЗЯДУЛЯ?

У пяцігадовай Алесі на новай сукенцы маленькі значок.

— Хто ж гэта ў цябе на значку? — пытаюся.

— Дзядуля Ленін.

— Чый дзядуля?

— Мой.

— Толькі твой?

— Не, і мой, і мамін, і татаў! І ваш таксама.

Не адшпільваючы ад сукенкі, дзяўчынка пазірае на значок і з гонарам тлумачыць:

— І нашага дзядулі дзядуля! А ўсміхаецца Ленін таму, што ён добры.

*1972*

# ЯШЧЭ ЛЕПШ

Настаўніца сказала вучням:

— Восенню вы збіралі калекцыю лісцяў, якія апалі з дрэў. Цяпер назбірайце першых вясенніх кветак і даведайцеся, як іх называюць.

Усе вучні з ахвотай выканалі заданне. Адна Волечка сцішана сядзела за партай без кветак.

— А што ў цябе? — запытала ў яе настаўніца.

Волечка моўчкі паклала на стол звычайны сшытак, а потым ледзь чутна сказала:

— Яны... тут.

Настаўніца разгарнула сшытак і на яго старонках убачыла рознакаляровыя малюнкі першых вясенніх кветак. А з блакітнага неба на кожную кветку дзяўчынка паслала залацістыя промні сонца.

— Чаму ты так зрабіла? — зацікавілася настаўніца.

— Кветкі толькі што закрасавалі. Мне так хацелася, каб яны любаваліся сонейкам,— сарамяжа прызналася дзяўчынка.

Яна вінавата зірнула ў вочы настаўніцы.

— І я іх намалявала. Гэта ж усё роўна?

— Гэта яшчэ лепш,— пахваліла Волечку настаўніца.

*1972*

## Я ЎЖО ТАКІ

Бабуля Клава прыйшла ў госці да свайго ўнука Віталіка. Хлопчык вельмі ўзрадваўся.

— Сядайце хутчэй за стол, пабачце, каго я тут намаляваў. Тут усе-ўсе-ўсе ёсць!

— Пакажы, унук, пакажы, каго ты тут намаляваў.

Бабуля села за стол. Віталік паклаў перад ёю вялікі ліст паперы са сваім малюнкам і ўзлез да яе на калені.

— Гэта тата стаіць, гэта мама, гэта бабуля Ліля, гэта вы,— заспяшаўся хлопчык пералічыць, каго ён намаляваў.

— А ты забыўся сказаць, хто гэта такі між намі ўдвая вышэй за ўсіх. Ого! Яму нават не хапіла ліста. Прыйшлося галаву набок нахіліць.

— Гэта я! — з гонарам адказаў хлопчык.— Я вышэй столі! Вышэй неба! Вось і прыйшлося галаву нахіліць.

— Табе хочацца вырасці такім?! — здзівілася бабуля Клава.

— Не,— адказаў Віталік.— Я ўжо такі!

*1970*

## ЗА КРАТАМІ

На атаманцы, паблісквaючы злымі зялёна-жоўтымі вочкамі і выскаліўшы зубы, ляжала ліса. Перапуджаны, я кінуўся ад яе і крыкнуў:

— Ой, яна ўкусіць!

— Ха-ха-ха! — да слёз рассмяялася дзяўчынка.— Мама! Дзядзька так напалохаўся! Думаў, жывая!

— Ён жартуе з цябе, як з маленькай,— сказала маці.— А ты і паверыла.

— Я сапраўды перапужаўся,— запярэчыў я.— Яна ж нават хвастом махнула!

— Ну, вось бачыш, мама! Вось бачыш! — узрадавалася дзяўчынка, і вачаняткі яе зноў заблішчалі ад захаплення.

— І зараз ён жартуе,— адказала маці.— А ты не разумееш.

— Навошта ж вы так?! — спрабаваў я спыніць маці.

Маці моўчкі акінула мяне сваім пагардлівым позіркам. І мне здалося, што яна і мяне выключыла з ліку дарослых.

*1964*

## МІЛЬГНУЎШАЕ ПАРАЎНАННЕ

Скрозь лісце ліпы на імгненне прарваўся прамень паўднёвага сонца, і, нябачная да гэтага сярод высокай цімафееўкі, засвяцілася павуцінка. Нібыта перад вачыма прамільгнула невядомая мікрачасціца. Яшчэ імгненне — ні промня, ні вясёлкі, ні павуцінкі.

Ці не так праносяцца і хвіліны жыцця чалавека? Яны нібыта павуцінкі, працягнутыя ў часе. Вясёлка ж ад промня сонца — інтэлект чалавека, яго душэўная чысціня.

А ці зальсніцца гэтае жыццё ўсімі фарбамі вясёлкі або ніколі нікога не парадуе, залежыць ужо не ад выпадку, а ад самога чалавека.

*1973*

## З ДОБРЫМ РАНКАМ

Мелодыя свісту такая незвычайная, што я кідаю працу і зазіраю ў расчыненае на вуліцу акно.

— А я і не так яшчэ магу!

Хлопчык, гадоў дзесяці, абкружаны аднагодкамі, засоўвае два пальцы ў рот. Дзяўчаткі, якія стаяць побач, таропка затыкаюць вушы.

— Толік, ты лепш салаўём! — просяць яны.

Усцешаны агульнай увагай, маленькі артыст свішча салаўём. Я ў непаразуменні разглядваю гэтага, здавалася, знешне нічым не прыкметнага хлопчыка.

— Учора настаўніца як крыкне: «Калі ты я-ашчэ хоць раз насваволіш, выганю са школы!»

Абурэнне настаўніцы перададзена так выразна, што міжволі прыгадаўся Райкін.

А Толік разышоўся ваўсю. Пераймаючы стыляжную дзяўчыну, ён выконвае модны танец і пяе:

Хачу мужа, хачу мужа,
хачу мужа я —
Прынца, герцага, барона
або караля!..

Потым ён пераўвасабляецца ў яе напарніка і гэтакім пагардлівым баском адказвае:

Нам бы, нам бы, нам бы
ўсім на дно.
Там бы, там бы, там бы
піць віно!..

— Гэй, артысты! — звяртаюся я да ўсіх.— З добрым ранкам! Мне падабаецца ваша праграма. Яшчэ што-небудзь, калі ласка!

— А я вас ведаю! — не сумеўшыся, звяртаецца да мяне хлопчык.— У вас на акне зялёныя яшчаркі ўсё лета жылі. Дзе яны?

— Толькі што ўчора выпусціў на волю,— адказваю.— А вы ў хоры спяваеце, у спектаклях удзельнічаеце?

— Не.

— Чаму?

— У нас гэтага няма.

— А куток жывой прыроды ў вашай школе ёсць?

— Не-а.

— А што ж у вас цікавае ёсць?

— Нічога.

— А табе толькі б смешнае ды цікавае,— кажу я Толіку.— На сур'ёзнае цябе хапае?

— Хапае.

— Нешта не бачна.

Толік задумваецца.

— Мы ўчора па тэлебачанні глядзелі пра пажар у кватэры на трэцім паверсе. А яна на замку. Адзін хлопчык з верхняга акна па вяроўцы залез у кватэру і дзяўчынку выратаваў. І я б так зрабіў!

— Гэта добра,— кажу.— А вось сваю настаўніцу крыўдзіш. Што ты нарабіў?

— Ніхто яе не крыўдзіць.

— Ён, засмяяліся дзяўчаткі,— на стол ёй вужа пусціў. А яна думала, што гадзюка.

— Вось бачыш!..

— А што ж яна, не ведае, што — вуж, а што — гадзюка?..

— А ты даўно даведаўся?

— Дык яна ж...

Дзеці размаўляюць са мной, а самі пільна сочаць за ўсімі падзеямі на вуліцы.

— Вунь Зініна мама пайшла з дому,— паведамляе дзяўчынка.

— Пабеглі да Зінкі,— узрадаваўся Толік.— Яна ўчора кардыналаў набыла. А мне малькоў гупі абяцала... Бывайце здаровы, дзядзька!

— Дзякую за канцэрт! — адказваю я.

Дзеці зрываюцца і бягуць. Мяне так і падмывае гарэзліва свіснуць ім наўздагон. Але я ўспамінаю пра іх настаў-

ніцу і міжволі задумваюся. Хто ёй дапаможа зірнуць на гэтых свавольнікаў іншымі вачыма і знайсці да іх сэрцаў дарогу?

*1962*

## КРАЙ СТАЛА

Мой даўні прыяцель — выкладчык біялогіі Мікалай Мікалаевіч, доўгі, хударлявы, з насмешлівымі блакітнымі вачыма на ветлівым твары — заўсёды завітвае да мяне нечакана. Без стуку асцярожна адчыняюцца дзверы, ён падыходзіць да стала, дзе я працую, і, кашлянуўшы, пытае:

— У госці прымаеш?

І пачынае раскладаць на маіх сшытках усё, чым запоўнены яго адтапыраныя кішэні.

У вёсцы, дзе настаўнічае Мікалай Мікалаевіч, многія бабулькі яго пабайваюцца. Калі ён зойдзе да каго, то нібыта потым немаведама адкуль знойдзецца ў хаце дзівосны жук або вусень, застракоча конік, шмыгне з кута пад ногі вёрткая яшчарка або прапаўзе вуж. У вёсцы так і кажуць, што на след Мікалая Мікалаевіча збіраецца ўсё незвычайнае, ну, а чаму — здагадвайцеся самі.

— Падзівіся на мае скарбы! — таварыш з кардонных каробачак вытрасае свае здабыткі.— Вусач-дрэваточац, або як тут кажуць, шашаль.

Флегматычна даследуючы новае асяроддзе, вусы жучка размахнуліся на ўсю шырыню ліста паперы.

— Прыгажун! — з замілаваннем кажу я.

— Ха! Прыгажун! — іранізуе Мікалай Мікалаевіч.— Самы злосны вораг. А чаму распладзіўся? Хто вінаваты? Самі.

Лічучы залішнім тлумачыць, якую частку віны ў распаўсюджванні зухаватага вусача я павінен узяць на сябе, госць беражна хавае яго, а з новай каробачкі дастае чарговы экспанат.

— Бранзоўка.

Хітры жук, выхваляючыся адменна зробленай у невядомай мне мастацкай майстэрні бранёй, прытаіўся, крыху перачакаў і раптам лататы.

— Вось гэта сапраўдны вораг, адразу па звычках відаць,— падладжваю я Мікалаю Мікалаевічу.— І выдатна разбіраецца, з кім мае справу. Які разумны жук!

Прыяцель пазірае на мяне з яўным спачуваннем, як на

ўпартага чалавека, які не хоча разбірацца з відавочнымі фактамі.

— Не разумею, чаму так памылілася прырода,— разважаю я. — Ну навошта шкоднікам гэтая здзіўляючая гармонія форм, колераў? Іх трэба было стварыць пачварамі, выклікаючымі агіднасць.

— Жук-алень,— не зважаючы на мае сентэнцыі, кажа Мікалай Мікалаевіч.— Надзвычайна рэдкая для нашай мясцовасці велічыня. Калі ён ляцеў, нават вераб'і пераляканіся і кінуліся ў розныя бакі.

Мне з прыяцелем заўсёды прыходзіцца быць насцярожаным. Бывае, ён і схлусіць, забаўляючыся, як сам аднойчы прызнаўся, бударажаннем абыякавага невуцтва.

— А вось мядзведка. Тут яе завуць капусніцай. І яна распладзілася,— скардзіцца Мікалай Мікалаевіч.— Мо і пра яе скажаш — цуд!

Але, гэтакі цуд я бачу ўпершыню. Марай майго, ужо безнадзейна далёкага, дзяцінства было — злавіць гэтую, як сцвярджалі падручнікі, найшкаднейшую істоту. Але ў той час яна ў маю калекцыю так і не папалася, а пазней мне ўжо было не да мядзведак.

Цёмна-карычневая, з вялізнымі зубчатымі рыдлёўкамі пярэдніх лапак, якія нагадваюць сучасную землярыйную тэхніку, яна нервова паводзіць кароткімі вусікамі на шчыльна прыгнанай да тулава кананай галаве і нібы разважае: «Не мінуць мне тут ліха. А куды кінуцца?»

І сапраўды, агледзеўшыся, яна хаобра накіроўваецца на больш асветленую частку стала і, трацячы апору, грузна шлёпаецца на падлогу.

З непрытворным спачуваннем паднімаю неасцярожную бяглянку. Лапкі-рыдлёўкі, уразаючыся ў скуру, з нечаканай сілай рассоўваюць мае пальцы.

— Хе-гэ! Дык ты сапраўды годны аб'ект для біёнікі,— кажу я мядзведцы.— Толькі сцеражыся: тут край стала, небяспечна.

— Дарэмная парада,— смяецца прыяцель.— Яе інстынкт не ведае, што такое падаць.

— І ніколі не даведаецца?

— Не.

А мне думаецца, што менавіта гэтая мядзведка здольна крытычна аднесціся да свайго сумнага вопыту.

Апушчаю яе на ранейшае месца. Пахадзіўшы, яна зноў паварочваецца да святла. Скрабучы і чапляючыся, яе ножкі шамацяць па паперы. Вось яны ўжо ў паветры, і новы ўдар аб падлогу.

— У інстынкту няма асабістай біяграфіі,— без пачуцця перамогі нада мной кажа Мікалай Мікалаевіч.

Для майго прыяцеля ў паводзінах гэтых стварэнняў усё ясна і нязменна. Здавалася, і ў маёй свядомасці павінна быць тая ж акрэсленасць. Але дзе там! У нейкім куточку майго розуму прытаіўся непрыкметны шашаль сумнення і точыць гэтую ўпэўненасць.

— Хіба на адным голым інстынкце праіснуеш?! — кпіць ён.— Але ж ты сам бачыш.

Мядзведка сапраўды нястомная ў сваёй пагардзе да ўсякага прадоння. Завадная цацка, сляпы аўтамат, гэты найшкаднейшы вораг любімай мною капусты, без крыўды, без злосці на мяне выбірае толькі адзін напрамак, паўтарае адны і тыя ж рухі. Сапраўды, як не паверыць у поўную перамогу няўмольных законаў прыроды!

А Мікалай Мікалаевіч у захапленні апавядае ўжо пра геліятрапізм жучкоў, якія гінуць ад голаду ў некалькіх сантыметрах ад яды, толькі таму, што яна змешчана ўнізе сцяблінкі расліны, а не ўверсе, куды іх гоніць інстынкт, кажа пра складаны інстынкт пчол, мурашак, рыб, птушак. Я слухаю яго і думаю: вось у каго самаадданае цярпенне сапраўднага настаўніка і невычэрпны энтузіязм асветніка. Нездарма так яго паважаюць вучні.

— Дарагі мой настаўнік,— у каторы раз пытаюся пра адно і тое ж.— Ці не здаецца вам, што чыста утылітарны падыход да прыроды абяскровіць яе: загінуць шкоднікі, а з імі разам і карысныя, услед за імі знікнуць птушкі...

Мой прыяцель звычайна адказвае жартам, а часам з сумам гаворыць:

— На самай справе, многа хто думае, што мы любім жывую прыроду менш, чым вось такія раўніцелі, як ты... На іншага глядзіш, і здаецца, нібыта мы з імі на розных планетах. А мы ўсе на адной зямлі, і няма тут пабочных.

Выпіўшы са мной кавы і адпачыўшы, Мікалай Мікалаевіч кажа: «Асвяжыўся ў цябе. Дзякую!» Ён беражна рассоўвае па кішэнях сваю калекцыю і развітваецца.

Свет месячыка ўжо размывае на сценах усе фарбы і лініі. Ляжу ў пасцелі і не магу заснуць. Усё ж такі мне карціць укласці ў цёмную галоўку мядзведкі чутачку розуму...

*1961*

## ДЗЯДЗЯ-ТАТА...

Дзяўчынцы каля трох год. Яна заўсёды бавіцца ў двары з сваім аднагодкам, хлопчыкам з суседняй кватэры.

Калі з работы вяртаецца бацька хлопчыка, дзеці радасна бягуць яму насустрач. Бацька падхоплівае малога на рукі і высока падкідвае ўгору. Шчаслівы хлопчык залівіста смяецца.

Дзяўчынка стаіць побач і з затоенай надзеяй чакае, што і яе гэтак падхопяць і пачнуць падкідваць...

Так яна чакае і дзень і другі. Але дарма. Яе не заўважаюць. І аднойчы, калі моцныя бацькоўскія рукі апусцілі сына на зямлю, дзяўчынка падымае свае ручаняткі ўгору і просіць:

— Дзядзя-тата, і мяне на-а!

*1977*

## ЯК?

— Мама,— запытвае Алачка.— Чаму людзі паміраюць?

— Старэнькімі становяцца.

Тлумачэнне маці дзяўчынка ўспрыняла спакойна. І толькі тыдні праз два спытала:

— А наша бабуля старэнькая?

— Старэнькая,— адказала маці.

— І дзядуля?

— І дзядуля...

— Значыць, яны памруць! — слёзы пакаціліся з вачэй Алачкі.— Як жа я жыць буду без іх?!

*1978*

## НА ЛЯТУ

— Ліда! Лі-ідачка! — крычыць з вуліцы ў адчыненыя дзверы балкона сваёй сяброўцы першакласніца Насцечка.— Выходзь гуляць.

З ружовашчокага твару Насцечкі ніколі не сходзіць усмешка. Твар нібы выпраменьвае радасць.

— Тут дождж,— выбегшы на балкон, расчаравана гаворыць Ліда.

— Які гэта дождж?! — пратэстуе Насцечка. Яе сінія вочы ажно зрабіліся круглымі.— Гэта малютка!

Дождж сапраўды ціхі, цёплы і, здаецца, асцярожна кранаецца твару, лісцяў. Нават пялёсткі рамонкаў на клумбе ля дома не ўздрыгваюць, калі на іх падаюць кроплі.

— Як ты сказала пра дождж? — перапытаў я.

— Я сказала: маленькі,— зразу ж адказвае Насцечка.

— А можа, інакш?

Дзяўчынка задумваецца.

— Што ён добры.

— Не, па-другому.

Насцечка запытальна глядзіць на мяне.

— Ласкавы, пяшчотны?..

— Як малютка! — падказваю я.

— Але-але! — узрадавалася дзяўчынка.

Малыя з нашай вуліцы, яшчэ здалёк убачыўшы Насцечку, цягнуць да яе свае ручаняткі. Насцечка забаўляецца з імі ахвотна і весела.

Але. Ад любові да маленькіх узнікла ў Насцечкі гэтае цудоўнае параўнанне дожджыку з малюткай. Узнікла, нібы радасць, само па сабе. І, відаць, згубілася б... А я злавіў яго на ляту, запісаў для ўсіх, і мне стала лёгка і радасна.

*1970*

## МЯЧ

Гера яшчэ раз загнаў свой вялізны рознакаляровы мяч у канаву на лузе і зноў прапанаваў Саню:

— Даць шакаладку?

Худзенькі жылісты Саня ў трусах і абшарпаных туфлях скасавурыўся на мяч, на вязкую гразь у канаве, дзеўбануў наском бацінка траву і сказаў:

— Томка злавіла чарапаху, што мінулым летам у Юркі жыла.

«Усё роўна мяч дастанеш,— рашыў Гера.— Захачу — сто раз дастанеш!»

Ён паблажліва ўсміхнуўся, надзьмуўшы шчокі, і сказаў:

— А я пасля абеду з бацькам на рыбалку паеду.

«Ну і язджай! — Саня прысеў на кукішкі і ўставіўся ў траву.— Будзе ў майго таты машына, і мы будзем ездзіць».

— На той чарапасе нават Юркаў надпіс захаваўся,— сказаў Саня.

Гера заклапочана нахмурыў бровы.

— Мне ж чарвякоў яшчэ капаць!

«Капай! — сказаў пра сябе Саня.— А я рыдлёўкі не прынясу і бляшанкі для чарвякоў не буду шукаць. Многа ты з бацькам накапаў. Раз капянулі і — мяне просіце».

Гера з кішэні штаноў выцяг шакаладку, падкінуў угору, злавіў.

— Ванільны шакалад з арэхамі! Вышэйшы гатунак! Вага дваццаць пяць грамаў! Масква! — з націскам на кожным слове прачытаў Гера.— Мой любімы. У мяне яго колькі хочаш. Да дня майго нараджэння маці купіла, бабка купіла, тата прывёз. А яшчэ дзядзька і дзве цёткі прывалаклі. Цэлая гара! Рогату што было... Гэты імпартны касцюм і туфлі мне таксама да дня нараджэння прыпаднеслі. Мамін падарунак... А калі ў цябе дзень нараджэння?

«У мяне?» — спрабаваў успомніць Саня і сумеўся.

— Ты не ведаеш, калі твой дзень нараджэння! — зарагатаў Гера.

— А вось ведаю! — Саня ўстаў і выпраміўся.— Мой дзень нараджэння ў тысячу раз лепшы за твой! Я нарадзіўся дзевятага мая — на свята Перамогі!

— А табе ўсё роўна нічога не купляюць,— пераймаючы бацьку, куточкам рота пагардліва ўсміхнуўся Гера. Зняўшы з шакаладкі абгортку, ён разламаў шакаладку папалам і запіхнуў палавінкі за шчокі.

— Няпраўда, купляюць! — пярэчыў Саня.— Мне купляюць марожанае. І канструктар.

Ён успомніў, як бацька, праходзячы з ім міма ларка з марожаным, заўсёды абавязкова ссуне набок кепку і скажа:

— Сынок, раскашэлімся?

Купіўшы па порцыі марожанага, яны садзяцца насупраць латка на лаўцы і, не спяшаючыся, як кажа бацька, прахалоджваюцца...

«А што дзень нараджэння? — заключае пра сябе Саня.— Бацька з маці таксама яго не адзначаюць».

Гера скамячыў абгортку ў шарык і стукнуў ім па Саневай ключыцы.

— Што ты сказаў? Марожанае! — фыркнуў ён.— Марожанае я сам куплю. Калі захачу. Порцыю, пяць, дзесяць. А канструктар мне не патрэбен. Мама кажа, калі вырасту, абавязкова буду славутасцю, а тата, што я абавязан ёю быць! Цётка Рыта даводзіць, што я — адароны, а цётка Нюся, што я — таленавіты. Дзядзька цвердзіць, што я ўсё магу вытварыць, на ўсе штукі прыдатны. Ну, а бабка спадзяецца, што я яе не расчарую. І ўсе раяць, прыстаюць. Надакучылі! — Гера з кішэні штаноў дастаў новую шакаладку.—

А кім я буду, не здагадваюцца! А я зраблюся гоншчыкам і паб'ю ўсе сусветныя рэкорды. Люблю хуткасць!

«Ну і ганяй сабе! — зноў прысеўшы на кукішкі, Саня ўглядваўся ў траву.— А мяч не дастану!»

— Ты што там убачыў? — спытаў Гера.— Яшчарку?

— Яшчарку. Толькі бясхвостую. Табе злавіць?

— Я і без яшчарак пражыву.— Гера раптам закапрызіў: — І без цябе.

— Жыві. А я твае задачы не буду рашаць,— спакойна адказаў Саня.— І чарвякоў не накапаю.

— Падумаеш! — фыркнуў Гера.— Я каго хочаш знайду. Мне толькі слова сказаць.

— Шукай! Сам ты ўсё роўна нічога не ўмееш.

— А ты ўмееш,— крыкнуў Гера,— а вырасцеш, вуліцы будзеш падмятаць!

Саня ўсхапіўся з кукішкаў і апынуўся перад Герам:

— Што ты сказаў? Ану, бяры свае словы назад!

— Не вазьму! — Гера выставіў грудзі.— Што ты мне зробіш?

— Бяры! А то ў гразь уляплю.

— Паспрабуй. Мая мама пакажа табе!

— Не баюся твае мамы! — У адно імгненне Саня збіў з ног Геру, сеў на яго верхам. Пасля кароткай барацьбы Гера прыціснуў Саню да зямлі.

— Дзе табе дужацца са мной! — усміхнуўся Гера.

Саня выкручваўся, пінаўся. Нечаканы падкід з паваротам, і Гера зноў апынуўся пад Санем.

— Пусці, дурань! — засопся Гера.

— Кажы — «даруй»!

— А што я такое табе сказаў?

— Не будзеш прасіць?

— Не буду!

Саня схапіў крыўдзіцеля за валасы і ў такт рыўкоў выкрыкваў па слову:

— Я... та-бе... дам... мя-тлу!.. Я та-бе...

— Ладна,— знямогся Гера.— Не буду... Пусці!

Саня ўскочыў на ногі і, адышоўшыся, пазіраў, як падымаецца яго крыўдзіцель.

— Ёлуп. Касцюм забрудзіў,— скрывіўся Гера.— Каб не касцюм...

— Што! — намерыўся схапіць яго Саня.

Гера кінуўся наўцёкі. Убачыў, што за ім не гоняцца, спыніўся.

— А сваёй маме перадай,— крыкнуў ён,— каб пад'езд лепш мыла. А то гразь на прыступках.

І кінуўся ўцякаць.

Саня не пагнаўся. Ніцма лёг у траву, прыціснуў да твару далоні і зароў. Ён успомніў, як штодзень, ледзь пачне світаць і ўсюды яшчэ спяць, маці ўстае, бярэ венік, вядро з вадой, шуфлік і ідзе мыць лесвічныя пляцоўкі. Бывае, маці занядужае і просіць сына дапамагчы. Саня, саромеючыся кожнага чужога позірку і ўздрыгваючы ад кожнага груку і кроку, спяшаецца змесці і сцерці з прыступак усё, што натапталі, накідалі за суткі абыякавыя да чысціні і іх працы жыхары дамоў. Маўклівая пагарда, як яму здаецца ў гэты час, выпраменьваецца на яго і на маці нават сценамі гэтых дамоў.

Бацька разумеў стан сына і не раз яму казаў:

— Не засмучайся, сынок, а ганарыся! Ты ж расцеш апорай. Майстрам на ўсе рукі. А гультай вырасце, дык яго куды ні пастаў — бяда будзе... Эх, сынок! Без санітараў і ў бальніцах гразь распаўзаецца... Ты вучыся добра! Нам, такім, як ты, пасля вайны не да навукі было...

Наскардзіцца Гера, і Ніна Мацвееўна раскрычыцца: «Я не дазволю, каб ваш сын крыўдзіў майго Герольдзіка!» Маці расхвалюецца. Бацька скажа: «Знайшоў з кім звязвацца!» І плюне. А з маці ўсур'ёз пагаворыць: «Ты, маці, каго з Сані хочаш вырасціць — чалавека або макрыцу?» — «Ды ён такі ганарлівы,— адкажа маці,— што і не падступіся».— «На нашым працоўным гонары Радзіма трымаецца! — скажа бацька.— А ўсе гэтыя Герольдзікі вырастуць і будуць збоку прыпёку».

Слёзы крыўды Сані выліліся на далоні і скрозь пальцы сцяклі на траву. «Сапраўды, знайшоў, з кім звязвацца! — здзівіўся Саня.— Ды ён жа сам лезе...»

Хлопец перавярнуўся на спіну, падклаў пад патыліцу рукі і загледзеўся ў нябесны блакіт.

«Быў бы я лётчыкам. Падняўся б высока-высока! — уявіў сабе Саня.— Хутчэй бы закончыць школу, пайсці працаваць. Прынясу першы заробак. «На, мацер, на расходы. Хопіць у чужой гразі капацца! Хай самі за сабой прыбіраюць». А там...— Саня аж вочы прыжмурыў і да хрусту расправіў плечы.— У ваеннае вучылішча. На лётчыка! Вазьму самалёт, які дзе хочаш прызямляецца, і прылячу сюды. Бацьку з маці пры ўсіх пасаджу ў самалёт, ірвану ўгору свечкай і палячу куды пажадаю. Хоць у Маскву!»

Саня падняўся з зямлі, убачыў у траве Гераву шакаладку. Пагардліва цыркнуў у яе бок слінай і, не зірнуўшы на мяч, пакрочыў прэч.

1975

# ФІРАНКА НА СКРАЗНЯКУ

Гэта нібыта і зусім выпадковая рэч — белы, з крыху няроўнай паверхняй прамавугольнік з пенапласту, які ўжо год стаіць у нас у пакоі на спінцы канапы, займаючы ледзь не ўвесь прасценак. Павесіць на сцяну так і не давялося. Не знайшлі адпаведнай рамкі, а ўзамен нічога іншага не прыдумалі.

Дзеці, нашы частыя госці, з энтузіязмам аглядаючы ўсё, што прываблівала іх увагу, ніколі не мінаюць гэты прамавугольнік і нязменна пытаюцца:

— Гэта карціна?

Я адказваю пытаннем:

— А як вы лічыце?

— Канечне, карціна,— сцвярджаюць яны і зноў пытаюцца: — А якая ў яе назва?

— Кажаце, што карціна! Тады прыдумайце самі для яе адпаведную назву,— прапаную я.

Тыя, хто быў ля мора, адразу адказваюць:

— След хвалі на пяску.

Некаторыя пярэчаць:

— Гэта — сама хваля.

— Мятлік упаў на ваду і трапеча крыльцамі,— сказаў аднойчы адзін з хлопчыкаў.

У яго адразу ж спыталі:

— А дзе мятлік?

— За краем карціны.— Хлопчык падняў руку.— Вось тут.

Па здзіўленых тварах дзяцей было відаць: усе ўявілі, як за абрэзам ліста на ваду ўпаў мятлік, а ліст і ёсць тыя хвалі, якія ўзніклі ад трапятання яго крыльцаў.

— Кінуць каменьчык,— пачынаюць успамінаць хлопчыкі,— таксама будуць такія хвалі.

Побач са мной стаяла дзяўчынка. Худзенькая, з вялікімі сінімі вачыма, з кароткай стрыжкай. Шамацела яе сукенка з белым каўнерыкам і фартушком. Яна глядзела, слухала і раптам сказала зусім нечаканае:

— Ды гэта ж малако на агні ў каструлі! Малако паднялося і вось-вось збяжыць!

— Такіх каструль не бывае! — дружна запярэчылі дзяўчынцы.

Яна збянтэжылася і змоўкла.

— А на малако, што збягае, падобна! — падтрымаў я дзяўчынку. Мяне здзівіла яе здольнасць насуперак палохаючай непараўнальнасці ліста пенапласту і каструлі спай-

маць у іх агульнае.— Ану-тка ўспамінайце, што яшчэ можна тут адшукаць.

Дзяўчынка з гэтай жа групы, усяго-наўсяго першаклашка, у момант поўнай цішыні са здзіўленнем адкрыла:

— Дык гэта ж маміна фіранка на скразняку!

Іменна маміна, а не наогул фіранка.

І, пачырванеўшы, дадала:

— Цюлевая. Тая, што ў спаленцы.

Усе дружна засмяяліся.

— Сапраўды! — узрадаваўся я.— Бачыце, як сярэдзіну фіранкі выдувае скразны вецер! Яна ўся ў знічках, празрыстая, нібы і тут прасвечана промнямі сонца.

Падбадзёраныя мной дзяўчынкі радасна ўсміхаліся. Відаць, як і ў многіх іншых, падобныя адкрыцці ў гэтых дзяўчынках здараліся не ўпершыню, але, можа, толькі цяпер яны адчулі, якія магчымасці тояць пошукі такіх адкрыццяў?

Уяўленне дзяцей паступова раскоўваецца, і назвы карціны ўзнікаюць адна за адной, толькі запамінай.

— А яшчэ падобна на белы ветразь у час непагоды! — кажа аўтар «Следу хвалі на пяску».

— І на жыта, калі яно хвалюецца!

— А мне нагадвае само сонца.

— А мне гурбы снегу.

Нарэшце найбольш дапытлівыя напамінаюць:

— Цяпер вы скажыце, што гэта.

— Я думаю, гэты ліст можна назваць карцінай.

— А якая ў яе сапраўдная назва?

— Ды ўсё, што кожны з вас убачыў, і ёсць яе сапраўдная назва.

— А я ўсё ўбачыў: і малако, і цюль, і снег! — ускліквае той, хто прымусіў нас па-за краем ліста ўявіць гінучага мятліка.

— І я ўсё ўбачыў, пра што вы казалі,— адказваю я.

— Так нельга! — пярэчыць дзяўчынка з старэйшых.— У карцін бывае толькі адна назва.

— А гэта не такая, як усе! — не згаджаецца з ёю адразу некалькі галасоў.

— А якая? — пытаюся.

— Яна толькі падобная на штосьці. На ёй самой нічога не намалявана.

— Наша фантазія або памяць дамалёўваюць,— падказваю.— Так ці не?

— Так.

— Заўтра прыйдуць новыя госці, спаймаюць новыя падабенствы і падкажуць новыя назвы.

— А якія ў яе яшчэ назвы?.. А вы самі што ўбачылі?.. Вы яе купілі ці зрабілі? — сыплюцца пытанні.

— Апавядаю, як аднойчы за горадам разам са сваёй нязменнай спадарожніцай Лю мы спыніліся ля аднаго з прыватных гаражоў і ў промнях вячэрняга сонца ўбачылі гэты ліст. Ля шэрай сцяны ён стаяў прама на зямлі. Гаспадар машыны вось такімі разрэзанымі па таўшчыні лістамі ўцяпліў на зіму свой гараж. Гэты ліст аказаўся лішнім. «Можаце ўзяць,— дазволіў ён.— Усё роўна выкідаць».

— Дык гэта ж «Сонечны вецер»! — зарадаваўся я.— Спазніся хоць бы на паўгадзінкі, і ніколі нам не ўбачыць такога дзівоснага разрэзу. Вось і вы...

Я пераконваю сваіх гасцей не праходзіць міма незвычайнага ў самым звычайным. Міма, напрыклад, сухога ламачча, і паказваю ім падарунак мастака-эксперыментатара Святліцкага — лясныя скульптуры «Першы крок» і «Намаганне». Раю збіраць каменьчыкі з малюнкамі і падводжу іх да сабранай намі на беразе мора калекцыі галек, дзе кожны каменьчык — малюнак, скульптура або карціна з уласнай і нават не адной назвай. Заклікаю прыглядацца да ўсяго: да плямак і шчылінак на паверхнях рэчаў, да ўзвіхуранасці ў хмарах і да ўзору, пакінутага начным марозам на вясенняй вулічнай гразі. Словам, пераконваю заўсёды і ўсюды ў самым звычайным шукаць нечаканае, здзіўляючае. Што так лёгка прапусціць і згубіць. Згубіць радасць адкрыцця.

Апошнім пытаннем дзятвы нярэдка бывае:

— А гаспадару гаража вы паказалі, што можна ўбачыць на гэтым лісце?

— Яшчэ не, але абавязкова пакажу.

— Вось ён здзівіцца.

Дарослыя ля гэтага прамавугольніка звычайна паводзяць сябе інакш, чым дзеці. Нярэдка толькі пасля многіх наведванняў іншы госць кажа:

— Няёмка пытаць, але я і так і гэтак прыкідваў, а ўсё не зразумею. Калі не прыйду, стаіць у вас гэтая штуковіна. Навошта? Тэрмаізаляцыя, ізаляцыя ад гукаў, пракладка для амартызацыі ўдару, ці што? Дык чаму яна на такім месцы? Думаў, выпадкова паставілі. Бачу, што не. Што гэта?

— А гэтая штука не нагадвае карціну?

— Карціну?! Хм... Вось не думаў,— сумеўся госць.— Можа, абстрактную?

— Дык на іх жа абавязкова трэба шукаць падабенства

з чымсьці, прыдумваць ім незвычайныя назвы. Наогул, круціць іх уніз, угору, ставіць бокам-скокам.

— І знаходзіць гэтае падабенства,— усміхаюся я.— Сапраўдны абстракцыяніст такія пошукі палічыў бы для сябе найвялікшай абразай.

— Я ў такім мастацтве не разбіраюся. Як усе, так і я кажу,— прызнаецца госць.— Так-так... Сапраўды, нешта нагадвае. А што — і не зразумееш адразу. Да такіх рэчаў трэба ж неяк прывыкнуць.

— Чаму прывыкнуць? — пярэчу я.— Змалку нас акаляюць вышыўкі, карункі, разьба, роспіс, кілімы. На іх жа ўсё падаецца намёкам або з такім стылізаваным непадабенствам...

— А вось усё, пра што вы сказалі, ёсць тое прывычнае, над чым і не задумваешся! — нечакана кажа госць, узіраючыся ў ліст.— Ведаеце, што ён нагадвае? Марозны сонечны ранак. І снежнае поле, усё ў бліскаўках. Ідзеш у валёнках: рып, рып. І так табе лёгка, радасна... От сапраўды, і не падумаў бы ніколі! Пазіраў на гэты разрэз толькі з гаспадарчага боку. А тут яшчэ і эстэтыка патрабуецца!..

...Сустракаецца госць і з супрацьлеглай натурай. Бесцырымонна тыкаючы ў ліст пальцам, ён з ходу аглавушвае цябе здзеклівым нападам:

— Гэта што яшчэ ў вас? Даніна модзе!

— Модзе!.. Якой?

— Ну, той самай, калі замест карцін на сцяну вешаюць гнілы корч з засушанай жабай і пераконваюць, што гэта не больш не менш, як нейкі выдатны пісьменнік і німфа, якая толькі што з возера, у гэтакім...— госць паднімае руку і шматзначна шчоўкае пальцамі.— У гэтакім... мастацкім яднанні!

— І так-такі гэты ліст не выклікае ў вас нічога, апроч агіды?

— І вы туды! — гневаецца госць.— Выпрабоўваеце? Ну аб чым можа нагадваць гэтая пакрэмзаная паверхня? Толькі пра абібока, які рэзаў пенапласт. Што ж, тады ведайце: я не прызнаю ніякіх вар'яцкіх мудрагельстваў усялякіх там крыўляк.

— Што вы! Што вы! — спяшаюся я.— Я таксама супраць засушаных жаб у кватэры. Хай сабе жывыя! Яны такія сімпатычныя... А мёртвыя, хоць і сухія,— проста зараза!..

— Вось іменна зараза! — натхняецца госць.— А мы ёю наўкруг захапляемся. Асабліва моладзь. Жаўтаротыя юна-

кі ўзялі верх ва ўсім. І ўсюды... поўнае папусціцельства! І да вас жа дзеці ходзяць... Ды калі б мне было дадзена права!..

— Эх, калі б гэтае права!..— задуменна паўтараю і раптам, здзіўлены: як жа раней не заўважыў, згаджаючыся з госцем:— А гэты ліст сапраўды нейкі абібок разрэзаў. Ды ў дадатак зусім п'яны. Так і дарагую рэч можна сапсаваць!

...— Які апетытны зефір! — платаядна прычмокваючы, ускліквае каля пенапласту добра ўкормленая жанчына, дырэктар рэстарана, госця маёй жонкі.— Вы што дражніць гасцей яго паставілі? Ану, хутчэй гэты зефір на стол, а не, дык, не лічачыся з этыкай, я тут жа адламлю кавалак паболей і з'ем! Калі не сямейны сакрэт, па якой рэцэптуры ён прыгатаваны?

— З пенапласту,— смяюся я.

— Ха-ха-ха-ха! Зярністая ікра з гэтай... з нафты. Курынае мяса з планктона. Бялкі з хларэлы. Адзенне з газу. Матрыцы са шкловалакна, а зефір з пенапласту,— не сціхае госця.— І вы за пераход на ўсё хімічна-сінтэтычнае! Нават нас, гасцей, да гэтага прывучаеце... Дарэчы, гадоў з дзесяць таму назад у нас у рэстаране дэгустацыйная камісія азначала якасці натуральнай і штучнай чорнай ікры. І ўявіце сабе, усе яе прадстаўнікі аднагалосна ўскліквалі: «І думаць нечага! Зразу ясна: вось гэта — натуральная, а гэта — штучная. Прыроду не ашукаеш!»

— І штучную прымалі за натуральную?

— Неверагодна, ды факт!

...І вось «жаўтароты юнак», хлопец з дзесятага класа, разглядвае пакрэмзаную п'яным абібокам паверхню пенапласту і кажа:

— Па начах мне сняцца схемы незвычайных магнітафонаў, прыёмнікаў. Калі хочацца адпачыць, заплюшчваю вочы і распрацоўваю якую-небудзь канструкцыю... Гэта паверхня нагадвае частку велічэзнага, радыяльна зніжаючагася пласкагор'я з купалам вулкана ў цэнтры. Над пласкагор'ем ляцяць радыёхвалі. А гэта яго выгляд з арбіты спадарожніка. Я магу сфатаграфаваць гэтую паверхню так, як яе ўяўляю. Трэба толькі адшукаць дакладна вугал здымка рэльефу і дакладнае месца для ўспышкі. Аднаму гэтага не зрабіць. Дазвольце, я прыйду з сябрам.

Імя юнака — Грант. «Па-англійску «грант» — цвёрды,— з задавальненнем тлумачыць ён.— Бацька даў гэтае імя, каб па характару я быў такім!»

У наступную нядзелю Грант прыходзіць з таварышам

і робіць больш дзесятка здымкаў з успышкамі, а яшчэ праз тыдзень прыносіць цудоўную фатаграфію.

— Здаецца, удалося спаймаць тое, што ўбачылася,— кажа ён.

Я расказваю яму пра фіранку на скразняку, мятліка на хвалях, пра малако, якое вось-вось збяжыць. Ён ціха уздыхае.

— Паэксперыментаваць бы, і ўсе тэмы можна было б спаймаць і зняць. Шкада, ні аднае вольнае хвілінкі.

Разглядаючы калекцыю галек з малюнкамі, Грант кажа аб неверагодным у звычайным, аб здзіўляючым у прывычным, у шэрай штодзённасці і раптам успамінае:

— Хтосьці ў мяне ўзяў кнігу аб магнітафонах і не вярнуў. А я забыў хто. Гэта таксама «шэрая штодзённасць»? Крыўдна.

І ля самага парога нечакана Грант пытае:

— А што такое грошы: «шэрая штодзённасць» ці сродак скараціць шлях да здзіўляючага?

— Як скараціць? — не ўцяміў я.

— А вось, да прыкладу, гэтым летам адзін з маіх родзічаў павёз мяне ў Тэбердзінскі запаведнік. Наогул у яго добры свой дом, рыжская мэбля, каляровы тэлек. Свая машына, і заўсёды ёсць грошы. Не-не, ён не спекулянт і не прайдзісвет. На ўсё лета бярэ дадатковы адпачынак і едзе на калгаснае будаўніцтва звычайным мулярам, а ўвосень прывозіць некалькі тысяч. «Вось калі я дышу свабодна!» — кажа ён... Дык вось, у запаведніку дазволена праехаць толькі да адпаведнай мяжы. А далей — тупай так. Але варта было майму родзічу тых-гэтых пачаставаць, і нас пусцілі куды пажадаеш. За некалькі гадзін мы там такое ўбачылі, што і за тыдзень пехатой не абыдзеш!

«Што ж супрацьпаставіць гэтаму відавочнаму прыкладу?» Абрываючы непатрэбныя сентэнцыі, якія зрываліся з языка, кажу:

— Нявольнікам грошай і накапіцельства, я ў гэтым упэўнены, вы, Грант, не будзеце. Ратуе творчае натхненне і цікаўнасць. Адны яны ў жыцці — сапраўдная радасць. Вы іх ужо адчулі... А падарожжа па запаведніку без машыны, мне думаецца, адкрыла б вам непараўнальна больш таямніц і дзівосаў, чым тое, што вам мільганула праз шкло машыны.

— А калі няма часу? З пятых класаў мы набіраем такую шалёную гонку ў навучані, у жаданні ўсё спазнаць, убачыць. А нас яшчэ падганяюць... А дарослыя!

Сказаць яму аб слізганні па паверхні? Аб строгім адбо-

ры, аб выбары? А хіба я сам не губляюся ў гэтым бясконцым марафоне даганяць усіх і ўсё?

...У жніўні мы з Лю адпачывалі ў Коктэбелі ў Доме творчасці пісьменнікаў. Ля нашага катэджа на градцы цвілі гваздзікі. Аднойчы вечарам я сядзеў ля іх і назіраў, як яшчэ бяскрылы конік з апетытам перажоўваў тычынкі на адной з кветак.

Паўз мяне па сцежцы з маці і бацькам праходзіла дзяўчынка год пяці. Яна з не меншым, чым конік, апетытам ела вялікі ружовы яблык.

— Дзяўчынка! — вырвалася ў мяне.— А ты хочаш пабачыць, як вячэрае конік?

— Хачу.

— Запрашай маму з татам. Зараз убачыш.

Выпадковае знаёмства аказалася цікавым і неўзабаве дапоўнілася сустрэчай з роданачальніцай сям'і — з бабкай гэтай малой — маёй равесніцай, масквічкай, жонкай аднаго, ужо нябожчыка, дзіцячага пісьменніка.

Неяк мы ўспомнілі гады нашага юнацтва, убачанае, перажытае. Мімаходзь я сказаў, што мне давялося быць на Калыме.

— Мой школьны таварыш быў там,— успомніла яна.

У напаўзапытальным тоне я назваў яго прозвішча. Яна спакойна пацвердзіла:

— Так, ён.

— Усевалад?

— Так, Усевалад.— І раптам здзівілася: — Ды гэта ж неверагодна! Ды гэта ж на мяжы немагчымасці! Як вы так адразу назвалі яго прозвішча, імя?

— Не ведаю. Вы сказалі пра таварыша па парце. А мне чамусьці прыпомніліся не чые-небудзь, а яго вялізныя ліхарадкава бліскучыя чорныя вочы, нервовы твар, высокая танюткая постаць. Выглядаў ён зусім юнаком год семнаццаці, а можа, і меней.

— Так, гэта ён. Яго твар, вочы.

— У ім было нешта незвычайнае, што назаўсёды запаміналася... Мінула сорак год. Ды якіх! А ён жывы?

— Жывы. Гэта ён па-суседску дапамагаў мне выхоўваць маіх дачок. Вашу знаёмую. І асабліва старэйшую.

Нябачны ланцужок ледзь прыкметных, зусім штодзённых і ўсё ж такіх незвычайных выпадковасцей: конік, яшчэ бяскрылы, на кветцы гваздзіка, дзяўчынка з вялізным малінавым яблыкам (я палохаюся: а калі б не яблык і не конік), раптам узнікшы ўспамін...

І вось Усевалад у маёй кватэры. Нібы сон у сне, першы

з тых гадоў за ўсе дзесяцігоддзі, першы з той першабытнай цішыні, з усё ледзянячых маразоў і палярнага ззяння, з несканчонага серпанціну дарог і дат.

Толькі праз два гады без папярэджання ён з'явіўся ў мяне Першага мая а адзінаццатай гадзіне вечара. Я адразу яго пазнаў. Высокі, прыўзнятыя плечы. Той жа юнацкі бляск вялізных чорных вачэй. Тоўсты дручок у руцэ. Я зразумеў: пратэз — няма нагі.

— Хацеў на ўсё свята прыляцець. Не было білетаў. Шкада. Заўтра к вечару павінен быць дома.

Добраахвотнік Вялікай Айчыннай. Чатыры разы паранены, ужо ў сорак другім спісаны з усіх баявых рахункаў, ён зноў і зноў дамагаецца вяртання на фронт і канчае вайну з усімі ў Германіі.

— Бачыш: застаўся жывы. Але я ў гэтым менш за ўсё вінаваты.

Ранкам Усевалад стаіць перад лістом пенапласту. Узіраецца.

— Для мяне гэта — «Лямант»,— без усякіх пытанняў кажа ён, сустракаючы мяне з другога пакоя.

У маёй памяці ўспыхвае ўспамін аб убачаным вясеннім ранкам 1944 года.

Жанчыны то працягваюць, то ўскідваюць да неба рукі і падаюць ніцма на доўгі рад нябожчыкаў, паднятых з агульнай магілы. Стогны, крыкі зліваюцца ў адзін агульны лямант. Кожная жанчына паднімаецца і падае па-свойму. Хто — устаючы ва ўвесь рост, хто — стоячы на каленях. І ўсе звяртаюцца да нізка звісаючых хмар нерухомага неба, нібыта ў гэтай свінцовай застыласці шукаюць Вышэйшага Суддзю. А водгуку няма. І ў самазабытных выгінах адчаю яны, маладыя і старыя, зноў і зноў устаюць і падаюць на бязмоўныя астанкі загубленых фашыстамі родных, не знімаючы свайго нясцерпнага душэўнага болю...

Ды як жа я за ўсе тры гады ні разу не ўбачыў у гэтых самых выгінах паверхні пенапласту таго, што адкрыў мне Усевалад?! Таго, што цяпер, нягледзячы ні на якія іншыя асацыяцыі, буду бачыць заўсёды...

...Аднойчы я набраў нумар тэлефона кнігарні. Са мной пачалі гутарыць такім на дзіва дзіцячым галасочкам, што я не ўтрымаўся і ўсклікнуў:

— Ды вы ж Дзюймовачка! Я вас адразу пазнаў. Як вы сюды трапілі? Няўжо са старонак казкі!

Жарт быў радасна прыняты і прывёў нас да сустрэчы.

— Бачыце, якая я асучасненая Дзюймовачка! — залілася вясёлым смехам новая знаёмая.— Ледзь да сталі не

дарасла. Будзем знаёміцца. Практыкантка бібліятэчнага тэхнікума і — не здзіўляйцеся — маю вялікае шчасце быць маладой маці.

Яна як бы адразу ўпісалася ў інтэр'ер нашай кватэры.

— А над гэтай рэччу можна бясконца імправізаваць,— кажа яна, разглядаючы пенапласт.— Так, гэта і ёсць тое, што ў сваёй недасказанасці абуджае фантазію, памяць, дае ім неабмежаваную свабоду, заве ў сааўтары.

І пытае:

— Спадзяюся, аўтар гэтае рэчы перада мной?

— Не,— кажу.— Аўтар — выпадак.

— Убачылі вы?

— Так.

— Выбраць з хаосу рэчаў і з штодзённай мітусні тое, што можа здзівіць,— хіба не значыць стварыць?

Ні з Дзюймовачкай, ні са шчаслівым выпадкам я не спрачаўся. Перад маімі вачыма то наяве, то ў памяці на гагрынскіх і кактэбельскіх марскіх берагах рассыпалася безліч markup рознакаляровай малечы і тых, хто ледзь дарослей. Пераймаючы дарослых, яны ў галечнай паласе пляжаў нязменна выбіралі адно і тое ж: кавалачкі так званых напаўкаштоўных каменьчыкаў, а часцей за ўсё кавалачкі бутэлечнага шкла, адшліфаванага прыбоем. Яны нічога не ведалі аб існаванні не толькі тых цудоўных каменьчыкаў, пра якія сказаў паэт:

О мора, самы лепшы ў свеце
Мастак-абстракцыяніст,

але нават аб такіх блізкіх успрыняццю малога каменьчыкаў, дзе мора намалявала на іх якую-небудзь смешную жывёлінку, насякомае, кветку. Аднойчы з такім вось хлопчыкам я прайшоў па беразе метраў каля двухсот і, паказаўшы на адну з галек, спытаў яго:

— Што тут намалявана?

Як ні разглядаў хлопчык гэты каменьчык, нічога на ім не ўбачыў.

— Ды ты лепш узірайся і ўспамінай! На гэтым баку — Брыдкае Качаня, а на адваротным — Чабурашка. Вазьмі як падарунак...

З крыкам замілавання кінулася дзіцё да маці, што непадалёк загарала, паказваючы то на гальку, то на мяне, але маці толькі незадаволена сказала:

— Я табе тлумачыла, што шукаць.

А суцяшае адно: замілаванне ж знаходкай было! А яно бясследна ніколі не знікне.

Неяк у Гагры ля самага прыбою падбег да мяне адзін з групы дарослых хватаў-уюноў і таропка спытаў:

— Знайшлі?.. Пакажыце, што!

Я падаў яму толькі што знойдзеную гальку з адбіткам марскога прыбою. Гэта была адна з лепшых маіх знаходак. На каменнай мініяцюры ішла высокая хваля з усімі сваімі каляровымі пераліламі, а на яе вяршыні бялела пена.

Хлопец здзівіўся:

— Хіба гэта стала модным?

— Ды не,— сам сабе ўсміхнуўся я.— Моднымі цяпер зрабіліся цяжкія булыжнікі з рознымі хаатычна раскіданымі па іх плямамі.

— А што за іх плацяць, не ведаеце?.. Ну-ну, я пабег! Прыгледжуся.

«Калі ёсць у яго дзеці,— падумалася мне,— якімі ён іх выхоўвае?»

...Аднойчы з Лю мы запрасілі да сябе ў госці знаёмага геолага і пачалі паказваць калекцыю, якую прынесла нам у падарунак мора. У пакоі ў гэты час знаходзіўся шасцігадовы Светазар, наш сусед, што ледзь не кожны дзень прыбягаў да нас. Перахапіўшы ініцыятыву, ён стаў на калені на крэсла і сам са шкляной паліцы шафы пачаў даставаць каменьчык за каменьчыкам.

— Гэта — светлячок, гэта — дзядулеў растоптыш з валёнка, гэта — усёбачачае вока, а гэта,— хлопчык дастаў зеленаваты плоскі абломак з чорнымі зубчастымі лініямі,— кардыяграма пітэкантропаса.

— Што-што?! — здзівіўся геолаг.

— Біятокі сэрца пітэкантропаса,— нічуць не сумеўшыся, растлумачыў Светазар.— Чалавек, які жыў у каменным веку. А так як тады не было паперы, запіс рытму працы сэрца рабілі на камені. Захавалася толькі частка гэтага запісу.

— Я бачу,— усміхнуўся геолаг,— ты ўсю калекцыю ведаеш.

— Ведаю.

Геолаг узяў чорную гальку з двума белымі мазкамі, злучанымі танюткай лініяй.

— Што гэта?

— Кампазіцыя. Яе вось так трэба трымаць,— параіў хлопчык.— Тады яна добра бачыцца.

— А што такое кампазіцыя? — пацікавіўся госць.

— Калі няма чым назваць, а радуе,— амаль адразу адказаў Светазар.

Калі Светазар упершыню пабыў ля мора, я яго запытаў:

— Што такое мора?

Толькі на момант задумаўшыся, з чым параўнаць, малы адказаў:

— Мора — гэта многа-многа вады! — Светазар раскінуў у бакі рукі.— Вось столькі! А па ёй кефір плавае.

Было яму тады чатыры гады.

— Дваццаць год займаюся камянямі, а ні разу не падумаў зірнуць на іх як на тварэнне мастацтва,— уздыхнуў наш знаёмы.— Як гэта крыўдна!.. Дазвольце прывесці да вас свайго сынка. Як трэба дзецям своечасова ўбачыць. Прыгожае з вялікае літары і ўразіцца ім на ўсё жыццё! Бо ад такога пачатку пачаткаў да Траццякоўкі, Эрмітажа і Пікаса — рукой падаць.

«Дакладна сфармулявана,— падумалася мне.— Дык аб гэтым жа і размова».

Геолаг прывёў да нас сына, малодшага школьніка, і прынёс у падарунак аманіт, а дакладней — акамянелую масу, якая прыняла форму яго ракавіны; аманіт праляжаў на дне акіяна сорак мільёнаў год.

— Хвалі гэтага акіяна ўсяго толькі два мільёны гадоў назад,— усміхнуўся геолаг,— узнімаліся вось тут, дзе мы стаім.

А мы з Лю гэтую акамянеласць паставілі на кніжнай шафе паміж бюстаў нашых выдатных сучаснікаў. Навошта, не ведаю. Мабыць, кампазіцыйна ўпісалася. Адказ прыдумаўся потым: дзеля роздуму аб каштоўнасцях, якія прыносіць нам сённяшні хуткаплынны час. Калі, канечне, гэтыя каштоўнасці мы зможам адшукаць.

Для сябе і другіх.

...У дзень майго шасцідзесяцігоддзя цешча запякла ў цесце гусь. Гусь нагадваў гумавую падэшву. Лю жартавала: «Відаць, таксама шасцідзесяцігадовая!» Яна чаравала над ёй, чаравала, і нарэшце вызваліўшы спінную частку яе шкілета, урачыста паднесла яе мне.

— Увекавечым юбілей шэдэўрам мастацтва!

Я ў непаразуменні пазіраў на гэтыя косці.

— Няўжо нічога не бачыш? — сказала яна і пагразіла: — Ну пачакай!

Яна пафарбавала косці ў бітумны лак, прымацавала на белай каробцы з пластмасы і, паставіўшы на сервант, паклікала мяне.

— Ды гэта ж самы дарагі падарунак! — ахнуў я.— Як ты змагла яго ўбачыць?!.

— «Падглядванне», «Гатоўнасць да скачка», «Блізняты», «Казярог», «Гэта чорт ведае што такое!», «Выкапень»,— сыпаліся назвы ад нашых гасцей. Спрэчак і здагадак вакол скульптурнага шэдэўра Лю было не менш, чым каля ліста з пенапласту. Шэдэўр або неадкладна скідваўся са свайго п'едэстала: «Ды гэта ж звычайны гусь або індычка!», або ўражваў: «Чым вы яго выразалі? З чаго?» Але нікім не адкідваўся. За выключэннем...

Гэтым здзіўляючым выключэннем аказаўся студэнт юрыдычнага факультэта. Пярэчыла яму... яго жонка, студэнтка таго ж факультэта.

— Такую б скульптуру павялічыць — ды ў парк! — раптам замілавана ўсклíквае яна.

— У парк?! — уражваецца муж.— На месцы старшыні гарвыканкома я асабіста сваімі рукамі разламаў бы гэтую штуку!

— Разламаў бы?! — аж чырванее жонка.— А што ж тут такога страшнага?

— Чаму мы павінны выходзіць за межы зразумелага і прывычнага? — гарачыўся муж.— Мастацтва ж для ўсіх! Для самога народа.

— Ды гэтую ж канструкцыю сама прырода адпрацоўвала і шліфавала мільёны гадоў.

— Прырода тут ні пры чым. А з якой такой мэтай гэтая штука павінна кідацца ўсім у вочы? Гэта ж выклік! Хай вось тут і пыліцца, калі каму падабаецца.

Справа і злева ад гэтай штукі стаялі галінкі з лесу або драўляныя скульптуры, як іх сёння называюць пад назвамі «Першы крок» і «Напружанне». Але яны ні пратэсту, ні здзіўлення ні ў кога не выклікалі, дарма што былі зроблены сапраўдным мастаком-эксперыментатарам. А тут абыякавасць! «Дык абыякавасць яшчэ горш, чым спекуляцыя на адмаўленні ці шчырая нянавісць»,— падумалася мне.

...Наша знаёмая дзяўчына Валя — згустак волі, энергіі і весялосці. Закончыўшы ў перыферыйным інстытуце эканамічны факультэт, яна надумалася штурмаваць Маскву і гады праз два знайшла там цікавую працу і нават атрымала кватэру.

І вось яна зноў у нас, і не адна.

— Знаёмцеся: Юра — мой брацік. Выпускнік дзесяцігодкі. Акселерат. Не як я, малеча. І не ў прыклад сястрыцы, усё школьнае жыццё каціўся на троечках. На жаль, гэта мода дзе-нідзе сярод хлопцаў стала амаль усеахопнай.

Перада мной стаяў чырванашчокі асілак. Усміхаўся. Над вуснамі прабіваліся вусы,

— Уявіце сабе, гэтаму прыгажуну забаранілі з'яўляцца ў школе. Што ж ён нарабіў? Ды нічога. Пакуль не прывядзе ў парадак свае лохмы! А вы зірніце, які я фокуснік! — Валя раскідала на галаве брата чорную капешку на ўсе бакі.— Чым не сучасная прычоска? Малады чалавек выратаваны (прэстыж школы ляціць у тартарары!). А зараз...— Сястра ўсю раскіданасць уклала і схавала за вушы.— Ніякіх мод, ніякіх спакус. Аяй-я-яй! І на чым толькі трымаецца гэты педагагічны аўтарытэт? Табе, Юра, пашчасціла: кінулася з Масквы! На паратунак. Усяго маеш дзень прагулу. А яшчэ кажуць: няма тэлепатыі! Ну, нічога: сваё моладзь возьме. Так, Юра, ці не?

— А да вусоў яшчэ не чэпяцца? — пытаю Юру.

— Да маіх яшчэ не,— смяецца ён.— А другім даўно забаранілі: «Вы не гусары!»

Ад яго нясе табачным перагарам.

— Курым? — пытаюся.

— Спрабуем.

— А што шкодна, ведаеш?

— Ведаю.

— І гэтыя веды не стрымліваюць?

Юра смяецца:

— Хіба толькі цыгарэты кароцяць жыццё! Усё кароціць.

— А нешта ж і падоўжвае.

— Я паспрабую і кіну.

— Зможаш?

Юра паціскае плячыма. Яму весела.

— Што ж тут такога! Узяў і кінуў.

— Куды ж ты сабраўся паступіць вучыцца? — мяняю тэму гутаркі.— Ці працаваць?

— Не ведаю. Скончыць дзесяцігодку — такая нечаканасць. Здавалася, усё жыццё буду хадзіць у школу.

— Нешта ж любімае ў цябе ў школе было?

— У школе?! — здзіўляецца Юра. — Н-ні-чога.

— Як нічога? За дзесяць год — нічога! А чым жа ты на ўроках займаўся? Захапляўся чым?

— Нічога не рабіў. Захапляўся толькі фантастыкай. Чытаў.

— Добра, што хоць фантастыкай! — усклікваю я.— А твае сябры?

— А што сябры? Мы ж усе ведалі, што, як ні вучыся, перавядуць. Гэта педагогі двоек баяцца, а не мы, вучні.

— Во які ў мяне брацік! Яго будучае не на Зямлі, а недзе ля Туманнасці Андрамеды. Ну, нічога. На Зямлю ты

спусцішся.— Сястра падводзіць яго да пенапласту.— Што ты тут убачыш? І як гэту штуку назавеш?

Сама Валя калісьці назвала яе «Белым маўчаннем».

— А я адразу яе заўважыў.— Юра адышоў ад ліста. Пастаяў. Задуменна ўсміхнуўся.— Гэта «Валасы дзяўчыны, з якімі гарэзіць ветрык».

— Любімай дзяўчыны! — смяецца сястра.

Ай ды Юра! Няхай жа рэчаіснасць ніколі не падкажа табе назваць гэты ліст «Лямантам».

...Разглядалі гэты кавалак пенапласту лірыкі і фізікі, хатнія гаспадыні і генералы, людзі самых розных узростаў і прафесій. І назвы, якія ўзніклі ў іх, у адрозненне ад непасрэдных і лёгка ўспрымаемых дзіцячых, характэрны абагульненнямі і адцягненымі асацыяцыямі: «Збянтэжанасць», «Арытмія», «Няўпэўненасць», «Кашмар». Або «Віхура», Смерч у гарах, «Ураган» з пераходам да «Гукавога бар'ера» і «Тэрмаядзернага выбуху». Гэта «Гукі цішыні» і «Голас Маякоўскага ў эфіры». Уражвае «Лямант». Ёсць зусім нечаканыя: «Белае зелле, або Забыццё наркамана», узнікае ў маладога хлопца, і такое пранізліва шчырае: «Карціна майго жыцця, дзе ўсё акрэслена і ўсё расплываецца і знікае, нібы наплыў кінакамеры і яе аддаленне»,— параўнанне, узнікшае ў шаснаццацігадовай дзяўчыны.

І параўнанні з рэчавым светам, што зусім натуральна, у дарослых шырэй, чым у дзяцей. «Узлёт чаек» і «Лучнікі». «Сонца», «Ніва залатая» і «Гадавыя кольцы дрэва». «Шарпак», «Паземіца», «Белае маўчанне» і «Палярнае ззянне». «Тунель» і «Сталакцітасталагмітавая пячора». «Барханы» і «Купал вулкана над пласкагор'ем». Ад гэтых назваў стаяць убаку лірычны «Валасы дзяўчыны, з якімі гарэзіць цёплы ветрык», і камічны «Зефір» і «Вынік працы разгільдзяя».

Доўга ніхто з гасцей —ні дзеці, ні дарослыя — не папаўняў спіс назваў ліста новымі асацыяцыямі. І раптам на працягу аднаго тыдня былі спайманы такія нечаканыя паралелі, што я ўспомніў Дзюймовачку. Відаць, яны невычэрпныя. А гэта — усяго толькі кавалак пенапласту. Пачатак пачатку.

...Неяк ранкам васьмідзесяцігадовы «вихрь с головы до пяточек» — маці Лю ў час прыбірання кватэры перастаўляла ліст пенапласту. Увесь час яна адносілася да яго паблажліва-іранічна. І раптам я пачуў яе пажаданне:

— А добра было б усе сцены зрабіць такімі, як гэта карціна! Зірнуў на іх, і нібыта вецер гуляе па пакоі. Дыхаецца лягчэй. А калі б столь была такой, то як быццам

хмары па небе плывуць. А так: пазіраеш на вось гэтую гладкую паверхню, і здаецца, што цябе хтосьці пад замком трымае...

Што гэта — азарэнне? Здольнасць у любым узросце рассунуць межы прывычнага ў сваім уяўленні?

## КАЛІ Б Я БЫЎ...

Я зайшоў у пакой да таты. Убачыў: ён нахіліўся над стосам паперы і сказаў:

— Я са школы прынёс непрыемнасць.

— Дзякуй! — не падымаючы галавы, адказаў тата.— Непрыемнасць для бацькоў?

— Для мяне — чарговае непаразуменне. Цябе выклікаюць у школу.

— Прызнавайся, што натварыў! — патрабаваў тата.

— Твораць канструктары, камп'ютары, кампазітары. І аграномы,— запярэчыў я.— А бяздарнае дзіцё толькі нясмела спрабуе. І за гэта яму накруцілі хваста.

Тата адарваўся ад паперак.

— Што за глупства пра камп'ютар і бяздарнае дзіцё? І што за выраз пра накручаны хвост?

— Бяздарным ты мяне назваў. А накруціць хвас...

— Хопіць паяснічаць! — абарваў тата.— Табе папала!?.. За што?

— За блазенства.

— Гэтай якасці ў цябе больш за ўсё! — нарэшце ўсміхнуўся тата. Зарадаваўся: дапамог адарвацца ад апрыклага стосу.

— Не, тата! На гэты раз я быў сур'ёзны,— рассмяяўся я.— Ліра Пятроўна прапанавала тэму класнага сачынення «Калі б я быў...» Я адразу ж уявіў, кім быць і што рабіць. Захацелася стаць астранаўтам і даляцець аж да Плутона. Потым — шахцёрам і дакапацца да сярэдзіны Зямлі. А потым — гіпнолагам і прымусіць такіх, як Поль Гэці або Хант, перадаць на сацыялістычнае будаўніцтва свае мільярды. А потым...— я міжволі ўздыхнуў.— Потым за акном мяўкнула кацянятка, і рука сама напісала: «Калі б я быў кацяняткам...»

— Кацяняткам!? — часумьці здзівіўся тата.

— Так, кацяняткам!.. Гэта кепска?

Тата двойчы хмыкнуў. Я рукамі развёў:

— Што ж тут дзіўнага!?

— Н-ні-чога...— Тата нездаволена расцягнуў слова.— Апавядай далей!

— Далей?.. Далей — склероз. Заўчасны. Трэба зірнуць у сшытак.

Я выцягнуў з партфеля сачыненне, урачыста прадэкламаваў: «Калі б я быў кацяняткам...» і пачаў чытаць.

— Калі б я быў кацяняткам, я лавіў бы мышак, бегаў па ўсіх дахах, а больш за ўсё песціўся б на сонцы. Я далікатна піў бы сліўкі са сподка і хадзіў ціхенька-ціхенька. Адгадаваў бы гострыя кіпцюры і даўжэзны чорны пушысты хвост. Вокамгненна ўзбіраўся б на вяршыні самых высокіх дрэў. Смела кідаўся б у любую бойку. Праўда, я і цяпер так раблю. Словам, вёў бы сябе, як і належыць самым гарэзлівым кацянятам. Але аднойчы замест мяў-мяў і муркацення раптам загаварыў бы, як чалавек, узяў самапіску і напісаў пра сябе апавяданне і нават паэму. Тут жа ў натуральную велічыню накідаў бы фламасцерам свой партрэт. І пад ім паставіў бы аўтограф! Пасля гэтага я стаў бы самым вядомым у свеце дзівам і да мяне штодзень прыязджалі б тэлекінарэпарцёры браць інтэрв'ю.

Тата зноў двойчы хмыкнуў.

— І гэта ўсё?

— Усё.

— Пры чым тады неабходнасць ісці ў школу?

— Бачыш, тата,— пачаў я здалёк.— Сачыненне ацэнена на тры з мінусам.

— Нават з мінусам!.. Дай сшытак! — Тата пераклаў убок стос паперы.— Ні аднае памылкі. Жывы, непасрэдны стыль. Што за лухта?!

— Я таксама не зразумеў, чаму з мінусам, і запытаў Ліру Пятроўну. «За блазенства»,— адказала яна. А мне ўспомнілася любімая фраза, якой ты ўзнагароджваеш знаёмых, і паўтарыў яе Ліры Пятроўне.

— Што ж ты мог паўтарыць? — насцярожыўся тата.

— Я сказаў: «Вы, Ліра Пятроўна, пазбаўлены пачуцця гумару. Зусім! А для настаўніка — гэта найвялікшы і самы прыкры недахоп».

— Ды гэта ж ідыятызм! — раптам абурыўся тата.— Спадзяюся, табе хапіла розуму сказаць гэтую абразу без спасылкі на крыніцу, адкуль пазычыў?

— Як і заўсёды,— спакойна адказаў я, не адчуўшы ніякай віны.

— Ты што! — крыкнуў ён. Здзекуешся?

— Ды не! Проста не зразумеў цябе... А ў школе ўсё само вырвалася.— Я ўсміхнуўся.— Імправізацыя.

— Імправізацыя, само! — перадражніў тата. Трэба ж у рэшце рэшт навучыцца валодаць пачуццямі і не выказваць абразлівых думак. Ні сваіх, ні пазычаных! Перад кім бы ні было!

— Дзе можна... Дзе нельга...— Я пачухаў патыліцу.— А як адрозніць?

— Ты ж не маленькі,— як мага лагодней ды яшчэ з пакутлівым выразам на твары сказаў мой тата: — А яна што?

— Ліра Пятроўна? Пачырванела: «Гэта не твае словы! Камусьці хочацца, каб я пакінула школу! Але ў гэтых інтрыгантаў,— яна нават крыкнула,— нічога не атрымаецца!»

— Вось што! — Тата прызадумаўся.— Ну што ж... Яе адказ выдае яе прымітыўнасць. А ты?

— Я сказаў: мая думка супала з думкай другіх.

Тата зноў абурыўся.

— Гэтага яшчэ не хапала! Ды як ты асмеліўся так дзёрзка выказвацца перад усім класам?

Я развёў рукамі.

— Ты ж сам казаў і не раз: «Аб усім і аб усіх і пры тым заўсёды неабходна мець уласныя думкі».

— Так, казаў! Магу паўтарыць! — тата аж устаў і выйшаў з-за стала.— Але ж так непасрэдна іх выказваць!..

— А, па-мойму,— я перасмыкнуўся плячыма,— лепш выказаць, што думаеш, чым маўчаць або потым...

— У прынцыпе,— тата аж зморшчыўся, нібы праняла зубная боль,— усё такі Тэарэтычна... Ты ж цяпер сам пераконваешся, колькі непрыемнасцей стварае падобная прамалінейнасць!

Чамусьці ў гэты момант мне стала шкада таты і смешна.

— Праўда сама выскаквае! Я ж не стараюся.

— А заўтра ў школе здымай гэты непрыемны інцыдэнт!.. З табой узнікнуць складанасці.

— Са мной! — Я усміхнуўся.— Якія?

— Настаўніца адмовіцца з табой займацца! Патрабуе перавесці ў другую школу. Табе гэтага хочацца?

— Шчыра прызнаўся: такой непрыемнасці не чакаў.

— Тады ў Ліры Пятроўны неабходна прасіць прабачэння. За крыўдную дзёрзкасць.

— Але ж...— пачаў я і, уздыхнуўшы, апусціў вінавата галаву.— Ладна, тата, папрашу...

— Вось і добра,— ён сеў на сваё месца.— Можаш ісці.

Я нават падзякаваў за дазвол ісці! Ля парога тата спыніў.

— Скажы Ліры Пятроўне: па яе асабістай просьбе паслязаўтра я або маці наведаем школу.

— Добра, тата!

Я выбег на вуліцу. Перавод ў іншую школу!?. Пакінуць сяброў, з якімі вучыўся! Не, толькі не гэта...

...Мая размова з Ліpай Пятроўнай на другі дзень пасля канфлікта была настолькі ўдалай, што я ледзь дачакаўся вяртання таты дадому. Вясёлы, мабыць, ладзілася на рабоце,— ён сустрэў мяне ўсмешкай: «Ну, апавядай, чаго сёння натварыў?»

— Усё найвыдатна! — пахваліўся я.— Вам не трэба ісці ў школу.

— Сам усё ўладкаваў!?. Цікава, цікава!..

— На ўроку Ліры Пятроўны я падняў руку і сказаў: «Ліра Пятроўна! Калі ласка, даруйце мне! Я так прамалінейна выказаўся ўчора! Тата і мама вельмі дакаралі. Я ж´ніяк не магу хаваць пачутае ад дарослых. Але абавязкова навучуся! Даю слова! Толькі не пераводзьце ў другую школу...»

— Які ж ты прасцячок! — схапіўся тата за галаву.— Жах дый годзе!

— Што ты, тата! Дарма кажаш! — радаваўся я.— Усё атрымалася найлепш! Ліра Пятроўна ўсміхнулася. Сказала, што вельмі добра мяне разумее.

Тата кідаў на мяне жаласлівыя позіркі.

— У гэтым — уся бяда!..

Тата цяжка ўздыхнуў.— А потым што?

— Сказала, што я — самы праўдзівы хлопчык у класе. І каб з мяне бралі прыклад.— Я таксама цяжка ўздыхнуў.— А ты яшчэ нездаволен!..

Тата здзівіўся:

— Так і сказала!? Неверагодна!

— Што ж тут неверагоднага?

Хвілін пяць тата з дакорам пазіраў на мяне.

— Вось і дачакаўся!.. Дзякуй, сынок, за шчырасць!

Я добра зразумеў тату. І весела адказаў:

— Мне заўсёды здавалася: калі небудзь ты пахваліш мяне за такую шчырасць!

*1976—1981*

# ЗМЕСТ

### Пяцёрка з трыма плюсамі



### Нашы з мамай размовы



### Таніны апавяданні

**Разам з шакаладкамі**



**Казкі**



**І так кожны дзень (са старонак дзённіка)**

Виссарион Степанович Гарбук
ГОРОД БЕЗ ПОПУГАЙЧИКОВ
**Избранные произведения**
Для среднего школьного возраста
Минск, издательство «Юнацтва»
На белорусском языке

Рэдактар Ул. І. Карызна. Мастацкі рэдактар А. У. Ружо. Тэхнічны рэдактар В. А. Каляда. Карэктар А. К. Юшына.

ІБ № 173

Здадзена ў набор 24.09.82. Падп. да друку 10.03.83. АТ 21047. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 12,6+ +0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 13,44. Ул.-выд. арк. 13,61. Тыраж 12 000 экз. Зак. 2992. Цана 45 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя. Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.